Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**9** (79)

Верасень.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

На вокладцы — малюнак мастака Я. Змітровіча.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8.586 экз. Цана 4 руб.
АТ 02870. Здадзена ў набор 1.VIII.59 г. Падпісана да друку 28.VIII.59 г. Зак. 507.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Іван Ласкоў нарадзіўся ў 1941 годзе ў Гомелі ў сям'і рабочага. Пазней пераехаў у Магілёў, дзе ў 1958 годзе скончыў сярэднюю школу.
Цяпер вучыцца на II курсе хімічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.



**Іван ЛАСКОЎ**

# СХОД



На сходзе ўсё бурліла, як рака.
Камусьці ўжо дыхання не хапала...
Тут маладосць пачуццяў не хавала,
І за рукой ўзнімалася рука.

Стары прафесар з цёплымі вачыма
Маўчаў, камечыў пачак цыгарэт.
Успамінаў дарогі ён, якімі
Прышоў у гэты універсітэт.

Ахутаныя шэрым горкім пылам
Далёкія, суровыя шляхі!..
Яны пазарасталі чорнабыллем,
Якога не краналі лемяхі.

Перад вачыма сходы усплывалі —
За нейкай паўгадзіны да атак,
Калі штыхамі ўсе галасавалі,
Да згоды не прыходзячы ніяк.

Ледзь бачныя у папяросным дыме,
Прамоўцы там скрыжоўвалі мячы,
І ўсе кляліся горача, з уздымам,
Загінуць чэсна ці перамагчы.

О, маладосць! Ён сёння зноў з табою,
Хоць спрэчкам і канца шчэ' не відно...
Як быццам там, на сходзе перад боем,
Сягоння ён з усімі заадно.

# МАРА



Будаўніка, што мёрз каля кастра,
Каб у сівой тайзе гулі заводы,
Нязломнага у бітвах змагара,
Які памёр у першы дзень свабоды,

І марака, што полюс адкрываў
Ды не прайшоў зваротную дарогу, —
Натхняла мара на здзяйсненне спраў,
На працу, подзвіг і на перамогу.

Яна ў радах паўстанцаў Спартака
Ішла ў сівой далечыні вякоў.
Гэта яе магутная рука
На барацьбу ўзняла бальшавікоў.

Яе вачмі глядзеў у тэлескоп
Той астраном, які адшукваў зоры,
Каб з сутарэнняў Азій і Еўроп
Узняцца у касмічныя прасторы.

Зямному прыцяжэнню не стрымаць
Заўжды крылатай чалавечай мары!..
Мо' прыдзецца і мне яе здзяйсняць,
Штурмуючы міжзорныя абшары?

* * *



Дзе б я ні быў, ці далёка, ці блізка,
Успомню, якая б бяда ні спаткала,
І строгія літары на абеліску,
І кветкі ля помніка Янку Купалу,

І цёплае неба, і нават хмурынкі,
І раніцу, ў Свіслачы чыстай адбітую,
Дзядзькоў, што так важна праходзяць па рынку,
І мову іх свежую і сакавітую.

Не, Мінск не забыць у любым падарожжы,
Бо стаў для мяне ён такім дарагім
Не толькі таму, што мой горад прыгожы—
Таму, што і людзі прыгожыя ў ім.



**Еўдакія ЛОСЬ**

# БЕЛАРУСКІ ВАКЗАЛ



У тамбуры кандуктар са сцяжком
Перад табою пастаяў хвіліну...
Хоць ты свой дом і ў добры час пакінуў —
Да горла падступае жалю ком.

На верхняй лаўцы ўляжашся цішком,
І да начы няма душы спачыну:
Пра будучую марыш пуцявіну,
Варожыш пра нязнаны новы дом...

Насціл убачыш на слупах высокіх,
Перон і смех масквічак яснавокіх...
Я з лёгкім сэрцам першы крок раблю:

Для нас жа і вакзал тут збудавалі,
Каб мы сябе, як дома, адчувалі,
Ступіўшы на маскоўскую зямлю!

# КІПАРЫС

**Ён, маючы сто рук, не просіць ні аб чым...**
**Амар ХАЙЯМ.**



Садоў паўднёвых ветэран стары,
Над глыбінёю горнага правалу,
У неба ўпёрся змрочны кіпарыс
Іржавым перазубленым кінжалам.

Зімой і летам, зранку і ўначы—
Заўсёды цьмяны, смягне ў пыльнай млосці...
Ён, маючы сто рук, не просіць ні аб чым?
А мне здаецца—просіць: маладосці.



Мал. У. Лося.

Алесь АСІПЕНКА

# ПАПЛАВЫ

## Аповесць

### X

«Далёкі друг мой, Машанька.

Набярыцеся цярпення і дачытайце гэты ліст да канца. Некалі вы прытулілі і абласкалі мяне; спадзяюся, і цяпер не адштурхнеце.

Даўно я вам не пісала. Вы добрая, таму даруйце мой такі цяжкі грэх, асабліва калі дазнаецеся пра прычыны, што прымусілі мяне маўчаць.

Я ўжо закончыла інстытут, працую заатэхнікам у калгасе. Пакуль працы няма. Адно гора ды няўдачы падсцерагаюць мяне на кожным кроку.

Закармілі вы мяне тады бублікамі ды варэннем, так што жыцця я і не паспела ўбачыць. Кажу гэта не ў крыўду вам. Вы добрая і слаўная. Сама я вінавата ва ўсім. А вось як выблытацца з усяго, не ведаю. Прынялі мяне тут не так, як вы, — холадна. Старшыня наш — няўдалы. Брыгадзір жывёлагадоўчай фермы — абібок. А з даяркамі сяброўства не атрымалася. Глядзяць яны на мяне, як на чужую. Ды і ўласнае жыццё не ўдалося.

Ды і што гэта я пішу... Вы ж нічога не ведаеце. Пачну ўсё па парадку.

На прадвесні мяне паклікалі да дырэктара інстытута. Я стаяла ля акна і глядзела, як насупраць, пад карнізам, лепяць ластаўкі гняздо. Думкі ў мяне былі самыя панурыя. У кабінеце, апрача дырэктара, сядзела шмат народу — усё начальства. Івана Інакенцьевіча, нашага дырэктара, вы памятаеце.

Заканчэнне. Пачатак гл. №№ 7 і 8.

— Вера Антонаўна, — пачаў ён, быццам я ўжо не лічуся болей студэнткай, а раўня яму, — дэбатуецца пытанне наконт вашай кандыдатуры на замяшчэнне пасады навуковага супрацоўніка. Я думаю, што тая сур'ёзнасць да навукі, якая была ў вас, застанецца надалей. Я, асабіста, чакаю ад вас новых адкрыццяў. Не схаваю, у нашых таварышаў ёсць іншая думка: пакінуць на гэтай пасадзе вашага аднакурсніка Міхаіла Якімчука. Уласна, таму мы вас і выклікалі.

Мабыць, я вельмі разгубілася ад такой прадмовы. У мяне загарэўся твар.

— Бачыце, Алексіч, — сказаў парторг, — наконт вашай кандыдатуры не было б спрэчак. Але вы жонка Льва Раманавіча, які працаваў у нашым інстытуце. Таму мы і парашылі параіцца з вамі і з ім.

Напамінак аб ім яшчэ павялічыў маю збянтэжанасць. Я прамармытала нешта несуладнае:

— Гэта мая справа. Навошта раіцца. Што ён адказаў?

— Ён адказаў, што вы чалавек дарослы, самі ўсё разумееце, што ён не раіў бы вам заставацца, што ён з вамі яшчэ пагутарыць і вы скажаце сваё слова.

Напярэдадні я сапраўды атрымала ад яго ліст, але, не прачытаўшы, спаліла. Што ён пісаў? Чаму я не прачытала пісьмо? Потым мяне апякла другая думка. Іван Інакенцьевіч працуе над праблемай стварэння высокапрадукцыйных і каларыйных сінтэтычных кармоў. Мая «праца» таксама прысвечана гэтай тэме. Яна нават была надрукавана ў «Вучоных запісках». Значыць, дырэктар хоча ўзяць мяне на сваю кафедру. Але ж тэма і само вырашэнне праблемы належала Льву Раманавічу. Пройдзе час, і дырэктар дазнаецца пра ўсё. Не толькі пра маю «працу», але і пра тое, якім мужам быў мне Леў Раманавіч.

«Адмовіцца, хутчэй адмовіцца ад іх прапановы. Які сорам чакае мяне тут. Калі дазнаюцца пра ўсё — лепей не жыць»,— думкі адна неверагодней за другую лезлі ў галаву. Было імгненне, калі я ледзь вытрымала, каб не расказаць пра ўсё. Нарэшце дырэктар вывеў мяне з задумлівасці:

— Вы можаце падумаць...

— Не, не, — паспешліва адказала я. — Дзякую за ўвагу, але мне сапраўды лепш паехаць на вёску.

— Леў Раманавіч гэтага не дапусціць. Ён і так ужо сумуе па вас, — усміхнуўся дырэктар. — Вось якая яна моладзь пайшла! Сама ірвецца ў калгас, а вы кажаце, што мы дрэнна выхоўваем студэнтаў.

Я выбегла ў калідор.

Уяўляю, Машанька, як вы кругліце вочы, а вашы бровы падымаюцца ўгару. Вы здзіўлены. Ці не праўда?.. Вам хочацца ўсё хутчэй ведаць. Зараз і пачну пра гэта.

Неўзабаве пасля таго, як я прыехала ад вас, мы беглі з заняткаў у сталовую. Мусіць, так было і тады, калі яшчэ вучыліся і вы тут: ледзь запознішся, дык прастаіш у чарзе. Таму пасля заняткаў звычайна наладжваўся «забаршчагонскі» бег. Я першай выскачыла з аўдыторыі і стрымгалоў кінулася па калідоры. На павароце я сутыкнулася з чалавекам і, абмінаючы яго, паслізнулася на паркеце. Помню, тады ў мяне пацямнела ў ваччу ад болю, але я падхапілася і... не змагла далей ісці. Ля мяне прабег увесь наш курс, калідор апусцеў. Стала вельмі ціха. Я паспрабавала ісці — нага балюча заныла. Тады я ўзняла вочы і ўпершыню разгледзела чалавека, якога ледзь не збіла з ног. Быў ён на гаT



лаву вышэй за мяне, сінявокі, чарнавалосы, з лёгкімі, ледзь прыкметнымі слядамі адзёра ці воспы на твары. Скроні яго вельмі прыкметна серабрыліся, і ад таго твар меў нейкую далікатную, прывабную прыгажосць.

— Прабачце, што не ўтрымаў вас... — сказаў ён мне і неяк збянтэжыўся, быццам і сапраўды быў вінаваты ў маім няшчасці. — Вельмі баліць?

Я кіўнула галавой. Тады ён узяў мяне пад руку. Кульгаючы, як падстрэленая качка, я пайшла, моцна абапіраючыся на яго руку. Ён завёў мяне ў першую пустую аўдыторыю.

— Сядайце, — папрасіў ён мяне.

Я села. Ён стаў на калена, узяў сваімі белымі мяккімі рукамі маю нагу, асцярожна абмацаў ступню і шчыкалатку.

— Нічога асаблівага, пройдзе. Паварушыце пальцамі... Не баліць? Цяпер станьце. Вось так. Не баліць? А бегаць стрымгалоў не варта. Так можна і насмерць разбіцца.

Я падзякавала. Ён сказаў, што не варта, і мы вышлі на калідор.

Ісці мне было балюча, але я цярпела. Ён заўважыў гэта і прапанаваў пасядзець. Я, аднак, пайшла, думаючы, што, напэўна, дзяўчаты заказалі ўжо абед, чакаюць мяне ў сталоўцы і злуюцца.

«Хто ж ён?» — думала я ўвесь вечар. Перад вачыма маімі, узнікшы аднойчы, стаяў яго воблік: сінія вочы, шырокія бровы, белыя скроні і смуглы колер твару. Назаўтра, здаецца, я забылася пра яго. А яшчэ дзён праз пяць мы сустрэліся ў бібліятэцы. Я забегла абмяняць кнігу і адразу ўбачыла яго. Ён стаяў ля акна, у канцы бар'ера, што адгароджваў кнігасховішча ад чытальнай залы, і чытаў нейкі замежны часопіс. Мы прывіталіся, як старыя знаёмыя. Потым я выбірала кнігу і старалася не глядзець у яго бок.

— Што вы чытаеце? — пачула я за сабой яго голас.

Не павярнуўшыся, я падала кнігу.

— А-а-а, даволі трывіяльная любоўная гісторыя...— сказаў ён, і мы зноў удвух вышлі на калідор. Ён запытаўся: — Як ваша нага?

— Можна нават у баскетбол гуляць.

— А я тады спалохаўся і, ведаеце, разгубіўся неяк. Гэта ў мае сорак год!.. Дзіўна...

Я не разумела, што тут дзіўнага, і, каб не маўчаць, адказала:

— Вы амаль удвая старэйшыя за мяне. Але на выгляд вам не болей за трыццаць.

Ні тады, ні цяпер я не магу зразумець, чаму сказала гэтую фразу. Ён дапытліва паглядзеў на мяне сваімі сінімі вачыма, нешта хацеў сказаць, але змоўчаў.

Дзён праз колькі я ўжо ведала, што ён дацэнт, кандыдат навук, які нядаўна пераведзен да нас на работу. Дзяўчаты ды і хлопцы былі ад яго ў захапленні.

Ён вельмі цікава расказваў. А ведаў ён многа. І яшчэ была адна якасць у яго: адкажа на пытанне так, быццам гэта ты дайшоў да ўсяго сваім розумам. Да студэнтаў ён адносіўся па-бацькоўску: дароўваў ім пракуды, пазычаў грошы...

Мяне ён неяк вылучаў сярод астатніх, мабыць таму, што я лепш за другіх ведала літаратуру і мастацтва. А ён вельмі любіў і тое, і другое. Неяк так атрымлівалася, што мы часта сустракаліся. Хоць, што таіцца, я, бывала, хадзіла ў бібліятэку толькі дзеля таго, каб сустрэць яго.

Мяне цешыла яго ўважлівасць. Ага, са мной яму цікава, а з вамі не!

Размаўлялі мы не толькі пра літаратуру. Часта гаварылі пра жыццё. Ён расказваў пра вайну, пра розныя краіны. А пабыў ён шмат дзе.

Аднаго разу сустрэў мяне на вуліцы непадалёк ад дома, дзе жыў. Пагаварылі, потым ён сказаў:

— Учора прыбылі мае кнігі. Можа заглянеце на хвіліну. У мяне цудоўнае выданне Гётэ і вельмі рэдкі экземпляр першага выдання Гогаля. Пахваліцца ёсць чым.

Я зайшла. Такой бібліятэкі я даўно не бачыла. Мы доўга разглядалі кнігі. Потым селі ў крэслы: адзін супроць другога. Раптам я адчула, што зараз адбудзецца нешта вельмі важнае.

Размова неяк абарвалася. Я хацела была пайсці, але не зразумела, чаго сядзела. Леў Раманавіч паглядаў час-ад-часу на мяне, быццам пытаў дазволу на размову.

— У вас хораша, — сказала я, каб толькі не маўчаць, — Вельмі многа кніг.

Ён неяк выпрастаўся.

— Дарагая Вера Антонаўна, — пачаў ён крыху ўрачыста. Мне было страшна і цікава, што ён скажа далей. — Я доўга думаў. Людзі ў мае гады надта многа думаюць. Крыху боязна гаварыць пра тое, аб чым мару, але маўчаць яшчэ цяжэй. Мне ўжо агоркла маўчаць.

Я хацела запытацца, чаму ён адзін? Няўжо ў яго дасюль не было сям'і, але нейкі сорам скаваў мяне. Замест таго я запыталася:

— Навошта вам стрэльба? Хіба вы палюеце?

— Так, блазную. Я гэтай стрэльбай і не карыстаюся, — ён раптам пераменіў тон. — Вера Антонаўна, я так прывык да вас, што не ўяўляю сабе, як мог дасюль жыць адзін. Мы ж аднолькава думаем і патрэбны адзін другому. Мы шукаем адзін аднаго і чакаем сустрэч з нецярплівасцю, а калі доўга не бачымся, — пакутуем. Я гэтыя дні не працую, а думаю пра вас. А вы думаеце пра мяне?

Я кіўнула галавой.

— Ну, вось бачыце, — гаворыць ён і раптам голасам поўным невыказнага суму дадае: — Родная Вера Антонаўна, калі ў вас ёсць кропелька прыхільнасці да мяне, вы зразумееце маё шчырае прызнанне. Без вас мне...

Я маўчала, хоць разумела, што так будзе лепш, як ён кажа.

— Вы, напэўна, думаеце над маім узростам?— запытаўся ён у мяне.

Зноў я кіўнула галавой, хоць зусім тады не думала пра гэта.

— Я аднойчы сказаў, што мне сорак год, вы адказалі, што вам удвая менш. Значыць, вам дваццаць год, і я сапраўды ўдвая старэй. А вось калі вам будзе сорак, а мне шэсцьдзесят, дык тады я старэй буду не ўдвая. А яшчэ праз дваццаць год мы будзем амаль аднаго ўзросту.

Я разгублена паглядзела на яго: сапраўды, узрост — рэч вельмі адносная. А ён прадаўжаў у тым жа тоне, з лёгкай іроніяй у голасе.

— Я разумею, што я стары, адзінокі і непатрэбны нікому... Так бывае з парасонам: ідзе дождж і кожны раскрывае парасон, а ў пагоду кідаюць у кут. Кажуць, што Альфонс Дадэ, жартуючы, называў сябе прадаўцом шчасця. Да яго заўсёды звярталіся за дапамогай, парадай. Студэнты нясуць мне свае крыўды, свае няўдачы, бо я ўмею параіць, паспачуваць і памагчы. Але, напэўна, ніхто не здагадваецца, што мне самому часам хочацца прыхіліцца да каго-небудзь і не слухаць чужыя



крыўды, а апавядаць пра свае пачуцці. Не падумайце, што я выбраў вас з тысячнага натоўпу, як ахвяру. У мяне сапраўды сур'ёзныя і вельмі шчырыя да вас пачуцці. І я заўсёды буду блаславаўляць той здрадлівы паркет, які звёў мяне з вамі, вядома, калі вы згодзіцеся раздзяляць маё адзіноцтва.

Я маўчала, гэта я добра памятаю. А вось што думала — забылася. Ён узяў мае рукі ў свае і яшчэ раз запытаўся:

— Дык ці згодны вы ніколі не разлучацца з гэтым старым парасонам, які спатрэбіцца ад дажджу, а ў спёку захавае ад сонца? Мы будзем сябрамі, Вера.

Я паварушыла вуснамі, яны зашасталі, як папера. А можа гэта мне здалося. Толькі слоў не пачула. Тады я зноў кіўнула галавой.

Ён абхапіў мяне за плечы. Здзіўленая яго учынкам, я прыўзняла галаву, а ён прыціснуўся вуснамі да маёй шчакі. Я адчула, як балюча ўкалола мяне яго барада, і спалохана адхіснулася ад яго. Ён, відаць, зразумеў усё неяк па-свойму, бо ніколькі не здзівіўся. Сеўшы ў крэсла, ён пазіраў на мяне сваімі ласкавымі сінімі вачыма.

Вы, Машанька, скажаце, што я дзівачка. Нічога ў тым пацалунку не было дрэннага. Не, дарагая Машанька, відаць, я другі чалавек. Я паважала яго за розум, за дабрату. І раптам гэты пацалунак. Ён вярнуў мяне ад мар да сапраўднасці. У гэты час я з жахам думала над тым, што нашая блізкасць можа быць зусім іншай. Мне хацелася проста быць таварышам, слухаць яго разважанні, жыць яго думкамі, адчуваць яго сяброўскую прыхільнасць. Спачатку я хацела ўстаць і пайсці. Так было б, вядома, лепш, больш сумленна. Але я сядзела. Чаму я тады не паднялася і не пайшла? Перад смерцю маці сказала мне, што, мусіць, так трэба было. Глупства. Я проста была дурной дзяўчынкай. Не, напэўна, не тое.

— Вера, калі вы не будзеце супроць, мы ў нядзелю запішамся.

«Паслязаўтра, — падумала я. — Так хутка».

Прамільгнула была думка сказаць яму, што не трэба гэтага, але ён глядзеў на мяне так даверліва, з такой мальбой, што я не адважылася расчараваць яго.

— Рабіце, як хочаце... — сказала я і жахнулася ад сваіх слоў. Калі ён скажа заставацца зараз, устану і пайду і ніколі не буду нават размаўляць з ім.

— А як вы глядзіцё на вяселле? — запытаўся ён.

— Не, не, не трэба, — спалохалася я.

Ён усміхнуўся.

— Я сам не вельмі паважаю шумную бяседу. Ідыёцкае становішча — выстаўляцца напаказ, асабліва ў маім узросце. Але многа людзей не будзе, толькі самыя блізкія. Вы таксама запрасіце сваіх сяброўак.

Я прамаўчала. Ён доўга яшчэ гаварыў пра тое, як нам будзе добра. Потым ён крадком паглядзеў на гадзіннік, і я заспяшалася дамоў. Леў Раманавіч правёў мяне да самай рэчкі — далей я не дазволіла.

У нядзелю ён прышоў у наш інтэрнат. Я разгубілася, і ён зразумеў, што я нічога яшчэ не сказала дзяўчатам. Ён жартаваў, пра нешта расказваў, а я думала: што мне рабіць? Як непрытомная, я сноўдала па пакоі, потым пачала апранацца.

— Пачакайце, Вера, пойдзем разам. Вы ў горад? — Як праз сон, пачула я ягоны голас.

— Так, у горад:

Мы вышлі.
— Чаму вы бянтэжыцеся? Вы не любіце мяне?
Нейкі зусім другі чалавек адказаў за мяне:
— Люблю, але...
— Я ведаю гэта.
Потым у яго пакоі была невялікая вечарынка. Студэнтаў не было. Прышло пяцёра інстытуцкіх выкладчыкаў, людзей салідных, якія неяк адразу ўмела павялі размову, і я нават забылася, чаму сяджу побач з імі. Гадзін у адзінаццаць яны пайшлі. Я таксама пачала збірацца дамоў.
— Куды вы?
— Пайду ў інтэрнат.
Ён разгублена пазіраў на мяне. Потым падаў мне ключ ад свайго пакоя, сказаўшы:
— Спакойнай ночы, Вера.
Я не магла заснуць. Відаць, і ён таксама не спаў. Праз шчыліну з-пад дзвярэй прабівалася ў пакой вузкая стужка святла.
За акном гарэлі ліхтары, жоўтае, мёртвае святло іх тышчылася ў вочы. Потым ліхтары патухлі, і я ўбачыла шэрае перадсвітальнае неба. Мне было вельмі маркотна. Невядомае палохала мяне.
Нарэшце зусім развіднела. Я пачула лёгкі стук у дзверы, але прамаўчала. Стук паўтарыўся. Я не магла вымавіць слова.
— Вера, — пачуўся яго голас. — Я пайду ў інстытут. Вы можаце сёння не ісці. Я гаварыў наконт гэтага з Іванам Інакенцьевічам. На стале вы знойдзеце падрабязны пералік усяго, што дзе ляжыць.
«Мне яно не патрэбна, — думала я. — Следам за табой пайду і я. Усё роўна адзін раз перажываць сорам, вялікі ён ці малы».
Я ляжала, закінуўшы рукі за галаву, глядзела ў акно. Ці доўга так было? Дзверы адчыніліся, і ў пакой зайшоў чалавек, чорны і барадаты, як цыган.
— Хочаш, я пакажу табе фокус.
Я маўчала, страх прыкаваў мяне да ложка.
— Ха-ха-ха, — зарагатаў цыган, — ты баішся мяне. Я фокуснік Магамет Алі Бен-Бахар. Хочаш, я прадкажу табе лёс. Ён вось, тут, у мяне.
Фокуснік выцягнуў з-пад паліны доўгага халата чорную бліскучую скрынку.
— Хадзі бліжэй, дзяўчынка, не бойся.
Я падышла. Толькі цяпер я заўважыла, што фокуснік зусім сляпы. Яго ашклянелыя вочы глядзелі міма мяне, у іх адлюстроўваліся два збянтэжаныя маіх адбіткі. Ён адчыніў непрыкметную для мяне заслону. У скрынцы нічога не было.
«Фокус не ўдаўся», — падумала я і засмяялася. І раптам з адтуліны вылез дзед Баўціль. Гэты дзед жыў у нашай вёсцы. Шкодны такі стары. Займаўся чорнай магіяй і маліўся нейкаму свайму богу. Вось гэты Баўціль пачухаўся і сказаў мне:
— Дачка мая, прымі крыж свой і нясі яго, як святыя мучаніцы Вера, Надзея, Любоў і маці іх Сафія.
— Я не веру ў бога, дзед...
— Скарыся, не для жыцця зямнога, а нябеснага рыхтуе сябе кожны.
— Пакуль я тут, на зямлі, дык я думаю пра людзей.



— Пра душу сваю думай.
— Яе ў мяне няма, і я не веру, што яна ёсць.
— Можаш не верыць, а пра сябе ўсё ж думай. Кожны пра сябе. Кожны пра сябе. Адзін бог пра ўсіх думае. Чалавеку пра чалавека думаць не трэба. Пра сябе думай, дзіця маё.
— Ты абяцаў мне паказаць лёс мой, — сказала я цыгану, — а прымушаеш мяне слухаць вар'яцкія павучанні дзеда Баўціля.
Цыган дзьмухнуў — дзед знік. Нехта моцна пачаў калаціць у заслону. «Ёсць тут хто жывы, ці не?» — крычаў ён.
— Я тут, жывая,— адгукнулася я і прачнулася. Нехта стукаў у дзверы. Потым яны адчыніліся, і на парозе паявілася постаць высокага, хударлявага хлопца ў сінім, заляпаным фарбамі плашчы.
— І спіць царэўна маладая! — прадэкламаваў ён.
Мне здавалася, што сон усё прадаўжаецца.
— Хто вы?
— Я — дух, — хлопец зарагатаў так моцна, што задрыжалі шыбкі.
— Вы да Льва Раманавіча?
— Магчыма. А дзе ён, гэты стары лавелас. Не блага! У яго ёсць густ. Ну і прытворшчык. Маралі чытае другім, а сам.
— Хто вы? Я буду крычаць.
— А мне напляваць. Давайце лепш пазнаёмімся, — ён падышоў, працягнуў мне руку. — Рамір, вольны мастак.
— Вера.
— Вера? Адкуль вы?
Я нічога не разумела.
— Я — жонка Льва Раманавіча.
— Жонка? А ну, паказвайце пашпарт.
Я паказала яму пашпарт.
— Сапраўды жонка. Вельмі прыемна пазнаёміцца. Я — даўні сябар Алексіча, вашага мужа. Мастак. Прыходзьце да мяне ў майстэрню. Я хачу намаляваць ваш партрэт. Паслухайце, навошта вы пайшлі замуж за гэтага сумнага і старога ўжо чалавека?
— Ён добры, — адказала я.
— Глупства. Няхай дурні ахвяруюць сабой для другіх. Я навучыў бы вас жыць. Скажыце шчыра: няўжо вам хочацца вось так безразважна змардаваць сваю маладосць? Уцякайце, уцякайце хутчэй. Ідзіце на вуліцу, шукайце маладых, прыгожых.
— Ён добры, — паўтарыла я.
— Можа і добры. Мая сястра кажа, што ён сумны. Ёй гэта вядома лепш. Цяпер, калі вы разам, і ў вас ёсць магчымасць упэўніцца, які ён...
Мяне нібы абліў хто варам. Ён быў жанаты? Але чаму ён не сказаў мне пра гэта? Праўда, я ў яго не пыталася. Але ж ён павінен быў сказаць сам. Пакуль я раздумвала над гэтым, незнаёмы ўзяў мяне за руку. Мне цяпер было ўсё роўна.
— Якія ў вас прыгожыя вочы.
Я ўзняла галаву. Ён глядзеў на мяне цёплым, пранізлівым позіркам. Яго твар, дагэтуль непрыемны, спраменьваў столькі цеплыні, ласкі і тварыскай спагадлівасці, што я мімаволі залюбавалася ім.
— Я страшэнна адзінокі, дарагая мая дзяўчына, — загаварыў ён ціхім голасам. — Я такі адзінокі, як і вы ў гэтым доме — сярод гэтых кніг. Таму мы зразумеем адзін другога. Я не прапаную вам сваю руку. Але я прапаную вам маё сэрца, сэрца сябра. Мы будзем сябраваць. Мы

будзем слухаць адзін аднаго. Вы згодны? Нічога не трэба казаць. Схіліце толькі вашу галаву. Дзякую вам.

Ён пацiснуў маю руку i пайшоў.

Спачатку следам за ім хацела пайсці і я. Некалькі разоў апранала я паліто, потым зноў здымала яго. Нарэшце я пачула крокі Льва Раманавіча. Мне было сорамна, і я пабегла ў свой пакой. Зачыніла дзверы, затаіла дыханне. Ён пастукаў і адразу ж адчыніў дзверы. Я закрыла твар рукамі, нібы чакала ўдару.

— Што з вамі, Вера?

Я маўчала, а калі ён паклаў руку, уздрыгнула.

— Я вас пакрыўдзіў?

Што я магла сказаць? Ён прайшоў па пакоі. Я чула, як парыпвае паркет ад яго цяжкіх крокаў. Нарэшце ён спыніўся.

— Мне хацелася б сказаць вам многа шчырых і цёплых слоў. Але замест іх вы пачуеце горкае прызнанне. Выслухайце яго, а далей рабіце так, як палічыце лепшым. Чаму я не сказаў вам пра ўсё раней? У мяне ёсць сын, была жонка.

— Я не хачу чуць пра гэта. Я ўжо ўсё ведаю.

Памаўчаўшы, ён сказаў:

— Разумею. Сюды прыходзіў брат маёй жонкі Ліліі Нікадзімаўны — Рамір. Тады я не буду апраўдвацца. Некалі я зрабіў найвялікшае ў жыцці глупства. Калі я зразумеў тую сваю памылку, дык думаў, што другой ніколі не будзе. Тая памылка была фатальнай для мяне. Новая прынесла яшчэ большае няшчасце. Я пакрыўдзіў вас. І таму мне балюча ўдвая. Адкажыце, Вера, толькі на адно пытанне: чаму вы такая спагадлівая?.. Вы маўчыцё. Калі б я пачуў хоць адно вашае слова, я ўсё зразумеў бы. Мне хацелася вялікага шчасця, таму я аслеп і аглух.

Я маўчала. Хоць мне было шкада яго.

— Усё яшчэ можна паправіць. Калі вы давяраеце мне, дык пажывіце ў гэтым пакоі яшчэ некалькі дзён. Мне гэтымі днямі была прапанавана работа ў адным з інстытутаў Мінска. Я тады сказаў, што падумаю. Цяпер я даю згоду. Вы застанецёся жыць тут. А потым, калі кончыце інстытут, мы абмяркуем, як быць далей. Цяпер развод і для вас і для мяне быў бы... Самі разумееце. Вядома, я не настойваю на такім варыянце. Але самі разумееце, што пойдуць размовы...

Я згадзілася. Помню, ён пабялеў увесь, зацiснуў твар рукамі і выйшаў.

Прайшоў месяц. Леў Раманавіч паехаў. Помню, я засталася адна і неяк абрадавалася гэтаму. Дзён дзесяць я цешылася свабодай. Здавалася, быццам зваліўся цяжар з маіх плеч.

Увечары аднаго дня я пайшла ў сквер над Дзвіной. Села на лаўку, любавалася ракой, заходам сонца. Нехта сеў побач. Я паглядзела. То быў Рамір.

— Глядзіце, як прыгожа заходзіць сонца. Колькі фарбаў, колькі гармоніі, дзіўнай і неператмальнай!..

— Вы вельмі любіце прыгожае, — сказала я.

— Мае мары яшчэ больш прыгожыя. У іх я ствараю такія малюнкі, якія не можа бачыць чалавек. Вас я таксама стварыў у сваіх марах. Я заўсёды бачыў вас такой, не падобнай на другіх. Мне хацелася б быць маленькім праменем сонца, які прабівае вось гэтую найцудоўнейшую залатую пасму вашых валасоў. Вы, напэўна, у першую нашу сустрэчу



падумалі дрэнна пра мяне. Я — не такі. Адзінокая душа шукае спагады.

Я паклала руку на спінку лаўкі, адчула пазы двух літар «К» і «В». Маім вачам уявілася маладая прыгожая пара, якая сядзела тут. Уявілася я сама, з найлепшым сябрам.

Рамір абняў мяне, прытуліў, але не пацалаваў. Каб ён пацалаваў, я ніколі з ім не сустрэлася б. Потым ён устаў і пайшоў. Рамір мне здаваўся такім шчырым і бескарыслівым сябрам.

Але я памылілася. Ён проста нягоднік. Леў Раманавіч хоць кахаў мяне. А гэты. Адным словам, з ім пакончана назаўсёды.

І вось тут, Машанька, пачынаецца другая кніга жыцця.

Я доўга пакутавала ў калгасе і, нарэшце, парашыла кінуць работу. Але так здарылася, што ў калгас я вярнулася. Прыйшла на поплаў і ўбачыла яго... Льва Раманавіча. У мяне падкасіліся ногі. Чаму ён тут? Няўжо дазнаўся пра мой адрас? Прыкрасць, злосць, сорам, — усё гэта адразу ахапіла мяне. Хацелася бегчы, пакуль хопіць сіл. Надта многа перажыванняў на аднаго чалавека!

І зноў я памылілася. Нешта вельмі часта я пачала памыляцца. Леў Раманавіч прывітаўся, назваў мяне сваёй студэнткай-цёзкай. Я зразумела, што ніхто нават не здагадваецца пра нашыя дзіўныя адносіны. Мне было ніякавата, але на сэрцы палегчала, і я пачала прыслухоўвацца да таго, пра што ён расказваў.

У нашым калгасе пачаўся паход за высокія надоі малака. Моладзь рушыла на фермы. А кармоў не хапае. Вось тут Леў Раманавіч і збіраецца вырашыць гэтую праблему. Хоча ён балоцістую, купкаватую пустошу Балоние пераараць, засеяць травамі, палепшыць паплавы, а пад яравыя падсеяць канюшыну. На яго думку, сена ў калгасе тады адразу павялічыцца ў чатыры разы.

Мабыць, вам не вельмі цікава слухаць пра яго планы і вы ў думках забягаеце наперад. Але не думайце, размовы ў нас яшчэ не было, хоць адчуваю, што не мінуць яе.

Учора (пасля гэтага я і парашыла напісаць вам гэты ліст) у нас быў сход. На ім выступаў Леў Раманавіч. Ён быў нейкі ўзнёслы, можа таму, што апавядаў пра паплавы, пералескі і проста замшэлыя пустошы, якія нават не бабяць вока... Ды так хораша!

Я, напэўна, не здолею перадаць яго прачулых слоў. А гэта вельмі важна. І ўсё ж паспрабую, тады вы лепш зразумееце мяне.

На зыходзе вайны, расказваў ён, салдацкі лёс прывёў яго ў Еўропу. Немцы, агрызаючыся, адступалі. Упартыя баі вяліся за кожны дом. У адным з начных баёў шалёная куля не абмінула і Льва Раманавіча. Ачнуўся ён пад раніцу. Над галавой вісела высокае вясновае неба. Яркае сонца ўставала адтуль, дзе засталася радзіма. На ім абсыпанымі кроплямі буйнай расы зеляненў куст. Павярнуўшыся са спіны на бок, Леў Раманавіч убачыў за кустом рачулку, маленькую і вельмі падобную на Пітамку, што цячэ ля нашага калгаса. Напіўся. Калі прайшла смага, зірнуў вакол сябе: за рэчкай ляжаў маленькі поплаў, такі, як наш, можа куды меншы, і ўвесь пакопаны чорнымі варонкамі. Сярод зялёнай травы яны былі, як свежыя воспіны на твары. Хацелася бегчы, зараўняць гэтыя ямы, але боль пранізаў усё цела. Тады Леў Раманавіч успомніў усё. Спачатку было жудасна: навокал цішыня, а ты адзін... Мусіць ён трызніў, але часта яму здавалася, што ляжыць ён у сваім Закружжы, адпачывае пасля касьбы. Тады наставала палёгка...

На поплаве цвілі кветкі, надта яркія — жоўтыя і сінія. Пахла сырой травой і прэлым лісцем. Пачынала прыпякаць сонца. Леў Раманавіч неяк адпоўз пад куст. Далей не мог: балелі рука і ногі. Там, дзе ён упаў, чарнела пляма, здавалася, нехта пафарбаваў траву. Раптам ён убачыў тры лісточкі зайцавай капусты. Прагнымі рукамі сарваў іх. Яны былі горкімі, як палын. Але Леў Раманавіч жаваў іх і ўвесь час бачыў сябе на поплаве ў Закружжы.

Пад вечар яго падабралі сяляне. У маленькай, на водшыбе, хаціцы пахла травамі, беларускім чаборам. Леў Раманавіч дыхаў ім і, здавалася, зноў вяртаюцца сілы. А ля печы чаравала бабуля, высахлая, згорбленая. Яна перабірала травы і, нешта шэпчучы сухімі вуснамі, кідала іх у гаршчок. Ён доўга наглядаў за ёй, думаючы: «Піць нізавошта не буду». Астудзіўшы варыва, яна наліла кубак, паднесла яму. Ён адвёў яе руку, бабуля нешта сказала і зноў падала кубак. Тады ён выпіў настой. Бабуля прынесла яшчэ і пачала рабіць перавязку. «Што гэта?»— не вытрымаў ён. «Дзівасіл». Яму здалося, што зноў пачаў трызніць. Але бабулька дрэнна гаварыла па-нашаму.

«Рускі харошы сродак. О, рускі поле — лепшы аптэка. Усё ёсць: сэрца лячыць — ёсць, ногі баляць — ёсць трава. Усё, усё ёсць трава... Іван казаў — рускі поле не памрэш. Травы не знойдзеш — пах лечыць».

Ад дзівасілу, ці другой якой травы, але перастала яго трэсці ліхаманка.

«Адкуль ты, бабуля, ведаеш пра травы?»— запытаўся ён, калі назаўтра забіралі яго ў шпіталь.

«Муж мой, гаспадар, Іван Лабоха, расейскі быў. Дзвіна рака, чуў? Адтуль ён. Матросам быў, ад цара ўцякаў. Дзяцей меў. Паміраў, Дзвіну ўспамінаў... Плакаў, многа плакаў».

У шпіталі Леў Раманавіч думаў над лёсам паплавоў. Іх не так ужо і многа. А вайна іх, як той далёкі чужы лужок, знявечыла. Тады і нарадзілася ў яго думка вылечыць нашы паплавы, абнавіць іх, абмаладзіць. Няхай служаць чалавеку...

— Далёкі родзіч наш, — гаварыў ён далей, — адваёўваў у лясоў і балот зямліцу. Як маладая нявеста, паўставала яна перад ім: «твая навекі». А не паспеў чалавек як след агледзецца, зямля даставалася другому, багатаму ды хціваму. Браў ён ад яе ўсё, знішчаючы маладую красу. Марнела зямля ды жорстка помсціла ненасытнаму.

Потым разбілі паплавы на палосы. Дачакаўся чалавек зямлі, убачыў — не маладуха дасталася яму, а высахлая старая. Ад лазы пасівела, кіслай стала ад шчаўя, парасла дурнап'янам, амежнікам, блёкатам. Не пра травы і прыгажосць думалася мужыку — пра хлеб і бульбу дбаў ён кожны новы дзень. Гавораць, божую скаціну бог накорміць... А бог карміў гучкамі ды саломай напалам з быльнягом.

Талакой чалавек моцны — адзін, як травіна, што застаецца на ўзмежку пасля касавіцы. Першы падарожнік сарве. Куды яму было ваяваць з прыродай. Паўзлі імхі на сенажаці, разуха-асака наступала з балот, зязюльчын лён ды мудронка адваёўвалі сабе прасторы. А за імі ішла лаза, сцялілася ніцма, быццам хацела дарэшты выпіць зямляныя сокі.

Былі гады, калі ажывалі паплавы, а пасля зноў тачыла іх спрадвечная хвароба — зморанасць. Тады рэзка падалі накосы сена. Падпарадкаваная агульным законам, катастрафічна падала і пагалоўе жывёлы.



Не было жывёлы — не было гною, не было чым карміць зямлю. Замыкалася кола і, здавалася, не было з яго выйсця.

Вы запытаецеся, а як жа ў наш час? Няма цяпер межаў і палос. Дык чаму цяпер паплавы марнеюць?

Вы маладыя і таму не ведаеце, як цяжка было людзям у першыя гады калектыўнага жыцця. Людзям хацелася адразу многага: мець свой трактар і блюмінг, свае новыя гарады і сваіх вучоных, свае тэатры і армію, якая б абараніла іх ад ліхалецця. Не дзіўна, што пра тое-сёе забываліся. Таму і не звярталі ўвагі на падзвінскія ды прыдняпроўскія паплавы. І ўсё ж людзі думалі пра іх.

Першыя бомбы абарвалі мірную працу, боты чужынцаў стапталі кветкі, міны і снарады знявечылі зямлю, і яна чакае цяпер чалавека-ўрача. Вам, маладым, і належыць вылечыць яе. Дапытлівы розум і працавітыя рукі — вось той цудоўны бальзам, што верне паплавам маладосць, што прымусіць пустошы квітнець праскамі.

Тады заквітнее і ўсё жыццё. Шчодрая зямля нічога не пашкадуе. Я сам адчуваю сябе маладым і хачу быць разам з вамі, у гэтай барацьбе за новую маладосць зямлі.

Дарагая Машанька, што рабілася сёння, вы не можаце ўявіць. Я не пазнаю тых людзей, якія яшчэ ўчора не хацелі ісці на сенакос. Сёння выйшлі ўсе, нават жанчыны. Ва ўсіх адно — хутчэй кончыць сенакос, а потым пачаць пераворваць гэтае купкаватае Балонне. Аграном паехаў за нарадамі на насенне траў, Лёнька Зайчык — смешны такі хлопец — кожныя шэсць гадзін выпускае спецыяльны бюлетэнь. Маладзёжная брыгада косіць і сіласуе балотную траву, усе змораныя, але вясёлыя. І я таксама.

Адным словам, цяпер Закружжа не пазнаеш. Хіба толькі Даміра, наш старшыня, не ў гуморы. Кажуць, у яго вельмі хворая жонка, мо' таму ён такі.

Вось, дарагая Машанька, я і падышла цяпер да таго, дзеля чаго развяла такую доўгую пісаніну. Што мне рабіць, калі ён зноў загаворыць пра нашы адносіны... Парайце, што рабіць?

Вельмі позна, а я ўсё пішу. Не смейцеся з мяне. Я сама не ведаю, чаго хачу.

Шчырае прывітанне Івану Іванавічу. Застаюся чакаць адказу.

Вера Алексіч».

«Мілачка, добры дзень, дарагая!

Чытала тваё пісьмо і плакала. Няшчасныя мы людзі, жанчыны. Сэрца ў нас добрае, а ў цябе яно, да таго, жаласлівае. Паказала я пісьмо сваёй сяброўцы, можа помніш, душачка, Лілечку Целяпнёву, такая беленькая, гэта яна ад перакісу такой стала. Дык Лілечка сказала, што такога і ў раманах не чытала. А з Ванечкам сваім паспрачалася і два дні не размаўляла. Але ж жаночае сэрца адходлівае: даравала яму благія яго словы. Ён хоча сам табе напісаць, а я не дазваляю. Ён цябе абавязкова саб'е. А што я параю, дык так і зрабі.

Не падабаецца мне твой гэты Леў Раманавіч. Стары чалавек, а блазнуе. Няхай бы сядзеў у акадэміі. А яму варта перапрасіць цябе. Толькі ты адразу не згаджайся, паламайся, няхай ведае, што мы не абы-хто. Цябе, Вера, душачка, на руках трэба насіць, а ён, дзівак гэтакі,

нічога не зразумеў. Каб ён быў разумны, дык яшчэ тады прыласкаў бы, угаварыў. А то як мядзведзь: я яго так і ўяўляю...

І ты, Верачка, добранькая надта. Падумаеш, стары... Са старым яшчэ лепш жыць будзеш, хоць шанаваць стане. Я вось пагналася за Ванечкам, а ён мяне завёз у глухамань, толькі і чуеш, што пра новыя пароды кароў. А ты ж у сталіцы жыць будзеш. Хіба там маладых мала?

Дзіўная ты, Верачка... Гады ж бягуць. Спахопішся потым, ды позна будзе.

Маё табе слова простае: не цурайся яго. А як толькі ўладзіцца ўсё — бяры яго ў рукі так, каб кашлянуць без твайго дазволу не мог.

Шкада, далёка да цябе ехаць, наладзіла б я вам вяселле па-свойму, благаславіла і наказ цвёрды дала б.

Навін у нас няма ніякіх, таму што глухамань страшэнная. Пашыла сабе цудоўны халацік, а надзяваць няма куды. Прайдуся па пакоі, пагляджу на сябе ў люстэрка ды і павешу ў шафу.

Калі вельмі засумуеш — прыязджай да нас. Прыму цябе, як родную. Слухайся мяне, Верачка. Я благіх парад не даю.

Цалую цябе, душачка.

Верная табе Машанька».

«Паважаная Вера Антонаўна!

Асмеліўся напісаць вам, бо маўчаць не магу. Маша не давала мне вашага адрасу, дык я ўкраў у яе канверт і перапісаў адрас. Хочаце — чытайце далей, а не хочаце — парвіце, бо я буду няшчадна лаяць вас.

Сорам, Вера Антонаўна, не толькі пісаць так, але нават у галаве трымаць такія хворыя, ледзь не паталагічныя думкі. У вас вялікія справы робяцца, здаецца, паляцеў бы да вас на крылах, а вы расплакаліся. Нарабілі вы памылак — на дзесяць чалавек хопіць. Як жа вы, маладая савецкая дзяўчына, маглі без кахання замуж пайсці? Наша мужчынская справа ад роду такая — запытацца. А як жа? Ён вас палюбіў, ну і запытаўся, ці згодны вы?.. «Не, я вас не палюблю, Леў Раманавіч, і не пайду за вас замуж», — так павінны былі вы адказаць яму.

Кіньце, Вера Антонаўна, гэтае калупанне ў сваіх пачуццях. Калі прыдзе сапраўднае каханне, тады вы не будзеце задумвацца.

І яшчэ хачу палаяць вас. Такія цікавыя ў вас справы, а вы пра іх тры радкі напісалі. Мяне вельмі ўсхвалявала ўсё гэта. Калі вы не вельмі раззлуецеся, дык абавязкова напішыце мне пра ўсё.

Мы з вамі, Вера Антонаўна, скончылі адзін інстытут. Гэта — як адной маці дзеці. І я ваш старэйшы брат. Дык вось, як старэйшы, хачу вам параіць. Работа наша цікавая. Улазьце вы ў яе з галавой. Ды і людзі ў вас добрыя, а вы ім ярлыкі, як біркі цялятам, вешаеце. З такімі людзьмі можна горы перавярнуць. Працуйце і працуйце, тады ўсялякая бязглуздзіца ў галаву не палезе.

Хопіць, мусіць, лаяць. Не крыўдуйце на мяне — пішу па шчырасці.

Навін у нас шмат. Пабудавалі новы кароўнік, правялі вадаправод. Кароўнік у нас незвычайны: круглы, у сярэдзіне сіласная вежа. Надта зручны. Усё цяпер на месцы. Вось бы і ў вас такі хлеў пабудаваць!.. Хочаце, я вам вышлю праект?..

А яшчэ навіна: вывелі мы новую пароду кароў, вельмі малочную. За гэта я прэмію атрымаў.



Ды хіба ўсе навіны перакажаш? Яшчэ раз мой вам наказ — трымайце вышэй галаву і не забывайце, што вы савецкі заатэхнік.

Шчыра жадаю вам поспехаў і сапраўднага шчасця ў жыцці.

І. І. Ашман.

P. S. Дарэчы, Леў Раманавіч разумны чалавек і дарэмна вы баіцёся размовы. Яе не будзе.

І. І.».

Вера дачытала ліст, задумалася. Яна ніколі не чакала такога ад Івана Іванавіча. Няўжо зноў памылілася? Што ж рабіць цяпер? Лёгка сказаць, бярыся за работу. А ці лёгка заваяваць давер'е людзей?..

## XI

Не колькасцю пражытых дзён і вёснаў вымярала Ніна Шумейка свой узрост, а тымі падзеямі, што адбыліся за яе кароткае, поўнае прыгод жыццё. І калі яна з вышыні сваіх дваццаці год азіралася назад, дык здавалася ёй, што жыве яна на зямлі даўным-даўно, напэўна, даўней за сваю старэнькую бабулю. Ад такіх думак на душы рабілася маркотна і вельмі неспакойна. Здавалася, што ніхто Ніну не разумее, нават дзяўчаты, пра якіх яна сказала Ліпанавай: «Яны любяць мяне».

Калі Ніне не было яшчэ і пяці год, яна разам з маці паехала ў Адэсу да цёткі ў госці. Ад таго першага падарожжа засталося ў Ніны нейкае дваістае пачуццё светлай радасці і прыгнётлівага страху. Паездка ўспаміналася, як бясконцы перастук колаў. Але яшчэ і цяпер, пачуўшы паравозны гудок, Ніна ўздрыгвала ўсім целам. Цьмяна, як праз далёкі неверагодны сон, прыпаміналіся кароткія, нязвычныя гудкі паравоза, глухія выбухі і чорныя слупы, што ўздымаліся ад зямлі. Маці ўяўлялася, як вялікая няўклюдная лялька, абмотаная сляпуча-белай марляй.

Далей Ніна прыпамінала яшчэ адзін малюнак, невыразны, але страшны. Яна ляжыць на ложку побач з абстрыжанай нагала дзяўчынкай, худой і жоўтай. Дзяўчынка жаласліва скуголіць,аднастайна, як вецер за вялікім занавешаным акном. Кашчавая жанчына з доўгім носам, на якім вісяць вялізныя акуляры, прарэзліва крычыць на дзяўчынку. Ніна затыкае вушы, тады відаць толькі, як шавеляцца сінія вусны. А дзяўчынка скуголіць і скуголіць, быццам сваім плачам хоча перамагчы завею. Ніна заплюшчыла вочы, заткнула вушы, але плач дзяўчынкі абмінае ўсе перашкоды, упіваецца ў галаву вострымі іголкамі. Нешта моцна грукоча. Ніна спалохана ўздрыгвае, расплюшчвае вочы. Кашчавая жанчына б'е маленькімі кулакамі па стале, нешта крычыць, а па яе твару цякуць слёзы. Адразу наступае цішыня, і ўжо не сварлівая жанчына, а маладзенькая незнаёмая цётка вядзе яе па нейкім садзе з вялізнымі чырвонымі яблыкамі на голлі.

Дакладна прыпамінаецца Ніне мноства ложкаў і вусаты над ёю твар. Вусаты дзядзька шурпатай рукой гладзіць яе па шчацэ і гаворыць некаму, каго не відаць:

— Худзенькая вельмі, але будзем спадзявацца.

У дзесяць год — і гэта ўжо Ніна помніць добра — яна збегла з дзіцячага дому, цвёрда наважыўшыся шукаць сваіх бацькоў. Чамусьці яна была ўпэўнена, што абавязкова знойдзе іх, калі пойдзе паўз чыгунку. Трэба толькі доўга-доўга ісці.



Яна знайшла чыгунку. Некалькі дзён ішла паўз яе, пакуль не заўважыла горад. Цяпер яна была ўпэўнена, што дом зусім блізка: з горада некалі бацька прывозіў ёй цукеркі. Але ў горадзе яе затрымалі. Зноў яна трапіла ў дзіцячы дом, але не пераставала думаць аб тым, як бы зноў уцячы. Ноччу, калі ўсе спалі, яна вылезла праз акно, пайшла на маленькую станцыю. Забралася ў пусты вагон, чакала. Хутка туды залезла тоўстая, друзлая жанчына. Чыркнула запалкай. Угледзеўшы Ніну, села побач.

— Куды, мая кветачка, едзеш?— запыталася яна.

Ніна маўчала, баялася вымавіць слова: раптам бабуля адправіць яе ў дзіцячы дом. Старая дастала з торбы булку, разламала надвое, падала Ніне.

— Еш, котачка, не бойся. Ладуціха малых любіць...

Пакапаўшыся ў торбе, яна дастала кавалак цукру, выцерла яго аб світку, падала Ніне. Расчуленая яе дабратой, Ніна прызналася ва ўсім. Стараяківала галавой, спачувала:

— Дзіцятка маё дарагое, паедзем да мяне. Не адшукаеш ты адна сваіх бацькоў. Я табе памагу, котачка. Толькі час для гэтага патрэбны, ой як многа часу патрэбна.

Ніна паехала са старой. Тая прывезла яе ў вялізны разбураны горад. Пасяліліся яны на ўскраіне ў старым заімшэлым бараку.

Старая аказалася жабрачкай. Пасылала яна Ніну па здабыткі на скрыжаванні людных вуліц і ў пад'езды дамоў. Часта сама хадзіла з ёю.

Мінула некалькі гадоў. Многа што змянілася ў горадзе: выраслі новыя дамы, раскінуліся прывольныя паркі, зазіхацелі асфальтам вуліцы — толькі Ніне даводзілася па-ранейшаму працягваць руку да кожнага сустрэчнага.

На яе цяпер паглядалі з недаверам, саромілі, а часам гналі прэч. Ды яна і сама разумела, што занадта вырасла. Але трэба было неяк жыць. Жабрачае жыццё дашчэнту вытравіла былую мару аб пошуках бацькоў. Ніна прывыкла швэндацца па вуліцах, бясплатна прабірацца ў кіно, у парк, жыць, ні пра што не думаючы.



Аднаго разу Ніна ўбачыла ў каморцы таўстамордага рыжага незнаёмца. Ён сядзеў на нізкім услоне, падбіваў паношаныя боты Ладуціхі.

— А, прышла,— прывітаў ён Ніну.— Паказвай, колькі назбірала.

— За паказ грошы плоцяць, — адрэзала Ніна. — Ты хто будзеш?

— Не звер.

— Бываюць і горш.

— Языкатая. Выўчыла цябе Ладуціха.

— Самі таксама не лыкам шытыя.

— Тады спынім дэбаты, — рыжы дастаў з кішэні грошы, не падымаючыся, дастаў з-пад лаўкі бутэльку. — Схадзі, падруга, у шалманку, прынясі паўлітра, каб можна было замачыць знаёмства.

— Не вельмі я рада знаёмству.

— Ды я па дружбе. Як мы з табой пад адным эксплуататарам у асобе Ладуціхі знаходзімся — значыць радня. Паслухаць трэба.

Потым, калі яна прынесла гарэлкі, ён наліў шклянку ледзь не да самага верху, выпіў. Адламаўшы кавалак хлеба, закусіў. За малаток ён больш не браўся. Сядзеў, апусціўшы галаву, думаў. Ніна стаяла, чамусьці баючыся сесці. Шавец наліў яшчэ, паклікаў Ніну:

— Хадзі, выпі.

— Не хачу.

— Эх ты, кабылка... Чорт з табой, сам вып'ю.

Выпіўшы, ён усміхнуўся.

— Хто мы з табой на сённяшні дзень ёсць? Не задумвалася над гэтым? Ага, бачыш, не думала. Мы — моль. Пасыпаць нас нафталінам — чых-чых і няма нас. А пакуль мы жывём, дык есці нам трэба? То-та ж, падруга!..

Раптам не па гадах спрытна ён ухапіў Ніну за руку. Прывыклая да ўсяго, яна ірванулася, але рука трымала яе насмерць. Тады Ніна паспрабавала закрычаць. Другой рукой, жорсткай і смярдзючай, ён заціснуў ёй рот.

— Маўчы, дылда, а то... — ён скрыгатнуў зубамі, плюхнуўся на лаўку, але Ніністай рукі не выпускаў.

— Спалохалася? Мяне баяцца. І ты бойся. Я на ўсё гатовы.

Ён наліў гарэлкі, каротка скамандаваў:

— Пі!..

Шклянка бразгала аб зубы. Ніна адчувала, як гарачы, востры струмень пранікае ў цела. Рыжы пацягнуў Ніну за руку, і яна, як падкошаная, села ля яго.

— Будзеш слухаць мяне, ясна?..

— Буду, дзядзечка, — Ніна схітрыла.

— Тады вось што скажы, дзе гэтая вядзьмярка хавае грошы?

Ніна не ведала. Роспачліва пацiснула плячыма.

— Не ведаеш? Яна хітрая. А красці ўмееш?

— Не, дзядзечка. — Ніна хлусіла. Навучылася яна і красці. Брала пакуль тое, што ляжала недалёка.

— Красці трэба! Трымайся мяне. Чула?.. І вось што, не ўздумай чаго... Біяграфія твая сапсаваная. Са мной будзеш працаваць. Грошы будуць. Вось бачыла, — ён выцягнуў з кішэні пачак грошай. — Хочаш — бяры. А старую мы абчысцім, у яе, чорта, тысячы ляжаць. Ну, вып'ем.

Увайшла жабрачка, залемантавала, убачыўшы побач з рыжым Ніну.
— А-а-а-а, поскудзь, нягодніца, прыгрэла цябе, адкарміла.
Рыжы з усяго размаху ўдарыў старую ў грудзі. Яна ўпала, але не крычала, толькі паўтарала адно і тое ж:
— З глузду з'ехаў, далібог, з глузду з'ехаў...
Ніна пашкадавала старую: яшчэ заб'е, — засталася. Удзвюх весялей, і не так боязна. Потым жабрачка прынесла гарэлкі. Яны пілі з рыжым і спявалі нудныя, слязлівыя песні.
Ноччу Ніна прачнулася ад дотыку чужых, закарузлых рук. Перад ложкам стаяла чорная здань. Ад яе патыхала цыбуляй і перагарам. Рыжы! Ніна падкурчыла ногі. На тапчане побач храпла старая. Ад гарэлачнага смуроду не было чым дыхаць. Бессаромныя далоні намацалі яе плечы, прыціснулі Ніну да ложка, слізганулі ніжэй. Яна выкаўзнулася. Рыжы зноў штурхануў яе. Падаючы, яна размахнула рукамі і раптам адчула пад далоняй бутэльку. Размахнулася з усяе сілы і ўдарыла па чорнай здані. Бутэлька шлёпнула, рукі таўстамордага аслаблі. Агідная здань пляснулася на падлогу.
Накінуўшы на плечы нейкую апранаху, Ніна выскачыла на вуліцу. Золкі вецер ударыў па твары калючым снегам. Не задумваючыся, яна пабегла пасярэдзіне бязлюднай, ціхай вуліцы. Толькі б далей ад страшнай хібары!..
На вакзале — зашылася ў куток, прыкархнула на цяжкай дубовай канапе. Не спала — драмала, гатовая ўцякаць ад першай небяспекі.
— Ну ты, пасунься, разлеглася!.. — чалавек у бруднай, зашмальцаванай фуфайцы злосна штурхнуў яе кулаком у бок. Яна, ашалелая са сну, ускочыла. — Спалохалася? Каго чакаеш?
— Цётку. Яна сёння прыязджае.
— Ну і дурніца, ясна? — і раптам, прыгнуўшыся, зашаптаў: — Назусім кінула Ладуціху?
Ніна зразумела: прыкідвацца далей няма патрэбы. Насцярожана, з-пад ілба пазірала на новага знаёмага. Ён падміргнуў, усміхнуўся.
— А я цябе не прызнаў спачатку. Дык куды ты сабралася?
— Сама не ведаю.
— Прыставай да мяне.
— А Ладуціха як?
— Баішся?.. Шкодная баба, ліха на яе. Сёння ж паедзем.
— Усё роўна ўжо.
— Не пакрыўджу. Работа чыстая, ясна?
Гэта была такая работа, якая ледзь не давяла Ніну да турмы. Прыкідвалася Ніна то студэнткай, то вясковай дзяўчынай, то дачкой вучонага або генерала. Падарожнічала ў прыгарадных цягніках, у мяккіх купэ хуткіх паяздоў. Ездзіла са студэнцкім абшарпаным чамаданам, з куфэркам або нянаскім баулам. Апранала вясковыя кажухі або модныя цыгейкавыя футры, паркалёвыя сарафаны ці модныя дарагія плацці. Заводзіла на станцыях знаёмствы, бралася сцерагчы рэчы, тут жа давала абабраць і сябе і даверлівую бабу. Адчыняла ноччу купэ, уваходзілі злодзеі, памагалі выносіць рэчы. Абласканыя Нінай праваднікі жадалі ёй шчаслівага шляху, а назаўтра маўчалі, дазнаўшыся, як іх правяла зусім яшчэ маладзенькая дзяўчына.
Аднаго разу не пашанцавала. Давялося ўцякаць. Скочыла на хаду з цягніка, пакацілася пад адхон, — апамяталася толькі ў бальніцы. За



многія гады адчула сябе па-сапраўднаму шчаслівай. Чыстыя прасціны, цёпла. Не трэба хлусіць, слухаць плач і праклёны. Прыходзіў нейкі ўрач, цікавіўся яе жыццём, пытаўся пра гады дзяцінства. Ніна прызнавалася ва ўсім. Толькі ў пакражах баялася прызнацца, нават сабе.
Зрасліся неўзабаве маладыя косці ног. Перастала балець у грудзях, але яе чамусьці не выпісвалі.
Аднойчы паявілася ў калідоры зграбная, хоць і старая бабуля. Ішла яна бачком, як сарока, зазірала ў кожную палату.
— Да каго вы, бабуля? — запыталася ў яе Ніна.
— Унучачка тут ляжыць, унучачка... — і раптам яна пляснула далонямі, сашчапіла пальцы, прыціснула рукі да грудзей. — Дзіцятка маё!..
Бабуля залемантавала, потым кінулася да Ніны.
— Чаго вы? — адштурхнула яе Ніна: апякла думка пра Ладуціху.
— Дзіцятка ты маё залатое, зусім не помніш нічога. Маленечкая была, пяты гадок ішоў, калі павезла цябе маці ў Адэсу. Як жа ты адна дабралася? Божухна, літасцівы!.. Я ж фотакартку прынесла.
Дрыжачымі пальцамі яна дастала з-за пазухі фотакартку, сунула Ніне ў рукі. На фотакартцы — сядзеў мажны мужчына, трымаў на каленях дзяўчынку з пышным бантам у валасах. Побач стаяла жанчына, вельмі падобная на Ніну. Ніна ўгледзелася лепей. Так, гэта яе маці — такі ж маленькі нос, кароткія бровы, што зрасліся над пераноссем, пухлыя шчокі...
Аднекуль паявіўся ўрач. Толькі пад белым халатам, што накінуты быў на плечы, відаць быў гарнітур ваеннага крою і пагоны з чырвоным кантам.
— Ну вось і кончыліся твае блуканні, Ніна. Каб не апошні выпадак, нырнула б ты зноў у свет, як у сіняе мора. Ля дому ездзіла, а ў госці не зайшла. Затое цяпер не госцяй будзеш.
— Ды ўжо ж, ужо ж... — загаманіла бабуля.
Два дні не зачыняліся дзверы ў бабульчынай хаце. Усё Закружжа перабывала тут, хацела на свае вочы ўпэўніцца, што нарэшце вярнулася Шумейкава дачка з далёкага гасцявання.
Вёску Ніна не злюбіла. Здалася яна ёй соннай і надта хітрай. Глядзела на свет невялікімі, схаванымі за кустамі бэзу вокнамі. Хацелася паехаць у горад, але бабуля не пусціла.
Не спадабаліся Ніне і людзі. Здавалася, пакутуюць яны ад хваравітай цікаўнасці. Першай пакрыўдзіла Ева. Дала запоўніць анкету для паступлення ў камсамол, а потым з гадзіну задавала пытанні. Думала Ніна, што так і трэба. Камсамольскі сакратар павінен усё ведаць. Расказала ёй шчыра, як на споведзі. А потым, як пабыла ў райкоме камсамола на бюро, зразумела: Ева хацела толькі задаволіць сваю цікаўнасць. (У райкоме пра Ніціна мінулае жыццё ніхто нават не ўспомніў, быццам яна заўсёды жыла ў Закружжы. Пыталіся больш пра работу, пра вучобу.)
Нянавісць да Евы адгарадзіла Ніну і ад другіх дзяўчат, хоць тыя і спрабавалі шчыра ўцягнуць яе ў сваю кампанію.
Потым нейк на цямку сустрэў Ніну Шняк і, дыхаючы гарэлкай, шапнуў:
— Выйдзі сёння да лазні.
— Чаго?
— Не ламайся, ведаеш. Яшчэ і другіх навучыць можаш.
Крыўду на Шняка Ніна перанесла на ўсіх хлопцаў, паглядала на

іх коса, чакаючы ўсялякай агіднасці. Упадабала толькі Даміру. Той, месяцы праз тры пасля прыезду Ніны дамоў, зайшоў у хату, прывітаўся.

— Надакучаць раней не хацеў, народу ў вас перабыло шмат, — растлумачыў ён свой не па-суседску запозпены прыход. — Людзі — дзівакі, ідуць, як на цуд, глядзець. Наогул, яно так, нібы з таго свету вярнулася. Толькі ў вайну ўсё бывае. Я сам з-пад расстрэлу ўцёк. Бітых ды знявечаных люблю. Такі чалавек сабе цану ведае. Няхай бы хто на нашым месцы пабыў — паглядзеў бы я на яго тады... А на тое, што брэшуць, плюнь. Калі ж назаляць будуць — мне скажы. Я з імі па-партызанску пагутару. У нас размова кароткая.

— Ён плюнуў на далонь, моцна сціснуў кулак.

— Я і сама магу.

— Правільна. Гэта па-нашаму. Люблю такіх. Была ў мяне разведчыца, таксама Нінкай звалі. Агонь дзеўка. Масквічка. Злавілі яе аднойчы паліцаі, даверылі двум слюнцям весці. Адышліся яны крыху. Яна як крыкне: «Рукі ўгору, бобікі!» Ды плясь аднаго па мордзе. Ён брык — і вінтоўка з рук. Тады яна другога. Вырвала вінтоўку ды ў атрад іх абодвух перад сабой прыгнала. Ну, часу мне няма доўга ў водведках быць. Заходзь да нас. Жонка зайшла б, ды дзіця малое.

Зачасціла Ніна да Дамiраў. Падоўгу слухала Тарасавы расказы, і паўставаў ён перад ёй як непераможны волат. Стралялі ў чалавека не раз, а ён падымаўся зноў, быццам то былі не кулі, а сухія гарошыны з дзіцячай рагаткі. Яна ўвесь час думала пра яго, уяўляла сябе побач, такой жа смелай і ўпартай, як ён.

Ніхто не знаў пра Німіны пачуцці, нават сам Даміра. Заўважыла гэта толькі Анюта. Але і яна да часу маўчала. У яе да Ніны выспявала пачуццё замілаванасці і жалю. Была яна першым чалавекам, хто ўгледзеў, што ў Ніны добрае і чыстае, незаплямленае сэрца.

У поўдзень, падаіўшы кароў, Ніна забегла ў Дамiраву хату. Пад сталом Коля майстраваў домік з паленняў. Волечка, нацягаўшы пяску, рабіла горку. Абодва былі мурзатыя, запэцканыя да самых вушэй. На стале, яшчэ непрыбраным, стаяў посуд. Усюды панавала запусценне, быццам і не было тут ніколі руплівай жаночай рукі. У Ніны заныла сэрца. Забегала, прынесла вады, вымыла дзецям тварыкі, перамяніла адзежу.

— Ты, Волечка, — старэйшая, за Колем павінна глядзець. А ты сама выпэцкалася.— Яна пасадзіла іх на ложак.

— А я палаход злаблю.

— Разам зробім.

Ніна пачала прыбіраць у хаце, увесь час гамонячы з дзецьмі.

— А ты шыць умееш?

— Умею, Волечка.

— Тані плацце трэба.

— А ў мяне неста ёсць. Ага, не сказу.

— У яго цвік ёсць.

— А вось і не, сулуба.

— Шуруба — гэта ўсё роўна цвік.

— А вось і не.

Ніна мітусілася, стараючыся хутчэй кончыць прыбіраць у хаце: не хацела сустракацца з Дамірам. Ён прышоў нечакана, адчыніў дзверы, замёр на парозе.



— Я табе што сказаў — не прыходзь!.. Сам абыйдуся, — голас яго дрыжаў.

Ён вырваў у яе венік, пачаў падмятаць смецце ад парога на кут. Ніна, апусціўшы рукі, глядзела, як ён мяце: шваркае венікам, уздымаючы слупы пылу. На шырокай спіне нацягнулася гімнасцёрка — вось-вось лопне.

— Куды вы мецяце? Там жа чыста.

Даміра са злосцю кінуў венік.

— Здурнеў зусім.

Ніна зноў пачала перамятаць падлогу. Згрэбла смецце, вынесла на двор. Пастаяла, падумала: заходзіць ў хату, ці не? Не вытрымала, зайшла. Даміра сядзеў, абняўшы дзяцей, гладзіў Колю па русявай галоўцы.

— Тата, пусці на вуліцу, — прасілася Волечка. — Мы далёка не пойдзем.

Даміра нібы не чуў. Потым моўчкі ссадзіў іх з ложка. Волечка выбегла першай, за ёй перакуліўся цераз парог Коля.

— На абед прышлі?— запыталася Ніна. Ёй было да болю шкада Даміру, такога бездапаможнага ад свайго гора. Аблегчыла б яго пакуты, але не ведала як.

— Урачы сказалі, больш тыдня не пражыве.

Ніна, разгубленая, села. Тарас узняў вочы, поўныя невымоўнай пакуты.

— Не веру, не хачу паверыць. Сем гадоў пражылі. Словам не пакрыўдзіла.

— Можа яшчэ паправіцца?

— Што ты разумееш... Не, ужо не паправіцца. Толькі не кажы нікому. Каб ні адна душа не знала пра гэта. Урачоў таксама прасіў. Абяцалі маўчаць.

— Добра, ад мяне не пачуюць.

— Здымаць будуць. Сам Сяльчонак прыедзе.

— Як жа так?.. — у Ніны заняло дыханне. — Душы ў іх няма.

— А яны нічога і не ведаюць. Калі б зналі, Сяльчонак пашкадаваў бы. А я не хачу нічыёй жаласці. Вінаваты — біце. Мусіць, вінаваты. На Сяльчонка не крыўдую. Дземідзенка з гэтай заатэхнічкай даканалі. Горш за ўсё, што грошы ў яе пазычаў, а аддаць не змог. Усё роўна, гэта нібы за саломінку хапацца, калі тонеш.

Ніна, як скамянелая, не магла паварушыцца. «Калі ўсё расказаць, — думала яна, — не будуць вызваляць». Нібы адгадаўшы яе думкі, Даміра падышоў, паклаў руку на плячо.

— Дазнаюся, што хадзіла да каго, наб'ю. Нічыёй мне жаласці не трэба, чуеш? Тваёй таксама. Даміра не з такіх сетак вылузваўся.

У Ніны накружыліся слёзы. Ёй было шкада яго і радасна, што ён якраз такі, як і яна. І тады, незаўважна пераймаючы Анюцін тон, Ніна па-жаночаму ласкава пачала суцяшаць:

— Мала што з чалавекам бывае. Ну, зволяць. Не прападзеце. Вы ж усюды зможаце працаваць. Толькі ў рукі сябе вазьміце. Мне таксама цяжка было, а не прапала. А памылкі ў кожнага бываюць.

Даміра наяршыўся.

— Наконт памылак не вучы. Хопіць, наслухаўся. Ну, ідзі, адзін хачу пабыць. Ды пра ўгавор помні. Я такі — потым не дарую.

## XII

Не спакойным летнім разлівам, а вірлівай веснавой паводкай зашумела Падзвінне. У разгар лета, калі нават на вечарынкі збіраў гармонік жменьку людзей, хваляй пракаціліся па калгасах гаманлівыя мнагалюдныя сходы. Збянтэжаныя старшыні разводзілі рукамі: прыдрацца нельга — назаўтра моладзь раней за ўсіх выходзіла на работу.

Зварот закружцаў ускалыхнуў, узбунтаваў моладзь. Чаму адсталыя, апетыя ўсімі раённымі пастановамі, як гультаі і абібокі, закружцы раптам так смела, упэўнена і нават задзірліва кідаюць свой выклік?.. Камсамольскія важакі, — падстрыжаныя пад бокс хлопцы, гаваркія, жвавыя дзяўчаты, — перабіваючы адзін аднаго, выказвалі сваё абурэнне Ліпанавай:

— Сказалі: мы даганяем Амерыку, а вы нас. А калі мы самі хочам Амерыку даганяць?

— Слабаваты яны з намі цягацца.

— Так, для прыгожага слова.

— Таварышы, гэта ўсё Ева. Яна якое хочаш абавязацельства возьме.

— Факт.

— Можа і на ферме ніхто не працуе. Пляскач умее легенды ствараць.

Ліпанава ўсміхалася, раз-по-раз адкідвала з ілба надакучлівую пасмачку каштанавых валасоў.

— Хто не верыць — Закружжа недалёка... Павучыцца ў іх не блага. Падзазналіся вы, таму і наступаюць на пяты.

Юрка Сіроткін, камсамольскі сакратар з Пятроўскага, камечачы ў руках зашмальцаваную кепку (працаваў Юрка шафёрам), наступаў на Ліпанаву:

— Ды што яны нам! Даміра п'е. І яны ўслед глядзяць. Касілкі не адрамантавалі, дакладна ведаю. Косамі косяць. Гэта як, па-вашаму, — перадавыя? Нам што крыўдна: на ланцужок вы нас, таварыш Ліпанава, пасадзілі да адсталых. Як гэта разумець загадаеце?

Юркавай гарачнасці не адабралі, вельмі ён ужо напіраў на Ліпанаву, але пагаджаліся. Каму хочацца ісці за адсталымі?

— Колькі ў вас моладзі працуе на ферме? — запыталася Тамара і сама адказала: — Нуль.

Юрка, як і старшыня іх калгаса, не паддаваўся фактам.

— У нас, калі хочаце ведаць, і не трэба пасылаць моладзь на фермы.

— Ну і даганяйце Амерыку са старымі бабулямі.

Настрой адразу змяніўся, дзяўчаты пырснулі смехам. Нехта ўхапіў Юрку за штаны, пачаў адцягваць ад стала.

— Вы яшчэ пачакайце, — шумеў той, — Я вось зараз паеду і сам пра ўсё дазнаюся. Калі каму ў ахвоту — магу падвезці і назад у поўнай спраўнасці дастаўлю. Сваімі вачыма, а не чужымі пагляджу. А калі ўжо які падлог выяўлю, прабачце, толькі мы першыя зварот пісаць будзем. Ну, хто са мной?

Адгукнулася чалавек пяць — усё сакратары камсамольскіх камітэтаў перадавых у раёне калгасаў. Гуртам вышлі з райкома, селі на запыленую трохтонку.



Юрка злосна крутнуў ручку, ускочыў у кабіну і з месца ірвануў на трэцюю хуткасць.

Тамара паглядзела на ўзбуджаныя твары актывістаў, думала: «Ранавата яшчэ такая камісія. Знойдуць шмат недахопаў, у закружцаў настрой сапсуецца. Трэба было б усё ж узгадніць такую экскурсію з Сяльчонкам».

Сакратар райкома партыі толькі што прыехаў з калгаса, перабіраў пошту, стоячы ля стала.

— Ты што такая пахмурая? Радавацца трэба. Шуміць моладзь.

Ліпанава расказала пра сваю апаску. Сяльчонак адарваў позірк ад пісьма, прайшоўся па пакоі.

— Так адразу і паехалі?

— Адразу, Сяргей Паўлавіч.

Сяльчонак пагладзіў лысіну, усмешка расквеціла яго белаваты з сінізной на падбародку твар.

— Малайцы. Узяло, значыць, за жывое. Не, Ліпанава, ты, чэснае слова, сама не разумееш, якую добрую рысу ў іх выхавала. Самі, без указанняў зверху, селі і паехалі,— ён засмяяўся звонкім, маладым смехам. Тамара разгублена моршчыла лоб. — Яны паехалі, а ты да мяне ўзгадняць? А каб я цяпер загадаў: вярнуць іх назад!..

— Позна ўжо.

— Не вярнула б?

— Не.

— Правільна. Мысліш ты правільна. А на ўсякі выпадак застрахавалася — не кепска. Хутка адвыкнеш. Запомні адно, калі гэта на карысць партыі, народу ідзе, дык нічога не бойся. Хай нават які сучок знойдзецца, такі, што нічога не разумее, і палае цябе. А ты радуйся — зрабіла карыснае. Вось і ўся філасофія.

— Каб я ведала, што экскурсія прынясе карысць...

Сяльчонак перапыніў яе:

— Абавязкова прынясе: і закружцам, і экскурсантам. За дзяўчат не бойся: там адна Ева чаго вартая!.. Не бяда нават, калі знойдуць недахопы: падахвоцяць толькі лепей працаваць. А што самі паехалі, таксама вельмі добра. Тут усё без ашуканства. Будзе пятроўскім камсамольцам над чым падумаць. А то іх старшыня мохам пачынае абрастаць. Баюся, каб Дамірава гісторыя не паўтарылася. Збіраемся вось абмяркоўваць сітуацыю. Ёсць думка, што пры тых абставінах, якія склаліся — Даміра не зможа забяспечыць кіраўніцтва. Людзі там замахнуліся на вялікае, а старшыня і тыя здольнасці, што былі, страціў. Можна важную справу загубіць. Параімся, паспрачаемся, ды і вырашым, якую закружцам дапамогу аказаць.

Ліпанава ведала, што ў Сяльчонка ўжо гатовы план, але распытваць не стала. Пакуль пытанне на бюро не абмеркавана — з яго слова не выцягнеш.

— На бюро не застанешся?

— Мне ў «Прагрэс» трэба.

— Як думаеш дабірацца?

— Пехатою...

— Бяры райкомаўскі «газік».

У райком збіраліся члены бюро. Жартавалі: Сяргею Паўлавічу ні

днём, ні ноччу спакою няма. Ліпанава забегла ў райком камсамола, захапіла новы эстрадны зборнік, некалькі лекцый, пайшла шукаць шафёра. Калі выязджала са двара — убачыла: у райком заходзіў Канькоў. Хацела гукнуць яго, але пасаромелася шафёра. Яшчэ ніхто добра не ведаў пра іх сардэчныя справы.

Дні са тры назад панесла яна ў рэдакцыю зварот закружскіх камсамольцаў. У двух першых пакоях нікога не было, у трэцім сядзеў адзін Канькоў, пісаў перадавіцу, паўтараючы ўголас кожнае слова. Заняты работай, ён не заўважыў, як зайшла Тамара. Як зачараваная, стаяла яна,назіраючы за ім. Скуласты твар з ледзь раскосымі вачыма — поўны напружання і думак. Чорны пакручасты чуб з'ехаў на вочы, рука таропка запісвае думкі, якія, здаецца, самі імкнуцца пакласціся на паперу. Спадабаўся Канькоў Тамары даўно. Ды і яна яму падабалася. За многія дні знаёмства паразмаўлялі яны шмат, кожны раз адкрываючы адзін у другім нешта новае і цікавае. Вось і цяпер Тамара захапілася яго сканцэнтраванасцю і нейкай узнёслай адарванасцю ад усяго на свеце, апрача ўласных думак. Хацелася падысці, адкінуць гэты чорны касмыль валасоў, прытуліцца шчакой да высокага, разумнага ілба. У грудзях страпянулася і замёрла сэрца, толькі ў скронях нібы застукалі малаточкі.

Хіба можна прытуліцца, калі яшчэ ніколі не было сказана запаветнага слова. Вечныя размовы пра літаратуру, пра розныя выпадкі...

Тамара пастукала па стале. Канькоў, не падымаючы вачэй, сказаў:

— Заходзьце.

Ліпанава зарагатала.

— Я ўжо даўно тут. Эх ты, пісьменнік!

— Усё для цябе стараюся. Паслухай перадавы артыкул пра пачын закружцаў.

Не чакаючы яе згоды, ён пачаў чытаць, укладаючы ў кожнае слова ўвесь свой імпэт. Тамара больш слухала яго голас, мяккі з ледзь улоўнай картавінкай.

— Ну, як?

Ён чакаў адказу, ужо сарамліва збянтэжаны ад немінучай пахвалы.

— А ты ведаеш, Вася, я, чэснае слова, нічога не чула.

Ад неспадзяванасці яго твар выцягнуўся, і ад таго касаваты разрэз вачэй абазначыўся вастрэй.

— Дапраўды. Слухала твой голас. Праўда, смешна, камсамольскі работнік, закліканы ў сэнс унікаць, а я чорт ведама што ў гэты час думала, — яна засмяялася.

Канькоў сядзеў прамы і строгі, як суддзя. Тамары зрабілася няёмка. Разбалбаталася, як мяшчанка. Узмахам рукі адкінула за вуха падвітую пасмачку валасоў, сказала строга:

— Вось зварот. Сяргей Паўлавіч прасіў у нумар паставіць. Ён узяў зварот, але не стаў чытаць яго.

— Па сутнасці, я — дзівак.

— Віншую, — Тамара зноў павесялела. — Доўга табе давялося думаць над гэтым?

Канькоў адсунуў крэсла, устаў.

— А ведаеш, чаму дзівак?

— Адказ цяпер даваць, ці можа спачатку з актывам параіцца?

— Не, сапраўды, сур'ёзна...



— Здагадваюся, — крыху няўпэўнена адказала Тамара.

— Без хітрыкаў скажу: таму што халасцяк ды яшчэ стары ў прыдачу.

І хоць Ліпанава ведала, куды пахілілася размова, адказала з наўмыснай смяшынкай у голасе:

— Нешта не ўцямлю, як і вылечыць цябе ад такой хваробы. Відаць, ад прыроды такі.

— Чаго мы з табой ходзім навокал, як кісейныя ўхажоры, сам не ўцямлю. Давай без літаратурнага штампа — прызнаемся адзін аднаму ў каханні. Ці абавязкова па пісаным трэба?..

Размова набывала жартаўлівы характар. Такія Ліпанава любіла, сама за словам у кішэню не лезла і ў другіх паважала красамоўства. Пажартавала:

— Праяўляй ініцыятыву, а заўтра зварот дамо ў газеце.

— Ты вось жартуеш, а ў мяне самыя сур'ёзныя намеры. Не люблю гучных слоў, клятваў, уздыханняў. Каханне і без іх магло б абысціся. Усе гэтыя старыя любоўныя аксесуары замяняюць пустым людзям пачуццё.

— Мы з табой, вядома, перадавыя.

— Пачакай. Тыя ж паэты ды пісьменнікі не раз ужо даводзілі, што каханне — такое пачуццё, якое адчуваецца нават на адлегласці.

— Ты што мне хочаш лекцыю прачытаць?

— Тут і без лекцыі ўсё ясна. Мне здаецца, ты ведаеш маю да цябе прыхільнасць. Цяпер за табой слова.

— А ты — маю...

Яны стаялі зусім побач. Глядзелі адзін на аднаго са шчаслівай усмешкай, крыху збянтэжаныя і нялоўкія, як падросткі. Ён узяў Тамару за руку, яна адказала ледзь улоўным поціскам. Тады Канькоў прыцягнуў яе да сябе. Тамара прашаптала: «Што ты, Вася» і задыхнулася ад пачуцця.

У калідоры нехта моцна стукнуў дзвярыма. Яны адскочылі адзін ад другога. Стаялі разгубленыя, як злоўленыя за руку малалеткі. Канькоў збянтэжана пачаў гаварыць пра зварот, пра перадавы артыкул. У кабінет ніхто не заходзіў. Тады Тамара ўсміхнулася, пажартавала:

— А вось гэта і штамп, і маральнае разлажэнне...

Абое нястрымна пачалі смяяцца са свайго страху.

Увесь дзень з галавы ў Тамары не выходзіла гэтае смешнае сваёй недарэчнасцю прызнанне. Што гэта, жарт? Не, Канькоў не такі. А калі жарт? У Ліпанавай ад крыўды чырванеў твар.

Але ўвечары Канькоў прыйшоў да яе на кватэру. Быў ён у новым гарнітуры, чыста паголены, праз меру ўзбуджаны і ўзнёслы. У Тамары адлягло на сэрцы: значыць, то быў не жарт. У той вечар яны доўга сядзелі на вузенькай лавачцы пад вішняй, забыўшыся на дамоўленасць, гаварылі «штампамі», якія, напэўна, прыдумаў біблейскі Адам, збіраючыся сватацца да Евы.

Усё гэта Тамара ўспомніла, седзячы ў машыне. Злавала на сябе, што не асмелілася спыніць газік, хоць бы словам перакінуцца з любым чалавекам. Толькі тады, як абступіла яе калгасная камсамолія цесным гуртам, забылася Тамара на ўласныя пачуцці.

Да цямна абышла кашары, пагутарыла з дзяўчатамі, разабрала некалькі неадкладных спраў. На змярканні ў клубе сабралася моладзь. Пакуль чакалі старшыню, Ліпанава з дзяўчатамі пачала развучваць

новую песню. Потым зрабіла кароценькі даклад — доўга гаварыць не было часу.

На сходах больш за ўсё яна любіла слухаць шчырыя прамовы, у якіх не было ні замыславатых сказаў, ні наўмыснай, паказной вучонасці, а адчувалася трапяткая, жывая думка, цвярозы погляд, непадкупнасць.

Калі сход канчаўся, бурныя воплескі моладзі, якая горача вітала адказ закружцам, былі перапынены лапатаннем матацыкла. Яркі промень асвятліў шыбы і стух.

— Нехта з раёна, мабыць, — шапнуў Ліпанавай сакратар камітэта камсамола. У гэты час якраз ішло галасаванне за ўзятыя абавязацельствы па надоях малака. Ліпанава абвяла вачыма лес узнятых рук і раптам адчула на сабе чыйсьці ўважлівы, пранізлівы позірк. Азірнулася — на парозе стаяў Канькоў. Іх вочы стрэліся. Адны спалохана запыталіся: што здарылася? Другія адказалі: не хвалюйся — нічога, але сказаць ёсць што.

Канькова заўважылі, запрасілі ў прэзідыум.

— А я падумаў, што добра даць справаздачу са сходу. Сеў на матацыкл і сюды. Бюро зацягнулася, — растлумачыў ён старшыні свой начны візіт.

Але Тамара ведала, што ён прыехаў толькі дзеля яе.

Праводзіць Ліпанаву камсамольцы вышлі вялікім гуртам. Разгарачаныя бурным сходам, дзяўчаты прадаўжалі даказваць сакратару, што закружцаў яны абавязкова дагоняць. Тамара жартавала:

— На словах, як на гуслях, а вось на справе паглядзім. Ну, сказана — зроблена. Такі наш дэвіз. Толькі спаборніцтва будзе ўпартым.

Думала яна ў гэты час над словамі, якія шапнуў ёй Канькоў: «Важная навіна ёсць». Камсамольцы храбрыліся, наперабой выказвалі свае думкі.

— Пабачыце, у каго найперш загарацца зоркі над фермамі.

— А што тут, дзяўчаты, казаць... Мы праз два месяцы ўжо запалім іх.

— Запаліш, калі Дар'я толькі пяцьсот літраў надаіла.

— Не падцягнецца — зменім.

— Хіба Дар'я вінавата? У яе не каровы, а козы.

— Дык жа не ад кожнай каровы па паўтары тысячы надаіць, а ў цэлым па ферме.

— Сказаў...

— Кароў мяняць трэба на пародзістых.

— То не наша справа.

— Цяпер усюды наша, а не дзядзькава.

— Не забывайце нас, таварыш Ліпанава, часцей наведвайцеся.

Тамара села ў каляску матацыкла. Канькоў клапатліва захутаў дзяўчыну ў брызент, націснуў на старцёр — матацыкл залапатаў. Выехалі за вёску. Жаўтавата-белы сноп святла ад фары разразаў лёгкую шэрань ліпеньскай ночы, выхопліваў з яе прысады. Здавалася, не промень, а дрэвы скачуць, трапіўшы ў непрывычную для ночы віднату. На дарогу ў некалькіх кроках выскачыў заяц, замёр, наставіўшы вушы, і даў стракача ўздоўж яркай палоскі святла. Ён бег доўга, пакуль матацыкл, абмінаючы каляіну, не шыбануў убок. Промень перастаў асвятляць зайца, і ён сігануў у лес. Тамара бачыла, як, скачучы з узгорка, заяц высока падкінуў доўгія шэрыя з падпалінамі ногі, здаецца, перакуліўся цераз галаву.



— Напалохаўся, касы...

Канькоў, які, паддаўшыся хлапечаму азарту, на поўнай хуткасці гнаўся за зайцам, паволі суцішаў разгон.

— Як ты думаеш, чаго мяне выклікалі на бюро?

Тамара насцярожана адказала:

— Не ведаю.

— Абмяркоўвалі закружскія справы.

— Наконт паплавоў?

— Не толькі, — ён памаўчаў і раптам выпаліў: — Мяне старшынёй будуць туды рэкамендаваць.

— Чаму цябе? — Ліпанава не схавала сваёй узрушанасці. — Больш хіба няма каго?

— Ты, бачу, не ўзрадавалася?

— Затое, ты вельмі. Нават не паляніўся прыехаць.

— Так атрымалася. Разумееш, Тамара, сабраліся, выслухалі Алексіча, ну, канешне, падтрымалі ўсе. Толькі Старыковіч устрымаўся. «Нічога, кажа, з гэтага не атрымаецца. Даміра нам не адзін раз пачыны завальваў. Паказальную кашару будавалі, грошы ўпакалі, а карысці — ніякай. За птушкаферму ўзяўся горача, а што атрымалася: канфуз на ўсю рэспубліку». А Даміра як ускоча. «Я цяпер, — крычыць, — і старшынёй не буду, калі вы яшчэ на маю шыю гэтыя паплавы павесіце». Слова за слова. Сама ведаеш Даміру — паклаў заяву аб вызваленні на стол.

— Даўно трэба было, — буркнула Ліпанава.

— Не ведаеш ты Даміры. Можа адзін Сяльчонак яго і разумее. А так усе супраць. Надта лёгка ты аб людзях думаеш.

— Чаго варты, так аб ім і думаюць.

— Варты ён лепшага. Ён — як гэты заяц. Асляпіла яго, бяжыць, а куды — не бачыць.

— Ну, ты, пакінь. Дагаварыўся: выходзіць, палітыка партыі яго асляпіла. Сам ты аслеп.

— Прыёмчык не новы, скажу табе шчыра, — Канькоў незаўважна крутнуў гумавую муфту, матор натужна зароў. Адрэгуляваўшы газ, Канькоў злосна адрэзаў: — Кан'юктурай ад цябе патыхае.

Ліпанава адкінула брызент, але, відаць, успомніўшы, што яна не ў сябе ў райкоме, а ў калясцы матацыкла, зноў прыкрылася, зацята змоўкла.

Абое ў першы раз так сур'ёзна былі незадаволены адзін другім. «Мог бы ён інакш сказаць», — думала Ліпанава. «І адкуль у яе такая чэрствасць», — ламаў галаву Канькоў.

Дарога рассякала лес. Матацыкл падскокваў на карэннях. У жаўтаватым святле фары вымалёўваліся то густы непралазны гушчар маладой пасады, то падгалістыя, стромкія яліны. Нязноснае маўчанне дапякала абаім. Ехалі, чакалі, пакуль нехта адзін уступіць другому.

— Пакрыўдзілася? — запытаўся Канькоў.

— Не.

— Дзівакі мы — спрачаемся, калі ўжо ўсё вырашана!.. Сход нават на заўтра прызначаны.

— Жадаю табе поспеху.

— І ўсё?

— Хопіць. Ты падумаў толькі пра сябе. Вядома, патрыятычна. Можа нават твой пачын падхопяць. У газетах партрэт змесцяць. А пра мяне ты падумаў, калі на бюро вытыркнуўся са сваёй прапановай? Падумаў?..
— Не.
— Ну, вось бачыш. А я чалавек. Я шчасця свайго дваццаць восем гадоў чакала.
— Ды ты паслухай, як атрымалася. Сяльчонак запытаўся: «Ну, а хто на месца Даміры? Туды чалавек моцны патрэбен». А сам глядзіць на ўсіх такімі пранізлівымі вачыма, быццам наскрозь цябе бачыць. І ўсе маўчаць. Бачу інструктар Снігіркоў за дырэктара МТС хаваецца. На трыбуне кашулю на сабе ірве — патрыёт... А тут схаваўся і голас утаіў. Сорамна мне стала, разумееш, сорамна. Сам некалі камісарам быў, на смерць людзей пасылаў. А тут жа не смерць, а такая справа, што ўсядзець нельга. А ён за спіну. Хіба ж я мог утрымацца. Ну, і сказаў, можа нават і не падумаўшы пра цябе ў той час: я паеду, Сяргей Паўлавіч. І разумееш, Снігіркоў адразу з-за спіны вынырнуў, нават у далоні запляскаў. Думаеш, мне пляскаў? Рад быў.
Канькоў змоўк. Матацыкл падскочыў на вялізным корані, страсянуў пасажыраў.
— І ўсё ж мог пра мяне падумаць. Як жа мы цяпер будзем? Я і налюбавацца табой не паспела, як ты ўжо бяжыш у калгас, а некаторыя і голасу не падалі.
— Чаму? Пасля мяне выказалі згоду ехаць у калгас яшчэ чалавек восем. Нават Старыковіч.
— Згадзіліся, а не паехалі.
— Паедуць. Сяльчонак, ведаеш, што сказаў: «Нам трэба многа дзе старшынь памяняць. Усіх пашлем, але зачын добры ў Канькова нікому не дазволім адняць». Ясна табе? — Тамара маўчала. Канькоў, пазіраючы на яе, запытаўся: — А што, калі ты кінеш райком?
— У дамашнія гаспадыні запісваеш?
— Чаму? Пагаворым з Сяльчонкам, перавядуць цябе ў зону МТС. Думаеш, мне лёгка без цябе жыць? Я, можа, болей як дваццаць восем гадоў цябе чакаў.
— А дачакаўшыся, збег.
— Няўжо ты мяне кахала б, калі б я такі быў, як Снігіркоў? За спіну і я мог схавацца. А не хачу. Трыццаць сем гадоў як адзін дзень быццам у катле кіпеў. На спакойнае жыццё не цягне. Ты вось зайздросціш такім, як Снігіркоў, а я такое кацінае жыццё ненавіджу. Пад'еў ды песенькі курняўкай. Не, Тамара, такая ўтульнасць не для мяне. Пройдзе год-два, і ў такіх, як Снігіркоў, зямля пад нагамі загарыцца. А чаму? Бо носу ён нікуды не выткне. Яго мяшчанскае мурло і цяпер Сяльчонак добра разгледзеў. Бачыў я, як Сяргей Паўлавіч паглядаў на яго ды ўсміхаўся.
Канькоў змоўк. Ліпанава паглядала на яго напружаную постаць, на пасуравелы твар і ўтароплены ўдалечыню позірк. У невыразнай шэрані ночы Канькоў здаўся ёй незнаёмы, быццам бачыла яго ўпершыню. І ў той жа час ён быў такі блізкі, зразумелы, родны.
Кволая цеплыня, што тулілася ў грудзях, раптам вырвалася, гарачым хмелем ударыла ў галаву. Вядома, такога, як Снігіркоў, яна ніколі не пакахала б. Натапырыўся і маўчыць. Мілы дурань, ды я цябе кахаць буду, хоць бы ты паехаў на Паўночны полюс. Няўжо ты не разумееш, што мне хочацца заўсёды быць побач з табою. Два вечары толькі было нашых. І вось ты ўжо некуды імкнешся. Любы мой, не злуйся. Калі б я цябе не кахала, дык ці ж нагаварыла б табе такога.



Свежы, чуйны вецярок біў у твар. Тамара яшчэ раз зірнула на Канькова, падумала: «Яму ж холадна».
— Вася, — ён павярнуў галаву, адчуўшы ў яе голасе нейкія новыя, цёплыя ноткі. — Захутайся лепш, каб не прастудзіўся часам.
— Я вынослівы. Мне сам чорт не страшны.
Гарадок спаў. Цішыню абуджалі толькі сабакі. Яны кідаліся на матацыкл з абураным брэхам, неўзабаве адставалі. Канькоў спыніў матацыкл ля веснічак Тамарынага дома. Яны доўга стаялі, узяўшыся за рукі, глядзелі адзін аднаму ў твар, маўчалі.
— Заўтра я скажу Сяльчонку.
Тамара пакруціла галавой.
— Не, Вася, не трэба. Не магу я. Нібы дэзерцірства. Заварыла кашу, а сама ў кусты. Не магу.
Ён прытуліў яе да грудзей, пагладзіў мяккія валасы.
— Вось і натрапіла каса на камень. А я чакаў гэтага. Адчуваў — не паедзеш ты са мной.
Тамара абвіла яго шыю рукамі.

## XIII

— Пайшлі, дзеўкі, дадому, — Матрона Башукевіч павесіла на калок даёнку, зняла з галавы хусціну, прыгладзіла чорныя з сіняватым адлівам валасы. — Ну, хто са мной?
Дзяўчаты ў выгарцы мылі ногі, спявалі прыпеўкі. Вылучаўся звонкі голас Ліды Раковіч (гэтая высокая з кручкаватым носам дзяўчына ведала безліч прыпевак):

Мы з падружкай баявыя,
Баявей за нас няма.
Не прыходзіць мілы ў сваты,
Так і быць — пайду сама.

— Ліда, пра нас праспявай, — прыставала Тацяна Шахнюк. Тацяна любіла прыпеўкі, але сама не спявала.
— Давай, Лідка, — падахвочвалі дзяўчаты.
У Ліды і на гэты выпадак была прыпасена прыпеўка. Дзяўчына выпрасталася, уздыхнула на ўсе грудзі:

На гары расце бяроза,
Кара белая на ёй.
Заатэхнік патрабуе
Павышаць штодня надой.

— Ну вас, не падтрымліваеце... Не буду спяваць, — Ліда адышлася да Матроны Башукевіч. Тая стаяла ў цяньку, аберагала свой далікатнай ружовасці твар ад сонца. — Мы з Матронай Максімаўнай спяем. — І, не чакаючы згоды, зноў запела:

Мы з табой падружкі, Моця,
І ў рабоце, і ў гульні.
Я табе спяю прыпеўкі —
Ты палучыш працадні.

Матрона абхапіла Ліду, прыціснула да высокіх грудзей. Ліда вызвалілася, здзіўлена сказала:

— Сілы ў цябе на семярых.

— Праўда. Такіх мужыкі любяць, — і раптам зашаптала: — Ты нічога не чула? Заатэхнічка наша — добрая лялька. Муж да яе прыехаў, Зінчын дзядзька. Толькі ні шэп. Самой пад сакрэтам перадалі. Божачка, што пайшло на свеце: маладзенькая, а за старога замуж пайшла. Ды яшчэ ад жонкі адбіла.

— Хлусня, мусіць, — не паверыла Ліда.

— Верны чалавек казаў. Так што ты пры Зіне не вельмі выказвайся...

Падышлі дзяўчаты, перапынілі размову. У вёску рушылі гуртам, апрача Ніны Шумейка і Зіны Асташка. Абедзве ўсё яшчэ плёскаліся ў выгарцы.

— Адстанеш, — папярэдзіла Зіну Шумейка.

— А ты?

— Я, мабыць, не пайду.

— Чаму?

— Так, — Ніна выпрасталася, абтрэсла з далоняў ваду, памахала рукамі ў паветры, каб хутчэй высахлі. Зіна праз акуляры пазірала на яе.

— Тады і я не пайду.

— А табе што?

— Хачу на пашу да пастухоў заглянуць.

Цяпер ужо Шумейка здзіўлена паглядзела на Зіну і раптам засмяялася.

— Дык я таксама дзеля таго і засталася. Падкормка канчаецца, а далей як? Надумала адлучыць сваіх кароў ды папасвіць па ўзмежках.

— Хітрая, а мне — ні слова.

— Ты — не лепшая. Шчыра прызнацца, дык ёсць у мяне прапанова, толькі не ведаю, як ты на яе паглядзіш. Учора ішла я каля ільну: зарос пустазеллем — страх. Калі з гадзіну папалоць лён, дык ведаеш, колькі кашоў можна малачаю ды асоту назбіраць. Вось толькі сячкарні няма. А то такі пачастунак быў бы. Я ў Тараса Тарасавіча выпытала, што ў нас і мука на складзе ёсць. Калі добра папросім...

— Здорава прыдумала. Вядома, пустазелле—не авёс або канюшына, але ўсё ж лепш, чым нічога. У наступным годзе, дзядзька казаў, у нас будзе свой прыфермскі ўчастак. А пакуль будзем перабівацца. Не, ты проста выдатную ідэю падказала.

— Дык можна сёння пачаць.

— А чаму не. Я папрашу Лёньку прывезці нам сячкарню. Думаеш, не паслухае?

— Цябе паслухае. Ён для цябе, што хочаш зробіць.

Зіна пачырванела, збянтэжылася.

— Не падумай чаго благога.

— Ды я так, к слову прышлося. Мне да чужых сакрэтаў няма справы.

— Чэснае слова, мы толькі дружым.

— Табе што...

Ніна раптам змоўкла. Зіна нічога не разумела, хоць адчувала: ёсць у Ніны свая, вялікая тайна. Але колькі ні ўспамінала, не магла прыгадаць, каб Ніна да каго-небудзь з хлопцаў адносілася прыхільна.



Калі ў поўдзень Дзямід прыгнаў кароў з поля, дык надта здзівіўся. Ля кашары пад паветкай стаяла сячкарня. Лёнька Зайчык разам з Нінай круцілі кола, а Зіна падавала ў жолаб траву. Ладная куча ўжо была нарэзана, ляжала зялёнай грудай.

Пакуль прышлі даяркі, корм быў разданы, а Дзямід расказваў моладзі пра свае вандраванні ў гады грамадзянскай вайны.

— Ну што, сарокі-белабокі, абхітрылі вас!.. — прывітаў ён дзяўчат.

— З такімі аднаасобнікамі і размаўляць не варта, — бразнула даёнкай Таццяна Шахнюк.

— А вы, сарокі, лепш далучайцеся да Зіны з Нінай.

— Ды ўжо ж... Я была сама падумала: не дрэнна падкармліваць кароў, як гэта мая маці дасюль робіць, ды неяк пасаромелася, — сказала Ліда. — Ну, як, дзеўкі, адразу ж пасля дойкі — на поле? Сярпы толькі захопім. На ўзмежках трава па пояс.

Усе згадзіліся, апрача Матроны Башукевіч. Абвёўшы дзяўчат сваімі прыгожымі светлага блакіту вачыма, яна пакрывіла вусны, нібы раздумваючы, сказала:

— Пайсці хіба? Дык жа не выпадае. І так, як у пекле, спачыну няма, а гэта ўжо ледзь не прыгон які.

Летні дзень бясконцы. Але дзяўчаты нават не заўважылі, калі пабольшалі цені, калі душная гарачыня змянілася лёгкай прахаладай. Можа яны так і збіралі б траву да самага вечара, каб не прыехаў Лёнька Зайчык. Саскочыўшы з драбін, ён гукнуў на ўсю моц:

— Шабаш, дзяўчаты. Камісія прыехала.

Дзяўчаты выпрасталі набалелыя спіны.

— Якая камісія?

— Хлусіць ён.

— Лёньку абы камісія...

Дзяўчаты абступілі Лёньку, тармасілі яго за выліналую кашулю.

— Праўду кажу — прыехалі. Ева з Верай Антонаўнай там іх прымаюць. Пакуль абавязацельствамі цікавяцца. Вось-вось на ферму паедуць. Даміра загадаў Шняку мукі падкінуць.

— Ды ты па парадку, Лёня, — папрасіла Зіна Асташка.

— Можна і па парадку. Толькі спачатку пагрузку зробім, а па дарозе акурат усё дalажу.

Нагрузілі травы поўныя драбіны. Лёнька пагнаў каня.

— Цікавіцеся, якая камісія прыехала. Дык я і сам, дзяўчаты, не ведаю. Камсамольскія сакратары на пятроўскай трохтонцы прымчалі. Кажуць, што хочуць пераняць наш вопыт. Я так думаю: мабыць, наш пачын многа шуму нарабіў. Былі адсталымі, ды раптам у перадавыя. Вось і хочуць тэмпы пераняць.

— Чаму яны навучацца... — хтосьці падаў нясмелы голас.

— Павучыцца ёсць чаму. Хоць бы наконт падкормкі. Важная справа... А хто ініцыятары? Камсамольцы. Цяпер усе тварам да Закружжа павярнуліся — таму і камісіі. Гэта яшчэ кветачкі. А пачакайце, як з-за мяжы пачнуць да нас ездзіць... Вось работы будзе!

Дзяўчаты загаманілі.

— Адна камісія перапуду нарабіла.

— Жартуе ён.

— А чаму? Возяць нас у адно месца.

— Я тры разы на нарадзе была ў раёне — тры разы ў Пятроўскае на экскурсію вазілі.

На кашары яшчэ нікога не было. Зноў дзяўчаты ўзнялі шум, паця-

шаліся з Лёнькі. Смех, жарты і прыпеўкі абуджалі лясную цішыню. Хутка нарэзалі сечкі. Заклалі зялёную, сакавітую траву ў кармушкі, пасыпалі мукой, соллю. Лёнька скамандаваў адбой, але дзяўчаты адпачываць не сталі. Навязалі бярозавых венікаў, чыста падмялі навокал: няхай бачыць камісія, што закружскія дзяўчаты руплівыя ды дбайныя.

А камісіі ўсё не было.

Ева сустрэла Веру Алексіч на вуліцы, усміхнулася загадкава, папрасіла зайсці ў клуб.

У клубе было душна і брудна. Сонца ўрывалася ў вокны, як нечаканая рэвізія, выкрывала ўсе хібы даўняга Евінага гаспадарання. Запыленыя плакаты, павуціннe, пакамечаныя паперкі і недакуркі, заліты чарнілам абрус, — усё выглядала несамавіта, хоць некалі, відаць, было новым і чыстым. Вера паморшчылася. Неяк не заўважала яна раней гэтай убоскасці, можа таму, што ўпершыню зайшла сюды не па справе.

Ева адкінула нагой з дарогі нейкую бляшанку, прайшла за сцэну. Тут у маленькай каморачцы, дзе размясцілася бібліятэка, парадак быў крыху лепшы. Мабыць, у Евы хапала цярпення толькі на тое, каб прыбраць гэты невялікі пакойчык.

— П'есу я новую атрымала, — пачала Ева, — надта цікавую. Пра каханне пішуць. Ды так здорава — я нават плакала. Можа вы прачытаеце яе, ды скажаце, каму лепш за ўсё ролі даручыць.

Вера адчувала, што Ева паклікала яе ў клуб не так сабе, што яна хоча паведаміць нешта важнае, якое мае прамыя адносіны да Вeрынага жыцця. Што, аднак? Няўжо хто даведаўся пра яе замужжа? Але як? Леў Раманавіч даў зразумець, што нікому нічога не гаварыў. Тады, што ёй трэба? Няўжо Рамір? Адкуль маглі даведацца пра яго? Магла сказаць Ліпанава. Але яна толькі здагадваецца.

Вера дрыготкім голасам запыталася:

— Ты мне нешта іншае хацела сказаць? Вельмі непрыемнае штонебудзь?

Тады Ева кінулася ёй на шыю, прытулілася да пляча. У Веры балюча забілася сэрца.

— Я зусім, ніколечкі не веру гэтым плёткам. Мала чаго ў нас не выдумаюць... — і ўжо шэптам дадала: — Кажуць, нібы Алексіч твой муж, і нібы ў горадзе ў цябе другі ёсць, і нядаўна ты да яго ездзіла...

Вера адчула, як чырвань апякла твар. Гарачынёй палалі шчокі, вушы, нават патыліца. «Хто мог такое сказаць? Хто?» Думка ліхаманкава шукала адказу. «Ліпанава? Не. Алексіч? Не. Тады хто?»

— Ад каго ты чула?

— Дзеўкі пляткарылі, — няўпэўнена адказала Ева.

Вера ведала, калі добра папрасіць, дык Ева скажа, але было надта няёмка ўсчынаць такую размову.

На вачах у Веры набеглі слёзы. Дзень за днём адны непрыемнасці. Вера адчувала, што Ева чакае адказу, але не магла адважыцца ні на тое, каб схлусіць, ні на тое, каб сказаць праўду.

— А вы не засмучайцеся, Вера, — пашкадавала Ева заатэхніка. — Па-мойму, вы Алексіча зусім дарэмна пакінулі. Падумаеш, быў жанаты!.. Хоць і гэты мастак Рамір не благі. Яго толькі трэба моцна ў руках трымаць.

У Веры адразу высахлі слёзы: такой дасведчанасці яна не чакала. Невядома, чым закончылася б размова, каб у гэты час ля клуба не спынілася машына. З кузава саскочылі на дарогу хлопцы, абтрэслі пыл, рушылі ў клуб.



Спачатку Вера ніяк не магла ўцяміць, чаму прыехалі камсамольскія сакратары, потым, калі зразумела, спалохалася. Давядзецца ехаць з імі на кашару, а Веры хацелася б зашыцца куды-небудзь у цёмны куток, далей ад чалавечых вачэй. Затое Ева адразу затараторыла. Было нават дзіўна, адкуль у яе бярэцца тое красамоўства.

— Не заўсёды гара да Магамета на паклон хадзіць, вось і вы да нас прышлі. Павучыцца хочаце? Гэта можна. Мы з дарагой душой вопыт перададзім. У нас рост камсамольскіх радоў прыкметны. Хібы таксама ёсць.

— Вы расцяцё і недахопы растуць. Вось мы і прыехалі іх вывучаць, каб у сябе не дапусціць.

Ева адразу ж наляцела на хлопца, які гэтак бесцырымонна паспрабаваў пажартаваць.

— Мы, калі хочаце ведаць, яшчэ і не пусцім вас на кашару. Даяркі супроць гэтага, бо каровы хвалююцца, надоі змяншаюцца, а карысці нам ніякай. Рабіце недахопы самі, ды і вывучайце іх. Нездарма вас на мінулым бюро за палітасвету білі. Архаісты вы!

— Хто?.. — Юрка ледзь стрымаўся. — Мы, канешне, не супраць, раз вы ініцыятыву праявілі. Вам гонар і слава. Але, канешне, цікаўнасць ёсць самім на ўсё паглядзець, як мы з вамі за гэтыя самыя зоркі змагацца сабраліся. Прабачце, канешне, а толькі ўсё паглядзець трэба. Тамара Аляксандраўна сама ў першую чаргу параіла з'ездзіць паглядзець работу, а ўжо затым словы свае на ўвесь раён сказаць.

Юрка аж узапрэў ад такой далікатнай размовы. Па сваёй прафесіі прывык ён не надта падбіраць словы, але тут патрэбны быў такт. Ева між тым думала, што рабіць? Яна добра ведала, што калі збіраўся хто прыязджаць з вобласці ў калгас, дык Даміру выручаў заўсёды сябрук, былы начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі. Тады Даміра прыводзіў усё ў баявую гатоўнасць, так што нават самая прыдзірлівая камісія ў роспачы разводзіла рукамі.

Спачатку Ева прывяла камсамольскіх сакратароў у канцылярыю, дзе Даміра ўзнёсла і доўга расказваў ім пра новы пачын закружцаў. Адтуль экскурсантаў павялі на паплавы і Балонне. Разам з імі пайшоў і Леў Раманавіч.

Такую аўдыторыю Леў Раманавіч сустракаў у другі раз. Ён не ведаў сапраўднай прычыны экскурсіі і думаў, што камсамольцы прыехалі паслухаць толькі яго.

— Дапытлівыя сябры мае, сёння вас прыехала шасцёра, але тыя, хто не застаўся раўнадушным да лёсу паплаваў. Мы толькі яшчэ разгортваем наступленне: падлічваем сілы, рыхтуем рэзервы, ствараем матэрыяльную базу. Потым узаўецца чырвоная ракета, і сотні вось такіх цікаўных і працавітых рушаць у наступ. Злева ад нас старадаўняя пустоша Балонне. Як вяснушкі на твары, рассыпаны па ёй рудыя плямінкі купін. Паспелы зязюльчын лён абсыпае на шызую зямлю мільёны спораў. Многія з іх загінуць, але многія дадуць парасткі, і зноў не прывабная зяляніна мяккай травы, а шорсткія, рудыя сцяблы зязюльчынага ільну будуць, як маўклівы дакор людзям, цягнуцца да сонца, высмоктваць сокі зямлі. Далей, ля самага лесу вы бачыце рыжа-зялёную сцяну. Гэта асака бутэльчатая, дрыгвяністая, дзіўная ды касач, хвошч, чарот, сітнік. Саксаул беларускіх балот. Яны такія ж, як і саксаул, непатрабавальныя, нахабныя ў сваім імкненні адваёўваць новую жыллёвую пло-

шчу. Дзе вільгаць — там гэтыя травы; дзе паявіліся яны, там паявіцца вільгаць. Паволі, але няўхільна паўзуць яны па нізінах, ператвараючы зямлю ў пустыню. Зязюльчын лён і асака — запусценне. Ім спадарожнічае ніцая лаза і чарот, амежнік і мудронка, багун і чылібуха, мох і глухая альха. Мне не давялося пабачыць Балонне пасля вайны, калі тры гады ўзапар дарэмна чакалі травы касцоў. Цяжкі быў час. Фашысты забралі ўсю жывёлу, чалавеку не было неабходнасці касіць гэтую змардаваную, знявечаную барацьбой з дзікімі раслінамі траву. Для той жывёлы, што засталася, хапала паплавоў. Старыя людзі кажуць, што на чацвёрты год засталі яны на Балонні бярозкі таўшчынёй у палец. Кучаравіліся вольхі, у зарасніках лазы звівалі гнёзды салаўі. Там-сям хаваліся ў траве недарэчна кволыя елачкі і сасонкі, чакалі жыватворчага ценю, каб потым адразу вымахнуць пад неба, прыглушыць лісцёвыя дрэвы. У гэты, чацвёрты год каса чалавека перапыніла іх існаванне. А што б было, дарагія сябры, каб не чатыры гады, а сто ішла вайна, як гэта было некалі ў Еўропе? Лясы і балоты адваявалі б у чалавека зямлю, загналі б яго ў гушчары.

Я — не супраць лесу. Я люблю нашы бары і пушчы. Я — супраць таго драбналесся, тых масіваў зямлі, якія спусташаюцца карлікавымі елкамі і соснамі, лазой і асакой, зязюльчыным ільном і мохам. Я — за культуру людзей, а значыць і за культуру зямлі. Не можа культурны чалавек цярпець вакол сябе смецце і бруд. Мы выйшлі на першае ў свеце месца па пісьменнасці, а дасюль церпім затхласць нашых рэк, церпім камарыныя балоты, спакойна пазіраем на асаку і чарот, быццам яны нам падабаюцца.

Дарагія мае сябры! Вам хочацца быць прыгожымі, таму вы вучыцеся, выхоўваеце ў сябе найлепшыя якасці чалавека. Вы не захочаце апрануць рызманы. Яны не пасуюць вам. А ці падумалі вы, што зямля, якая нарадзіла ўсё: травы, дрэвы, збажыну, гародніну, сады, не скінула яшчэ рызманоў старога ладу. І асака, і зязюльчын лён, і балоты, і куп'ё — усё гэта спадчына жабрачай панска-купецкай Расіі.

Я бачу, як загарэліся вашы вочы. Вы поўны рашучасці пачаць бітву за прыгажосць зямлі. Але аднае рашучасці мала. Як патрэбны густ, каб прыгожа апрануцца, так патрэбны веды, каб змяніць аблічча зямлі. Вы скажаце: яны ў вас ёсць. Так. Дзесяць класаў—салідная падрыхтоўка. Вы маеце такі запас ведаў, з якімі можна рухацца ў жыццё. Не папаўняючы яго, аднак, можна разгубіць усё, што маеш за душой. А многія ідуць і ніяк не могуць уцяміць — навошта ім веды. Кароў даіць можна і непісьменнаму. Веды, дарагія мае хлопцы, патрэбны для таго, каб пераўтварыць зямлю, зрабіць яе прыгожай і маладой.

Праз тыдзень-два мы пачнём складаць карту глеб калгаса «Маяк», каб можна было вырашыць, дзе ўпрыгожыць зямлю канюшынай і цімафееўкай, дзе пасеяць люцэрну ці кукурузу, а дзе такую траву, як канарэечнік і райграс. Калі ласка, прыходзьце да мяне. Будзем разам раіцца, у якое пляцце нам лепш адзець нашы лугі, балоты, паплавы.

І яшчэ адно. Прыгажосць — з'ява незвычайная. Яна мае адну ўласцівасць — весці наперад, удасканальваць чалавека. Паляпшаючы зямлю, мы захочам быць яшчэ прыгажэйшымі і знешне, а галоўнае, духоўна. Не бойцеся, што ў вялікай гэтай рабоце можа хто захварэе нявер'ем ці якой другой хваробай. Старайцеся захапіць такога чалавека велічнасцю нашых планаў, удыхнуць у яго найвялікшую ідэю — заўсёды ўдасканальвацца. Помніце: доўгі прыпынак — смерць. Твань, асака, мох абрасце вас.



Наперад, мае сябры!

Леў Раманавіч кончыў і адразу збянтэжыўся: ён і забыўся, што выступае ўсяго перад васьмю чалавекамі. Хлопцы, узрушаныя прамовай, маўчалі. Даміра скептычна ўсміхаўся: сівы, а блазнуе. Вера думала: не ад яго пайшла гуляць па вёсцы чутка аб яе замужжы.

— Можна адно пытанне? — выступіў наперад Юрка. — А вось з жывёлагадоўляй як у вас?

— Пакуль што дрэнна,— Лёнька падміргнуў хлопцам.— Некалькі дзяўчат пайшлі на фермы, замянілі старых жанок, узялі абавязацельствы. Думаю, абавязацельствы яны выканаюць. Але што такое паўтары тысячы літраў малака за год? Дробязь. Калі ў наступным годзе мы будзем мець зялёны канвеер, сілас з кукурузы, сена з найлепшых гатункаў канюшыны і цімафееўкі — мы цвёрда скажам: тры, чатыры тысячы літраў малака ў год. А потым, калі палепшым пароду кароў, дадзім заяўку на пяць, шэсць тысяч літраў малака ў год. Вось чаму я кажу: пакуль дрэнна.

Хлопцы пашапталіся. Потым Юрка адказаў за ўсіх:

— Мы, канешне, просім прабачыць. Не паверылі адразу. Ажно ў вас сапраўды вялікія справы пачынаюцца, і давядзецца пацягацца сур'ёзна. Можа вы да нас прыехалі б. Моладзь даўно такіх лекцый не чула. Вельмі цікава паслухаць.

На тым і закончылася экскурсія ў «Маяк», за якую так баяліся Ліпанава, Ева і Даміра.

Вера пайшла на кашару, хоць з гадзіну назад з жахам думала над тым, як яна сустрэнецца з людзьмі. Пацягнула да дзяўчат, да справы, якой даўно ўжо не займалася. Першай сустрэла яе Зіна Асташка. Прывіталася і, як здалося Веры, адвяла вочы ўбок, быццам злосная на яе. Матрона Башукевіч нешта шапнула Тацяне Шахнюк, і тая здзіўлена паглядзела на Веру. Паявілася Ніна, пачырванела ўся, але прывіталася.

У Веры пахаладзела ў грудзях: асуджаюць. Каму трэба было кратаць старую, незагоеную больку? І раптам прыйшла здагадка. Гэта — Зіна Асташка! Леў Раманавіч расказаў сястры і пляменніцы пра сваю жаніцьбу, а Зіна — даяркам. Крыўды на Зіну не было — толькі здрадлівая жаласць да сябе казытала ў горле, выклікаючы слёзы. Стрымала сябе. Пайшла да Дзяміда Пракуды, каб дамовіцца аб новых пашах.

Пазней, калі даяркі закончылі даіць кароў, Вера сустрэла Ніну Шумейка.

— Вера Антонаўна, — паклікала яе Ніна, а калі Вера падышла, — доўга маўчала, капала пальцамі ў пяску равок. На Веру не глядзела, вочы былі апушчаны долу.

— Што табе?

— Прабачце мне за той выпадак.

— Я ўжо забылася,— заспяшалася Вера. Ёй самой было чамусьці надта няёмка.

— Прабачце ўжо. Іншы раз сама не ведаю, чаму такая. Нагаварыла вам...

— Сама я вінавата...

— Не, вы добрая. Толькі вы гордая. Як і я, да людзей не хочаце ісці.

Вера раптам падумала, што з Нінай можна пагаварыць па шчырасці. Запыталася:

— Не чула, Ніна, што пра мяне гавораць?

— Чула. Бабы ўсё. Яны такія кашы сплятуць, што сябе не пазнаеш.

— Гэта не плётка. Толькі не зразумею, адкуль усё вядома стала? Няўжо Зіна сказала?

Ніна спалохана адхіснулася:

— Што вы, яна нічога не ведае нават.

Зноў Вера задумалася над тым, хто яшчэ мог ведаць пра яе няўдалае жыццё?

## XIV

На паплавах звозілі сена. Да стога яго падцягвалі двума валакушамі — таўставатымі жардзінамі, якія былі прымацаваны да гужоў. Некалькі мужчын ускідвалі сена наверх. Там найлепшыя закружскія спецыялісты — дзяды Сілявей і Нічыпар — ахапак за ахапкам акуратна ўкладалі вакол шаста.

Дзяўчаты і жанчыны ў белых хусцінках і стракатых плаццях падграбалі поплаў следам за валакушамі. Поплаў агаляўся. Жаўтавата-зялёны, ён выглядаў бы вельмі панура, каб не аздаблялі яго конусы ўжо закончаных стагоў, каб не было гэтай увішнай, руплівай мітусні людзей.

Канькоў, як толькі вышаў на ўзгорак, спыніўся, зачараваны неабдымным прасторам. Справа на другім узгорку рассыпаліся, як авечкі на пашы, хаты калгаснікаў, не ўсе аднолькава дыхтоўныя, вялікія, але дагледжаныя дбайнымі рукамі. Ля многіх зелянелі дрэўцы, там-сям уздымаліся над вёскай старыя, выпрабаваныя вайной і пажарам таполі, ліпы і клёны. Налева, за поплавам, звівалася рэчка. Далей, у промнях сонца, купаўся сіне-зялёны лес. Прама перад вачыма быў поплаў. За ім, наколькі хапала зроку, пад павевам ветру гойдалася дробнай хваляй жыта. У Канькова завярцеліся ў галаве ўрыўкі сказаў да нейкай ненапісанай яшчэ аповесці ці мо' паэмы. Хацелася прыдумаць нешта ўзнёслае, велічнае. Прыходзілі рыфмы і тут жа бясследна прападалі, бо зрок выхопліваў нешта больш значнае і прыгожае, што хацелася абавязкова ўціснуць у той першы сказ-падмурак, на якім будзе стаяць увесь паэтычны будынак. Вось у галаве выкрышталізавалася, абтачылася першая фраза. Прызвычаеным рухам Канькоў дастаў запісную





кніжку, выцягнуў аловак і тут раптам успомніў, што прышоў ён у Закружжа зусім не за тым, каб пісаць нарыс ці крытычны артыкул, а назаўсёды — працаваць. Быць тым, пра каго пісаў не раз пасля заканчэння партыйнай школы. Успомніў свой невялічкі пакой, вялізны стол, заўсёды завалены гранкамі, пісьмамі, газетнымі палосамі, кнігамі. Напэўна, цяпер за сталом сядзіць адказны сакратар Валя Яшчэня, чытае свежыя палосы, ад якіх пахне вільготнай паперай і друкарскай фарбай. Валя чытае і шмыгае носам — прывычка, ад якой дзяўчына ніяк не можа сябе адвучыць. На вялізных палях з нядбайна абарванымі краямі яна піша папраўкі мікраскапічнымі літарамі. Потым з наборнага цэха прыбяжыць стары, згорблены вярстальшчык Залман Ізраелевіч Цукерман, ці проста «цукровы чалавек», як яго клічуць за вочы. Ён возьме газетную паласу, ссуне акуляры з ілба на гарбаты нос, доўга будзе то падносіць газету да самых вачэй, то аддаляць яе на адлегласць выцягнутых рук. Урэшце, не вытрымае, пачне ўшчуваць сакратара.

— Стары Залман стаў нікуды не варты. Але навошта ў яго адбіраць апошні зрок. Хай ты будзеш здарова, Валечка, толькі не пішы такімі дробнымі знакамі. Нябожчык Іван Шаўцоў таксама пісаў каракулямі, дык ён жа быў ого які чалавек! Бывала, газета затрымліваецца, дык ён проста ля талера піша, бярэ літару за літарай з касы, глядзіш — артыкул.

Іван Шаўцоў — першы рэдактар у іхнім раёне, якога ніхто, апроч Цукермана, не помніць. Яго забілі зялёныя банды неяк адразу пасля грамадзянскай вайны. Для Цукермана — ён вяршыня газетнага мастацтва.

...Прыгадаў Канькоў і свае два незакончаныя нарысы, што пісаў для цэнтральных выданняў. Так і не дачакаюцца іх у рэдакцыях.

Ад успамінаў зрабілася маркотна. Крыху палохала і невядомасць.



Як усё пойдзе? Праўда, пасля вайны давялося працаваць на розных пасадах. Быў следчым пракуратуры, сакратаром па кадрах, інструктарам абкома. Там і пачаў пісаць. Спачатку крытычныя карэспандэнцыі— на большае не адважваўся, хоць з грудзей ірвалася штосьці велічнае, нейкія падобныя на музыку словы, прыгожыя і ўзнёслыя. Аднаго разу ў раённай гасцініцы паспрабаваў запісаць гэтыя нястрымныя крыкі душы. Атрымаўся верш, квяцісты, як і тая вясна, што нарадзіла яго. Доўга мучыўся, потым заклеіў у канверт і хутчэй кінуў у скрынку. Баяўся, калі не апусціць цяпер, дык ужо ніколі не адважыцца адаслаць. Пакутліва чакаў адказу. Нешта праз месяц атрымаў ліст. «Паважаны таварыш Канькоў, — пісаў літкансультант, — ваш верш «Майскі ранак» надзвычай слабы. Друкаваць яго не будзем. Чытайце больш Пушкіна, Маякоўскага і паэтаў нашага часу». Трыма радкамі былі нашчэнт разбураны спадзяванні і мары. Але пісаць цягнула. Здаецца, трапіў у зачараваны вір, хацеў бы вырвацца, выплысці на бераг, а цябе ўцягвае ўсё глыбей і глыбей. Доўга саромеўся паказаць каму-небудзь свае творы, потым неяк адважыўся, занёс у абласную газету. Невысокая, бялявая жанчына — загадчык аддзела — папрасіла зайсці праз тыдзень. А назаўтра, разгарнуўшы газету, ён убачыў сваё прозвішча, вынесенае ўверх: Васіль Канькоў. Пад загалоўкам буйнымі літарамі было напісана — «Нарыс». Упіўся вачыма ў тэкст: словы гучалі бадзёра і мілагучна. Не верылася, нават, што сам напісаў іх. Былі яны да таго прыгожыя і мілыя, што Канькоў, узрушаны, доўга бегаў па пакоі.

Некалькі наступных нарысаў вырашылі далейшы лёс Васіля Канькова. У партыйнай школе яго адразу залічылі на аддзяленне журналістыкі. Адтуль і паехаў рэдактарам газеты ў свой родны раён. Бліжэй да месца, дзе вырас, партызаніў, дзе так многа добрых сяброў і таварышаў. Рабіў газету і пісаў, пісаў, пісаў. Адсылаў у рэдакцыі толькі найлепшае, баючыся, каб зноў не параілі чытаць многа разоў перачытанага Пушкіна.

І вось настаў час, калі трэба забыць пра свае задумы, пра самую запаветную сваю мару — напісаць гераічную п'есу аб партызанах, аб тым, як тысячы людзей, розныя па характару, па асабістых якасцях, загінулі ў час блакады, аб іх мужнасці, якая застаецца невядомай той моладзі, што жыве, вучыцца сёння. Можа, ён зрабіў няправільна, паддаўшыся хвіліннаму парыву пачуццяў? Можа трэба было перачакаць? Знайшліся б людзі, якія паехалі б у Закружжа за старшыню і, напэўна, не горш яго здолелі б узняць гаспадарку калгаса «Маяк». Тады ён працаваў бы над тым, да чаго так настойліва яго цягне. Перачакаць? Канькоў шпурнуў недакураную папяросу. Рашуча пакрочыў на поплаў. А тых, што загінулі ў блакаду 1941 года, ці думалі яны над тым, каб перачакаць? Дваццаць адзін раз ішлі на прарыў, гінулі, а ішлі, і ніхто не сказаў — трэба чакаць. А ў сорак другім годзе, калі фашысцкія арміі рухаліся на Сталінград, людзі не чакалі, пакуль вырашыцца лёс Савецкай Расіі. Чаму ж ты цяпер задумаўся, камісар Канькоў? Тваё асабістае раптам зрабілася надта блізкім. Мо' пачынаеш абрастаць мохам, як той поплаў? Дык жа не будзе гэтага!

Канькоў расправіў плечы, зняў кепку і ўжо як гаспадар, важка і шырока, пакрочыў да людзей.

— Спор ды лад у рабоце, — прывітаўся ён.

— Дзякуем, — хорам адказалі мужчыны, здзіўлена паглядаючы на незнаёмага чалавека. — Ад дапамогі няма патрэбы адмаўляцца.



— Памагчы можна. Даўно вілы ў руцэ не трымаў.

— Фізкультура — першы гатунак.

— Прывыкнеш за дзень вілы высока падымаць, дык увечары лыжку ўсё вышэй ілба падымаеш.

Канькоў узяў на доўгім чаране вілы, падхапіў бярэмя сена, адным рухам ускінуў на стог. Адчуў, як забілася сэрца. Падумаў: «Даўно не займаўся фізічнай працай, нават фіззарадку занядбаў». Зноў падхапіў бярэмя, потым трэцяе, чацвёртае. Сэрца пачало біцца роўна, толькі ад непрывычкі выступіў на ілбе пот.

Праз хвілін сорак стог быў завершан. Дзяды спаўзлі зверху, абышлі стог навокал, падраўнялі яго граблямі, прымацаванымі да доўгіх грабільнаў. Аднекуль паявіўся Даміра, убачыўшы Канькова, паморшчыўся, быццам раскусіў няспелую журавіну.

— Пісаць прыехаў?

— Усё разам, — Канькоў дастаў пачак «Беламора». Да яго адразу пацягнуліся некалькі рук. Каструбаватыя, нягнуткія ад працы пальцы нязграбна хапалі папяросы, мялі крэпаны тытунём канец. Даміра выхапіў адразу дзве папяросы: адну паклаў за вуха, другую прыкурыў.

Сядзелі воддаль стагоў. Перакідваліся словамі.

— Каго ж нам рэкамендуюць? — не вытрымаў Даміра. — Я не сцярпеў і збег.

— Дарэмна збег. Некалі ты не бегаў.

— А якая карысць слухаць? Не здолеў ажыццявіць кіраўніцтва ўзбуйненай гаспадаркай, — у Даміравым голасе ясна пачуліся ноткі Старыковіча, — страціў пачуццё адказнасці, не павышаў ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню... Сто грахоў навешаюць.

— П'янка таксама бірка?

— Ну, піў. Што я манах які? Ды ты маё становішча зразумей: старшыня я ці не? Запросіць хто на вяселле, як жа не выпіць?

— А калгас чаму запусціў?

— Сам паспрабуй. Вы ўсе надта разумныя. А калі да справы дойдзе — у кусты. Табе лёгка працаваць — пішы ды грошы палучай. А тут — катарга. Добраахвотна ніхто не пойдзе.

— Чаму, знайшліся і такія.

На Даміравым твары адбілася разгубленасць. Не раз ужо віселі над яго галавой навальнічныя хмары. Але навальніцы не было. Цяпер ад спакойных слоў Канькова павявала бурай.

— Скажы лепш другое: не па тваёй сіле воз. Быў некалі лягчэйшы — вёз. Дарога па роўнаму ішла, а цяпер угору завярнула. Вось і задыхнуўся. Злавацца тут няма на каго.

— Ага, адстаў, не вучыўся. Хто прасіўся паслаць на вучобу? Я. Што мне тады той жа Старыковіч адказваў? «Пачакай, Даміра, перыяд цяпер такі — аднаўленне». Чакаў, цярпліва чакаў, пакуль вы на курсах ведаў набіраліся. А Даміру ўсё часу не было. Скажуць — усё рабіў. Кашару будаваў, куранят з інкубатара ўсіх забраў — таго ж Старыковіча выручаў. Не я, а ён бы за іх вымову атрымаў, бо інкубатар гэты ў нашым раёне быў так патрэбны, як зайцу званок. А цяпер Даміра вінаваты. Ён жа невук — яго на сметнік. Справядліва, можа?

— Ты лепш у калгаснікаў запытайся. Яны табе скажуць. Напэўна, таксама несправядліва тое, што яны дасюль такі бедны працадзень маюць?

— Яны скажуць. Ты іх папяросачкамі частуеш, прыгожыя словы

гаворыш, а я, як той заяц, — між двух агнёў. Куды ні кінь — клін!.. Не, ты сам паспрабуй, уведаеш, па чым фунт ліха.

— Паспрабую...

— А-а-а, дык чаго ты, — Даміра выхапіў з кішэні пячатку з расшчэпленым вечкам. — Прыехаў змяняць, вось табе, бяры.

Ён кінуў пячатку на зямлю, потым зноў ухапіў яе, моцна зацiснуў у кулак.

— Дарэмна, Тарас, злуешся. Я яшчэ не старшыня. Пра такія справы спачатку ў народа пытаюць. Пячатку ты схавай. Буду прасіць сход наменнікам цябе пакінуць.

Даміра ўскочыў.

— У тваіх просьбах патрэбы не маю. Сам прывык выкручвацца. У арцель пайду, на смалакурню, журавіны буду нарыхтоўваць, а ў падначаленых хадзіць не хачу. Не хачу, чуеш?

— Гарачышся, Тарас...

Але Даміра ўжо не чуў яго слоў. Кульгаючы, як падстрэлены, ён бег праз поплаў, недарэчна размахваючы рукамі. Канькоў пазіраў яму ўслед, думаў: «Ад каго ты ўцякаеш, Тарас? Такіх, як ты, у тыраж не спісваюць. А што вызвалілі ад работы, дык сам жа вінаваты».

Думкі Канькова перабіў дзед Нічыпар.

— Кожнага чалавека шкада, — пачаў ён, — але ж як нам далей было жыць, скажы, таварыш новы старшыня?

Даміра бег, не заўважаючы нікога. Бязладныя думкі не давалі спакою, а адно слова, вострае і няўмольнае, балюча свідравала чалавека. Даміра нават не заўважыў, калі прышоў на двор сваёй сядзібы. У хату не пайшоў. Сеў пад паветкай на калоду, абхапіў далонямі галаву. «Вызвалілі... вызвалілі... вызвалілі», — стукала ў скронях, у кустах парэчак надакучліва трашчаў конік: вызвалілі, вызвалілі, вызвалілі... Падышоў певень, паглядзеў на гаспадара жоўтым вокам, спачувальна пахлопаў крыламі. Даміра шпурнуў камяком зямлі, певень спалохана падскочыў, пабег, лапочучы нешта крыўднае.

Думкі паступова набывалі пэўны кірунак. Даміра ўспомніў, як на пачатку мірнага жыцця ён разам з усімі ездзіў у лес, валіў высачэзныя сосны, траляваў іх, потым абцёсваў, складаў хаты — не сабе, людзям. «Тады патрэбен быў. Тады за мной ішлі,— думаў ён, і горыч сціскала грудзі. — Чаму ж цяпер не патрэбен стаў? Чаму?»

Даміра доўга думаў над гэтым, але пякучая крыўда перашкаджала правільна адказаць на пытанне. Раптам Даміра яскрава ўявіў сваё заўтрашняе адзіноцтва. Ужо ніхто не прыдзе да яго за парадай, ніхто не будзе надакучаць просьбамі, нават ніхто не пасварыцца на яго.

«Дык як жа жыць?»— услых падумаў ён, і зноў гэтае надакучлівае «чаму?» паўстала перад ім.

«Чаму ж адвярнуліся людзі, калі раней ішлі за мной? — думаў ён. — Ну, няхай бы сказалі: ты, Даміра, робіш не так. Дык жа маўчалі... Але ці маўчалі?.. Не, часам не маўчалі... Ну, добра, вінаваты я, але ж нельга так адразу...»

Даміра думаў, думаў і не заўважаў, што з-за плоту за ім пільна сочыць Ніна, што яна хоча і не можа падысці да яго.



## Зоркі над фермамі

### I

Леў Раманавіч атрымаў адразу два пісьмы. Першае было з акадэміі. Сакратар партыйнай арганізацыі Алег Пятровіч Макушок пытаўся пра тое, як ідзе работа, а ў канцы прасіў неадкладна прыехаць у Мінск. Слова «неадкладна» было падкрэслена двума рыскамі. Леў Раманавіч адчуў за гэтым нешта важнае і такое, што датычыцца яго работы. Падумаў: «Заўтра ж паеду...»

Скамечыўшы пісьмо, Леў Раманавіч засунуў яго ў кішэню. Другое было напісана чужым, незнаёмым почыркам. Леў Раманавіч асцярожна адарваў краёк і адразу пазнаў, хто піша. «Што яна хоча? Паспешліва разгарнуў акуратна складзены ліст. З яго выпала на падлогу паштоўка, лягла к верху размаляваным бокам. На паштоўцы — кучаравы белагаловы хлапчук з непадробнай грымасай крыўды на твары і двума буйнымі слязінамі на шчоках. У Льва Раманавіча ад болю сціснулася сэрца. Нагнуўшыся, ён спрабаваў таропкай рукой падняць паштоўку, а яна нібы прыклеілася да падлогі. Нарэшце падняў. Рукі дрыжалі, і ад таго літары скакалі ў вачах.

«Дарагі татачка, — пісаў Вадзім буйнымі, нязграбнымі літарамі, — я слухаюся мамы. Але мне надта сумна. Прыязджай да нас. Я з мамай чакаю цябе. На маму не крыўдуй, бо яна добрая. Чакаю цябе, дарагі татачка. Твой сын Вадзім».

Леў Раманавіч углядаўся ў сынаў почырк. Ён быў падобны на бацькаў, такія ж вострыя з нахілам літары, крыху нязграбныя, хоць і адмыслова выпісаныя. За імі ён бачыў Вадзіма — русявага, як маці, з крутым вялікім ілбом, як ва ўсёй алексічаўскай пародзе. Здавалася, сын працягвае рукі, так, як было тады, калі Леў Раманавіч у апошні раз крадком зайшоў да Вадзіма.

Тады Вадзім сядзеў у яго на каленях, і Леў Раманавіч чуў, як ад дзіцяці нястрымным патокам уліваецца ў сэрца гарачыня, ад чаго сэрцу вельмі цесна ў грудзях. Рукі мімаволі прыціскаюць бялявую галоўку сына да грудзей, а яна ніяк не хоча спакойна паляжаць на іх.

— Мне так нязручна, — гаворыць Вадзім. — Хочаш, я табе нешта па сакрэту скажу.

— Цікава, якія ў цябе сакрэты?

— Толькі ты нікому не скажаш, добра?

— Вядома.

— Чэснае слова?

— Чэснае слова.

— Я цябе вельмі люблю, толькі ты не кажы мамцы...

Леў Раманавіч перапыняе хлапчука пытаннем, хоць яму вельмі хацелася б пагутарыць з сынам на гэтую тэму.

— А якія табе казкі падабаюцца?

— Пра хлопчыка, якога кінуў бацька.

Леў Раманавіч чырванее, адчуваючы ў сынавых словах дакор. «На-

вошта яна калечыць душу дзіцяці, — думае ён. — Падрасце, тады няхай разбіраецца сам».

— А якія яшчэ ты казкі ведаеш?

Замест адказу, Вадзім спалохана саскоквае з яго каленяў, пабялелы, шэпча:

— Мама загадала нічога не браць ад цябе, бо ты можаш атруціць. — Ён прагна даядае цукерку, але забывае выцерці рот, і гэта выдае яго з галавой.

Падышла Лілія Нікадзімаўна. Яе твар перасмыкнуўся, а вочы пагрозліва паглядзелі на Вадзіма. Хлапчук стаяў, выцягнуўшы рукі, як маленькі вымуштраваны салдат. Яго губы нешта шапталі. Льву Раманавічу здалося, што ён гаворыць: «Болей ніколі не вазьму цукерку».

— Вадзім, марш дамоў!..

Хлопчык паціху пайшоў у дом. Некалькі раз аглянуўся, і ў яго вачах быў зразумелы для бацькі сум. Новы загад прымусіў яго бегчы. Яшчэ раз азірнуўшыся, хлопчык неахвотна схаваўся ў змрочным пад'ездзе.

— Я меркавала, — крыху памаўчаўшы, сказала яна, — што вы перастанеце турбаваць майго сына...

Лілія Нікадзімаўна спрабуе захаваць на твары спакой і нават абыякавасць. Голас у яе знарок халодны. А некалі ён быў іншы — ласкавы, цёплы.

— На сына я таксама маю правы, — адказвае Леў Раманавіч спакойна хоць гэта яму ўдаецца цяжка.

— Я аднаго разу прасіла ўжо вас не пачынаць гэтай нікчэмнай дыскусіі. Вы адмовіліся ад мяне, значыць, вы адмовіліся ад сына.

Льву Раманавічу хочацца сказаць, што ён таксама нясе адказнасць за сына, але добра ведае: гэта дарэмна. Лілія Нікадзімаўна выклікае ў яго душы буру пачуццяў і думак. Хочацца нагаварыць ёй мноства крыўдных, абразлівых слоў, і ў той жа час чужое, недарэчнае пачуццё хваравітай закаханасці нараджае бязглуздую ў такіх абставінах думку: «Якая яна прыгожая».

— Ад свайго сына я ніколі не адмаўляўся. Вы вінаваты самі.

Лілія Нікадзімаўна пачынае гучна смяяцца.

— Вы, здаецца, усё яшчэ раўнуеце мяне?.. Няўжо вы дасюль не зразумелі, што вы заўсёды былі смешныя са сваімі прыдзіркамі. Я прыгожая, хіба не так?— яна імгненна зрабілася другой: усмешка застыгла на поўных пунцовых вуснах, бровы разгладзіліся ў роўныя стрэлкі, вочы паглядалі з-пад доўгіх чорных веек прыхільна, грудзі злёгку падымаліся пад шаўковым плашчом, якое туга аблягала яе ладную, прыгожую постаць. — Хіба я вінаватая ў тым, што на мяне заглядаюцца мужчыны!.. Вядома, я не дазваляла нічога дрэннага. Потым мне, як і ўсякай жанчыне, падабаецца ўвага мужчын. Дарагі мой, а хіба вы не былі адным з такіх? Праўда, вы былі больш настойлівы...

Леў Раманавіч з абурэннем прыгадаў сваю «настойлівасць». Калі б ён быў тады настойлівы, дык не пайшоў бы піць чай, а пазней у сорак другім годзе, калі Лілія Нікадзімаўна знайшла яго ў шпіталі, хіба ён паддаўся б яе чароўнасці?..

— Пра старое ўспамінаць варта толькі для таго, каб не рабіць тых непапраўных і бязглуздых памылак, на якія часам здольны чалавек. Вы самі ўсё добра помніце і разумееце, што занадта перайначваеце падзеі. За гэта мы і нясём адказнасць. Але ваш і ў роўнай ступені мой сын ад гэтага не павінен цярпець.



У Ліліі Нікадзімаўны твар зноў зрабіўся злосным.

— Чаму вы так напіраеце на слова «ваш»? А калі гэта не так?

Льва Раманавіча нібы абдало варам. Непрыемная, наогул, размова, падфарбаваная нейкім бессаромным агідным намёкам, расшматала тое дваістае пачуццё да Ліліі Нікадзімаўны, якое дасюль не пакідала яго. Ён добра ведаў, што Вадзім яго сын. Навошта ж такім брыдкім, злосным намёкам пазбаўляць яго права на бацькоўства.

— Калі я ўбачу вас каля майго сына, я заяўлю ў міліцыю, што вы хацелі забіць яго. І паверце, што я здолею даказаць гэта.

Леў Раманавіч адчуў, што гэтая жанчына сапраўды здольна на ўсё. І хоць потым яна прыслала яму некалькі пісем, у якіх прасіла забыць тую «ідыёцкую» размову і нават клялася ў нязменнасці сваіх пачуццяў, Леў Раманавіч больш не бачыў ні яе, ні сына. Пачуццё любві да сына, якое было заглухла, цяпер узнавілася з болем і роспаччу.

Навошта ён спатрэбіўся ёй цяпер? У словах сына ён адчуваў яе словы, падказаныя з нейкай карыслівай мэтай.

Лілія Нікадзімаўна, па сваёй заўсёднай прывычцы, пераскоквала з думкі на думку, таму пісьмо яе чыталася з цяжкасцю. Неяк нельга было ўлавіць асноўнага: што ёй трэба? Затое ў самым канцы пісьма ўсё праяснілася.

«Вы заўсёды лічылі, што подласць — мая другая натура. Але я ніколі не зычыла вам дрэннага. Таму цяпер, калі над вамі навіслі чорныя хмары, я спяшаюся на выручку. Бо я ўсё яшчэ люблю вас. Прабачце за такое прызнанне. Мне не хапае вашай цеплыні, сур'ёзнасці, чыстаты пачуццяў і дзікай рэўнасці. Калі б вы нават маглі здагадацца, як не хапае мне вас, вашага голасу, вашага мілага позірку, усяго вас. Гэта прымушае мяне папярэдзіць вас аб небяспецы. На вас паступіла скарга, што вы кінулі сваю маладую жонку (пра гэта я ведала даўно). Мажэйка, даведаўшыся пра гэта, зноў патрабуе пакараць вас за абразу, якую вы яму нанеслі. Усё гэта нейкім чынам звязваецца з вашай работай. Ёсць нейкі ліст ад калгаснікаў, у якім яны просяць неадкладна адклікаць вас з калгаса.

Мне хочацца параіць вам адно. Вы можаце смела спасылацца, што ваша другая жонка з'яўляецца каханкай майго брата. Бачыце, я нават ахвярую добрым імем брата, каб толькі ўратаваць вас. Я добра зразумела, што далей выхоўваць сына без вас не магу. Ён робіцца дарослым і непаслухмяным, можа таму, што зблытаўся з нягоднымі хлапчукамі. Я пачынаю хвалявацца за яго лёс. Я спадзяюся, што вы заглянеце да мяне, як толькі прыедзеце ў Мінск».

Леў Раманавіч кончыў чытаць. Марына, якая ўвесь час сачыла за братам і адразу адчула, што той атрымаў нейкія непрыемныя пісьмы, падышла да яго, палажыла руку на плячо.

— Нялёгка і табе, Лявонка... А я думала, усяго дамогся — і ніякага гора, а ты вунь як лоб наморшчыў. — Яна шурпатымі пальцамі правяла па ілбе, потым па валасах: — Парадзела чупрына, нібы град выбіў. Ад каго пісьмо атрымаў?

Леў Раманавіч раптам адчуў сябе маленькім і бездапаможным. Ха-

целася прыгарнуцца, паскардзіцца на свой лёс, суровы, без матчынай і наогул жаночай ласкі. Ад даўняй ласкі засталіся толькі кволыя ўспаміны пра вось такія шурпатыя, як і ў Марыны, рукі, якія гладзілі яго, калі ён ляжаў хворы, некалькі спачувальных слоў ды поўны незразумелай тугі позірк матчыных вачэй. Ласкі другой жанчыны — Ліліі Нікадзімаўны — спусташалі, а не напаўнялі душу. Не было ў іх шчырасці і прываблівай жаночай цеплыні. Так, нейкі віхор нястрымнасці, пасля якога застаецца спусташэнне.

— Цяжка мне, Марына.

— А ты раскажы. Я даўно заўважаю, ды і чула... — Яна прысела побач, сама прыгарнулася да яго. — Чаму ж яна цябе кінула?

Леў Раманавіч насцярожыўся.

— Пра каго ты?

— Пра Веру. У мяне яшчэ тады, як яна прыехала, сэрца ёкнула. Спыталася ў яе; кажа, што яшчэ не замужняя. А цяпер ужо ўсе ведаюць, што яна твая жонка.

У голасе Марыны Леў Раманавіч пачуў знаёмыя ноткі: так калісьці гаварыла з ім маці, калі ён вяртаўся дахаты, пакрыўджаны хлапчукамі. Ад матчыных слоў тады набягалі на вачах гарачыя слёзы. Цяпер жа Льву Раманавічу было сорамна. І ён сядзеў, апусціўшы галаву, маўчаў. Ён разумеў, што шчырая размова з сястрой прынясе яму палёгку, але не разблытае складаны вузел, які быў завязаны даўно.

Марына не парушала маўчання. З кароткіх пісьмаў, якія яна атрымоўвала ад брата, Марына ведала пра яго першую няўдалую жаніцьбу. І хоць яна ніколі не бачыла братавай, моцна не любіла Лілію Нікадзімаўну. Пасля ж таго, як Леў Раманавіч напісаў сястры аб сваёй другой няўдалай жаніцьбе, Марына не ведала, што і падумаць. Ёй было шкада брата і ў той жа час нешта насцярожвала, скіроўвала думкі ў другі бок.

Надакучлівае, няёмкае маўчанне нечакана было перарвана Зінай. Яна, як толькі зайшла ў хату, пачала расказваць пра новыя парадкі на ферме, якія ўводзіць старшыня Канькоў.

— Гэта ж я таму і запазнілася, — збіраючы на стол, гаварыла Зіна, — што Канькоў быў на кашары. От жа дапытлівы чалавек — усё хоча ведаць!.. Цікавіўся, як мы бітоны мыем, як сечку каровам раздаём, як доім. Загадаў для кожнай даяркі халаты і касынкі купіць. Цяпер мы, як дактары, будзем у белым хадзіць. А пасля ўбачыў, што мы на кукішках пад каровай сядзім, дык наказаў Дзяжэвічу, каб той нам невялічкія табурэцікі зрабіў. Кажа, што цяпер сорамна так даіць кароў, як гэта рабілі нашы бабулі. А пасля паабяцаў спецыяльныя даільныя апараты набыць. Вось толькі хутчэй бы вы, дзядзька, паплавы нам падрамантавалі. Нам цяпер толькі кармы, дык тады ўбачылі б, на што мы здатныя!

— А я вось толькі збіраўся ў Мінск ехаць, — сказаў ён, ужо добра ведаючы, што ад'езд будзе адкладзены.

І сястра, і пляменніца былі вельмі здзіўлены. Леў Раманавіч падаў Марыне абодва лісты. Марына чытала і ўвесь час хмурыла бровы.

— А можа паехаў бы ўсё ж, — нясмела параіла яна, дачытаўшы ліст ад Ліліі Нікадзімаўны.

— А што Зіна скажа? — Зіна, збянтэжаная, маўчала. Леў Раманавіч зусім забыўся, што пляменніца нічога не ведае пра Веру.— Вось бачыш, маўчыць, значыць трэба ехаць.



— А мы так спадзяваліся на вас. Нават і сёння гаварылі пра паплавы...

Леў Раманавіч паклаў руку на Зініна плячо.

— Пакуль нікуды не паеду, так што не засмучайся. Няхай Мажэйка крыху пачакае.

## II

Сярод рэчаў першай неабходнасці, якія прывёз у Закружжа новы старшыня, быў будзільнік — стары, яшчэ даваенай маркі гадзіннік. Канькоў падабраў яго ў канаве на прускай зямлі. Мабыць нехта з нямецкіх уцекачоў выкінуў будзільнік у канаву, каб у выпадку непазбежнага палону не было ніякіх улік бессаромнага гаспадарання на савецкай зямлі.

— Ну, вось і першы рускі, якога я вызваліў з няволі на чужой зямлі, — сказаў тады Канькоў, выціраючы шкло крысом шыняля.

З таго часу Канькоў не разлучаўся з будзільнікам. І ён ніколі не здраджваў гаспадару. Ішоў і ішоў без рамонту, акуратна адлічваючы мінуты. За дзесяць гадоў Канькоў так прывык да хрыплаватага звону будзільніка, што ўжо не давяраў сабе. Тым больш не давяраў, што ўжо не раз прасыпаў, калі часам забываўся завесці гадзіннік.

І ў Закружжа Канькоў прывёз будзільнік не толькі як дарагі напамінак аб даўніх днях вайны, але яшчэ больш, як пільнага вартавога свайго па-маладому моцнага сну.

Але ўжо ў першую раніцу Канькоў прачнуўся не ад звону будзільніка, а ад нейкай залішне насцярожанай цішыні. Было яшчэ вельмі рана. Гадзіннік размерана чэкаў, быццам угаворваў гаспадара не турбавацца: ён разбудзіць яго ў час. Канькоў хацеў прымжыць вочы, але тут на двары пачуўся голас закружскага брыгадзіра. Давялося ўставаць. Назаўтра Канькоў прахапіўся яшчэ раней.

У другім пакоі чуліся прыглушаныя перагародкай галасы жанчын:

— Дык жа прасіла, маліла — не дае.

— Здурнеў ён, ці што?

— Кажа, без старшыні не магу.

Канькоў вышаў у пакой, дзе сядзелі жанчыны.

— Да вас вось, — рукой паказала гаспадыня на старую, паўнаватую жанчыну.

Тая падхапілася з лаўкі, трымаючы напагатове перад вачыма ражок хусткі, пачала, спяшаючыся, расказваць пра сваё гора:

— Стары мой зусім занямог. Кашляе, кажа, у баку баліць, і хадзіць не можа. Цераз хату ледзь пяройдзе. Хацела ў бальніцу звазіць, а брыгадзір каня не дае. Кажа, ваш дазвол патрэбны.

— Які дазвол? Коньмі ж не я распараджаюся, а брыгадзіры. Абавязкова трэба чалавека завезці ў бальніцу.

— Дык жа не дае каня.

— Напішыце вы ёй запіску, — умяшалася ў размову гаспадыня. — Гэта ж у нас такі парадак быў: на коней Даміра запіскі даваў.

Канькоў запіску напісаў. Жанчына падзякавала, подбегам вышла з хаты.

З таго дня, кладучыся спаць, Канькоў больш не заводзіў будзільнік.

Той стаяў, астрацелы, на акне, паказваючы ў любы час дзесяць мінут трэцяй.

Цяпер Канькоў навучыўся вымяраць час па сонцу. Але дня ўсё роўна не хапала. Даводзілася пазычаць у ночы роўна столькі, колькі патрэбна было для таго, каб разгрузіць сябе ад мноства неадкладных спраў.

Дзень звычайна пралятаў у раз'ездах. Раніцай Канькоў садзіўся на даўганогага варанога каня ды і гарцаваў на ім да позняга вечара. У брыгадах, на фермах было безліч спраў, большасць нязначных, дробязных, якія б маглі вырашаць брыгадзіры. Але яны чамусьці чакалі старшыню. Гэта спачатку здзіўляла Канькова, потым пачало насцярожваць і нарэшце абураць.

Аднаго разу на праўленні было вырашана закласці ў трэцяй брыгадзе яшчэ чатыры ямы сіласу. Канькоў выпісаў нарад на капанне тых ям, а назаўтра паехаў праверыць, як ідзе работа. Брыгадзіра ён знайшоў за вёскай ля лесу. Той сядзеў на беразе старой, ваенных часоў траншэі ў акружэнні мужчын, курыў. На дне траншэі валяліся недакуркі цыгарак. Іх было многа, і Канькоў беспамылкова вызначыў, што «нарада» тут ідзе даўно.

— Чаму не працуеце? — накінуўся Канькоў на брыгадзіра.

Той прыўзняўся, патупаў на месцы, але прамаўчаў. Тады загаманілі калгаснікі:

— Працадні марна трацім.

— Агоркла ўжо такая работа.

— І навошта, таварыш старшыня, ямы капаць, вось жа гатовая траншэя.

— Чаму ж вы яе не чысціце?

— А ён кажа, што вы загадалі ямы капаць — і баста... — выступіў наперад малады ў ваеннай гімнасцёрцы хлопец.— Толькі ж у траншэі лепш сілас захаваць.

— А калі сапсуецца? — не вытрымаў брыгадзір. — Тады Цімоха да адказнасці... Брыгадзір вінаваты будзе?..

Канькоў залез у траншэю, добра агледзеў яе. Была яна глыбокая, з роўнымі берагамі, быццам і капалі яе для калгасных патрэб.

— Дык чаму вы сумняваліся? — здзівіўся Канькоў. — Вядома, сіласуйце тут.

— Цяпер усё ясна, — ажывіўся брыгадзір. — А так, хто яго ведае... Мне абы цвёрдае ўказанне было.

Канькоў сekануў рукой паветра.

— Вам не ўказанне, а нянька патрэбна. Мне ж — брыгадзіры, гаспадары, а не хлапчукі, якія ўсяго баяцца.

Раздумваючы пасля над гэтым і шмат якімі іншымі выпадкамі абураючай несамастойнасці сваіх памочнікаў, Канькоў зрабіў немалаважнае адкрыццё: бяда Даміры заключалася ў тым, што ён падмяніў кіраўніцтва калгасам нікчэмнай апекай, вырашэннем дробных спраў. За шмат гадоў работы Даміра адвучыў брыгадзіраў ад самастойнасці, і цяпер пазбавіцца такой спадчыны было не лёгка.

Не лёгка, але трэба!

Увечары Канькоў садзіўся за стол, вымаў з кішэні запісную кніжку, пачынаў планаваць, прыкідваць, вызначаць асноўныя вехі ўздыму арцельнай гаспадаркі. На паперы ўсё атрымлівалася добра. Ужо ў будучым годзе калгас мог мець паўтара — два мільёны прыбытку. Але каб



здзейсніць задуманае, трэба было прывіць сваім бліжэйшым памочнікам тое дарагое пачуццё ініцыятывы, якога яны, нажаль, не мелі.

Перш-на-перш Канькоў адмяніў гэтыя штодзённыя нарады брыгадзіраў. Адзін раз на тыдні Канькоў садзіўся з брыгадзірам за складанне графіка работ. Намячалі толькі галоўныя работы, сумесна абмяркоўвалі, як іх лепш выканаць. Улічвалі ўсе нечаканасці, пасля чаго Канькоў звычайна пытаўся:

— Значыць, можна гэты графік выканаць?

— Можна, — упэўнена заяўляў брыгадзір. — Але ж і вы тут непадалёк будзеце. Калі што якое, запытаюся.

— Ну, не, брат, давай адразу дамовімся: па дробязях не турбаваць. А то што гэта за парадак: парваліся лейцы — прыбягаеце да старшыні, няма каламазі — зноў бяжыцё ў кантору. Прывучайцеся да самастойнага вырашэння такіх спраў. Пройдзе яшчэ год-два — кожная брыгада на гаспадарчы разлік пяройдзе, як тады вы будзеце працаваць?

Вядома, спачатку брыгадзіры не-не ды і прыбягалі да Канькова. Ён ехаў з імі ў брыгаду, на месцы дапамагаў у рабоце. Але рабіў ён гэта так, быццам брыгадзір сам дадумаўся, як трэба было зрабіць, каб не сарвалася работа.

Канькоў жа рыхтаваўся да наступу на Балонне. І вось, нарэшце, сабралася праўленне калгаса. Прышлі не толькі члены праўлення, але многія калгаснікі, асабліва моладзь. Леў Раманавіч трымаў перад сабой вялікія лісты паперы, разлінаваныя ўдоўж і ўпоперак. Вучоны крыху хваляваўся. Канькоў, як заўсёды, быў спакойны. Нехта з брыгадзіраў, прывучаных ужо да дакладных разлікаў, перад тым, як слова атрымаў Леў Раманавіч, запытаўся:

— А разлікі складзены? Такая справа без іх не пойдзе.

— Разлікі будуць. Дасюль мы гаварылі наогул, захаплялі людзей лічбамі росту іх дабрабыту ў выніку пераўтварэння паплавоў. Цяпер настаў час пагаварыць пра тое, што трэба зрабіць, каб дамагчыся, напрыклад, чатырох-пяці тысяч літраў малака ад кожнай каровы. Пагаварыць не наогул, а канкрэтна, з алоўкам у руках. Кожная справа, таварышы, маленькая ці вялікая, павінна быць спачатку вырашана на паперы. Гэта — першы закон эканомікі, на які, нажаль, часта не звяртаюць увагі. Такія пагардлівыя адносіны да разлікаў прыводзяць людзей да таго, што нярэдка вырашаюцца справы, за якія не варта было б брацца. Для практыка — лічбы адыгрываюць такую ролю, як компас для падарожніка. Няма іх — саб'ешся з курсу. Дарэчы, Даміра быў іменна такім чалавекам. Ішоў наўпрост, а дарогі ў двух кроках перад сабой не бачыў. Прывыкайце да лічбаў, таварышы, без іх цяпер у такой буйнай гаспадарцы не абысціся.

— Лічба не дойная карова — малака не дасць, — сказаў Дзяжэвіч.

— Малака не дасць, вядома, але падкажа, што рабіць. Вось першая лічба, навукова абгрунтаваная. Яна, як той маяк у порце, свеціць і шлях указвае. Каб задаволіць людзей малаком і малочнымі прадуктамі, нам цяпер неабходна мець у сярэднім па Савецкаму Саюзу на кожныя сто гектараў зямлі — не менш дзесяці кароў.

— Дык гэта ж зусім мала, — здзівілася Ева.

— І зусім не мала.

Леў Раманавіч прыслухоўваўся да таго, як разважалі калгаснікі.

— Як бачыце, лічбы прыводзяць да павучальных разваг. У Закружскім калгасе дзве тысячы шэсцьсот восемдзесят гектараў зямлі, а дой-

ных кароў — сто дзевяноста восем. Няцяжка падлічыць, што ў вашым статку не хапае яшчэ сямідзесяці кароў.

— Ды і тыя непаўнацэнныя, — падказала Ніна Шумейка. — Трыццаць чатыры перадойкі. Лепш казу карміць, чым такую карову.

— Вось-вось... — Леў Раманавіч на белым аркушы паперы напісаў лічбу «1». — Першая задача, якая стаіць перад вамі: папоўніць статак жывёлы.

На хвіліну ўсе змоўклі. Потым Канькоў запытаўся ў заатэхніка:

— Што вы, Вера Антонаўна, скажаце? Як мы будзем папаўняць грамадскі статак?

— Сёлета і ў першыя месяцы наступнага года статак дойных кароў папоўніцца за лік першага ацёлу.

— На многа?

— На сорак дзве галавы.

— Астатнія, таварышы, трэба купіць,— сказаў Леў Раманавіч.— Я раіў бы набыць кароў бура-латвійскай пароды. Крыху далікатная скаціна, затое малочная.

— А грошы дзе ўзяць? — не вытрымаў Даміра.

Следам зашумелі брыгадзіры:

— І так па вушы ў пазыках.

— Іх жа трэба аддаваць.

— Браць — лёгка, аддаваць — цяжка.

Леў Раманавіч спакойна адказаў:

— Пазыка на набыццё кароў патрэбная. Яна дапаможа вам узняць гаспадарку. Аднак вялікі статак можа з'явіцца тым грузам, які толькі пацягне вас на дно, калі вы не здолееце дамагчыся павышэння надояў малака. Я лічу, што ў наступным годзе вы павінны змагацца за дзве з паловай тысячы літраў малака ад кожнай каровы.

— Будзе корм такі, як сёлета, дык не разлічвайце на многае, — азвалася Ліда Раковіч.

— І не праўду ты, Ліда, кажаш. Калі сёлета па дзве тысячы надоім, дык налета па тры — не менш, — заспрачалася з Лідай Зіна Асташка.

Дзяўчаты пажартавалі: бач, як дзядзьку выручае. Леў Раманавіч супакоіў дзяўчат.

— Возьмем найлепшую лічбу — дзве з паловай тысячы літраў ад кожнай каровы. Значыць, за малако калгас здолее атрымаць да канца года каля сямісот з паловай тысяч рублёў. Запомніце гэтую лічбу. Але, каб дамагчыся такіх надояў — мала аднаго энтузіязму. Патрэбны кармы. Вось лічбы: вам у наступным годзе трэба нарыхтаваць толькі для дойных кароў семсот тон сена, не менш паўтары тысячы тон сіласу, тон пяцьсот бульбы ды каля двухсот пяцідзесяці тон зялёных кармоў.

Многа ці мала? Давайце прымерым гэтыя лічбы да нашых магчымасцей.

Каб накасіць столькі сена, трэба мець не менш трохсот пяцідзесяці гектараў паплавоў. І не абы якіх... А так як мы накошваем па дванаццаць-пятнаццаць цэнтнераў сена з аднаго гектара, а на Балонні ўсяго толькі шэсць, дык лугоў трэба мець больш за пяцьсот гектараў.

Пяцьсот гектараў! І гэта для таго, каб пракарміць дзвесце семдзесят кароў. А сілас, бульба, зялёны корм. Потым у вас ёсць цяляты, авечкі, коні. Іх таксама трэба карміць. Значыць...

Брыгадзір Сямён Сіротка шпурнуў у кут недакурак.



— А значыць тое, што гэтыя кароўкі нас з'ядуць. Усё роўна, як у той біблії: паявілася сем худых кароў і з'елі сем тлустых.

— Кажуць, скаціне нічога не трэба, а яна вунь як аб'ядае чалавека. Дык жа так мы і без хлеба застанемся.

Зіна Асташка запыталася ў Льва Раманавіча:

— Дык няўжо ніякага паратунку няма?

— Ёсць. Зноў лічбы буду прыводзіць, пацярпіце ўжо. Я з Верай Антонаўнай распрацаваў комплекс мерапрыемстваў, якія забяспечаць сытую зімоўку жывёле і багатыя летнія пашы. А плошча пад лугамі застанецца тая самая.

Пачуліся галасы:

— Як жа гэта зрабіць?

— Можа, як у Кітаі, па два ўраджаі здымаць будзем?

— Балонне займае сто дваццаць гектараў,— пачаў Леў Раманавіч.— Сёлета з яго сабралі крыху болей за восемдзесят тон сена.

— Якое там сена: адно гора!.. Асака, вастрыца, зязюльчыны слёзы ды дзе-ні-дзе мятлюжак.

— Вось бачыце. А адтуль ужо ў наступным годзе можна будзе прывезці на фермы каля трохсот тон высакаякаснага сена — палову таго, што неабходна для статку кароў. Трэба толькі зараз жа пачаць залужэнне, як мы кажам. На першы час вам неабходна дастаць тону насення цімафееўкі і канюшыны і кілаграмаў шэсцьсот аўсяніцы лугавой. Наконт гэтага з таварышам Каньковым ёсць ужо дамоўленасць.

— Не будзе там канюшына расці. Рэчка разліваецца і вясной і ўвосень. Вымакне трава.

Леў Раманавіч растлумачыў.

— Рэчка залівае толькі частку Балоння: трыццаць-сорак гектараў. На гэтай плошчы можна пасеяць чаротніцу, бекманію, лісахвост, касцёр бязосты, трысцёвую аўсяніцу.

— Але дзе ж мы дастанем усе гэтыя травы? — разгублена запытаўся Лёнька Зайчык.

— Тут я маю расказаць вам пра аднаго чалавека, сціплага да непрыкметнасці. Жыве ён у вас. Займае невялікую пасаду. Але характар у яго неспакойны, такі, як і дваццаць-трыццаць гадоў назад. Па сваіх гадах ён мог спакойна сядзець дома ў Закружжы, або паехаць да сына. Натура не дазваляе. І вось гэты чалавек на працягу многіх год амаль без старонняй дапамогі рабіў тое, чым займаемся цяпер мы. Ён думаў і працаваў над паляпшэннем нізінных купкаватых лугоў. Ля лесу, там, дзе рэчка Паланая разліваецца па роўнядзі, ён гады два назад зрабіў эксперыментальны ўчастак высокаўстойлівых да затаплення траў. І амаль ніхто, таварышы, не звярнуў на гэта ўвагу. Больш таго, Даміра аднаго разу хацеў забраць на калгасны двор тры ці чатыры капы сена, якое прызначалася для абмалоту на насенне. Калі б ён тады гэта зрабіў, дык цяпер у нас не было б тых трохсот кілаграмаў насення чаротніцы, якое так нам патрэбна. Гэты чалавек — Дзямід Пракуда.

І вось тут я хачу, дарагія мае таварышы, звярнуць увагу на адну рысу савецкага чалавека — бескарыслівае служэнне народу. Ёсць у нас крыкуны: зробяць на грош, а крыку падымаюць на чырвонец. Такія людзі прывыклі быць на відавоку. Не заўважаюць іх работы, яны і працаваць не будуць. Гэта фальшывыя людзі.

Але ёсць і другія. Яны робяць сваю справу моўчкі, у далечыні ад людскіх вачэй. За яе яны не чакаюць пахвалы, узнагарод. Наадварот,

часам церпяць ад недалёкіх, кансерватыўных людзей. Церпяць, але не спыняюць сваёй работы, бо ведаюць, што яна ідзе на карысць людзям. Такія людзі былі, ёсць, а ў будучым іх будуць мільёны. Я, таварышы, думаю так, калі вялікі Ленін гаварыў пра людзей камуністычнага грамадства, дык ён меў на ўвазе такіх вучоных, як Папоў, Цыялкоўскі, Мічурын. Хіба гэтыя людзі рабілі ўсё дзеля славы або грошай?!. Не, яны жылі вялікімі ідэаламі. Яны працавалі для народа. Так будзе і пры камунізме. Цяпер яшчэ чалавек думае: «А што я атрымаю за сваю працу?» Тады ён будзе думаць пра іншае: «А што з гэтага будзе мець народ?»

Мы маем ужо вельмі павучальныя прыклады. Дзяўчаты самі пачалі рыхтаваць кармы для падкормкі. Яны не запыталіся: колькі нам заплацяць, а кіраваліся тым, каб калгас атрымаў больш малака.

Дзямід Пракуда, наш пастух, і яго падпасак Рыгор Макарык, піянерскае звяно Дзямідавага ўнука Валерыя Пракуды таксама не патрабавалі плату за працу. Яны вырошчвалі травы, праводзілі доследы, і ўсё гэта пасля асноўнага занятку. Хіба гэта не новыя рысы камуністычнага чалавека?

Мы здолеем вывесці калгас у перадавыя, калі кожны з сённяшняга дня пачне працаваць так, як працуюць гэтыя людзі.

Нам неабходна зараз жа апрацаваць пустошу. На вось гэтай схеме паказана, дзе і на якую глыбіню араць, у колькі слядоў праводзіць дыскаванне. Вясной наступнага года мы правядзём падкормку паплавоў ля ракі Пітамкі і на плошчы ў шэсцьсот гектараў пасеем канюшыну і цімафееўку пад яравыя культуры. Значыць, за зіму вам неабходна дастаць насенне на такую вялікую плошчу.

Але гэта не ўсё. Без сіласу не можа быць трывалай кармавой базы. Вам трэба пасеяць не менш паўтараста гектараў кукурузы, салодкага лубіну і люцэрны. А на прыфермскім участку віка-аўсяную сумесь і некалькі гектараў жыта на корм.

Тады ў нас вызваліцца салома на падсціл. А гэта павялічыць колькасць угнаенняў.

Як бачыце, нагаварыў я вам шмат. Вы, напэўна, думаеце, што затраты працы не апраўдаюць сябе. На лета вам трэба будзе для падсеву каля ста цэнтнераў насення траў. Вы пры сярэднім ураджаі атрымаеце столькі, што здолееце прадаць насення траў прыблізна на трыста тысяч рублёў і атрымаеце яшчэ дадаткова каля шасцісот цэнтнераў хлеба. Значыць, за год вы не толькі разлічыцеся з той пазыкай, што возьмеце сёлета, а яшчэ будзеце мець прыбытак. Выходзіць, што даход ад малака з'явіцца чыстым даходам.

Як бачыце, папрацаваць варта. Вось тут вы знойдзеце скрупулёзна складзены графік работы з улікам рабочай сілы калгаса. У разліках я зыходзіў з сярэдніх норм выпрацоўкі і васьмігадзіннага дня. Нічога страшнага тут няма. Трэба толькі дружна ўзяцца за працу.

Леў Раманавіч змоўк. Некаторы час панавала цішыня. Вера зноў успомніла прафесара Пальчыкава. Цяпер лекцыі «казінага дыетолага» не здаваліся ёй ужо бязглуздымі. Забытае да часу ўсплыло на памяць. Аднаго разу яны задалі прафесару пытанне: «Што рабіць, калі ў калгасе не знойдзецца адпаведных адзінак бялкоў?»

Пальчыкаў быў у жартаўлівым настроі. Пакратаўшы рыжаваты з сівізной вус, ён усміхнуўся. Студэнты ведалі, што адкажа ён нейкай прытчай, і загадзя радаваліся магчымасці пасмяяцца.



— Старажытныя яўрэі, — сказаў Пальчыкаў, — выблыталіся з гэтага становішча вельмі проста. Яны паmaліліся богу, і ён паслаў з неба манку. Праўда, для гэтага ім не трэба было пяць гадоў зубрыць латынь і слухаць старога Пальчыкава.

Цяпер адказ дзівакаватага прафесара набыў для Веры блізкі, зразумелы сэнс. Ёй зрабілася сорамна. Яна, савецкі заатэхнік, чалавек з вышэйшай адукацыяй, дасюль нічога не зрабіла, каб выправіць становішча з кармамі. Чакала, што нехта забяспечыць фермы сенам, сіласам, бульбай, а яна тады будзе складаць рацыёны, дабівацца надояў.

Ева прыкідвала ў галаве, колькі ёй трэба будзе арганізаваць брыгад.

Зіна думала над тым, што яна абавязкова будзе такой, як і яе дзядзька. Закончыць інстытут і пачне далей паляпшаць падзвінскую зямлю. Яе вочы сустрэліся з Лёнькавымі, і Зіна адчула, што ён зразумеў яе думкі.

Лёнька Зайчык думаў над тым, што яго спрэчка з Евай і Наташай Кароткай у клубе неяк вырашылася сама сабой. Яму нават смешна зрабілася, што тады ён так няўдала абараняў свае думкі наконт узнёсласці працы. Дзямід Пракуда, мабыць, і не задумваўся над такімі пытаннямі, а вось жа рабіў вельмі карысную справу.

— Што ж, таварышы, — перабіў яго думкі Канькоў, — цяпер справа за намі. Закончым жніво і адразу ў наступ на Балонне і паплавы. Леў Раманавіч просіць на некаторы час адпусціць яго. А потым ён зноў прыедзе да нас, каб разам змагацца за прыгажосць нашай зямлі. Я думаю, таварышы, што вы падтрымаеце маю думку: давайце пашлем у акадэмію шчырую падзяку нашаму земляку за дапамогу.

Леў Раманавіч хацеў сказаць, што гэтага рабіць не трэба, але змоўчаў, бо ўсе пачалі дружна пляскаць у далоні.

## III

Следам за сенакосам надыходзіў жніўны прыпар. На пагорках і паўднёвых схілах пабялела жыта, натапырылася важкімі калоссямі. Дні за чатыры да жніва прайшоў дождж, ціхі, без грому. Адразу ж адскочыла атава. Няўтульны, буры поплаў памаладзеў, апрануўся ў новую яркую вопратку. Жыта пачало хутка даспяваць. Толькі ў нізінах яно было ўсё яшчэ зеленаватым.

Канькоў, параіўшыся з брыгадзірамі, парашыў пачынаць жніво з панядзелка. Трэба было даць людзям памыцца ў лазнях, адпачыць пасля гарачай пары сенакосу. У суботу пад вечар на агародах закурэлі шызаватыя дымкі. Пакуль мужчыны палілі лазні, дзяўчаты і жанкі мылі ў хатах падлогу, прыбіралі ў сенцах, а сцяжынкі ад вуліцы да ганку пасыпалі пяском. Пасля падшывальцы-хлапчукі і недароскі-дзяўчынкі схадзілі ў лес за свежымі бярозавымі венікамі, нарвалі ля сажалак аеру, каб пасцяліць у хаце.

Усюды панаваў нейкі ўрачысты, святочны настрой. Ды і было чаго: ніколі яшчэ Закружжа не ўпраўлялася так хутка з сенакосам. А то на табе: скасілі ўсе сенажаці, застагавалі сена, ды яшчэ выдаўся вольны час!

За вёскай, ля самага лесу, ладзілася маёўка. Яшчэ з раніцы Ева сабрала хлопцаў, прывяла на раней аблюбаванае месца, загадала да

чарнаты выкасіць ладны паўкруг. Максім Шняк прытаптаў кожны грудок нагой — любіў ён танцаваць польку, самую хуткую, з ветрам, як ён сам гаварыў. На няроўным жа месцы які танец!..

Потым прынеслі з калгаснага двара чатыры доўгія цалёўкі, наўбівалі калкоў у зямлю, зрабілі лаўкі. Пасярэдзіне чатырохкутніка ўмацавалі жардзіну для ліхтара, а каля лавачак панатыркалі маладых бярозак, ліпак, елак.

Першымі паявіліся тут пажылыя, але надта цікаўныя жанчыны. Занялі найвыгаднейшыя месцы, сядзелі, абкрыўшыся хусткамі, — з лазні і прастудзіцца нядоўга, — няспешна вялі размовы. Пасля, калі сонца злезла з неба і схавалася за далёкім лесам, паявіўся на дарозе стракаты натоўп хлопцаў і дзяўчат. Наперадзе, ссунуўшы на патыліцу кепку, адмерваў цыбатыя крокі закружскі гарманіст Хведар Гаўрылец, высокі, з пераламаным яшчэ ў дзяцінстве носам. Ён то крута выгінаў мяхі гармоніка, то адмысловым рыўком сціскаў яго. Гармонік надрываўся: туві-туві-ту-ві-ві, а здалёк здавалася, што ён настойліва запрашае: ты хадзі, хадзі, хадзі...

На пачатак Хведар зайграў вальс «Бярозку».

У лад кружыліся пары, зганяючы ахвоту патанцаваць. Максім Шняк кіраваў усім гэтым. Яго басавіты голас гучаў упэўнена і цвёрда, як загад.

— Кавалеры на месцы, дамы злева праз аднаго... Кавалеры мяняюць дам, дамы кавалераў... Кавалеры справа, дамы злева... Дзве пары злева, дзве справа — вальс-зорачка... Вальс па выбару, выбар па любві...

Тут Максім не меў супернікаў. Жанчыны, штурхаючы адна другую локцем, пaціху перамаўляліся:

— Як па пісаным рэжа!..

— Дастанецца некаму лялька...

— Дзіва!.. З твару не брыдкі, а дзеўкі-дурніцы — на такіх пагля-даюць.

— Бабанькі, самі такія былі.

Ева танцавала, а сама не зводзіла вачэй з Максіма. Здарылася нечаканае — блізкі нялюбы Максім падмяніў у сэрцы любімага, але далёкага Макара Башукевіча. Танцуючы з Зінай Асташка, Ева бачыла, як Максім нашэптвае на вуха адной, абдымае пры ўсіх другую. Ева страшэнна раўнавала. У грудзях было горача, а сэрца то шалёна білася, то зусім заціхала. Вось Максім падышоў да Веры Алексіч. Раскланяўся, падаў руку, смешна выварочваючы локаць. Ева не бачыла Максімавага твару, але па тым, як Максім то згінаўся, то выпростваўся і прыкладаў руку да грудзей, разумела, пра што ідзе размова. Скамандаваўшы новую фігуру танца, Максім зноў пачаў згінацца і разгінацца. Нарэшце, вальс скончыўся. Максім адразу ж апынуўся перад гарманістам.

«Па Верынаму жаданню танец заказвае, — падумала яна, і ад той думкі зрабілася млосна. — Круцёлка, праўду пра яе кажуць. Замужняя, а на хлопцаў пазірае...»

Тым часам гарманіст зайграў танга. Ева бачыла, як Максім падышоў да Веры, нялоўка сагнуўся ў паклоне. Вера паклала руку на яго плячо, прыўзнялася на наскі, і ад таго яе зграбная постаць набыла яшчэ большую прывабнасць. Яны ішлі па крузе лянівым крокам. Максім нешта гаварыў Веры, а яна замест адказу ківала галавой. На круг вышла яшчэ тры пары. Пагарджаючы тэмпам музыкі, яны імкнуліся вырвацца з палону марудных рухаў — гэта ім не зусім удавалася. Танцоры час-ад-часу



спыняліся, каб падладзіцца пад гукі гармоніка. Толькі Максім і Вера ўлоўлівалі гэты павольны тэмп, таму танец у іх атрымліваўся прыгожа.

**«Што ён ёй гаворыць...** — думала Ева, з абурэннем пазіраючы на Веру. — Як жа ёй не сорам? Яна ж ведае пра нашу дружбу».

На кругу засталіся толькі Вера з Максімам. Цяпер ужо яна нешта гаварыла Максіму, а ён смяяўся і трос кучаравым чубам.

Ева яшчэ раз злосна паглядзела на іх, ціхенька выбралася з натоўпу, пайшла па сцяжынцы. Ішла паціху, быццам чакала, што Максім дагоніць яе, абдыме за плечы, прытуліць да сябе. На вечарынцы захліпваўся гармонік. Ева ніяк не магла ўцяміць, чаму гарманіст раптам змяніў танга на польку. Спынілася. Прыслухалася. Вечарынка прыглушана гула, чуўся шоргат ног, заліхвацкае прытупванне хлапечых ботаў аб сухую, утаптаную зямлю. Ева сумелася: «Чаму я, дурніца гэткая, збегла... Трэба было падысці да Максіма, напомніць пра сябе. Хлопцы яны такія: прапала з іх вачэй, дык лічы ўжо, што і з галавы прэч». Назад ішла шпарка. На маёўцы Максіма не было. «Хіба пайшоў з Верай?» У грудзях балюча заныла сэрца. Раптам Ева ўбачыла Веру. Тая стаяла тварам да яе і размаўляла з нейкай дзяўчынай. Ева прайшласа за зялёнымі прысадамі. Воддаль у цемрачы пабліскваў чырванню аганёк папяросы. Ева хутчэй адчула, чым зразумела, што гэта курыць Максім. Пайшла ў тым кірунку. Некалькі разоў спынялася, потым зноў ішла.

«Ён добры, — думала яна. — Дарэмна пра яго благое кажуць. Не такі ён ужо нахрапісты. Яго толькі ў рукі ўзяць як след».

Апошняя думка належала не ёй. Пачула яе Ева аднаго разу ад жанчын.

Потым яна здзіўлена падумала: чаму ён тут стаіць. Адказ на такое пытанне знайшоўся сам: «Убачыў, што мяне няма, і пайшоў шукаць». Закаханы ўсё разумее так, як яму хочацца.

Не дайшоўшы некалькі крокаў, яна спынілася. Раптам зрабілася няёмка.

— Ева?

— Ой, Максім! А я спалохалася,— голас у яе дрыжаў ад хвалявання. — Чаго ты тут?

— Так...

Абое раптам адчулі незвычайную нялоўкасць. Ева камячыла хусцінку. Максім моўчкі курыў.

— Халаднавата нешта, — сказала Ева, хоць было цёпла.

Максім зняў пінжак, накрываючы яе, паклаў рукі на плечы, ды так і не мог адняць. Былая бойкасць і смеласць зніклі бясследна. Ева павярнула да яго твар. Мяккія валасы казытнулі яму рукі. Максім паціху прытуліў яе да сябе.

— Не трэба тут, — прашаптала Ева, не вельмі спрабуючы схаваць твар.

Абое заціхлі, сціскаючы адзін другога ў абдымках. Усе дасюль крадзеныя пацалункі здаліся Максіму нікчэмнымі перад гэтым, што быў падараваны па каханню. Прадаўжаючы стаяць абняўшыся, яны ўсміхаліся найшчаслівейшымі ўсмешкамі. Гэтак жа абняўшыся, пайшлі паціху, добра не разумеючы нават, куды яны ідуць. Абое звычайна гаваркія, цяпер маўчалі, узрушаныя пачуццём той блізкасці, якая ўстанавілася паміж імі. Максім моцна сціскаў Евіну руку, але ёй зусім не было балюча. Яна таксама пацiскала яго руку, тады абое спыняліся, надоўга заміралі ў пацалунку.

Так яны доўга блукалі па сцежках. Потым невядома як апынуліся на тым канцы вёскі, дзе жыў Даміра. Прымасціліся на рэштках лавачкі, што хавалася ў зарасніку пахучай кашкі. Сядзелі, прытуліўшыся, маўчалі.

— Як там без нас? — парушыла маўчанне Ева.

— Танцуюць...

— Не шкадуеш, што звяла цябе?

— Не... Я, ведаеш, Ева, хачу сказаць табе,— Максім пасля кожнага слова рабіў паўзу, быццам узбіраўся на высокую гару: — Толькі ты не крыўдуй, бо я не надта ўмею ўсё як след сказаць. Адчуваю лепш...

Ева разумела, пра што ён збіраецца з ёю гаварыць. Ад шчасця ўсмешка не знікала з яе вуснаў.

— Давай, Ева, назаўсёды вось так.

Ён змоўк, хоць Еве хацелася, каб ён гаварыў яшчэ і яшчэ, паўтараў адно і тое ж. Яе нават смяшыла яго нясмеласць.

— Не ведаю нават... Цяпер вунь кідаюць часта.

— Каб я цябе кінуў?! Што ты, Ева!.. Я толькі з выгляду такі баламутны. Я цябе ніколі не пакрыўджу. Хочаш, прысягну нават. Я цябе, колькі загадаеш, чакаць буду. Абы разам з табой...

— Ну, так мне не выпадае. Яшчэ да райкома чуткі дойдуць, дык Ліпанава маральнае разлажэнне прыпіша. У нас наконт гэтага строга.





— Дык што ж нам і сустракацца не можна? — у голасе Максіма пачулася заклапочанасць.

— Дзівак, навошта нам сустракацца, калі мы і так заўсёды разам будзем!.. — І, ужо засаромеўшыся, дадала: — Ліпанава неяк казала, што камсамольскае вяселле арганізуе. Толькі вось ты не саюзны.

Максім хацеў сказаць, што ён даўно хацеў паступіць у камсамол, ды баяўся, што не прымуць. Але змоўчаў. Напружаную цішыню парушыла песня.

— З маёўкі ідуць, — сказаў Максім.

— Ліда пяе. Нібы пра нас, праўда?

Абое пачалі слухаць песню. Яна абарвалася нечакана. Доўга чуўся толькі смех ды прыглушаныя далечынёй галасы. Потым зусім блізка зайграў гармонік. Здавалася, ён іграе побач, але нікога не было відаць. Нарэшце, з завулка паявіліся чорныя і белыя постаці хлопцаў і дзяўчат. Гармонік усхліпнуў і зноў зайграў — вясёлую прыпевачную мелодыю. Дзяўчаты наперабой запелі частушкі, выстаўляючыся адна перад другой. Яны прайшлі паўз кусты кашкі, не заўважаючы там Максіма і Еву.

Раптам прыпеўка абарвалася. Тады Ева і Максім пачулі абураны голас Ніны Шумейка:

— ...А тое, што Дамірава жонка памёрла. На прыцемку прывезлі...

Адразу наступіла трывожная цішыня. Моладзь разыходзілася моўчкі. Ева яшчэ цясней прытулілася да Максіма.

## IV

На сядзібе МТС адзінай жывой істотай была каза. Высока задраўшы галаву, яна хадзіла па выпаленай сонцам рудой зямлі. Убачыўшы Канькова, каза спынілася, потым, цягнучы за сабой доўгую вяроўку, падышла да яго, баднула рагамі. Канькоў сцёбнуў яе дубцом, каза адышлася, наставіла рогі, пазірала на прышлага жоўтымі, зласнаватымі вачыма.

Канькоў кінуў дубец. Каза адразу ж пачала аб'ядаць свежае бярозавае лісце.

— Ну і гаспадары!.. — Канькоў узбег па прыступках у кантору, адчыніў дзверы. На чорнай працёртай канапе сядзела чарнявая дзяўчына з двума радамі пацерак на шыі і чытала страпаную кнігу. На Канькова яна нават не паглядзела.

— Дзе дырэктар? — запытаўся Канькоў.

— Няма, — адказала дзяўчына, прадаўжаючы чытаць.

— А дзе ён?

— Пра гэта не сказаў. І наогул, таварыш, у нас абед.

— Добра, пачакаю.

Канькоў азірнуўся. Апрача гэтай канапы ды стала, іншай мэблі ў пакоі не было. Сеў на край. Дзяўчына падабрала плацце, ледзь пасунулася.

— Ну і парадак у вас! — не вытрымаў Канькоў. — Абедаюць... Які ўжо цяпер абед.

Яго заўвагу чарнявая пакінула без увагі. Канькоў выняў блакнот, яшчэ раз прагледзеў запісы, ці не забыўся пра што. Не, усё ўлічана.

Нейкі час панавала цішыня.

— Што вы чытаеце? — Канькоў не мог сядзець вось так моўчкі.
— Моль Флондэрс.
— У самы раз!.. Паслухайце, а лепшае вы не змаглі знайсці?
Дзяўчына агрызнулася:
— Гэта ўжо не ваша справа.
— Чаму? Мая. Людзі вунь змагаюцца за тое, каб усё навокал прыгожым зрабілася: зямля, чалавек, а вы нямаведама чым захапляецеся...
Дзяўчына адарвалася ад кнігі, нялюба зірнуўшы на Канькова, адрэзала:
— Не перашкаджайце мне культурна адпачываць.
Канькоў ускочыў, прайшоўся па пакоі. «Вось бы цябе да нас, у Закружжа. Захапілася б ты там абнаўленнем паплавоў — усякае глупства з галавы вылецела б. Сядзіць тут, ляпае на машынцы, а жыццё міма ідзе. Трэба будзе Тамары сказаць. Яна ёй пакажа «Моль».
На двары пачуліся сварлівыя галасы. Прадаўжаючы думаць, Канькоў паглядзеў у акно. Пятроўскі старшыня разводзіў рукамі, нешта даказваючы дырэктару МТС. Той адмахваўся ад яго, як ад назойлівай мухі. Сакратарка ўжо сядзела за сталом. Аднекуль нават паявіўся крываногі ўслончык.
Дырэктар, убачыўшы Канькова, стрымана прывітаўся, не так, як раней, калі Канькоў быў яшчэ рэдактарам газеты.
— Ну, як ты там? — запытаўся больш для формы. — Да мяне? Зараз вось з ім разбяруся.
Ён паказаў на пятроўскага старшыню.
— Са мной і разбірацца няма чаго. Давай і ўсё тут. Умову падпісаў — выконвай,— адказаў той.
— Дзівак чалавек!.. Па ва́лу мы ўмову выканаем, а на сіласаванне ў мяне трактара няма. Ды і не хочуць людзі працаваць. Колькі там заробяць... Капейкі.
— Ды я ўжо дамовіўся. Толькі твой загад патрэбны. Я, значыць, з камбайна трактар здымаю, ды на сіласаванне... Камбайн гэты ўсё роўна стаяць будзе. У мінулым годзе за ўсё лета дваццаць гектараў зжаў, ды так, што пасля бабы дажынаць хадзілі. На вось, падпішы.
Прыткнуўшыся да стала, дырэктар падпісаў паперку, сказаўшы:
— Ад цябе не адчэпішся. Помні, будуць у райкоме сварыцца за камбайнавую ўборку — у кусты не хавайся.
Пятроўскі старшыня пацісну́ў дырэктараву руку, выбег з пакоя.
— Заходзь да мяне, — запрасіў дырэктар Канькова, адчыняючы дзверы ў кабінет.
— Я таксама па справе.
— Адчуваю. Да мяне ездзяць прасіць, а я езджу вымовы атрымліваць.
У кабінеце, маленькім пакойчыку з адным акном на эмтээсаўскі двор, было душна. Сонца напаліла стол, сцены, крэслы.
— З якой ты просьбай? — запытаўся дырэктар.
Канькоў расказаў пра задуму палепшыць паплавы, пра ўздым жывёлагадоўлі. Дырэктар слухаў уважліва, не перапыняў, але як толькі Канькоў кончыў расказваць, запытаўся:
— Трактары трэба?
— Так.
— Не дам. Няма ў мяне. Умова зацверджана, як жа я яе парушу?



— Фармальна ты, вядома, маеш рацыю. Але зразумей, Анісім Рыгоравіч, што ў людзей уздым, усе гараць гэтай ідэяй. Не скарыстаем энтузіязму — можа заглухнуць, нават сарвацца ўся справа.
— Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць... Ты вось цяпер мяне паслухай, — Анісім Рыгоравіч падсунуў лічыльнікі. — На ворыва мне, напрыклад, зацверджаны план дзесяць тысяч гектараў, на культывацыю — восем, на сяўбу — пятнаццаць і яшчэ на малацьбу, на вывазку торфу, на жніво, на ўборку ільну, — і ўсё гэта я павінен дакладна выканаць. Сам помніш, як на бюро мяне білі, калі ўмовы не выконваліся. Але я не толькі хачу выканаць, але і перавыканаць план па гэтых работах. Цяпер глянь, што атрымліваецца, калі б я ўзараў табе гэтае Балонне. У плане палепшанне лугоў не прадугледжана. Значыць, я павінен неяк выкруціцца. Ну, скажам, запішам гэтую работу, як уздым папараў. Тады ў цябе прыбавіцца пасяўная плошча, а на самай справе яе няма... Выходзіць, у тваім калгасе адпаведна знізіцца ўраджайнасць. А за гэта зноў не пахваляць.
— Пачакай, пачакай, нешта ты незразумелае гаворыш. Нарэшце, трактары вылучаны калгасу і ён мае права імі распараджацца як захоча.
— Дарагі, Васіль Мацвеевіч, гэта не зусім так. МТС — установа дзяржаўная. Мы не можам пусціць работу машын на самацёк. Можа табе захочацца ў горад на трактары ездзіць... А мы не дапусцім.
— Праблема палепшання паплавоў, — на твары Канькова выразна відаць было абурэнне. Раскосыя вочы гнеўна зыркалі на дырэктара,— гэта праблема ўздыму ўсёй гаспадаркі. Будзе больш сена — застанецца салома для падсцілкі, калгас атрымае больш гною, а гной павысіць ураджайнасць.
— Усё гэта я добра ведаю, але ўносіць дэзарганізацыю ў планаванне не маю намеру.
— Гэта, нарэшце, неразумна. Звычайны чыноўніцкі падыход да справы. Да чаго ў нас дайшло. Нядаўна прашу трактарыста падкінуць з лесу бярвенне. На чалябінцы за два рэйсы можна было прывезці. Не паслухаў. Давялося коней з сенаўборкі здымаць. А трактар так увесь дзень і прастаяў.
— А чаму стаяў?
— Бо рабіць не было чаго.
— Гэта ўжо ты вінаваты. Не прадаставіў фронт работы. За такія адносіны караць трэба.
— Ну, вось што,— перапыніў яго Канькоў,— дыскутаваць з табою ў мяне часу няма. А трактары вы ўсё роўна дасцё. Яны цяпер на прастоях у калгасах. Не хочаш сам, бюро абавяжа.
Дырэктар узрадавана трасянуў лічыльнікамі.
— Братка мой, абавяжа — усё зробім. Тады ўжо мы не адказваем.
Канькоў прышоў дадому раззлаваны, запытаўся ў Лёнькі Зайчыка:
— Даміра прыходзіў?
— Не было. Сказаў, не пойдзе.
— Чаму?
Лёнька ўзняў і апусціў худыя плечы: гэта азначала, што ён не ведае.
— Ну, і ліха з ім, — сказаў Канькоў. — Вось з трактарамі поўны канфуз. Не дазваляе дырэктар. А пакуль да бюро дойдзе, ды яшчэ Старыковіч дыскусію завядзе, — спознімся. Самы час за Балонне брацца.

— А што, каб я з хлопцамі пагутарыў. Нашы яны, закружжскія, згодзяцца. Толькі вось з гаручым як будзе?..

У Канькова аж заззялі вочы.

— Гаручае дадзім. Нам толькі пачаць. А там райком пойдзе насустрач. Дык пагутары з імі. Плату мы ім дамо.

— Ну што вы, Васіль Мацвеевіч, якая тут плата!.. Яны за так зробяць, пабачыце.

— А калі не згодзяцца? За гэта іх могуць з работы зняць.

— Дык ніхто і ведаць не будзе.

— Добра было б. Я яшчэ з Ліпанавай пагутару. Няхай падкажа хлопцам.

— Ды яна ўжо гутарыла, прасіла памагчы. Нядаўна паехала. Хацела вас бачыць.

«Вось так яно і будзе заўсёды, — з прыкрасцю падумаў Канькоў, — не па-людску неяк... Ды хіба яе ўгаворыш!»

— Васіль Мацвеевіч, а з Дамірам вам пагаварыць трэба. Траўма ў яго вялікая. Чалавек ён горды, спатыкнуўся, цяпер можа пайсці кульгаць.

— Ды ты што, вучыць мяне задумаў?— яго вочы здзіўлена пазіралі на Лёньку. Потым Канькоў паклаў руку на Лёнькава плячо, сказаў: — А, наогул, маладзец! Так і трэба. Многа ў цябе работы ці мала, а пра таварыша забываць нельга. Абавязкова схаджу, Лёня.

З таго самага часу, як на агульным сходзе Даміру знялі з работы, Канькоў бачыўся з ім не больш трох разоў.

І кожны раз пачынаць сур'ёзную размову было недарэчы. Спачатку шанаваў ягоны гонар, думаў: няхай крыху астыне. Потым, калі памёрла жонка, было нязручна лезці да чалавека з нейкімі прапановамі, хоць Канькоў добра ведаў, што вылечыць старшыню можа толькі праца. Калі быў складзены план пераўтварэння Балоння, Канькоў запрасіў Даміру на праўленне.

«Паставім яго старэйшым над усімі паплавамі, — думаў ён,— работа на прыродзе паможа пазбавіцца тужлівых думак». Даміра на праўленне не прышоў. Прынеслі ад яго запіску: «Як я ёсць не ўгодны ў сучасны момант алімент, прашу сябе дарэмна маёй персонай не турбаваць».

Назаўтра і адбылася тая сустрэча, якая вывела Канькова з раўнавагі. Страціў Канькоў на час былы свой камісарскі падыход да людзей. Ды і было ад чаго.

Сутыкнуўшыся з Дамірам на вузкай сцяжынцы, дзе і разысціся было нялёгка, Канькоў узрадавана крыкнуў:

— Злавіў я цябе, нарэшце!.. Ты, брат, ад людзей не хавайся...

Даміра падышоў зусім блізка, адштурхнуў Канькова, працадзіўшы скрозь зубы:

— Ты вось што, на маёй дарозе не стой. Думаў, чалавек ты, аж не... поскудзь. На чыё месца пайшоў?

Каб гэта сказаў хто іншы, можа, прапусціў бы Канькоў тыя словы міма вушэй. Але гэта быў Даміра, чалавек, які некалі выратаваў яму жыццё. Таму пачутая абраза балюча кальнула ў сэрца.

— Раскайваешся, што некалі вынес мяне з-пад агню?..

— Я многіх з-пад агню вынес. А мяне... — у Даміры сарваўся голас, на нейкі момант твар яго пасінеў, вусны нервова перасмыкнуліся. — Ты лепш не кратай мяне... Я, можа, цяпер на ўсё гатовы. — Апошняе ён сказаў ужо зусім спакойна і цяжка пакрочыў у бок сваёй хаты.



Цяпер, ідучы да Даміры, Канькоў па-іншаму ўспрымаў тую размову. Не выходзілі з галавы Тарасавы словы: «Я многіх з-пад агню вынес. А мяне...» «Сам жа вінаваты, — падумаў Канькоў, — дакаціўся, далей няма куды. З-пад якога агню цябе трэба выносіць? Крытыкі спалохаўся. Партыя паправляе, а ты хочаш, каб цябе ад справядлівай кары выгарадзілі. Не, брат, прабач. А рука ў такіх справах павінна быць цвёрдай. Тут на дружбу не спасылайся. Запартызаніўся. Добры хлопец быў. Баявы, смелы. Калі ж ты арыенцір страціў, у балота трапіў? Вось і расплачвайся за памылкі... Толькі памылкі не адразу з'явіліся? Вядома, не. Дзе ж тады мы былі? Чаму позна спахапіліся? Раней руку трэба было падаць чалавеку. І правільна сказаў Даміра: ён умеў у час ад смерці ўратаваць. А мы не здолелі. Ды і я надта добры. Пакрыўдзіўся, а за што? Ці заглянуў у яго душу? Не; пабаяўся. Часу для размовы не знайшоў. Яго гонар шанаваў, ці, можа, свой? Няёмка! Сорамна! А тое, што таварыш па барацьбе побач з табой выходзіць са строю — гэта цябе, таварыш камісар, мала абыходзіць. Сорамна, Канькоў, сорамна перад уласным сумленнем».

Думкі бязладна круціліся ў галаве. Канькоў то дакараў сябе за безуважлівасць і чэрствасць, то спрабаваў прыдумваць тыя словы, якія мусіў сказаць Даміру. Ішоў ён хутка, нават не заўважаючы гэтага. Перад брамкай спыніўся, потым рашуча націснуў на клямку. Дзверы былі зачынены. Канькоў падумаў, што ў хаце нікога няма. Але ў празрыстую сінь неба ўзнімаўся з коміна шызаваты дымок. Тады Канькоў абышоў плот, прабраўся на дзядзінец з боку агароду. На двары ў беспарадку валяліся пасечаныя дровы, ляжала рассохлае карыта на баку, пагнутае старое вядро і вялізная бочка. З бочкі вылез руды, касматы сабака, разінуў ляпу, каб забрахаць, ды, відаць, паленаваўся і зноў схаваўся ў засені.

Даміра нешта разбоўтваў у вялізнай місцы. Убачыўшы Канькова, адсунуў міску, нахмурыў бялесыя, выгарэлыя бровы.

— Адведаць вось прышоў, — у Канькова адразу зніклі раней прыдуманыя словы.

— А я табе радня якая? Ці мо' паспачуваць хочаш? Як там партызан Тарас Даміра бліны пячэ...

— Хоць прысесці запрасі.

— Месца колькі хочаш, толькі ў мяне часу на пустыя размовы няма.

Канькоў пакутліва падбіраў патрэбныя словы. Яны ж, як на тое ліха, былі нязграбнымі і зусім не тымі.

— Доўга надакучаць я табе не збіраюся. Прышоў вось запытаць, што ты рабіць думаеш?

— Гэта ўжо не твая справа. Вы сваю зрабілі, цяпер няхай мая галава баліць.

— Ну, так лёгка ты ад мяне не выкруцішся. Я сур'ёзна пытаюся, дзе ты працаваць збіраешся.

— Ягады збіраць буду, — злосна адрэзаў Даміра.

— Работа чыстая. Толькі не падабаецца мне твая размова.

У Даміры пераламалася правае брыво, палезла ўверх.

— Не па нраву, кажаш. Вунь бог, а вунь парог... Без дарадчыкаў абыйдуся.

— Бога не бачу, а парог сам знайду. На каго ты, Тарас, крыўдзішся? На мяне? На Сяльчонка? На бюро? На калгаснікаў? Пасады, можа, шкада? А ці помніш, Тарас, як цябе хацелі камандзірам атрада паста-

віць? Што ты тады адказаў? «Не магу, умення не хопіць. Я прывык фашыстаў радавым біць». Хапіла ж у цябе тады шчырасці сказаць, што не справішся. А вось цяпер не хапае сілы прызнацца, што не здолееў калгасам кіраваць. А што не здолееў — факт!

— Здолееў бы, каб памаглі! І ты мне маралі не чытай. Я сам цяпер — во які вучоны!

— Не дайшло, відаць, да цябе. Скажы, Даміра, за што ты ваяваў?

Даміра недаверліва пазіраў на Канькова.

— Вядома за што, за Савецкую ўладу...

— А калі паслухаеш цябе, дык здаецца, быццам ваяваў ты за пасаду, ды яшчэ за тое, каб ніхто табе не мог слова сказаць.

— Ну, дык дабівайце мяне. Вось ён, Тарас Даміра, сем разоў страляны партызан, — і, ужо зноў забыўшыся на ўсё, закрычаў. — На каго злуюся, ведаю. Дземідзенку слухалі.

— Пачакай, пачакай, дзівак. Не Дземідзенка ж цябе вучыў у справаздачы лічбы перапраўляць?

— З табой мы ўсё роўна не згаворымся. Ідзі ты, Канькоў, лепей у кантору, ды баб агітуй. Глядзі, каб Матрона Башукевіч табе ферму не разваліла.

Яшчэ раз злосна зірнуўшы на Канькова, Даміра пабег на кухню. Там ён дастаў з паліцы муку, ледзь не палову кулька высыпаў у міску. Канькоў прайшоўся па хаце. І тут ён заўважыў рамку, што ляжала на лаўцы. Асцярожна, каб не выпала шкло, прыўзняў яе: з рамкі на яго глянулі праніклівыя, засмучоныя нечым вочы Анюты.

Канькоў доўга глядзеў на партрэт Дамiравай жонкі, ціхай, зусім непрыкметнай жанчыны. Калі, бывала, здаралася заходзіць яму да Даміры, Анюта неяк незаўважна падавала на стол закуску, потым садзілася на край лаўкі і ўвесь вечар маўчала, быццам яе і не было ў хаце. «Чаму ў яе такія вочы? Няўжо яе Даміра крыўдзіў?» Канькоў успомніў, як на могілках, калі апусцілі труну ў магілу, у Даміры раптам скалануліся плечы, потым абвіслі, быццам нехта перабіў яму ключыцы. «А што я ведаў пра іх жыццё? — думаў Канькоў.— Лічыліся сябрамі. Няўжо я быў вінаваты больш за Даміру ў яго памылках?»

Ён убачыў цвікі і малаток, якія ляжалі ў кутку. Нешта, відаць, перашкодзіла Даміру прымайстраваць партрэт да сцяны. «Дзе ж ён хацеў павесіць партрэт? Напэўна, тут, на самым відавоку».

Ён узяў цвік, малаток і, не звяртаючы ўвагі на Даміру, пачаў убіваць яго ў сцяну. Прымерыў рамку. Убіў унізе яшчэ два цвікі.

— У цябе, можа, шнур які знойдзецца? — запытаўся ён, не паварочваючыся да Даміры.

Адказу не было. Канькоў азірнуўся, усё яшчэ трымаючы партрэт у руцэ. Тарас стаяў, прыхіліўшыся да вушака. Яго плечы, як і тады, на могілках, калаціліся пад старой, выгарэлай гімнасцёркай.

Канькоў, нячутна ступаючы, падышоў да яго, спыніўся, нерашучы і збянтэжаны. «Што я павінен рабіць у такі час? — думаў ён. — Гаварыць. Але навошта тыя словы. І ўсё ж яны патрэбны. А якія?»

Даміра плакаў, чуліся яго прыглушаныя стогны.

— Даруй, Тарас, — не разумеючы нават чаму, сказаў Канькоў. — Калі можаш, даруй.

Даміра павярнуўся. Твар у яго быў сухі, але нейкі адразу пачарнелы.

— Каб ты ведаў, кім яна была мне... Ды я без яе прападу зусім. Я за гэтыя паўтара года, як даведаўся пра яе лёс, крывёй сышоў. Як у тумане хаджу. Сяджу на сходзе, а сам пра яе думаю, пра сябе.

— Дзецям хацеў бліноў напячы?

— Яна, бывала, блінамі іх карміла. Папрасілі сёння: напячы бліноў. А я цеста не ўмею зрабіць. Поліўка нейкая атрымалася. Наліў на патэльню — не адстае.

— А дзеці дзе?

— На вуліцу адправіў. Глядзяць яны на маю работу здзіўленымі вачанятамі і, здаецца, што дакараюць мяне. Разы тры патэльня з рук вывальвалася.

— Давай спачатку партрэт павесім. А пасля ўжо за бліны возьмемся. Шукай вяроўчыну якую.

Даміра прынёс шпагату. Канькоў прымацаваў шпагат да рамы, павесіў партрэт на сцяну. Тарас стаяў пасярод хаты, анямелы, у безвыходнай журбе. Канькоў абняў яго за плечы.

— Нам з табой, Тарас, давялося хаваць не мала самых дарагіх і блізкіх людзей. І калі мы засталіся жыць, дык не для таго, Тарас, каб гібець у журбе і горы. Помніш, як мы вялі бой за Пагодзінскі мост. Дзесяць нас тады было. І калі паміраў хто, мы гаварылі: весці агонь і за яго. Мы тады выстаялі, Тарас. І толькі таму, што мы біліся і за жывых і за мёртвых, якія не паспелі кончыць сваю справу.

— Цяжка мне.

— Вельмі цяжка, Тарас. Каб папрасіў ты ў мяне кавалак майго жыцця для Анюты — аддаў бы.

— Як не хацелася ёй паміраць. За мяне баялася. Яна мяне з аднаго позірку разумела.

Яны памаўчалі, прадаўжаючы стаяць абняўшыся. Потым Даміра запытаўся:

— Ты не думай, што я які баламут. Гора мяне падсекла. Я яшчэ пакажу сябе.

— Такіх у архіў не спісваюць. Толькі не сядзі адзін. Ідзі працаваць.

— На каго ж дзяцей кінуць?

— І гэта прыдумаем.

У хату ўвайшла Волечка, за ёй перакуліўся цераз парог Коля. Канькоў пазіраў на дзяцей і, шчыра кажучы, дзівіўся: не ў прыклад бацьку, яны былі чыстыя, прычасаныя. Не зважаючы на чужога, дзеці падбеглі да бацькі, абхапілі яго за ногі і наперабой пачалі хваліцца:

— А я ела бліны...

— Я таксама еў.

Даміра чамусьці незадаволена моршчыў лоб, а дзеці прадаўжалі расказваць пра тое, як іх карміла і мыла цётка Ніна.

— Хто ж гэта? — пацікавіўся Канькоў.

Тарас спачатку зрабіў выгляд, што не пачуў, а калі Канькоў паўтарыў пытанне, неахвотна адказаў:

— Шумейкава, даяркай працуе. Не люблю я, калі самі на паслугі набіваюцца.

— Малайцы камсамольцы! А я толькі думаў іх скіраваць на тое, каб табе памаглі. Аж яны самі дадумаліся. Так што ты, брат, гэтага не цурайся. Наш партызанскі закон: узаемавыручка.

V

Даўно ў Закружжы не было такога вяселля: з кветкамі, стужкамі, песнямі, скокамі і караваем. Гасцей панаехала і панайшло шмат. Ні адна закружская хата не ўмясціла б такую процьму народу. Таму пад вясельныя сталы забралі клуб. Дзяўчаты-шаферкі напярэдадні павымывалі сцены і падлогу, пад столлю развесілі гірлянды з каляровай паперы, у кутку, супроць сцэны, за сталом паставілі жытнёвы сноп, а ля яго прымацавалі да сцяны два ручнікі. Сноп — пажаданне маладым жыць багата, ручнікі — азначалі сямейную згоду. Клуб неяк адразу пасвятлеў, набыў тую ўтульнасць, якой так не хапала яму. А назаўтра, калі гуртам і па аднаму прыйшлі госці, старым здалося, што не вяселле будуць спраўляць тут, а кірмаш, якога даўно ўжо не было ў ваколіцы.

На сцэне размясціліся музыканты. Даўгалыгі з перабітым носам Хведар Гаўрылец, у вышыванай кашулі з чырвонай стужкай, што была прышпілена на грудзях, — шафер маладога, — трымаў яшчэ бацькоўскі гармонік.

Рыжы Лёнька Зайчык, трымаючы балалайку, спрабаваў схаваць рукі ў кароценькіх рукавах пінжака. Збоку яго прымасціўся Аўтух Нямога, ленаваты мужчына гадоў пад пяцьдзесят, першая і апошняя скрыпка ў аркестры.

За сталом размяшчаліся па радні. Пад снапом селі маладыя. Еве падклалі падушку, каб нявеста выглядала больш самавіта. Адна справа — прыгажосць, іншая — рост. Малая нявеста — лішнія кпіны. Ды і што за нявеста, калі яе за сталом не відаць. Пад стол жа Еву хаваць няма патрэбы: з твару яна не брыдкая.

На Еве белае бліскучае плацце з блакітным поясам, ледзь падсінены вэлюм удала прыколаты да валос паўмесяцам з кветак. Сёння Ева крыху бледнаватая — хвалюецца, хоць выгляду не падае. Па прывычцы распараджаецца і тут, улазіць у справу, якую належыць рабіць гаспадыням.

— Дзяўчаты, сюды хадзіце,— крычыць яна даяркам, якія купкай стаяць ля дзвярэй.

— Села, вось і сядзі, — шэпча свацця. — Не дзяўчат табе, Евачка, цяпер трэба пільнавацца.

Малады ў новым гарнітуры з чырвоным бантам на лацкане пінжака, прабраўшыся за стол бокам, спаважна садзіцца побач з Евай. У яго крыху збянтэжаны выгляд, і гэта адразу заўважаюць госці. Хлопцы ў куточку жартуюць:

— Папаўся, хто кусаўся!

— Не глядзіце, што малая — вочы павыдзірае.

—Хлопцы, што я чуў, каб вы ведалі... Учора Максім да Канькова бегаў, прасіўся ў брыгаду меліяратараў. Далібог, Еўчына работа!..

— Пачакай, яна яго яшчэ на ферму пашле.

Абапал маладых садзяцца шаферы і шаферкі. Потым сваты і сваццці, а далей ужо блізкая і далёкая радня.

Канькова з Верай пасадзілі бліжэй да маладых.

— Прыпар, а мы гуляем, — гаворыць ён Веры.

Стары дзед Анісім супакойвае старшыню:

— Ты, Мацвеевіч, людзям давярай. Яны цябе на падвядуць. Сёння пагуляюць, а заўтра ўтрая зробяць. Чалавек не машына. Яму адхланенне трэба.



Вера адчувае сябе ніякавата, хоць ёй вельмі падабаецца гэтая буйная весялосць.

Пад вокнамі і ў дзвярах натоўпы цікаўных хлапчукоў і дзяўчынак. І Веры ўспамінаецца, як некалі вось такой жа нямоглай дзяўчынкай і яна бегала глядзець маладых. Даўно гэта было, вельмі даўно, а так выразна прыпамінаецца ўсё, быццам не прайшло яшчэ і года.

Дзед Анісім налівае поўную чарку, жартуе:

— Бачыш, дачушка, як табе спрыяю. Цераз верх цячэ. Сумнавата табе ў нас крыху, але людзі ўсюды родныя, — ён падносіць сваю чарку, нязграбна трымаючы яе ў каструбаватых, нягнуткіх пальцах.

— Горка! — крычаць з далёкіх сталоў.

— Есці нельга!..

— Палын, а не ежа..

— Го-о-о-рка!..

Ева адмахваецца і рагоча, закідваючы галаву на залацісты аржаны сноп. Максім, трымаючы ў руцэ чарку, нахіляецца да яе, выцягвае губы і нясмела цалуе.

— Ы-ы-х, — барадаты Мікола Шумейка гудзе басам, — мне б такое шчасце выпала...

— Сядзі, стары, адцалаваўся ўжо,— штурхае Міколу жонка.

Аўтух Нямога, выпіўшы адразу тры чаркі, узлез на сцэну, спрабуе перакрычаць гасцей:

— Маладым нашым, Максіму Лявонавічу і Еве Андрэеўне, каб добра жылося, у хаце вялося, каб не было сваркі, каб у місе плавалі скваркі, каб сто гадоў пражылі, дзяцей нагадавалі, ажанілі і замуж аддалі ды і пра нас не забывалі — пажадаем многія годы. Ура!!.

Маршы іграюць усім: шаферам, сватам, бацькам, гасцям і тым, хто хоча пацешыць сябе. Аўтух Нямога добра ведае, каму што пажадаць.

Іграючы на скрыпцы, ён шныпарыць вачыма па людзях, ацэньваючы беспамылкова, хто і колькі пакладзе грошай на талерку. Калі чалавек салідны, яму і марш салідны, і велічанне адпаведнае.

За сталом паводкавай хваляй шуміць бяседа.

— Канькоў, Васіль Мацвеевіч, думаеш, не разумеем, што цяжка табе? Усё бачым і паможам, — крычыць дзед Анісім.

Старшыня сур'ёзна заўважае:

— Дык хіба вы не для сябе працуеце? Не дапамога, а добрая работа патрэбна.

— Яно так толькі гаворыцца. Даміра, бывала, казаў: «Мой калгас», «Ты ў мяне работнік нікуды не варты». Вось і прывыклі, быццам не для сябе, а для Даміры стараліся.

— За вочы нагаворваць на чалавека няма чаго.

— Няўжо ж не запрасілі Даміру? — чуецца шэпт.

— Ён жа нявесту вунь як падтрымліваў.

— Добрае забываецца хутка.

— Сама бачыла, як Еўка да яго хадзіла. Не пайшоў.

— І малайчына. Жонку шануе.

Даяркі сядзяць гурбой, расчырванеліся, падліваюць адна другой у чаркі, але не п'юць, а толькі прыгубляюць.

— Піце, дзеўкі, і шабаш дзела, — падахвочвае іх Раман Дзяжэвіч.
— А кароў хто даіць будзе?
— Ён вып'е і шабаш дзела, спаць ляжа.
— Вось бы пра падкормку падумаў.
— Дабярэцца Канькоў да цябе, пачакай.
Дзяжэвіч выпівае шклянку адным дыхам, закусвае селядцом і толькі тады адказвае даяркам:
— Я чалавек вёрткі: ты мяне пад лёд, а я адтуль з рыбкай у роце.
— А мы цябе не пад лёд, а за вушка ды на сонейка. З-пад ільду ты вынырнеш...
Ева ўвесь час штурхае пад бок маладога. Той пасля кожнага катурха асцярожна ставіць на стол чарку, тлумачачы гасцям:
— Арганізма нешта не дазваляе. Прабачце ўжо!
— Не можна яму, — падхоплівае Ева. — У яго галава пасля выпіўкі баліць. Валянціна Іванаўна — доктар — сказала, што гэта гарлатанія.
Вера ледзь стрымлівае ўсмешку: любіць Ева мудрагелістыя словы, а вымаўляць іх не ўмее.
— Піце, госцейкі, ешце, не крыўдзіце маладых, — запрашае гасцей Максімава маці.
Пад вокнамі і на ганку таксама ідзе гамонка.
— Не думана, не гадана — вяселле.
— Кумачка, цяпер дзеўкі не тыя. Гэта мы, дурныя, чакалі, пакуль у сваты прыедуць. Самі на шыю вешаюцца.
— Такому, як Максім, не надта павесішся.
— Пагаварвалі ж, што Башукевічаў сын лістамі з арміі яе закідваў.
— Башукевічаў?.. Добры хлопец, няма чаго казаць.
— І добра зрабіла, што не чакала. Калі яшчэ прыедзе, ды ці ўзяў бы?..
— І то праўда.

## VI

А Макар Башукевіч ішоў пехатою, не падазраючы нават, што пра яго ідзе гаворка ў Закружжы. Емкаваты салдацкі чамадан здаваўся лёгкім. Ссумаваўся Макар па Закружжы, па маці, па вечарынках, ды, што грахі таіць, і па Еве. І хоць ён быў яшчэ далекавата ад Закружжа, але ўсё навокал ужо напамінала аб ім. І дарога, што збягала з аднаго пакатага ўзгорка толькі, відаць, для таго, каб зноў узабрацца на другі, яшчэ больш круты; і парадзелыя лясы, і маленькія ручайкі-рачулкі, дно якіх зусім перасохла; і нават неба, такое неабдымнае і сіняе...

Макару вельмі хацелася, каб трапіць у Закружжа днём. Прайшоўся бы па вуліцы на зайздрасць хлопцам. Як ні кажы, а шырокай чырвонай палоскі на пагонах і трох значкоў на гімнасцёрцы яшчэ ні ў кога не было з закружскіх хлопцаў! Нажаль, на ранішні аўтобус спазніўся, і вось давядзецца прысці дамоў у прыцемках, калі вуліца бывае пустой.

Макар уяўляў, як здзівіцца маці, калі ён пастукае ў шыбу. Ён ужо чуў яе ўстрывожаны голас: «Хто там?» «Пусціце пераначаваць, калі ласка. З дарогі збіўся», — адкажа ён падробленым, чужым голасам. Маці адчыніць акно, пляскане рукамі, прыцісне далоні да грудзей: «Макар, сыночак, паслухаўся ўсё ж... Не пакінуў мяне адну».

Яна выбежыць на двор, абхопіць яго за шыю, і яны пацалуюцца. Потым маці захоча адабраць чамадан, каб абавязкова самой занесці яго ў хату.

Цяпер ён чамадан ёй не аддасць. За тры гады паразумнеў. Не тое, што тады, як ішоў у армію. Тады ён выпіў і маці несла яго чамадан, а ён ішоў, абняўшы Ксеньку за плечы, і кляўся ёй у каханні. Пасля, калі пачалі развітвацца і маці хацела пацалаваць яго, дык ён адвярнуўся, чамусьці засаромеўшыся матчынага пацалунку. Праўда, ён развітаўся за руку і з Ксенькай, але з ёю ён пацалаваўся напярэдадні. Цяпер яму добра вядомы смутак растання і радасць сустрэчы.

У думках добра маляваліся ўсё новыя і новыя дэталі сустрэчы. Маці спячэ яечню, паставіць на стол міску смятаны, нарэжа хлеба і, вядома, прынясе бутэльку гарэлкі. Ён будзе есці, а яна расказваць. Паскардзіцца на Даміру, перакажа вясковыя навіны.

«А што яна будзе казаць пра Еўку, — тое пісьмо надта засмуціла Макара.— Няўжо і яна хлусіла мне ў пісьмах». Мусіць, маці проста недалюблівае Плескачыху, таму і спаганяе злосць на Еве. Што, каб прайсці ля клуба. Можа, Ева будзе яшчэ там. «Макар, — здзівіцца яна, — чаму ты мне не напісаў? Я цябе сустрэла б». Можа і праўда, зрабіў глупства. Трэба было б напісаць. Ева сустрэла б. Яна такая. Баявая дзяўчына.

Макар яскрава ўявіў сустрэчу з Евай. Пакуль ён вітаецца са сваёй маці, Ева стаіць воддаль, яе прыпухлыя вусны паўраскрыты, карыя вочы паблісквающь хітравата і задзірліва: а са мной пацалуешся? Ён падыходзіць, абнімае яе і моцна цалуе ў тыя спакуслівыя пунцовыя вусны.

Макар зусім не заўважыў, што падышоў да вёскі. А яна была ўжо недалёка, за рэчкай, чарнела на пагорку сілуэтамі прысад і пабудоў. Перамяняючы чамадан на другую руку, Макар на імгненне спыніўся і тады выразна пачуў у начной цішы млявы голас гармоніка.

«Вечарынка!» — мільганула ў галаве думка. Ён паставіў чамадан, прыслухаўся. З вёскі, прыглушаны далечынёй, далятаў да яго аднастайны говар ладоў, ценькае пііканне скрыпкі, — шум вялікай вечарынкі.

«Проста на вечарынку трапіў», — падумаў ён. Уладна пацягнула туды, дзе сабраліся хлопцы і дзяўчаты. Макар пакрочыў яшчэ больш жвава.

На вуліцы трапляліся людзі. Праходзілі міма, не вельмі звяртаючы ўвагу на Макара. Ужо непадалёк ад клуба незнаёмыя хлопцы перагарадзілі яму дарогу, зацягнуліся папяроскамі, каб хоць пры цьмяным святле разгледзець, хто ідзе.

— На пабыўку, сяржант? — запытаў адзін з іх.
— Назусім.
— Нашага палку прыбавілася.
— А што тут у вас?
— Вяселле. Спяшайся, а то пап'юць усё.

Хлопцы пайшлі, а ў Макара ёкнула ў грудзях. Усміхнуўся: пуджаная варона куста баіцца.

Ля клуба на пляцоўцы поўна народу. Два ліхтары адганяюць ноч за прысады. У паўзмроку віхрам носяцца пары — танцуюць польку.

Макар падыходзіць усё бліжэй. Трапляе на асветленую паласу, і тады нехта вылузваецца з натоўпу, кідаецца да яго, абдымае.

— Макар... Цімафеевіч... Глядзіце, хто прыехаў!

Макар пазнае Дзяжэвіча. Брыгадзір ледзьве стаіць на нагах.

— Малайчына, у самы разгар трапіў. Гарэлкі во! — рабром далоні ён праводзіць па шыі. — Хадзем вып'ем, і шабаш дзела!..

Макару робіцца няёмка. Ён вызваляецца з учэпістых рук брыгадзіра, той, страціўшы апору, пераступае з нагі на нагу і зноў хапаецца за Макара.

— Дзядзька Раман, што вы, сорамна неяк мне...

— Сорам не дым. А ты плюнь. Што такое сорам? Цьфу — вось што. Ды потым я тут гаспадар.

П'яная балбатня Дзяжэвіча супакоіла Макара.

— Дачку аддаяцё?— пытаецца ён.

— Больш чым дачку, — мармыча Дзяжэвіч. — Хадзем, брат, і шабаш дзела.

Дзяжэвіч сілком цягне Макара. Абодва ўразаюцца ў натоўп, з цяжкасцю пракладваючы сабе дарогу.

— Глядзі, Макар!

— Які Макар?

— Башукевіч!

— Ну?!

Макар азіраецца, але Дзяжэвіч зноў цягне яго.

— На нагу наступіў, чорт!— крычыць нехта і моцна грукае ў брыгадзіравы плечы кулаком.

Ад такога кухталя Дзяжэвіч ляціць потырч, Макар спрабуе яго ўтрымаць, і яны абодва вылятаюць на круг, у самы вір полькі. Першая пара імкліва пралятае міма, абдаўшы Макара вецярком, затое другая з разгону збівае Дзяжэвіча з ног, і ён ляціць на натоўп, што абступіў ігрышча. Макар не паспявае яго нават утрымаць. Пара спыняецца. Макар бачыць белы вэлюм, вянок з кветак, задзёрты кірпаты нос і быстрыя палахлівыя вочы. Ён спрабуе злавіць іх позірк, а яны хаваюцца ў цемнаце веек. Нешта гарачае і п'янае б'е Макару ў галаву. Вочы ўжо нічога не бачаць, апрача вэлюма і вянка з кветак. І здаецца, што ўсё сціхла, хоць недзе далёка бязладна мітусяцца, скачуць пары.

— Сітуацыя! — чуе Макар за сабой голас, які і выводзіць яго з утрапення.

Ён паварочваецца, натоўп расступаецца перад ім. Да Макара далятаюць словы:

— Пабялеў аж...

— Трэба ж было якраз патрапіць.

— А во... Ці ён дзеўкі не знойдзе?!.

— Як ні кажы, а з носам.

Макар спорна адмервае крокі. Яму хочацца ўцячы далей ад гэтага месца, ад назойлівых гукаў гармоніка і скрыпкі.

«Значыць, праўду казала маці. А я, дурань... Ну, пачакай жа... Цяпер ні адной не паверу. Усе роўныя. За пісьмамі хадзіў у горад. Ліха з ёй... Падумаеш, будзе лепшая...»

А перад вачыма ўсё яшчэ стаяла тая Ева, якую выпеставаў у думках: задзірлівая, кірпаносая, з ямачкамі на шчоках.

У хаце не было святла. Макар узышоў на ганак, спыніўся, перавёў дыханне.



«Чорт з ёй, круцелькай!» — услых вылаяўся ён і пастукаў у дзверы.

З хаты ў сенцы рыпнулі дзверы. Босыя ступакі прашлёпалі па падлозе, заціхлі.

— Хто там? — запытаўся з сянец мужчынскі голас.

У Макара перасохла ў горле. Ці не трапіў ён з гарачкі ў чужую хату. Азірнуўся. Як апёкшыся, адскочыў, паставіў чамадан. Не, гэта была хата яго маці. Зайшоў.

Мужчына чыркнуў запалкай. Скупаватае святло разагнала цемрач.

— Дык гэта ж Макар! — сказала маці. У яе голасе Макару пачулася трывога. Маці ўхапіла плацце, пачала адзяваць яго праз галаву.

Мужчына запаліў лямпу. Цяпер Макар добра разгледзеў яго. Так, гэта быў ненавісны Пацей, закружскі паштавік Дземідзенка.

Даўно, неяк адразу пасля вайны, яшчэ пры жыцці бацькі, падслухаў Макар размову Даміры з маці.

— Хвастом круціш...— злосна пазіраючы на маці, гаварыў Даміра.

— А табе што? Ну, мілы ён мне.

— Каб з кім, а то з Пацеем,— Даміра вылаяўся, плюнуў.

— У цябе парады не папрашу...

З таго часу засела ў Макаравай галаве, як стрэмка, нянавісць да Пацея. Доўга не мог ён глядзець у вочы і маці. Сачыў за ёй усюды пільнымі юначымі вачыма. Потым, калі памёр бацька, падазронасць хлопца падвоілася. І вось не ўпільнаваў...

Дземідзенка адзеўся, павязаў тальштук. Маці мітусілася ля печы.

— Нечакана ты.

— А мы вось тут па-старыкоўску жывём,— Дземідзенка сеў на канапу, дрыжачай рукой падкруціў рыжыя вусы. Макар пaглядзеў на яго з несхаванай нянавісцю і агідай. Маці распальвала трэскі на прыпечку. Усё выпадала ў яе з рук, яна з боязню паглядала на сына і войчыма. У яе вачах была збянтэжанасць і нейкая пакорлівая дагодлівасць.

— Я ўжо думала, не прыедзеш,— гаворыць яна чужым голасам.— Чаго табе на цаліну ўздумалася ехаць?

— Мусіць, лепей было б, — адказвае Макар. Пякучая крыўда душыць яго: ён жа тут лішні. Навошта толькі было адгаворваць яго ад паездкі на цаліну.

— Мы вас, Цімафеевіч, вельмі чакалі. Маці, калі атрымала пісьмо, увесь дзень плакала.

— Адзіны ты ў мяне, і раптам такое пісьмо...

«А Пацей?» — злосна падумаў Макар.

Маці ставіць на стол яечню. Дземідзенка прыносіць з сянец паўлітра гарэлкі, адкаркоўвае бутэльку, налівае ў чаркі. «У нас такіх не было»— думае Макар.

Яны сядзяць з трох бакоў стала, далёкія і незадаволеныя адзін другім.

— За шчаслівы, так сказаць, зварот у родныя пінаты,— важна гаворыць Дземідзенка, падымаючы чарку. Трымае ён яе двума пальцамі, смешна адставіўшы астатнія.— Каб, значыць, усё ў лад ішло.

Ён хоча чокнуцца, але Макар падымае чарку і паспешліва п'е.

— На здароўечка, Цімафеевіч,—ківае галавой Дземідзенка.

Маці падсоўвае відэльцам сакоўныя скваркі.

— Еш, а то там, напэўна, не надта ласаваў.

— Кармілі добра...

— Жывём мы, дзякуй богу,— гаворыць Дземідзенка, і гэтае «мы»

балюча кранае Макара.— Я Матроне Максімаўне даўно казаў: напішы сыну, вам тоісць. А яна саромелася ўсё. Яно, так сказаць, вашая справа па маладосці вядомая: свая сям'я будзе, ну, а Максімаўна як бы і ні пры чым.

У Макара непрывычна кратаецца павека. Ён прытрымлівае яго пальцам, чуе, як пад ім ліхаманкава б'ецца жылка.

— Вяселле ў нас сёння,— ні з таго, ні з сяго гаворыць маці...

— Прыпар, а ў нас гулянкі,— падхоплівае Дземідзенка.— Парадку няма. Як у арыфметыцы, ці два разы па тры, ці тры разы па два — здабытак аднолькавы. Змагаюся за праўду адзін, як той рыцар.

— Табе, Толя, больш за другіх трэба, — маці па-дзявочаму пачырванела ад таго, што назвала Дземідзенку пры сыне Толем.

— Такі ўжо я неспакойны,— звяртаючыся да Макара, растлумачыў той.— Пасада ў мяне незайздросная. На задворкі выпхнулі... А чаму? Бо праўду-матку паважаю. Чалавеку далікатнай натуры цяжка жыць у наш час.

— А дзе ваша тая жонка?

Маці дакорліва паглядзела на сына.

— Вы пра Алену Міхайлаўну? Пытанне вашае, малады чалавек, не тактоўнае, але вас я не вінавачу. У глухамані на пачцівасць не вельмі глядзяць. На пытанне ваша, аднак, скажу,— Дземідзенка ўздыхнуў, пасунуўся да Макара, панізіў голас: — Яна вось усё разумее. У вашай маці вельмі багатая душа. А лёс вёў, вёў яе па дальніх сцежках, пакуль не прывёў да такой жа душы. Тут удумацца трэба толькі. Вы вось асуджаеце маці. Па вачах вашых бачу, што думаеце. Навошта, маўляў, яна выходзіла замуж. І зноў я вас у гэтым не вінавачу. Чалавек у першую чаргу пра сябе думае. Вам хацелася б, каб маці ўсю ўвагу толькі вам аддавала. А маці пра сябе думае. Яна хоча пажыць на поўныя грудзі. Цяпер аб сабе больш трэба клапаціцца.

— Шкурніцкі ў вас падыход да жыцця,— не вытрымаў Макар.

Маці з затоенай боязню пазірала на мужчын. Некалькі разоў памыкалася нешта сказаць, але, відаць, баялася ўступіць у спрэчку. З-за стала вылезлі незадаволеныя адзін другім. Дземідзенка злосна соп у рыжыя вусы. Маці кідала на Макара непрыхільныя позіркі. А ён думаў: «Збягу, абавязкова збягу. Няма чаго мне тут рабіць».

## VII

Горад знемагаў ад спёкі. Нясцерпнай гарачынёй патыхала ад дамоў, асфальтаваных вуліц і нават ад сквераў. Дачасна пажаўцелі, згарнуліся лісты на ліпах, павыгарала трава ў парках. Толькі на газонах цвілі браткі ды астры.

Вуліцы не паспявалі паліваць: яны адразу ж высыхалі. Тады машыны ўздымалі сухі, перацёрты пыл. Ён вісеў шызай смугой у паветры да позняй ночы. Пад раніцу асядаў, прыцярушваючы бурую траву жаўтаватай пудрай.

Пасля раскошы падзвінскіх паплавоў Льву Раманавічу было душнавата. Ён не паспяваў выціраць твар. І ад таго, што вельмі часта цёр па ім насоўкай, лоб і шчокі балюча гарэлі. Ды яшчэ ўедлівы пыл непрыемна казытаў у горле і носе.



«Цяпер,— думаў Алексіч,— добра было б прайсціся па поплаве босаму. Атава адрасла, трава мяккая, аксамітная. А потым выкупацца б у Пітамцы!» І раптам яму прышла на дзіва простая думка. Што, наогул, яму рабіць у сталіцы? Вывучаць гэтую пажухлую траву ў парку або, нават, на вопытным полі? А лепшае вопытнае поле, чым у Закружжы, цяжка знайсці. Няўжо навуковыя работы можна пісаць толькі вось тут, у сценах акадэміі? Ну, можа, фізікам, хімікам, літаратарам, філосафам варта сядзець у цішы лабараторый ці архіваў. А наша месца там, у калгасах. Ды і дысертацыі трэба пісаць там жа. І перш чым несці іх на вучоны савет, аддаць на суд калгаснікаў. Лёнька Зайчык або Дзямід Пракуда такіх заўваг наробяць, што ніколі і не прадбачыў бы. Бліжэй да жыцця, да людзей! Найвялікшыя адкрыцці чалавецтва нарадзіліся якраз не ў кабінетах, а ў маленькіх хацінках, у глушы. Цыялкоўскі вынайшаў ракетныя рухавікі ў Каломне, Мічурын вывеў новыя пароды пладовых дрэў у Казлове, а першы паравоз паявіўся на Урале. Потым чаму мы так вузка вывучаем праблемы?.. Адзін выводзіць пароды жывёлы, другі новыя гатункі пшаніцы, трэці вывучае лугі. А хто займаецца ўсім комплексам сельскагаспадарчых задач? Эканамісты? Але не ўсе яны дасканала ведаюць тэорыю земляробства і таму таксама абстрактна вырашаюць свае праблемы. А што, каб разам узяцца за ўсё адразу. Разлічыць, спланаваць, ажыццявіць поўны комплекс работ па ўзмацненню такіх калгасаў, як закружскі «Маяк». Я ведаю травасеянне, заатэхнію, ветэрынарыю, паляводства. А эканоміку? Толькі ў аснове. Мала! Сёння ж засяду!..

Ён адчыніў цяжкія дубовыя дзверы, зайшоў у вестыбюль. Там панавала прахалода, мабыць, гэта толькі здавалася пасля доўгай хады па яркай вуліцы.

Не заходзячы да сябе, Леў Раманавіч пайшоў да Алега Пятровіча. У пярэднім пакоі бялявая Любачка друкавала нешта на машынцы. Убачыўшы Льва Раманавіча, яна перастала друкаваць, прывіталася.

— Алега Пятровіча, відаць, няма?

— Ёсць, ёсць. І вас даўно чакае. Мы ўжо думалі, што вы не прыедзеце.

— І былі вельмі рады?..

— Не... — збянтэжылася Любачка.

З кабінета вышаў Алег Пятровіч, моцна паціснуў руку, запрасіў:

— Заходзь, калі ласка.

Як і месяц назад, у кабінеце было адчынена акно. Як і тады, ярка свяціла сонца. Яны селі адзін супраць другога. Потым Алег Пятровіч дастаў з папкі канверт, павярцеў яго ў руках.

«Зноў заява...» — абыякава падумаў Леў Раманавіч.

— Што ты там нарабіў? — Алег Пятровіч прыжмурыў вочы, але чамусьці ўсміхнуўся. — Мы тут нічога не ведаем, а нейкі Іван Іванавіч Ашман піша нам пісьмо, просіць адклікаць яго ў Беларусь, каб ажыццяўляць твае праекты.

Алексіч і сам нічога не разумеў. «Ці не жартуе Алег Пятровіч?» Але той не жартаваў.

— Я ўжо ўсе часопісы і газеты пераглядзеў, — прадаўжаў ён. — Думаў, можа ты сам дзе пісаў ці карэспандэнт які. Але нідзе нават радка пра вашы справы не знайшоў, калі не лічыць аднаго крытычнага арты-

кула аб калгасных справах ды яшчэ аднаго пісьма, таксама крытычнага парадку.

— Сам не ведаю, адкуль ён пачуў пра маю работу,— шчыра адказаў Алексіч.

— Выходзіць, добрая справа мае хуткія крылы. Ну, расказвай усё, толькі па парадку.

Леў Раманавіч коратка расказаў пра тую работу, якую ўдалося правесці, не прамінуў падзяліцца сваім планам пераехаць на год-другі ў Закружжа.

— Бліжэй да жыцця?

— Так. У само жыццё.

— Гэта вельмі добра. Праз тры дні даложыш пра ўсё на прэзідыуме. Толькі што быў у прэзідэнта. Ён таксама вельмі зацікавіўся і пісьмом гэтага Ашмана, і тваёй работай. А цяпер, не хацелася мне псаваць табе настрой, але, напэўна, давядзецца, — ён пільна паглядзеў у вочы Алексічу, быццам хацеў у іх глыбіні прачытаць яго думкі. Леў Раманавіч захоўваў спакой, быццам тое, што будзе сказана зараз, датычыць не яго, а кагосьці далёкага і незнаёмага.— Паступіла тут на цябе скарга, адным словам, абвінавачвальны акт. Абвінавачваюць цябе ў маральным разлажэнні, пішуць, быццам ты кінуў жонку, ездзіў у калгас зусім не для таго, каб весці навуковую работу, а каб зноў сысціся з ёй. Але як толькі атрымаў ліст ад першай жонкі, дык кінуў другую і зноў паспяшаўся ў Мінск.

Пісьмо ўразіла Алексіча. Неспакойныя, пакутлівыя думкі апанавалі яго. «Хто мог так перакруціць факты? Што гэта ўсё азначае?»

— Мы можа і не звярнулі б увагі, але, разумееш, пісьмо было напісана на інстытут. Выпадкова яго распячатаў Мажэйка. Ну, і, вядома, як толькі дазнаўся, што Лілія Нікадзімаўна табе пісала, адразу прыбег да мяне. Я спрабаваў угаварыць яго. Нават трапіў у няёмкае становішча. Кажу яму: «Паклёп гэта, Іван Іванавіч». Дык ён пры мне пазваніў жонцы, а яна кажа, што сапраўды пісала табе. Я, вядома, дрэннага тут таксама нічога не бачу: у яе твой сын. Магла яна, нарэшце, расказаць бацьку пра сына? Я нават і цяпер не ўпэўнены, што ты атрымаў іменна такое пісьмо.

Алег Пятровіч уважліва сачыў за Алексічам. Думаў, што вось зараз ён нецярпліва ўскочыць з крэсла, пачне абурацца, крычаць. Але той чамусьці ўсміхаўся змораным усмешкай.

— Нажаль, дарагі Алег Пятровіч, — Алексіч зноў ледзь усміхнуўся, — я не магу выкарыстаць вашу падказку, каб апраўдаць сябе. Лілія Нікадзімаўна сапраўды пісала мне пра сына, але з тым разлікам, што я забуду пра ўсё былое.

— Дык усё ў пісьме праўда? — здзіўлена запытаў Алег Пятровіч.

— Не зусім. Аўтару, відаць, многае вядома, вось толькі ён не мог мае намеры адгадаць. Калі я ехаў у Закружжа, дык нават і не падазраваў, што сустрэну там Веру Антонаўну. Можа тады я і не паехаў бы. Нашы сустрэчы праходзілі на людзях, за выключэннем адной. Паехаць у Мінск і не пагаварыць з ёй я не мог. І мы пагаварылі. Мне было вельмі цяжка: я ўсё яшчэ кахаю яе і, мусіць, буду кахаць да самай смерці... Як мне ні было цяжка, але я не выказаў ёй сваіх пачуццяў. Яна зразумела мяне і, павер, Алег Пятровіч, мне здалося, што нават з палёгкай уздыхнула.

Яны доўга маўчалі. Алег Пятровіч, шчыра кажучы, не ведаў, што



яму трэба гаварыць у такіх абставінах. Яму толькі было незразумела адно, чаму раптам Алексіч гэтак памякчэў, быццам нехта падмяніў яго. Не вытрымаў, запытаўся. Леў Раманавіч адказаў не адразу. Устаў, прайшоўся па пакоі, потым зноў сеў.

— Паплавы ўсё, — нарэшце сказаў ён. — Я за гэтыя дні шмат думаў. Вельмі мы многа і дарэмна спрачаліся ў сценах гэтай установы. З сябе віны таксама не скідаю. Ваяваў я супраць Мажэйкі, ну, проста сказаць, з адвагай незвычайнай. А якая з таго была карысць? Спрэчкі ў навуцы трэба весці не за кафедрай, а на месцы. Спачатку я сваю праўду ў адным калгасе дакажу, потым у раёне, у вобласці — вось і спрэчкам канец. Калі ты сапраўды заняты важнай справай, дык, папершае, часу няма на бязмэтныя спрэчкі, а па другое, раптам пачынаеш бачыць, што важней. Ты вось мне толькі адно скажы, Алег Пятровіч, хто гэта так добра за кожным маім крокам сочыць? Вядома, калі гэта не сакрэт.

— Ніякага сакрэту няма. Нейкі Дзямід Пракуда, пастух.

Алег Пятровіч быў зноў здзіўлены. Алексіч ускочыў, прабег па пакоі, пабарвавеў ад злосці.

— Пакажы подпіс,— запатрабаваў ён. Перш чым прачытаць пісьмо, ён надзеў акуляры, доўга глядзеў на канверт, на подпіс, потым кінуў пісьмо на стол. — Хлусня, падлог... Не ён пісаў...

— Але пісьмо з Закружжа.

— Адтуль. Але нізашто не паверу. Дзямід пра ўсё мне сказаў бы і толькі б тады напісаў.

— Чаму ты так думаеш?

— Бо людзям веру. А гэта нейкі бессаромны хлус пісаў.

— Дык чаго ты хвалюешся?

— А таму, што вось такія тыпы перашкаджаюць і працаваць і жыць. Вось скажы, Алег Пятровіч, напрыклад, вы высветліце, што гэта агідная хлусня, злосны паклёп. Што будзе таму чалавеку? Нічога. У лепшым выпадку палаюць яго крыху. А да яго такія ўшчуванні не прыстаюць, як гарох да сцяны. Затое і мне і вам яго паклёпы не мала турбот прынеслі. А чалавек той зноў пачне пісаць, абліваць каго-небудзь брудам. Калі ж такое скончыцца?.. Мне кажуць, каб я не звяртаў увагі. Але ж гэта не вырашэнне такіх спраў.

— Гэта праўда, Леў Раманавіч. Калі на дрэве тырчыць сухі востры сук і кожнаму ён ірве вопратку, дык такі сук абразаюць.

— Вось-вось. Але ліха з ім. Ёсць больш важныя справы. Думаю, Алег Пятровіч, брацца за вялікую справу. Хачу, каб не ў адным «Маяку», а ва ўсім Падзвінскім раёне ўзняліся на паляпшэнне паплавоў. Ты і не ўяўляеш, Алег Пятровіч, якія гэта адкрые перспектывы!.. Высокаўраджайныя палі, багатыя сенакосы культурных траў, статкі пародзістай жывёлы, цудоўныя калгасныя пасёлкі — вось якім будзе Падзвінне, вёскі якога былі зруйнаваны вайной. Тады і ў людзей зусім загояцца тыя раны, якія нанесла вайна.

— Адзін думаеш справіцца?

Леў Раманавіч, захоплены знянацку, разгубіўся, але ненадоўга.

— Не, аднаму цяжка. Буду прасіць у акадэміі стварыць комплексную брыгаду з вучоных, якая б дапамагла калгасам усё разумна спланаваць, прадугледзець і ажыццявіць намечаныя планы. Вось, калі падтрымаеце, скажу шчырае дзякуй.

Алег Пятровіч прайшоўся па кабінеце, потым спыніўся перад Алексічам.

— Вось табе мая рука ў знак шчырай падтрымкі. Ну, а калі лічыш і мяне за вучонага, дык бяры да сябе ў такую брыгаду.

## VIII

Ева неяк адразу адчула смак да сямейнай утульнасці. З ранку да вечара яна тупала па Максімавай хаце, наводзячы ў ёй свае парадкі. Неўзабаве знікла пад столлю павуцінне, зазіхацела падлога, на вокнах паявіліся цюлевыя фіранкі. Хата адразу пасвятлела, набыла абжыты выгляд.

Ева амаль усё рабіла сама. У клубе бывала рэдка. На яго дзвярах цяпер праз увесь дзень вісеў чорны вялізны замок. Людзі былі заняты на ўборцы, таму Еву не асабліва турбавалі. Разы са два толькі прыбягаў Лёнька, пагрозліва крычаў:

— Ты што гэта, Ева, надумала. Усю работу трэба на поле перанесці, а ты зусім клуб на замок!..

— І што ты за ўказчык такі, — адмахвалася Ева. — Без цябе ведаю, што трэба рабіць.

Лёнька абураўся:

— Пачакай, не паглядзім, што ты сакратар камітэта камсамола... Кончыцца тваё спакойнае жыццё.

І яно сапраўды неўзабаве скончылася самым нечаканым парадкам.

У той дзень дамалачвалі азімыя і Максім позна прышоў дахаты. Ева цярпліва чакала яго, хоць ёй абавязкова трэба было сёння ісці ў клуб.

Некалькі дзён назад Ева пабывала ў раённым цэнтры. Хадзіла яна туды па сваіх справах, але па прывычцы не магла абмінуць райком камсамола. Ліпанаву яна сустрэла на калідоры, і размова адбылася на хаду.

— Па справе да мяне? — запыталася Ліпанава.

— Ага, па справе, — схлусіла Ева.

— Тады расказвай адразу, бо мне трэба ў калгас ехаць.

— Хацела, каб да нас лектара прыслалі, — сказала Ева першае, што прышло ў галаву.

— Добра... А на якую тэму патрэбны лектар?

— Пра каханне, — павесялела Ева, добра ведаючы, што такога лектара няма.

Але Ліпанава спакойна адказала:

— Прышлем. Калі мяркуеш вечар правесці? Дваццаць трэцяга? Добра, пішы аб'яву.

Ева спадзявалася, што Ліпанава забудзе і не прышле лектара. У апошнія дні работы ў Евы не паменшылася, а прыбавілася. Трэба было прыбраць на двары, падфарбаваць вокны, пабяліць печку. Прыезд лектара быў бы недарэчы.

Але, наперакор усяму, лектар прыехаў.

«Пачакаюць крыху, — думала Ева, гатуючы вячэру. — Вось толькі прыдзе Максім з работы, тады і адчыню клуб».

Пакуль Максім мыўся, вячэраў, дык зусім сцямнела. Праз адчыненае акно далятаў у хату далёкі гул. Гэта ля клуба шумела моладзь. Ева хуценька памыла талеркі, адзела сваё выхадное плацце. Максім курыў, назіраў за яе зборамі.



— Куды гэта ты? — запытаўся ён.

— У клуб. Сёння ж у нас лекцыя...

— Муж — на бакавую, а жонка — гуляць?

— Чаму, пойдзем са мной.

— А калі я замарыўся і ніякага ў мяне жадання ні да лекцый, ні да танцаў няма.

Ева, збянтэжаная, церабіла матузок, на якім віселі ключы ад клуба.

— Але ж я грошы за гэта атрымліваю. Каб якія танцы, а то лекцыя...

— Ці не Макар Башукевіч гэтую лекцыю прачытае?

— Што ты!.. — задыхнулася Ева.

— А вось так... Спадзявалася, што я пра вашы спатканні нічога ведаць не буду. Памылілася.

— Максімка, пра што ты?..

— А пра тое, як на тым тыдні сустракалася ў клубе.

Толькі цяпер Ева здагадалася, што Максім і сапраўды ведае пра тую кароткую сустрэчу з Макарам, якая была з тыдзень назад.

...Макар два разы на тыдзень ездзіў у раённы цэнтр і нават у Віцебск, каб уладзіцца на работу. За месяц свайго цывільнага жыцця ён абышоў каля двух дзесяткаў розных устаноў, арцелей і фабрык, але ўсе прапановы прыходзіліся яму не да спадобы. Макар любіў сваё Закружжа, падзвінскія паплавы, неглыбокую, але рыбную рэчку Пітамку. Ніколі ён не пакінуў бы Закружжа, каб не здрада Евы, а яшчэ больш замужжа маці.

Аднаго разу ён ішоў паўз клуб. Дзверы былі адчынены, і Макар насуперак цвёрдаму намеру ніколі не сустракацца з Евай, заглянуў у бібліятэку. Ева складала план работы на месяц. Пачуўшы гулкія ў пустым клубе крокі, яна прыўзняла галаву, пачырванела. Абое былі збянтэжаны, адчувалі сябе няёмка. Макар ужо раскайваўся, што зайшоў. Хіба будзе лягчэй на сэрцы ад размовы? І ўсё ж ён стаяў: нейкая ўладная сіла ўтрымлівала яго тут.

— Добры дзень, Ева, — нарэшце сказаў ён. Ева ледзь чутна адказала на прывітанне. — Зайшоў вось паглядзець, як ты працуеш. Не сумна табе?

— Не.

— На полі весялей, там людзі.

— Тут таксама людзі бываюць.

— Хіба такія, як я, каму няма чаго рабіць... — Макар горка ўсміхнуўся. — Ну, як ты жывеш? Кажуць, што з цябе неблагая жонка атрымалася.

Размова ніяк не клеілася. Абое гаварылі непатрэбныя, пустыя словы.

— Мне трэба дамоў ісці, — раптам сказала Ева.

— Баішся?

— Каго?

— Максіма... А можа мяне?

— Нікога я не баюся. А толькі не выпадае мне з табой сам-на-сам размаўляць.

— Можаш не размаўляць. А вось, як чытача, абавязана абслугоўваць, — у голасе Макара чуліся здзеклівыя ноткі. — Дай мне камплект «Аганька», пачытаю.

— У другі раз, Макар. Хутка Максім прыдзе, і мне трэба быць дома.

— Бібліятэка павінна зараз працаваць ці не? Ну, дык, раз адкрыта, няма чаго замыкаць яе.

Макар сеў за стол, узяў у рукі стары часопіс, пачаў гартаць, не спускаючы вачэй з Евы.

— Макар, я прашу цябе, ідзі, — Ева ледзь стрымлівала слёзы. — Помсціш мне? Дык жа сам вінаваты, а не я.

— Сам? — ускіпеў Макар. — Клялася, а потым выраклася.

Ева маўчала. Ды і што яна магла сказаць. Атрымалася, вядома, не зусім добра. Толькі ў жыцці часта так бывае і ці ж вінавата яна, што пакахала Максіма. Каб быў бліжэй Макар, усё было б інакш. «А можа тады ён здрадзіў бы мне», — падумала Ева, і гэтая кволая надзея на апраўданне крыху падвесяліла яе.

— Знойдзеш ты, Макар, сабе дзяўчыну, ды яшчэ лепшую за мяне.

Макар хацеў адказаць, што яму ніхто не патрэбны, апрача Евы, але сказаў зусім іншае:

— Ды ўжо ж халасцяком не застануся, — ён шпурнуў часопіс, прыўзняўся. — Можа хоць да хаты правяду.

— Што ты... — спалохалася Ева.

— Не бойся, разбіваць вашае жыццё не буду.

Да парога яны ішлі разам. Потым Ева папрасіла:

— Макарок, родны, не хадзі за мной. Ну, дрэнна я зрабіла, палай мяне, хочаш, нават лабі, але не хадзі. Люблю я яго.

— А мяне не?

— І ты добры, абодва добрыя, але ён лепшы.

Макар усміхнуўся, працягнуў руку.

— Назаўсёды, значыць, бывай...

Ева схавала рукі за спіну, баялася падаць іх Макару. Тады ён абхапіў яе за плечы, пацалаваў і, перш чым яна паспела апамятацца, выбег з клуба.

Усё гэта прыпомнілася Еве цяпер, і яна з жахам падумала, што Максім ведае не толькі пра іх размову, але і пра той недаравальны пацалунак. Ей было сорамна і горка ад думкі, што яна не здолела тады адштурхнуць Макара. А можа Максім нічога не ведае? Хіба ён цярпеў бы тыдзень? Даўно ўжо выказаў бы ёй сваё абурэнне. Пэўна, што не ведае. Гэта надало Еве храбрасці.

— І як табе не сорамна, — пачала яна наступаць на мужа. — Хіба я не працую так, як усе? Хіба я забараню людзям хадзіць у клуб. Ну і што, калі Макар аднаго разу зайшоў у чытальню...

— А-а-а, дык гэта праўда?.. А я не верыў. Ну, вось што, падавай заяву ды на ферму ідзі. У клубе табе рабіць няма чаго. А там ты на маіх вачах будзеш.

Можа яны яшчэ доўга спрачаліся б, каб не заявіўся Лёнька.

— Ну вось, — пачаў ён, — людзі чакаюць, а яны тут любошчы разводзяць. Зараз жа клуб ідзі адчыняць!..

— Ты хто? — пагрозліва запытаўся Максім. — Чаго крычыш? На каго крычыш?

— Гэта, Максім, наша справа, камсамольская. Табе тут утыркацца няма чаго. Нам трэба выхаваўчую работу праводзіць.

— Ну і праводзь... — Максім дастаў з шафы ключы, паклаў іх на стол. — Вось бяры і праводзь.

— Максімка... — ірванулася да ключоў Ева.



— Мы ўжо з табой вырашылі: пойдзеш на ферму, — спыніў яе Максімаў голас.

Лёнька ўзяў ключы, паклаў іх у кішэню, пастаяў крыху, потым пайшоў, але каля дзвярэй спыніўся.

— Думаеш, Максім, мы вось гэты факт без увагі пакінем? Не, брат, сваю камсамолку ў крыўду не дадзім. Раю табе забыць гэтыя феадальныя погляды на жанчыну.

— Як жэнішся, тады мы з табой паразмаўляем, — стрымліваючы сябе, сказаў Максім, — а пакуль рана табе пра сямейныя справы размовы весці.

Цяпер Лёнька не мог ужо адступіць. Ён вярнуўся ад дзвярэй, сеў на лаўку.

— Думаеш, што ты паразумнеў, калі жаніўся? Вось жа зусім не. Бадай нават аслеп ад шчасця. Хіба за цябе адважылася б катория пайсці? Гэта толькі Ева такая храбрая, ды і любіць цябе, дурня.

— Ну, ты паасцерагайся, а то я магу выставіць...

— Не такі ты ўжо і грозны. Звычайны раўнівец. А ці ведаеш ты, Максім, што такое рэўнасць? — і, не даючы таму вымавіць слова, прадаўжаў: — Рэўнасць — гэта перажытак даўняга мінулага, самае дзікунскае пачуццё. Дзікун не мог аналізаваць чужыя ўчынкі і думкі, ды і ў сваіх дрэнна разбіраўся. Яму і здавалася, што ўсе робяць так, як ён. Калі ён, напрыклад, баязлівец, дык і ўсе такія. Калі ён разбэшчаны, дык і ўсе такія. Я не хачу цябе крыўдзіць, але атавізм у цябе ярка выражаны. Гэта, разумееш, такія адзнакі ў чалавека, якія паказваюць, што ён далёкі продак жывёлы.

— І чаго ты да Максіма прычапіўся, як сляпы да плота. Зусім ён не такі. І не таму, што раўнуе, у нас спрэчка выйшла. Няма чаго табе, Лёнька, у сямейныя справы ўмешвацца. — Ева гаварыла горача і ўвесь час паглядала на Максіма.

— Не, я ўжо скончу думку. Ты вось кажаш, што ён не раўнівы. А я ведаю, што ў яго ўсё кіпіць у грудзях. А чаму? Бо сумленне ў яго не чыстае. Калі ён быў хлопцам, дык да дзяўчат адносіўся па-хамску. Вось ён і думае, што ўсе такія, як ён. Ён нават і не ўяўляе, што з дзяўчатамі можна шчыра дружыць. А ўрэшце атрымліваецца, што абражае ён толькі сябе. Так табе, Максім, і трэба: пакутуй цяпер за свае старыя грахі.

Максім такога не мог сцярпець.

— А ты адкуль ведаеш?.. У Евы запытайся, як я да дзяўчат адносіўся. Яна ведае. Ну, кажы...

— Дык ці ж я пайшла б за цябе замуж...

— Чуеш... Дык вось што... Каб у апошні раз чуў гэта. І не таму я супроць яе работы ў клубе, што раўную, а таму, што разам хачу працаваць, нароўні. Ясна табе?..

Максім наступаў, а Лёнька ўсміхаўся: дапёк-такі чалавеку. Нарэшце, Максім перастаў крычаць. Тады Лёнька паклаў перад Евай ключы, сказаў:

— Ну, пайшлі, а то людзі ўжо даўно чакаюць, а мы філасофствуем.

Ева зірнула на Максіма. Той зацята маўчаў. Яна ўзяла ключы, сказала:

— Я зараз вярнуся, Максімка.

Максім накінуў пінжак на плечы, моўчкі пайшоў з імі.

## IX

Ворыва Балоння было намечана на сярэдзіну верасня. Перад гэтым у калгасе пабываў Сяльчонак. Разам з членамі праўлення і Львом Рамановічам ён агледзеў паплавы, адобрыў планы па іх паляпшэнню. Дзён праз тры пасля ад'езду Сяльчонка з калгаса да Канькова прыехаў дырэктар МТС. Старшыню калгаса ён знайшоў на полі.

— Што ж ты, Васіль Мацвеіч, скардзішся Сяльчонку. Можна было б ціха, мірна вырашыць, дык ты адразу ў райком... Дадзім табе трактары. Шкада мне іх, ці што?.. Калі думаеш пачынаць работы?

— Вось старэйшы, — паказаў Канькоў на Даміру, — у яго ўсе планы.

Даміра пасля той размовы з Каньковым акрыяў, развіў кіпучую дзейнасць. На праўленні яго вылучылі брыгадзірам лугаводаў. Па просьбе Евы ён узяў да сябе Максіма Шняка. Цяпер абое былі неразлучныя: разам ездзілі купляць насенне траў, разам намячалі планы ўздыму паплавоў.

У чацвер у калгас прыйшлі трактары. Пакуль трактарысты аглядалі машыны, Канькоў, Даміра і Вера Алексіч вырашылі яшчэ раз агледзець Балонне. Ішлі памалу. Даміра маўчаў, думаў пра нешта сваё. Вера з Каньковым у гэты час абмяркоўвалі пытанне аб набыцці пародзістых кароў. Яны і не заўважылі, як Даміра адстаў. Ён стаяў ля самага балота, успамінаў даўнія дні. Некалі на гэтым месцы Даміра ляжаў цяжка паранены і думаў над тым, што засадзіць Балонне садам. І вось надышоў дзень, калі Балонне з купкаватай пустошы будзе ператворана ў квітнеючыя палеткі. Думкі перанеслі Даміру больш як на дзесяць гадоў назад.

У канцы 1942 года разбітая ў баях пад Ржэвам і Вязьмай нямецкая дывізія была знята з фронта, пагружана ў эшалон і адпраўлена на Захад. Па дарозе на станцыі Рудня генералу Кірхдорфу быў уручаны пакет. Генерал прачытаў яго, аддаў загад разгружацца. Павольна, з традыцыйнай прускай метадычнасцю разгортваліся палкі і батальёны дывізіі. Займалі вёскі, паціху прасоўваючыся ў бок Віцебска. Ніхто не разумеў, што за манеўры прыдумаў стары генерал Кірхдорф. Хадзілі чуткі, нібыта вярхоўная стаўка такім чынам хацела пакараць салдат, якія не надта добра ваявалі на фронце. Пад вечар аднаго дня дывізія заняла Закружжа і яшчэ з дзесятак вёсак. Былі выстаўлены пасты, сакрэты, узмоцнена ахова — як на самай пярэдняй лініі. Ніхто не мог пад вечар выйсці з вёскі — нават за такую спробу генерал даклякраваў расстрэл. Цяпер ужо ні ў каго не было сумнення: дывізія была кінута на барацьбу з партызанамі. У зацятай маўклівасці замёрла вёска. Мала з якой хаты не было чалавека ў партызанах. Але як паведаміш у брыгаду, калі за кожным тваім крокам сочаць пільныя вочы салдат?

У брыгадзе «За Радзіму» аб усім гэтым даведаліся гадзіны праз дзве пасля таго, як дывізія спынілася на адпачынак. Адразу ў трох вёсках была абстраляна конная партызанская разведка. У партызанскім штабе захваляваліся: пагрозліва навісла небяспека быць акружанымі. Дакладна ніхто нічога не ведаў. Сувязь з падпольшчыкамі адразу парвалася. Конная разведка данасіла супярэчлівыя даныя. Вось тады і наспела пытанне паслаць разведчыкаў у Закружжа, звязацца з падпольшчыкамі, высветліць намеры фашысцкага камандавання.



У ёўні, часова абсталяванай пад штаб, сабралася партызанскае камандаванне. Начальнік штаба брыгады ў трох словах расказаў пра абстаноўку ў зоне. Камбрыг, падпяразаны жоўтымі папругамі па чорнай скуранай тужурцы, узняўся на ўвесь рост, абвёў вачыма людзей.

— Хто пойдзе? — запытаў ён.

Наступіла цішыня. Тады Даміра вышаў на сярэдзіну ёўні, казырнуў:

— Дазвольце мне, таварыш камбрыг. Я — тутэйшы.

— Добра.

— Толькі мне нікога не трэба. Адзін пайду.

Яго спрабавалі адгаварыць: аднаму будзе цяжка.

— Добра, дайце сувязную.

Апоўначы Даміра падышоў да Закружжа з боку Балоння. Дзяўчынусувязную пакінуў пад капой сена. Сказаў на развітанне, паказаўшы вялізную супрацьтанкавую гранату.

— Пачуеш выбух, уцякай, значыць, канец. На страляніну ўвагі не звяртай. Ясна?

Дзяўчына кіўнула галавой. Даміра неяк адразу знік у цемрадзі жнівеньскай ночы. Спачатку ён ішоў асцярожна, намацваючы нагамі зямлю. Потым папоўз, хаваючыся ў бульбяной баразне. Направа пад кустом парэчак стаяў кулямёт. Даміра ўсё бачыў, здзіўляючыся свайму зроку. Злева ля лазні ўгледзеў вартавога. Той, скамянелы, стаяў за вуглом, толькі часам вытыркаў галаву, якая і выдавала яго.

«Густавата панатыркалі», — падумаў ён і папоўз далей. Хутка бульбоўнік скончыўся. Даміра запоўз у палісаднік. Ляжаў прытуліўшыся да зямлі, слухаў. З-за хаты вышаў немец, пастаяў і зноў схаваўся. Даміра агародамі папоўз далей. Некалькі разоў адпачываў і тады чуў, як холад падбіраецца да грудзей, зводзіць сутаргай сківіцы. Баяўся толькі аднаго, каб не забрахалі вясковыя сабакі. Але яны, мусіць, не чулі яго, ці баяліся падаць голас пры чужынцах.

Вытыркнуўшы галаву з град, ён раптам убачыў непадалёк вартавога. Той тупаў ля ганка вялізнай хаты: тры крокі ў адзін бок, тры назад. «Штаб! — мільганула думка, рука мімаволі пацягнулася за гранатай, але ён стрымаў сябе ад такой спакусы. — Дзе ж жыхары? Не маглі ж іх пакінуць у доме». Агародамі ён дапоўз да хлява, паляжаў крыху, прыслухоўваючыся да цішыні. Чутны былі толькі крокі вартавога.

Даміра ведаў, што ў хаце жыве ўдава Яніха са сваёй дачкой Анютай. Але дзе яны цяпер? Можа ў свірне? Падлез пад яго, спачатку выглянуў на двор. Там вартавога не было. Тады паспрабаваў узняць падлогу. Доўга не мог знайсці дошкі, якая была б не прыбіта. Потым знайшоў, паціху прыўзняў яе, прасунуў галаву ў дзірку. У свірне было цёмна, вочы не маглі нічога разгледзець. Працягнуў руку і раптам намацаў кажух і босую цёплую нагу.

— Хто тут? — пачуў ён спалоханы голас.

— Анютка, маўчы, — ён баяўся, каб яго не пачулі, таму гаварыў прыглушана.

Анюта села, цяпер Даміра адрозніваў яе шэраватую постаць.

— Прысунься да мяне бліжэй, я сюды не магу ўлезці, — постаць наблізілася зусім блізка. Даміра бачыў ужо абрысы Анюцінага твару. — Я — Тарас, разумееш, з лесу. Хачу ў цябе распытаць.

— Як вы сюды прабраліся. Уцякайце, вас схопяць.

— Не бойся. Ты мне скажы, адкуль гэтыя немцы і чаго яны прыехалі?

Гаварылі яны шэптам.

— Я ўсё, усё ведаю. Іх прыслалі сюды супраць партызан. Так нам генеральскі дзяншчык казаў. Заўтра збіраюцца выступаць.

— Можа ён схлусіў? — запытаўся ён.

— Не, праўда. Тут прыслалі на падмацаванне ім цэлы полк здраднікаў, казакамі называюцца, дык я падслухала, як іхняму палкоўніку ад'ютант тое самае, што і мне, гаварыў.

— Што б, Анюта, ні здарылася... што б ні здарылася, а заўтра днём абавязкова прыдзі на Балонне. Ля самага балота стажок ведаеш? Пакладзі пад яго запіску, а ў ёй напішы пра тое, колькі і якой зброі ў дывізіі. Толькі абавязкова...

— Добра, Тарас Тарасавіч...

Назад Даміра поўз яшчэ больш асцярожна. Перадаў сувязной запіску і звесткі, сказаў, ляскаючы ад холаду зубамі:

— Назад адна пойдзеш. Мяне чакайце заўтра ўночы. Гранаты свае, аўтамат мне аддай. Табе і пісталета хопіць. Фрыцы самі дрыжаць. Іх цяпер далёка за вёску не выправадзіш.

Яшчэ там, пад свірнам, склаў Даміра смелы план: сарваць заўтрашняе наступленне, пераблытаць усе карты карнікаў.

Як толькі сувязная знікла ў цемры, Даміра зноў папоўз у вёску. Цяпер ён не вельмі асцерагаўся, бо пайшоў дождж і буйныя кроплі гулка шамацелі ў бульбоўніку. Ля лазні Даміра замёр у напружаным чаканні, потым, улучыўшы зручны момант, адным скачком апынуўся ля вартавога, усадзіў у спіну фінку. Зацягнуў карніка ў лазню. Там, падняўшы маснічыну, запіхнуў яго пад падлогу. Забраўшы аўтамат, папоўз туды, дзе былі кулямётчыкі. Падкраўся зусім блізка, размахнуўся, шпурнуў супрацьтанкавую гранату і, ужо не зважаючы ні на што, узняўшыся на ўвесь рост, пабег да Балоння.

Чуў, як у вёсцы забрахалі сабакі, потым узнялася страляніна. А ён бег і бег. Раптам нешта кальнула ў бядро, ён яшчэ прабег крыху, упаў. Але і ўпаўшы, поўз, толькі мацней сціскаў зубы. Схаваўся ў гушчары асаковых зараснікаў, перавязаў нагу кашуляй, сказаў сам сабе: «Баста, адваяваўся Тарас. Ну, яшчэ перад смерцю двух-трох кокну. Каб толькі не самлець, тады капут».

Надышоў дзень. Тое, чаго баяўся Даміра, здарылася: некалькі разоў ён траціў прытомнасць, а калі крыху прыходзіў да памяці, дык бачыў залітае сонцам купкаватае Балонне. І не было тады для яго нічога больш прыгожага, як гэтая пустоша. «Выжыву, — думаў ён, — пасаджу тут сад. А ў садзе градак наробім, на іх вырастуць клубніка, агрэст, парэчкі. Гэта для дзяцей. Яны любяць сад. Нам тут хавацца ад вайны даводзілася, а яны будуць яблыкі есці». Часам ён трызніў, і тады яму здавалася, што ніякага Балоння няма, а расце вялікі сад, у ім сажалка, поўная чыстай, халоднай вады. Ён ідзе па садзе, каб напіцца, а сажалка раптам высыхае, і на дне ляжыць забіты ім немец.

Аднаго часу, калі ён апрытомнеў, дык убачыў кароў. Яны разбрыліся па Балонню, скублі траву. Гэты малюнак прывёў яго ў захапленне, быццам ён упершыню бачыў яго. Хацелася пагладзіць шорсткую поўсць рудой з падпалінамі каровы, якая пасвілася зусім непадалёк ад стажка. Ён адчуваў пад пальцамі яе гарачую цеплыню і думаў, што развядзе вялізны статак кароў і будзе іх пасвіць. Як ён да гэтага не разумеў усяго хараства? Карова была зусім побач. Яна прагна хапала шурпатым языком траву, і гэта зноў выклікала хвалю думак і пачуццяў.



Раптам аднекуль паявілася Анюта. Яму здалося, што ён зноў трызніць. Але яна ішла проста да яго, пацёпваючы дубцом. Яна была маленькая, худзенькая, у рудой світцы.

— Анюта!.. — паклікаў ён.

Анюта спынілася, спалохана азірнулася.

— Анюта, я ранены...

— Як толькі сцямнее, я прыду, чуеце, прыду, — пачуў Тарас яе голас.

На прыцемках яна сапраўды прыйшла. Пазней Даміра даведаўся, што яна не вярнулася ў вёску. А яшчэ пазней стала вядома, што карнікі спалілі іх хату, а Анюціну маці павесілі на Балонні, сагнаўшы спачатку туды ўсю вёску.

Тады, суцяшаючы Анюту, ён паабяцаў ёй у памяць аб маці засадзіць Балонне садам і кветкамі. Паабяцаў і вось забыўся на тое. Як яно магло здарыцца?

Даміра стаяў на тым самым месцы, дзе некалі ляжаў паранены. Перад ім была пустоша, зеленаватая ад свежай травы, з карычневымі шапкамі купін, з бялесымі кустамі лазы і бурымі — ядлоўца. Аднастайная, убогая пустоша. Што ж тады, у сорак другім годзе, выклікала ў ім такое захапленне? Прага да жыцця? Так. Невыказная прага. І ўсё здавалася інакшым. Хацелася жыць, і ўсё здавалася найлепшым і найпрыгажэйшым. А можа не толькі таму? Так, вядома, хацелася, каб усім лепш было. І Анюце. А яна не дачакалася... Дык чаму я пасля на ўсё забыўся? Клопаты?.. Не, душой пачарствеў.

— Ну, што насупіўся? — адарваў яго ад думак Канькоў. — Баішся, што не справімся?

— Пра іншае думаю, Васіль Мацвеіч. Успамінаў вось, як параненым на гэтым самым Балонні ляжаў. Смерць побач хадзіла, а мне трызніліся сады, статкі кароў. І тады я верыў, што абавязкова будуць і сады і статкі. А вось як за старшыню быў, нават і не ўспомніў пра свае мары. Дык што я, выходзіць, пасля вайны пагоршаў, а не палепшаў?.. Нават крыўдна. Некалі ў партызанах марылі пра тое, як будзем дружна і жыць, і працаваць, абы толькі навалы фашысцкай пазбавіцца. А вось хоць бы вам, Вера Антонаўна, многа я дрэннага зрабіў?..

— Нейкі ў цябе настрой дзіўнаваты, — сказаў Канькоў.

— Я не крыўдую, — сказала Вера.

— Настрой — адна справа, а за гэтыя дні я многае перадумаў. І павер мне, Васіль Мацвеіч, сябе я, не шкадуючы, біў. Можа мы цяпер яшчэ дружней жыць павінны, шанаваць кожнага чалавека, берагчы яго. А вось пра гэта я забываўся, — Даміра змоўк, зноў азірнуўся навокал. — Глядзіце, хмары на захадзе нешта збіраюцца, каб не перашкодзілі нашай рабоце. Пойдзе дождж — на Балонне не ўз'едзеш.

— Ну, ты кінь прагнозы... Так, проста — воблачна. Паспеем яшчэ.

З Закружжа рухаліся да Балоння два трактары, а следам за ім ішлі дзяўчаты, хлопцы, старыя, дзеці.

— Як на кірмаш...

— Дзіва што! Было Балонне і не будзе яго.

— А яшчэ на маім вяку вось тут сасонкі стаялі. Каржакаватыя, нізкія і гадзюк шмат вадзілася.

— А цяпер канюшына будзе цвісці, — адказала Вера Алексіч.

Трактарысты наладзілі плугі, і машыны ірванулі з месца, папаўзлі па Балонню, выварочваючы наверх чорную зямлю.

## X

Балонне ўзаралі за няпоўных сем дзён. Даміра разам з Максімам Шнякам прайшліся па полі, прытапталі дрэнна прылёгшыя скібы зямлі. Дзе-ні-дзе давялося працаваць сякерай, абсякаючы карэнне пад'ядлоўца і ніцай лазы. Затое цяпер поле было роўнае, скіба да скібы.

Абодва былі стомленыя. У Даміры прыліпла да спіны гімнасцёрка, рукі дрыжалі ад стомы. Максім таксама быў мокры. Белыя валасы пачарнелі ад поту і тарфянога пылу, вусны перасмяглі. Даміра кінуў сякеру, першы прылёг пад вярбой, што расла на беразе Паланіцы. Побач прыладзіўся Максім. Закурылі, прагна дыхалі кіславатым тытунёвым дымам.

— Хваліся, як жывецца?— пачаў Даміра.

— А чаго? Добра.

— Даўно бы так. Цяпер жыццё шануй... Вочы — яны, брат, дурныя, не туды часам заводзяць, асабліва нашага брата.

— Дык я нічога...

— Ты — як бы хрэснік мой. Не крыўдуеш, што я цябе тады бэцнуў?

— Дарэмна. Я, далібог, нічога.

— Ну-ну, ведаю. А хто Нінку ў лазню клікаў? Я, брат, усё ведаў...

— Пажартаваў жа толькі.

— Трэба ведаць, з каго жартаваць... Сёння я ўвесь час сачыў за табой. У рабоце ты — спрытны. А некалі я думаў, чалавека з цябе не будзе.

— Памыліўся, выходзіць?

— Конь і той спатыкаецца. Вось папрацавалі разам, і па-іншаму на цябе зірнуў. Праца, як бой на вайне, — вялікай сілы праверка чалавеку. Я, скажам, так разважаю: пройдзе яшчэ гадоў трыццаць — тыя, што пастарэюць, калі які вітамін ад старасці не прыдумаюць да таго часу, памруць. Ну, а дзецям нашым у камунізме жыць давядзецца. Дык ты вось скажы мне, як іх туды пускаць будуць?

— Не ведаю нават, не думаў.

— Вось бачыш! А думаць трэба. Я так мяркую: у першую чаргу будуць глядзець на чалавека па тым, як ён працуе. Калі сумленна, не задумваецца над тым, а што ён для сябе атрымае, — пусцяць. Потым яшчэ паглядзяць, які ён: калі помслівы, ганарлівы, хітры, жміндлівы, раўнадушны, скваплівы, — такіх і блізка не падпусцяць да камунізма.

— Дзе ж яны, па-твойму, дзенуцца?

— Вось у тым і бяда, што не прыдумаю. Мусіць, адразу камунізм не ўсюды наступіць. Спачатку, напрыклад, адна брыгада ўступіць у камунізм, потым калгас, два, тры ў раёне, потым ужо ўвесь раён пачне жыць пры камунізме. Я вось сёння працаваў і думаў сабе: крыўдна будзе, калі пры камунізме хоць адзін дзень не пажыву. І такая мяне злосць апанавала. Ну, чаму я, дурань, дасюль жыў неяк не па-людску?!.



Яны яшчэ доўга разважалі пра тое, як бы хутчэй наблізіць камунізм. Потым памалу пайшлі дамоў.

— Можа зойдзеш? — папрасіў Максім Даміру. — На вяселле не прыйшоў.

— Не мог. У мяне, брат, на ўсё жыццё жалоба.

— Зайсці ўсё ж можна.

— Не, брат, дамоў трэба спяшацца, дзеці адны.

Развітаўшыся, ён пайшоў у свой завулак. На дзвярах вісеў замок. Даміра пакратаў за дужку, яна адскочыла. Але ў хату не стаў заходзіць, хацеў знайсці дзяцей. Перайшоў вуліцу, зайшоў у хату старой Шумейчыхі. Дзеці ўжо спалі на ложку, прытуліўшыся адно да другога. Бабулька нешта рабіла ў парозе. За сталом сядзела Вера Алексіч. Даміра не ведаў, што адразу пасля Евінага вяселля Вера перайшла жыць сюды, таму сустрэча была для яго нечаканай:

— Не трывож ты іх, Тараска, — папрасіла бабулька, паглядаючы на дзяцей, — самы сон у іх...

— Вам жа замінаюць.

— Чаго там замінаюць. Ніна з Верай Антонаўнай на гары спяць, а мне, старой, толькі весялей з імі.

Нешта трымклівае сціснула Тарасу грудзі. Ён стаяў збянтэжаны, як сам не свой. Вера, мабыць, запрыкмеціла яго разгубленасць, супакоіла:

— Ды вы не бойцеся, яны дагледжаны. Мы іх з Нінай накармілі. Добрыя яны ў вас, ласкавыя такія...

Даміра неяк вінавата паглядзеў на дзяцей, сказаў, хутчэй сам сабе:

— Дык і мне ж без іх сумна, — ён узяў на рукі соннага Колю. Той, не прасынаючыся, абхапіў яго шыю ручкамі, паклаў галаву на плячо.

— Пачакайце, Тарас Тарасавіч, — кінулася на дапамогу Вера. Ёй хацелася ўзяць на рукі Волечку, але яна адчула, што не здолее падняць яе.

— Вазьміце ўжо Колю, — Даміра перадаў Веры хлопчыка.

Той цяпер абхапіў яе шыю рукамі, мяккімі і гарачымі. Яго русявая галоўка прытулілася да пляча. Цеплыня ад яго дыхання разлівалася па целе, саграва ла Веру, напаўняла грудзі нейкім незразумелым, невыразным пачуццём любві. Яна прыціснула Колю да сябе, ён пацёрся цёплай шчакой аб яе шыю. Тады Вера прыгнула галаву, пацалавала хлопчыка ў пульхную, ружаватую шчочку.

Даміра ішоў наперадзе, цяжка ступаючы запыленымі кірзавымі ботамі. Часам ён схіляўся да Волечкі і нешта мармытаў. Веру кранала гэтае пяшчотнае мармытанне. І ўжо каторы раз яна думала, што так бязглузда памылялася ў людзях, меркавала аб іх па першаму ўражанню і потым ні за што не хацела мяняць сваёй думкі. Зноў перад ёю паўставаў той вечар, калі Рамір намаляваў яе партрэт з адным вокам на твары. Няўжо яна і сапраўды глядзела на ўсё адным вокам?.

Даміра паклаў Волечку на ложак.

— Дайце мне яго, — працягнуў ён рукі.

Вера перадала яму хлопчыка, сачыла за тым, як клапатліва захутваў Даміра яго ў лёгкую посцілку, потым паправіў падушку і адышоўся. А яна не магла адарваць позірку ад двух маленькіх істот, што мірна

спалі на ложку, ды адчувала на плячы і шыі кволае цяпло дзіцячага цела.

Не разумеючы чаму, яна раптам выбегла з хаты, нават не развітаўшыся з гаспадаром. Штосьці ўладна трывожыла сэрца, і яно то балюча сціскалася, то пачынала соладка заходзіцца.

## XI

Да пасяджэння бюро абкома партыі, на якое запрасілі закружцаў, каб разам з імі абмеркаваць мерапрыемствы калгаса па паляпшэнню паплавоў і пашаў, заставалася больш гадзіны. Канькоў і Даміра, як толькі прыехалі ў горад, адразу пайшлі ў банк, каб аформіць крэдыты. Леў Раманавіч захацеў наведаць інстытут, сустрэцца з калегамі і, пры зручным выпадку, дамагчыся шэфства вучоных над Падзвінскім раёнам. Ён клікаў з сабою Веру, але яна адмовілася.

Вера засталася адна. Пахадзіла па вуліцах горада ды і зноў вярнулася да будынка абкома. Побач з ім быў невялікі садок, які падступаў да самай кручы. Восень паклала ўжо залатую пячатку на дрэвы. Нават ад лёгкіх павеваў ветру ападала долу чырвона-жоўтае лісце. У садку было пуста. Толькі на адной скамейцы сядзеў тоўсты лысы чалавек, чытаў газету. Вера ўспомніла, што крыху далей, ля самай сцяны дома, у засені куста бэзу ёсць вельмі ўтульнае месца. Добра, каб толькі тая лаўка не была занятая.

Вера ішла памалу, любуючыся прыгожым убраннем дрэў. На вуліцы грукацелі машыны, а тут было ціха. Толькі шуршэла пад нагамі апалае лісце. Вера і не заўважыла, як дайшла да той скамейкі, на якой спадзявалася пасядзець. Лаўка была занята. Нейкая жанчына корпалася ў чамадане. Побач стаялі яшчэ два чамаданы і ляжаў вялізны клунак, перапяразаны папругамі.

Вера хацела ўжо прайсці міма. Тут жанчына адарвалася ад свайго занятку, узняла галаву і раптам кінулася насустрач Веры.

— Верачка, любая, ці ты гэта?!. Вось жа шчасце!.. — Яна абняла Веру і моцна пацалавала.

Гэта была Машанька Ашман. Але як яна сюды трапіла, гэтага Вера ніяк не магла ўцяміць. Абняўшыся, яны дайшлі да лаўкі, селі. Машанька доўга глядзела на Веру, нібы хацела ўпэўніцца, ці сапраўды гэта яна. Раптам на яе вачах набеглі слёзы, і Машанька прытулілася да Верынага пляча.

— Што з вамі, Машанька? — спалохалася Вера. — Можа з Іванам Іванавічам штосьці дрэннае здарылася?

Машанька ўсхліпвала і яшчэ больш тулілася да Веры. Потым яна выцерла слёзы, усміхнулася.

— Гэта я так, ад бяссільнай злосці плачу. Вось якія мы, жанчыны, пакутніцы. Вы ж і не ведаеце, што здарылася: мой жа кінуў усё і сюды паехаў. А чаго? Верачка, любая, што мне рабіць?

Вера слухала блытаныя словы Машанькі і нічога не разумела.

— Можа непрыемнасці якія на рабоце былі? — запыталася яна.

Машанька махнула рукой.

— Якія там непрыемнасці. Не хацелі адпускаць, дык ён усё роўна паехаў. Напісаў ліст у Маскву, і як толькі прышоў дазвол, дык адразу — на поезд. Дом, сад, агарод — усё кінулі. А што тут яшчэ будзе? Пашлюць у які-небудзь адсталы калгас, дык захацеў бы ўцячы — не зможаш.



— Дзе ж Іван Іванавіч?

— У абкоме. Я з ім ужо дзён дзесяць не размаўляю. Дык ён гэтага і не заўважае нават. А як вы, любачка, жывяцё? Можа памірыліся са сваім Львом Раманавічам?

— Ды мы і не сварыліся...

— Адна ўсё, — паспачувала Машанька. — От жа мы, жанчыны, няшчасныя людзі... Ну, пачакай, любачка, цяпер я сама ўсё ўладжу. Будзе гэты Леў Раманавіч скакаць пад маю музыку...

Вера ўсміхнулася, папрасіла:

— Не трэба, Машанька. Усё ўжо вырашана і назаўсёды.

— Не, любачка, за сваё шчасце трэба змагацца, — запярэчыла Машанька.

Размаўляючы, яны і не заўважылі, як падышоў Іван Іванавіч. Ён доўга ўглядаўся ў Веру, потым схапіў Верыну руку, моцна пацiснуў.

— Што ж вы не віншуеце мяне? Вось прыехаў да вас. Захапіўся, як хлапчук, новымі справамі. Не вытрымаў і махнуў сюды. Расказвайце, як у вас з паплавамі.

Машанька рабіла выгляд, што не заўважае мужа. Яна зноў пачала перакладаць у чамадане рэчы. Вера расказвала пра закружскія справы. Іван Іванавіч уважліва слухаў, ківаў галавой.

— А калгас «Полымя» ведаеце? — запытаўся ён у Веры, калі тая кончыла расказваць аб справах у Закружжы.



— Ведаю. Адсталы калгас. Землі там балоцістыя. Адно Жукава балота гектараў дзвесце займае.
— Дык гэта ж добра. Пагледзіце, праз два гады на месцы балота будзе расці канюшына.
— Чаму вы так упэўнены?
— Мяне туды старшынёй калгаса будуць рэкамендаваць.
Машанька больш не магла стрымліваць сваю знарокавую абыякавасць. Яна ўспляснула рукамі.
— Гэтага толькі і не хапала. Вы чуеце, Верачка, як ён здзекуецца з мяне? Спецыяліст, заатэхнік буйнейшага ў краіне саўгаса ідзе старшынёй у адсталы калгас. І нават са мной не параіўся. Вось якія яны, мужчыны!
Веры хацелася супакоіць Машаньку, але яна разумела, што словы не падзейнічаюць на жанчыну. Машанька доўга яшчэ скардзілася, вымаўляла мужу, прыпамінаючы розныя «грахі». Іван Іванавіч маўчаў ды час-ад-часу падміргваў Веры.
— Дык як, Вера, раіце вы мне ісці ў гэты калгас ці не? — запытаўся Іван Іванавіч, як толькі яго жонка змоўкла.
— Вядома, ідзіце, — неяк вырвалася ў Веры.
Машанька здзіўлена паглядзела на Веру, пачырванела, але нічога не сказала.

— І я так думаю. Каму ж, як не спецыялісту, быць старшынёй калгаса!.. Трымайцеся цяпер, у мяне настрой надзвычай ваяўнічы. Праз год-два не толькі дагонім, але і абгонім лепшыя калгасы.

Вера зірнула на гадзіннік. Трэба было ісці ў абком. Іван Іванавіч, даведаўшыся, што на бюро будзе Алексіч і Сяльчонак, ускочыў з лаўкі.

— Ты, Машанька, пачакай яшчэ крыху. Вельмі ўжо хочацца пабыць на такім пасяджэнні. Вопыт закружжцаў мне вунь як спатрэбіцца.

Машанька нічога на гэта не адказала.

У вестыбюлі ўжо стаялі Алексіч, Даміра, Канькоў, Сяльчонак і яшчэ нейкія незнаёмыя людзі. Вера пазнаёміла закружжцаў з Ашманам.

— Дык гэта і ёсць той самы Іван Іванавіч Ашман, які пісаў да нас у акадэмію? — запытаўся Леў Раманавіч.
— Ён самы. І я вельмі рады, што нарэшце пазнаёміўся з вамі. Ведаеце, не мог уседзець там. Саўгас наш — гаспадарка ўзорная. Там ужо і без мяне абыйдуцца. Вось і парашыў я, што трэба ісці ў адсталы калгас. Што ж, можа, спачатку і цяжка будзе, затое потым прыемна і радасна.

Сакратарка спыніла іх размову. Яна запрасіла ўсіх заходзіць у залу пасяджэнняў. Сакратар абкома прывітаўся з кожным за руку, запрасіў садзіцца.

Канькоў зрабіў невялікі даклад, адказаў на пытанні членаў бюро. Затым слова папрасіў Леў Раманавіч.

Да сустрэчы ў абкоме партыі ён добра падрыхтаваўся. Спачатку расказаў пра перспектывы асваення занядбаных зямель і палепшання паплавоў ва ўсім Падзвінскім раёне. Потым вельмі сцісла, мовай лічбаў далажыў пра тое, што патрэбна зрабіць, каб кожны кавалачак зямлі прыносіў даход.

Члены бюро больш слухалі ды задавалі пытанні. Час-ад-часу яны нешта запісвалі ў блакноты. Вера, якая першы раз прысутнічала на такім пасяджэнні, была крыху здзіўлена. Ёй здавалася, што члены бюро будуць выступаць з доўгімі прамовамі, даваць нейкія незвычайныя парады. А тут атрымлівалася так, быццам яны вучыліся ў закружжцаў, як трэба арганізоўваць работу па ўздыму жывёлагадоўлі. Але неўзабаве Вера зразумела, што пытанні, якія задаюць члены бюро, дапамагаюць закружжцам глыбей разабрацца ў тым пачыне, які праявілі яны, лепш павесці барацьбу за палепшанне сенакосаў, а значыць і за ўздым жывёлагадоўлі.



Хутка Вера зусім забылася, што яна сядзіць у такой высокай установе, як абком партыі. Пасяджэнне бюро хутчэй нагадвала таварыскую гутарку зацікаўленых у агульнай справе людзей. Кожны выказваў свае думкі, спрачаўся, даказваў, як роўны сярод роўных. Аднаго разу Веры нават здалося, што сакратар абкома партыі — невысокі, сіваваты мужчына — страціў кіраўніцтва пасяджэннем. Але тут жа яна ўпэўнілася, што гэта зусім не так. Сакратар умела і тактоўна вёў бюро. Аддаляючы сваю асобу на другі план, ён умеў адначасна даць магчымасць выказацца людзям і скіраваць іх увагу на вырашэнне галоўнай задачы.

Нарэшце, усе выказаліся. Сакратар устаў, зазірнуў у блакнот, які ляжаў на стале, прайшоўся па вузкім праходзе між сталом і сцяной. Наступіла пачцівая цішыня.

— Вопыт закружжцаў,— не спяшаючыся, пачаў ён, відаць, абдумваючы кожнае слова, — мае вялікае значэнне і не толькі таму, што ў калгасах вобласці будзе створана база для развіцця жывёлагадоўлі. Пачын закружжцаў — гэта новы і надзвычай важны крок наперад па пераадоленню тых вялізных спусташэнняў, якія прынесла вайна. Гэта — крок да камунізма, да такой арганізацыі працы, калі кожны кавалак зямлі будзе прыносіць людзям карысць. Гэта крок да стварэння багацця прадуктаў, сыравіны, без якіх немагчымы рух наперад. Ёсць тут і яшчэ адна акалічнасць. Нядаўна мне давялося быць на тым месцы, дзе да вайны стаяла вёска Чырвоная горка. У часе вайны гэтую вёску разам з усімі яе жыхарамі спалілі карнікі. Яшчэ і цяпер на месцы былых дамоў можна ўбачыць руіны, якія густа зараслі лебядой і крапівой. Гэта сляды вайны. Вось там, на папялішчы, у мяне адбылася сустрэча з дзедам, які расстаўляе баптысцкія сеткі нашым савецкім людзям. Гэты дзед, з выгляду зусім бяскрыўдны, кожны раз, калі вядзе сваю агітацыю, паказвае рукой у бок былой вёскі і чытае пропаведзі аб непатрэбнасці барацьбы за лепшае будучае. Ён кажа: «Глядзіце, людзі працавалі, а плён іх працы дастаўся агню і знішчэнню. Дык навошта знясільваць сябе працай, лепш маліцца і прасіць бога, каб ён хутчэй даў месца ў раі». І некаторыя трапляюць на гэты кручок. Трапляюць таму, што перад іх вачыма маячыць прывід руін былой вёскі. І вось закружжцы смела ўзяліся за працу, якая знішчыць усялякія сляды былой вайны. І людзі, якія будуць удзельнічаць у гэтай барацьбе, зробяць зямлю прыгожай, куды прыгажэйшай, чым той біблейскі рай. Гэта і ёсць практычная агітацыя за камунізм. Вось чаму, таварышы, я мяркую, што мы падтрымаем пачын закружжцаў і распаўсюдзім яго на ўсе калгасы і саўгасы вобласці.

Мне няма чаго дадаваць да выступленняў нашых ініцыятараў. Адна толькі думка, чыста практычнага парадку. Вось тут выступаў былы старшыня калгаса «Маяк» Тарас Тарасавіч Даміра. У свой час мы жорстка крытыкавалі Даміру, і ён нават крыўдаваў на нас. А цяпер ён сказаў: «Я стараўся выконваць усе ўказанні, а гэтага аказалася мала. Калгасы нашы — такая гаспадарка, дзе адным выкананнем інструкцый не здолееш весці справу». І гэта так. Каб кіраваць калгаснымі гаспадаркамі так, як

патрабуе наша партыя, трэба многа ведаць, далёка бачыць і не баяцца эксперыментаваць. Таму мы падтрымліваем пачын таварышаў Канькова і Ашмана, якія пайшлі ў адсталыя калгасы, каб дапамагчы там наладзіць гаспадарку. Гэта людзі камуністычнай будучыні. Я думаю, такіх у нас многа, і таму прапаную кінуць кліч: камуністы — спецыялісты сельскай гаспадаркі — на перадавыя рубяжы барацьбы за камунізм! Я спадзяюся і веру ў тое, што камуністы падтрымаюць гэты заклік і пойдуць у калгасы, можа ў пачатку ахвяруючы нават крыху сваім матэрыяльным становішчам.

І апошняе. Галоўнае зараз — арганізацыя. Без гэтага мы не зможам выканаць намечаны план работ. У нашай пастанове прадугледжаны мерапрыемствы па ажыццяўленню тых работ, пра якія нам расказваў Леў Раманавіч Алексіч. Дасканалае іх выкананне забяспечыць поспех справы. Леў Раманавіч прапанаваў тут стварыць брыгаду з вучоных і практыкаў і даручыць ім намецідь такія мерапрыемствы, якія дапамаглі б слабым калгасам стаць багатымі, калгасамі-мільянерамі. Гэта вельмі добрая прапанова, але нам хацелася б, каб такая работа была праведзена не толькі ў адным Падзвінскім раёне. Як вы на гэта гледзяцё, Леў Раманавіч?

Леў Раманавіч крыху падумаў:

— Цяжкавата будзе...

— Але магчыма?

— Так. Сёння я наведаўся ў інстытут. Вучоныя падтрымаюць такое рашэнне.

— Тады пытанне лічым вычарпаным. Цяпер за працу, сябры.

На вуліцы ярка свяціла сонца. Было цёпла, хоць у паветры ўжо адчуваўся подых ранняй восені. Летняя сінь неба крыху паблекла. Дзе-нідзе раскідаліся па ёй воблачкі, але не такія, як раней — лёгкія і белыя.

Вера ішла па горадзе, прыглядалася да яго мітуслівага жыцця. Відаць, толькі што закончыліся заняткі, і на тратуарах было многа вучняў — маленькіх, смешных карапузаў. Яны ішлі купкамі, махалі партфелямі і аб нечым горача спрачаліся. Час-ад-часу яны спыняліся, загароджваючы дарогу. Людзі абміналі дзяцей, пазіраючы на іх са шчаслівай усмешкай.

«Вось для іх,— думала Вера,— мы і ладзім новае жыццё. Няхай яны ніколі не ведаюць, што такое вайна, спусташэнні і глыбокія раны ў чалавечым сэрцы».

— Каго я бачу!— раптам пачула Вера за сваімі плячыма знаёмы да болю голас.— Добры дзень, Вера!..

Вера прыбавіла кроку. Тады чужая рука лягла на Верына плячо.

— Злуешся?

Вера спынілася і ўжо спакойна паглядзела на Раміра.

— Калі і злуюся, дык толькі на сябе,— адказала яна.

— Пакінь. Я добра ведаю жаночыя сэрцы. Але павер мне, што злосць не лепшы дарадчык.

— Гэта праўда,— згадзілася Вера.

— Ну вось, бачыш! А я сумаваў тут без цябе.

— А вось гэта — хлусня,— адрэзала Вера.

— Не, не,—запярэчыў Рамір,— сапраўды сумаваў. Я прывык, каб мяне хто слухаў.



— Выходзіць, апрача мяне, цябе ўжо і слухаць ніхто не хоча?

Рамір збянтэжыўся і, як заўсёды, каб не падаць выгляду, зарагатаў.

— Адзін — ноль у карысць Веры Алексіч,— выгукнуў ён.— Вось за гэта я і паважаю цябе... Слухай, ёсць ідэя. Пойдзем са мной на выстаўку. Паглядзіш тую карціну, якую я маляваў тады.

Спачатку Вера хацела адмовіцца, але, падумаўшы, згадзілася. Ёй цікава было паглядзець, што ж атрымалася ў Раміра. Ці будзе яе хваляваць цяпер тая беламармуровая багіня, якую паглынаюць языкі полымя.

Яны пайшлі. Рамір усю дарогу скардзіўся, што яго не хочуць зразумець, хоць ён стварае сапраўды мастацкія палотны. Вера доўга маўчала, слухаючы надакучлівае бурчанне Раміра. Нарэшце, яна не вытрымала, сказала:

— А можа не людзі вінаваты, а ты сам? Калі тысяча кажа, што сонца яркае, а адзін даказвае, што яно цёмнае, дык, мусіць, праўда на баку тысячы...

Рамір натапырыўся, злосна засоп.

— І гэта кажаш ты? А ці не дазволіш ты мне ўсё бачыць такім, якім я хачу.

— Не, не дазволю, — усміхнулася Вера і дадала: — Людзі не дазволяць. Лячыць пачнуць і вылечаць, чэснае слова, вылечаць.

Далей абое маўчалі. Рамір адмерваў цыбатыя крокі. У сваёй моднай кашулі з разрэзамі па баках і ў зялёных штанах з вузкімі калашынамі ён выглядаў нязграбным і смешным. Час-ад-часу ён адкідваў з ілба доўгія валасы, а вецер зноў трапаў іх, і яны папоўскімі космамі налазілі на вочы. «І яго я кахала, — думала Вера, крадком пазіраючы на Раміра, спрабуючы знайсці ў ім тое, што падабалася калісьці ёй. — Якія ў яго тонкія, дрыготкія вусны. І нос тонкі. А падбародак востры, як клін, якім шчапаюць дубовыя калоды».

У зале, дзе змяшчалася выстаўка, было многа народу. Людзі стаялі ля карцін, размаўлялі напаўголаса. Рамір, як толькі зайшлі, спыніўся, узяў Веру за руку.

— Бачыш, падабаецца, — паказаў ён на натоўп, што стаяў перад вялізнай карцінай, на якой была намалявана партызанка. Маладая дзяўчына, падперазаная па ватоўцы шырокай папругай, з аўтаматам у руках, стаяла ля папялішча, якое яшчэ курылася дымам. Відаць, толькі што закончыўся бой, і дзяўчына першая ўварвалася ў сваю родную вёску. На твары партызанкі было безвыходнае гора, вочы гнеўна глядзелі на гітлераўскага афіцэра, які ляжаў пластам непадалёк ад папялішча. Але ў постаці, у імклівым руху і ў задуменнасці дзяўчыны адчувалася непераадольнае жаданне хутчэй скінуць аўтамат,аднавіць толькі што спаленую хату.

— Ім падабаецца, — бурчаў побач Рамір, — а што тут добрага. Мазня. Фатаграфія. Няма палёту думкі. Гэта не мастацтва, а калька жыцця. Так, так, калька.

— А мне падабаецца, — сказала Вера.

Рамір скрывіў тонкія вусны.

Яны ішлі па залах, Рамір бязлітасна крытыкаваў карціны. Але вось ён змоўк, і тады Вера ўбачыла яго карціну. Некалькі чалавек стаяла ля яе. Вера заўважыла, як людзі паціскалі плячыма, ківалі галовамі. Вера спынілася, як утрапёная. З вялізнай пазалочанай рамы выплёскваліся чырвоныя языкі полымя. Сярод іх стаяла жанчына, пераможна пазіраючы на людзей. А перад ёй ляжалі ніцма нейкія невыразныя ча-

лавечыя постаці. Вера падышла бліжэй, зазірнула на надпіс, прачытала: «Адрачэнне».

— Што гэта азначае? — запыталася яна.

— Кожнаму сваё, — загадкава адказаў Рамір, але Вера добра зразумела карціну. Раптам ёй успомніліся словы сакратара абкома пра таго баптысцкага прапаведніка, які раіў не працаваць, а маліцца. Яна паглядзела на Раміра, усміхнулася.

«Таксама ў прапаведнікі лезе. А дамагаецца толькі таго, што людзі паціскаюць плячыма».

— Можа, паслухаеш нашу братву? — запытаўся Рамір. — Сёння ж абмеркаванне карцін з удзелам гледачоў. Бачыш, вунь ужо і стол накрыты. Хутка за яго і «суддзі» сядуць.

— Добра, нават выступлю, — Вера зноў загадкава ўсміхнулася.

Яны агледзелі ўсю выстаўку. Веры яна падабалася сваёй узнёсласцю, смелым паглыбленнем мастакоў у жыццё. І толькі Рамірава карціна стаяла асобна, быццам была прывезена з другога свету.

Веры выступіць не давялося. Усе яе думкі былі сказаны гледачамі і мастакамі. Рамір стаяў у баку, нервова пакусваючы вусны, а людзі бязлітасна крытыкавалі і мастака, і тварэнне яго рук. Нехта прапанаваў зняць Раміраву карціну з выстаўкі, і яму дружна пачалі апладыраваць. Тады Рамір кінуў гнеўны позірк на людзей, вышаў з залы. Вера даслухала выступленні і таксама вышла. Рамір яе чакаў на вуліцы.

— Яны хочуць, каб я пісаў так, як і ўсе, — адразу ж пачаў ён, — але я гэтага не хачу.

— Ну і дзівак, — адказала Вера. — Навошта ж ты выстаўляў карціну, калі цябе не цікавіць думка людзей. Няхай бы вісела ў тваёй кватэры, — і яна, не развітаўшыся, пайшла.

Рамір дагнаў Веру. Доўга ішлі моўчкі. Потым Рамір загаварыў нейкім незвычайным голасам:

— Я люблю цябе, Вера. Я адчуў, што цябе не хапае для майго шчасця.

Вера ўважліва паглядзела на яго, падала руку.

— Бывай, Рамір. Той дурной дзяўчыны, якую ты намаляваў з адным вокам, ужо няма. Яна цяпер усё добра бачыць. А вось ты многае ці не можаш, ці, можа, не хочаш разгледзець. Калі разгледзіш, скажаш мне, тады і пагаворым.

## XII

Кожны дзень, а на дні па тры разы атакоўвалі даяркі ўчотчыцу Феню Крушаль, высвятлялі, колькі яшчэ трэба надаіць малака, каб выканаць узятыя на камсамольскім сходзе абавязацельствы. Камітэт камсамола вынес рашэнне, якое было падтрымана ў райкоме камсамола. У ім было запісана, што як толькі абавязацельствы будуць выкананы кожнай даяркай, над закружскай фермай будзе запалена чырвоная зорка. Яна абвесціць усім калгаснікам аб перамозе дзяўчат. Таму так і хваляваліся даяркі.

Феня, не спяшаючыся, перагортвала сшытак, падлічвала, колькі малака надоена. К канцу верасня на першае месца вырвалася Зіна Асташка. Яна ўжо надаіла ад кожнай каровы па тысячы восемсот літраў малака. Амаль столькі было і ў Ніны Шумейка. Іншыя дзяўчаты



адставалі, хоць і яны вось-вось павінны былі давесці надоі да запаветнай рыскі. Затое ў Матроны Башукевіч справа не ладзілася. Неяк адразу пасля таго, як каровы былі перагнаны на ферму ў Закружжа, Матрона пачала надойваць усё менш і менш малака. Дзяўчаты злаваліся.

— Усіх нас падводзіш, — крычала на Матрону Ліда Раковіч. — Не было б цябе тут, дык мы гэтую зорку тыдні праз два запалілі б над фермай. Адна ты адстаеш...

— Мне больш не зорка падыходзіць, а працадзень. На дадатковую аплату выцягну, — спакойна адказвала Матрона.

— Архаічны ты чалавек, Матрона,— не выцерпела Ева.

Дзяўчаты рагаталі з гэтага любімага слова былога сакратара камітэта камсамола. Але Еву падтрымлівалі: аказваецца, яна ўмела не толькі гаварыць, але і працаваць. У спрэчку ўмешваўся Дзяжэвіч:

— Праз месяц падлічым, колькі надаілі малака, раздзелім на ўсіх пароўну, і шабаш дзела, — зорка будзе вісець над фермай.

— Хітры надта...

— Мы ж бралі абавязацельствы не па сярэдніх надоях, а па надоях ад кожнай каровы.

— Хлусіць вучыш, замест таго, каб працаваць.

Дзяжэвіч абзываў дзяўчат «курынымі галовамі» і ўцякаў далей ад іх.

Дзяўчаты прасілі Веру памагчы адсталым. Вера падоўгу гутарыла з Матронай Башукевіч. Тая слухала яе ўважліва, выконвала ўсе парады, але ад гэтага малака ў кароў не прыбаўлялася. Тады аднаго разу Вера ўвесь дзень правяла на ферме, прасачыла за тым, як Матрона доіць кароў, і здзівілася: малака прыбавілася. Потым надоі зноў знізіліся. Матрона растлумачыла гэта проста.

— Ад вока ўсё. Каровы дурное вока не любяць. А гэта Шумейкава ўвесь час мне зайздросціла, вось вам і прычына.

— Што вы, Матрона Максімаўна... Дурное вока — выдумка. Вы ўжо лепей пастарайцеся. Нядаўна Ліпанава казала, што ў «Прагрэсе» вось-вось нас абгоняць.

— Добра, — паабяцала Матрона, — пастараюся, шануючы вас. Падабаецеся вы мне, ну вось слоў няма як!.. Наведаліся б калі-небудзь да нас. Стары мой ужо надоечы пытаўся, чаму вы не заходзіце. Ён жа на вучоныя размовы ласы. Ды і з сынам пазнаёміць вас хачу. Хоць вы ўжо можа і знаёмыя.

— Так, ведаю. Сустракалася аднойчы.

— Ну, вось бачыце. А малако, дасць бог, прыбавіцца. Мае кароўкі перад ацёлам болей даюць.

Вера паабяцала зайсці, але ўсё не было часу. Яна арганізавала заатэхнічныя курсы ў кожнай брыгадзе, і цяпер работы хапала. А тут давялося яшчэ ездзіць па калгасных справах, даставаць насенне траў. І ўсё ж яна зайшла б да гэтых прыветлівых людзей, каб не здарыўся той выпадак.

Неяк Вера затрымалася ў глінішчанскай брыгадзе і на закружскую ферму прышла тады, калі дзяўчаты закончылі ўжо даіць кароў. Яшчэ за паўкіламетра да фермы пачула яна іх песні і была вырашыла, не заходзячы ў хлеў, пайсці дадому. Але нешта ўладна цягнула яе на ферму. Ноч была цёмная, пахмурная. Толькі непадалёк ад хлява яна ўбачыла, як з дзвярэй вылузнулася чыясьці постаць. «Можа вартаўнік?» — падумала яна. Наддаўшы кроку, яна пайшла напярэймы. Чалавек нёс

штосьці белаватае і доўгае. Яшчэ нічога не падазраючы, яна параўнялася з ім і адразу пазнала Дземідзенку.

— Адкуль гэта вы, Анатоль Сцяпанавіч? — запыталася яна, і ёй здалося, што Дземідзенка ўздрыгнуў. — Можа з фермы? Там ужо нікога няма?

— Даўно ўжо нікога няма.

Дземідзенка спорна адмерваў крокі. Вера трухала побач.

— А я вось затрымалася ў Глінішчах. Хацела пацікавіцца надоямі.

— Стараецеся, а карысць будзе адна. У нас чалавека не шануюць.

— А вы адкуль ідзяцё? — запыталася Вера.

— Хадзіў у Загор'е. Ды вось абцямнеў.

Здрадлівы халадок падкраўся пад самае Верына сэрца. «Злодзей. Гэта ж яны з Матронай крадуць малако. Таму і надоі ў яе кароў малыя. Што ж рабіць?» — пакутліва думала Вера.

— Ну, мне сюды, — сказаў Дземідзенка і хацеў ужо звярнуць на бакавую сцежку.

Недзе ўдалечыні пачуліся галасы.

— Я вось што хацела ў вас запытаць, — Вера пакутліва прыдумвала, як затрымаць Дземідзенку. Яны былі ўжо ля самай вёскі, і цяпер Вера не баялася. Ды і недзе побач ішлі людзі. — Ці не параіце вы мне кватэру. Ведаеце, у Шумейкі надта ўжо цесна.

Яна спынілася. Адчувала, што Дземідзенка страшэнна нервуецца, і неяк была рада гэтаму.

— Абавязкова пашукаю, — сказаў ён і зноў хацеў пайсці.

Тады Вера, неяк адразу асмялеўшы, дакранулася да бітона.

— Што вы несяцё?

Дземідзенка скалануўся. Потым зашаптаў:

— Пасынак усё: дастань самагонкі. Такі ўжо, скажу вам, латруга: не паспее падняцца з пасцелі — падавай гарэлку.

— Хлусіце вы. Гэта малако крадзенае.

Дземідзенка соп. Недзе ўжо зусім блізка было чутно, як размаўляюць два чалавекі. Вера на ўсялякі выпадак адступіла крокі два назад.

— Што вы, што вы?!. Якое малако... Гарэлка.

— Пакажыце.

Дземідзенка хацеў пайсці. Ён зрабіў крок, але Вера спыніла яго.

— Я крычаць буду.

— Дачушка, навошта?.. Свае людзі, для цябе ж і стараюся.

Вера, ашаломленая, прыціснула да грудзей рукі:

— Як жа так...

— Я даўно ведаў, што ты мая дачка. Заўтра я табе ўсё, усё раскажу. Жызня праклятая, вось на што скіравала...

Ёй здалося, што ён плача.

— Няпраўда! — крыкнула Вера.

— Хто там гэта? — пачула яна знаёмы голас Ліпанавай.

— Маўчы, не адгукайся, — Дземідзенка ўхапіў яе за руку, моцна сціснуў.

Не памятаючы як, хутчэй ад страху, яна крыкнула:

— Сюды, Тамара Аляксандраўна!

Дземідзенка штурхнуў яе, кінуўся ўцякаць. Калі да яе падбеглі Макар Башукевіч і Ліпанава, дык доўга не маглі дабіцца, у чым справа.



Вера плакала наўзрыд, захліпаючыся слязьмі, і толькі вымаўляла адно і тое ж:

— Я ведала... ведала... ведала...

Следчы дакапаўся да ўсяго: сабраў усю Дземідзенкаву пісаніну, у якой ён спрабаваў ашальмаваць сумленных людзей. Былі ў яго і тыя пісьмы, якія пасылаў ён за чужым подпісам. Але даказаць крадзёж малака не ўдалося.

На ўсё жыццё запомнілася Веры тое апошняе спатканне з бацькам. Ён сядзеў насупраць яе, глядзеў некуды ўбок з выразам зняважанага праведніка. Вера, чырванеючы ад сораму, расказвала пра тое, як злавіла яго з бітонам, поўным малака. Дземідзенка раптам перапыніў яе цяжкім уздыхам:

— Э-эх-х, дачанька... Ну, раззлавалася на мяне, што некалі кінуў тваю маці. Але навошта так злосна тапіць мяне. Усё ж я твой бацька, а ты так бессаромна хлусіш...

Гаворачы гэта, ён пазіраў на яе з невыказным сумам і такімі шчырымі чыстымі вачыма, што Веры здалося на імгненне: можа яна сапраўды памылілася? Яна не вытрымала яго позірку, адвяла вочы і ўжо са злосцю, цвёрда адрэзала:

— Які вы мне бацька...

У Закружжы першы сустрэў яе Макар Башукевіч. Абодвум было няёмка. Макар адразу ж пачаў калупаць наском бота зямлю. Вера церабіла пуховы шалік. Яны маглі разысціся, не сказаўшы адзін другому ні слова, бо сустракаліся ўсяго тры разы, але нешта прыцягвала іх.

— Засудзяць яго? — нарэшце запытаўся Макар.

— А вам шкада?

— Маці шкада... А можа і не. Сорамна надта.

— Думаеце, мне лягчэй? Праз столькі гадоў знайшла бацьку... І... лепш бы не знаходзіла.

— Так як мне лепей было не ехаць. Хацеў было на цаліну махнуць. Напісаў дамоў, маці ў слёзы. Як ні кажы — маці. Паехаў. І вось маеш... Трэба было адразу адсюль уцячы.

— А куды вы хацелі паехаць?

— Сам нават не ведаю. Проста млосташна было. Хоць у вір галавой.

— А якая ў вас спецыяльнасць?

— Перад арміяй дзевяць класаў закончыў. У калгасе да самага прызыву пасаду займаў — хто куды пашле. Чулі пра такую? У арміі зенітчыкам быў. Наводчык. Спецыяльнасць, так сказаць, сугуба вайсковая, да мірных мэт ніякага дачынення не мае.

— Дык куды вы паедзеце? — паспачувала Вера. — Я вось таксама спрабавала ўцякаць. А потым падумала і вярнулася. Заставайцеся тут.

— Гэта праўда, — згадзіўся Макар. — Уцякаць цяпер не выпадае. Ліпанава раіла ферму на сябе ўзяць.

Размова аб агульным горы неяк зблізіла іх. Яны развіталіся, моцна паціснуўшы адзін другому рукі, быццам заключылі маўклівы дагавор на ўзаемную падтрымку.

## XIII

Канчаўся адлёт жураўлёў, а разам з імі і пагодлівае бабіна лета з яго белымі туманамі, павуцінай на іржышчы і барвовай квеценню лісцяў.

З раніцы яшчэ ярка свяціла сонца, але пад поўдзень набягалі чорныя хмары, секлі зямлю касымі золкімі дажджамі. З іх палону часам вырывалася халаднаватае бліскучае сонца.

Некалькі дзён дождж то надціхаў, то зноў самотна шумеў у голлі, шамацеў у апалым лісці, дробным шротам стукаў у шыбы. Зямля набрыняла вадой, разбухла, як перастаялае цеста. Уздулася, зашумела ў чаротах і лозах Пітамка, нібы пагражала затапіць усё наваколле. Глуха і самотна было ў полі. Уся работа перанеслася на такі, на фермы. Кароў ужо амаль не выганялі. Кармілі батоўем, атавай канюшыны, буракамі, бульбай. Сена берaглі: хто яго ведае, якая там будзе зіма — раптам доўгая, тады корму не хопіць. Дзяўчаты беражліва і толькі па Верынаму загаду выдаткоўвалі кармы. Але надоі не толькі не паменшыліся, а нават павялічыліся. Вера тлумачыла гэта тым, што догляд цяпер праводзіўся па строгаму распарадку. Цяпер ужо кожнаму было відаць, што абавязацельствы будуць выкананы раней прадугледжанага тэрміну. Затрымка была пакуль за дзесяткам кароў, якіх даіла раней Матрона Башукевіч. Але цяпер, калі яе замяніла Ева, надоі адразу павялічыліся, бо, увогуле, гэты дзесятак кароў быў найлепшы з усёй фермы.

І вось настаў той дзень, калі ўчотчыца Феня Крушаль аб'явіла, што кожная даярка выканала абавязацельствы.

Было гэта ўранку. Скрозь невялікія вокны цадзілася скупое шэрае святло. Дождж гулка стукаў па даху. Але дзяўчаты не чулі яго. Перш за ўсё яны кінуліся да Евы, падхапілі яе на рукі, пачалі гушкаць, быццам яна была самай галоўнай віноўніцай урачыстасці. Ева высока ўзлятала пад столь і ўвесь час крычала:

— Ой, дзяўчаты, пусціце!.. Ну, што вы, архаісткі, робіце!

Яе яшчэ раз падкінулі і шпурнулі на кучу капусных лісцяў.

— Зіну, Зіну цяпер.

— Давайце Зіну, яна лёгкая.

— Веру Антонаўну! — крыкнула Ніна, і дзесятак рук падхапіў Веру. Не паспела яна апамятацца, як ужо ляцела ўверх.

Затым падкідалі другіх, нават хацелі і Аксінню Пляскач, але яна, узяўшы паплавок ад малакамера, прыгразіла:

— Майце, дзеўкі, на ўвазе, калі хто падыдзе, дык так і засвячу цераз лоб.

Канькоў яшчэ здалёк пачуў лямант і віск, падумаў, ці не здарылася што на ферме? Ён было пусціўся подбегам, але як толькі пачуў рогат, здагадаўся, што дзяўчаты блазнуюць. У хляве, здавалася, было цемнавата. Канькоў спыніўся ў дзвярах і тут яго апанавалі дзяўчаты.

— Гушкаць старшыню!..

— Цукеркі прынеслі?

— Віншую, дзяўчаты, з перамогай і ад імя ўсяго праўлення і асабіста ад сябе выношу шчырую падзяку, — ён пачаў пацiскаць дзяўчатам рукі.

Яны, прыціхлыя, нясмела жартавалі:



— Скупаваты старшыня.

— Думае, так абыдзецца...

— Хоць бы граматы далі.

— Пакуль граматы, а чырвоны куток патрэбны.

— Радыё ніколі не чуем.

— Хіба пяць рублёў за адну кропку шкада.

— Усё, дзяўчаты, будзе: і радыё, і святло, і прэміі, думаю, будуць. Не адразу толькі. Адно скажу, што перамогу вы атрымалі надзвычай вялікую. Заўтра мітынг правядзем, запалім на ферме чырвоную зорку. Ну, яшчэ наконт таго-сяго падумаем. А цяпер давайце рапарт у райком напішам.

Рапарт Канькоў павёз сам. Хацелася пабачыць Тамару, бо за гэтыя дні надта засумаваў па ёй.

Пад'ехаўшы да самага ганка, Канькоў спыніў матацыкл, зірнуў у акно, але Тамары не ўбачыў. Ёкнула ў сэрцы: няўжо няма? Але Тамара была і, відаць, чакала яго. Яна стаяла збоч стала, камячыла нейкую старую ўжо газету.

— Не чакала? — яшчэ з парога запытаўся Канькоў.

Яна паглядзела на яго з дакорам: навошта пытацца, вядома, чакала, і не толькі сёння, а з дня на дзень.

Яны падалі адзін аднаму рукі, быццам далёкія, затрымалі іх у моцным поціску. Канькоў азірнуўся на дзверы. Тамара ўсміхнулася ледзь улоўнай усмешкай.

— А я да цябе з рапартам. Вось глядзі!..

Яна ўзяла рапарт, палажыла яго на стол.

— Я цябе так чакала, Вася. Увесь час думала.

— Я таксама, — ён абняў яе за плечы.

Тамара страсянула галавой, быццам адганяла ад сябе нешта надакучлівае, адышлася, села ў крэсла, узяла рапарт, пачала чытаць.

— Малайцы, дзяўчаты. Што я табе казала: такія горы перавярнуць могуць.

— Ды я з табой і не спрачаўся.

— Трэба зараз жа Сяльчонку сказаць.

Па лесвіцы яны падняліся на другі паверх. Сяльчонак ужо чакаў іх. Убачыўшы Канькова, усміхнуўся.

— Здагадваюся, чаго прыйшлі.

Яны крыху збянтэжыліся. Тамара пастаралася хутчэй расказаць пра перамогу закружцаў. Сяльчонак хадзіў па пакоі, заклаўшы за спіну рукі.

— Малайцы, чэснае слова, героі. На шырокую дарогу выходзім. Падтрымаць бы іх, — сказаў Сяльчонак, як толькі Тамара закончыла гаварыць.

— Абавязкова, — падхапіла Тамара.

— На заўтра мітынг намецілі, — паведаміў Канькоў.

— Сам выступлю. Потым правядзем раённы злёт. Людзі павінны ведаць сваіх герояў.

— Райком камсамола будзе прасіць ЦК аб узнагароджанні даярак граматамі, — сказала Ліпанава.

— Добра. А ў калгасе ёсць сродкі, каб прэміраваць людзей? Каб памяць была...

— Знойдзем.

— Вось так, мае сябры, пачынаюцца вялікія справы. Трэба іх толь-

кі падтрымліваць, не даваць патухнуць таму агеньчыку спаборніцтва, якія разгарэўся ў нашым раёне. Сёлета надаілі па паўтары тысячы, налета — па дзве, потым — па тры, чатыры. Уздымем жывёлагадоўлю, птушкагадоўлю, палепшым паплавы, павысім ураджаі...

У кабінет, не стукаючыся, увайшоў пятроўскі старшыня. Убачыўшы Канькова, ён крыху разгубіўся, потым падбег да Сяльчонка, паціснуў руку, пасля ўжо прывітаўся з Ліпанавай і з Каньковым.

— Ну, як справы, рэдактар, — падміргнуў ён. — Можа буксірчык патрэбен? Пазычу.

— Ад таварыскай дапамогі не адмаўляемся, — адказаў Канькоў.

Тады старшыня палез за пазуху, выцягнуў аркуш паперы, складзены ў чатыры столкі.

— Дык вось, дарагія таварышы, надаілі ўжо мы па паўтары тысячы літраў малака і, каб не было ніякіх размоў пасля, прашу прыехаць на ўрачыстасць і на ўласныя вочы пераканацца. Бо як ёсць мы першыя ў раёне, дык могуць быць усялякія размовы.

Ён і не заўважыў, што ўсе ўсміхаюцца, палажыў паперу на стол і толькі тады адчуў, што нешта здарылася.

— Крыху запазніўся, — развёў рукамі Сяльчонак, — але віншую ад шчырага сэрца. У нас не марафонскі бег — секунды лічыць не будзем. І ўсё ж першынство належыць «Маяку». Табе можна было б даць і дзве тысячы літраў, бо справы ў цябе лепш ішлі.

— І дамо. Толькі не веру я ім.

— Табе паверылі, а чаму ім нельга верыць.

Пятроўскі старшыня раптам стукнуў па мокрых полах паліто.

— Не, ты скажы, калі ласка, мог жа я яшчэ ўчора рапартаваць, дык машыну не захацеў у горад гнаць дзеля гэтага.

Усе засмяяліся. Гэта было падобна на праўду.

Дамовіўшыся пра заўтрашні мітынг, Канькоў і Ліпанава вышлі.

— Ці абедаў ты хоць? — запыталася Тамара.

— Учора, здаецца, абедаў.

У Тамары балюча заныла сэрца.

— Тады пойдзем да мяне.

Яна апранула паліто, вышла следам за ім. Канькоў ужо завёў матацыкл.

— Дык як жа будзе далей? — гадзінай пазней запытаўся ў Ліпанавай Канькоў.

Яна абняла яго, моцна прытулілася да грудзей.

— Няўжо вось так усё жыццё: кароткія сустрэчы і доўгія расстанні?

Тамара прытулілася яшчэ мацней.

— Не магу я, Вася, райком кінуць. Як падумаю, што ў пастанове запішуць: вызваліць па сямейных абставінах, дык горка робіцца.

— Сумна без цябе і цяжка.

— А мне, думаеш, лёгка? Ну, хоць з год яшчэ папрацую, да наступнай канферэнцыі. Добра, Вася?

Яны доўга сядзелі.

— Трэба ехаць, — нарэшце сказаў Канькоў.

— Хутка вельмі час прабег.

— Так. Непрыкметна.

— Заўтра я да цябе прыеду.

Яны яшчэ доўга-доўга развітваліся.



А назаўтра ў калгасным клубе Канькоў уручаў прэміі даяркам. Першай па спісу была Зіна Асташка. Саромячыся, Зіна спачатку не хацела падымацца на сцэну, але яе ўсцягнулі туды за рукі. Яна стаяла збянтэжаная, усхваляваная.

— Зіна Асташка, — пачаў Канькоў, — першая на сённяшні дзень даярка ў нашым калгасе. Яна ўжо надаіла ў сярэднім дзве тысячы трыста літраў малака. Кожная карова, якую доіць Зіна, дала не менш двух тысяч літраў малака. Зіну калгас прэміруе бібліятэкай.

Лёнька Зайчык паклаў на стол тры вялізныя стусы кніг, перавязаныя шпагатам. Зіна разгублена пазірала на іх, не ведаючы, як іх панесці.

— Я табе памагу, — шапнуў ён Зіне і, захапіўшы два стусы, панёс у залу.

— Глядзі, адразу ў памочнікі.

— Зіна, віншуем.

— Трымайся, Зіна!

— Пакажы кнігі! — шумелі ў зале.

Ніна Шумейка доўга трымала, прыцiснуўшы да грудзей, прыёмнік, хацела нешта сказаць, потым паціху пайшла на сваё месца. Там яе сустрэла бабуля, падхапіла прыёмнік, паставіла на лаўку побач з сабой і раптам расплакалася.

Апошняя атрымлівала прэмію Вера Алексіч. Канькоў, купляючы прэміі, ніяк не мог прыдумаць, што лепей было б паднесці заатэхніку. Абышоўшы абодва магазіны, спыніў свой выбар на вазе. «Дзяўчына, — думаў ён, — кветкі паставіць». Вера сядзела ў прэзідыуме, моцна апладзіравала кожнай з даярак. А калі Канькоў назваў яе прозвішча, дык нават не паверыла. А ёй за што?

Прымаючы вазу, перачакала, пакуль надціх шум.

— Дарагія таварышы мае, — пачала яна крыху дрыжачым голасам. — Я разумею, што ваша прэмія — гэта аванс за тую работу, якую я павінна яшчэ зрабіць. І я ўсё зраблю для таго, каб апраўдаць вашы спадзяванні. Я бясконца шчаслівая сёння. Здабыць гэтае шчасце дапамаглі мне вы, таварышы.

Многія не зразумелі, пра што гаворыць заатэхнік. Але Ліпанава зразумела ўсё. Яна падышла да яе, моўчкі паціснула руку.

## XIV

Цемра здавалася непраглядная. Ісці было цяжка: ногі ўвесь час траплялі ў нейкія ямiны і выбоіны, пад імі ледзь угадвалася дарога. Халодны лівень хутка пранёсся, адразу ўсё сціхла, толькі шапацеў дробны дождж. Ён то надціхаў, то зноў сыпаў, часты і спорны.

Яшчэ раз трапіўшы ў каляіну, Макар спыніўся на абочыне дарогі. Недзе побач, на другім баку, ішла Вера. Яе не было відаць, толькі чулася, як чоўкае пад нагамі гразь.

— Пачакайце, закуру, — сказаў у цемру Макар. — Пагрэюся. Налілo за каўнер, аж дрыжыкі бяруць.

Вера спынілася: больш не чуваць было яе асцярожных крокаў. Яна стаяла недзе побач, і Макар яскрава ўяўляў, якая яна прамоклая.

Дождж гулка шуршэў у голлі лесу. Самотна і глуха шумелі яліны. Макар дастаў папяросу, запалкі, павярнуўся спіной супраць ветру.

— Што я рабіла б, каб не вы? — скрозь шум ветру пачуў Макар Верын голас.

Макар шаркнуў запалкай, галоўка з трэскам адляцела, пакінуўшы ў цемрачы чырвоны след. Прыкурыў ён толькі ад трэцяй, але запалку не кінуў, а, пакуль яна стухла, грэў азяблыя рукі. Жаўтаватае цяпельца асвятляла яго твар, вузкі і доўгі.

— А я чамусьці люблю вось такое надвор'е, — азваўся Макар і перайшоў на другі бок дарогі: — Дождж, вецер, а ты ідзеш сабе насустрач і адчуваеш, як сілай наліваецца ўсё цела. Моц сваю чуеш. А калі прыгравае, дык спаць хочацца.

— Яно так і ў жыцці, — адказала Вера. — Хоць, шчыра кажучы, я не вельмі паважала жыццёвую калатнечу. Мне ўвесь час думалася, што жыццё павінна быць роўным, як поплаў. Аж не, яго пражыць, не поле перайсці.

Вера змоўкла. Нейкі час кожны абдумваў сваё, важнае, што абавязкова трэба было вырашыць. Дарога пасушэла. Пад нагамі цяпер быў спрасаваны дажджом пясок. Макар прыгнуўся: у двух кроках ледзь прыкметна відаць была рэчка. На яе шэрані цьмяна маляваўся лазовы куст, але кладкі не было відаць. Узяўшыся за лазіну, Макар пашукаў нагой кладку — няма. Нагнуўся, пашукаў рукой — кладкі нідзе не было.

— Нейкі дурань скінуў, — з незахаванай злосцю сказаў ён. — Каб злавіў, дык адарваў бы вушы.

— Трэба масток зрабіць.

— Дык вось жа кажуць, што непатрэбны. Гэта ж старая дарога. На новай — вунь які мост зрабілі, а тут кладка. — Але ж і тут людзі ходзяць.

— Ходзяць, — Макар пайшоў уніз па рацэ. Вера паціху крочыла за ім. Спачатку яна не разумела намеру Макара, потым успомніла, што ніжэй па рацэ бачыла брод. І сапраўды, там быў вельмі адхонны бераг: відаць, яго разбілі коламі на працягу многіх гадоў.

Макар падышоў да самай вады, зняў боты, звязаў іх за вушкі раменьчыкам, высока падкасаў штаны. Пясок быў мокры і вельмі халодны, аж пякло ў ступні. Макар неахвотна ступіў у раку.

Вера стаяла ў нерашучасці. Што ёй рабіць? Таксама скідаць туфлі і панчохі? Вера зняла боцікі, засталася ў padношаных туфлях. Парашыла пераходзіць раку ў іх: усё роўна прамокла да ніткі.

Макар тым часам таксама вырашаў немалаважную праблему: што яму рабіць? Як чалавек бывалы, ён разумеў, што павінен памагчы дзяўчыне перабрацца на той бераг. Але як? Перанесці? Толькі раптам яна як-небудзь па-свойму і няправільна ўспрыме яго прапанову? Макар патупаў на месцы, яшчэ раз баўтануў нагой насупраць плыні. Вера падышла да яго, спынілася ў нерашучасці. Гэта падбадзёрыла Макара.

— Я вас перанясу, — прапанаваў ён. — Тут, ведаеце, каўдобін многа, ды і вада халодная.

— Не, не, я сама, — запратэставала Вера. Але ў яе голасе не адчувалася рашучасці.

— Ды чаго вы сароміцеся? Вось вазьміце мае боты...

— Вам цяжка будзе, — зноў запярэчыла Вера, але боты ўзяла.

Макар крыху прыгнуўся, каб дзяўчыне лягчэй было абхапіць яго за шыю.



— Сапраўды, я лепш бы сама, — марудзіла Вера.

— Хутчэй вы, а то халадна стаяць, — нецярпліва загадаў Макар.

Вера моцна абхапіла яго за шыю. Макар прыўзняўся, і Вера павісла ў паветры. Макар паволі пайшоў. Верыны рукі балюча сціскалі шыю, заміналі дыханню,ісці было цяжка, але Макар ужо нічога не адчуваў, апрача цёплага, казытлівага яе дыхання над сваім вухам.

На самай сярэдзіне было глыбакавата, Вера войкнула — яе падкурчаныя ногі крануліся вады. Макар ледзьве ўстаяў на нагах. Затое пайшоў шпарчэй.

На тым беразе Макар сеў на траву, старанна абкруціў анучы, нацягнуў боты.

— Вазьміце мой шалік. Ён — шарсцяны, — Вера зняла з шыі шалік, падала Макару.

Ён адхіліў яе рукі.

— Ды вы змерзлі. Я прывычны. У арміі яшчэ і не так даводзілася.

Але яна прымусіла яго ўзяць шалік. Ён быў мяккі і цёплы, быццам захаваў яшчэ яе цяпло.

Віднела. Вецер разарваў хмары, і ў бяздонні неба замігацелі зоркі. Дождж зусім перастаў, але ўсё яшчэ з дрэў церушыўся дажджавы пыл. Яны ішлі поруч, трымаючыся за рукі. Макар асцярожна саграваў яе руку ў сваёй. Яны выбраліся на гару. Неба зусім праяснілася, і тады аднекуль з-за хмар выглянуў на небе маладзік, крывенькі, як серп. Вакол яго мігцелі мільярды зорак, чыстых і светлых, нібы абмытых дажджом.

— А вунь і нашая зорка відаць, — паказаў Макар рукой у бок Закружжа.

— Так, зорка, і яна кліча працаваць, — адказала Вера.

Усё гэтак жа трымаючыся за рукі, яны ішлі, не зважаючы ўжо на дарогу, гразь і холад.



Вядомы армянскі паэт Геворк Эмін нарадзіўся ў 1918 годзе ў сяле Аштарак Армянскай ССР у сям'і настаўніка.

У 1940 годзе скончыў гідратэхнічны факультэт Ерэванскага політэхнічнага інстытута, працаваў на будаўніцтве раённай гідрастанцыі, у Кніжнай палаце, у рэдакцыях газет.

У гады Айчыннай вайны знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі, а ў 1949 — 1950 гг. вучыўся ў Літаратурным інстытуце ў Маскве.

Выйшлі з друку «Трубка міру», «Новая дарога», «Гавары, Арменія», «Пошукі», «Вершы», «Вясновыя воды», «Песні міру», «У нашым доме» і іншыя кнігі вершаў Г. Эміна. Зборнік паэта «Новая дарога» быў адзначаны Сталінскай прэміяй.



**Геворк ЭМІН**

# Я З КРАІНЫ ТОЙ



Я з краіны той, дзе жорсткі камень
Прыціскаў зямлю маю вякамі.
Людзі высякалі храмы ў скалах,
Самі ж у халупах з гліны спалі.

Я з краіны той, дзе век за векам
Было цесна бурным горным рэкам,
Дзе мутнелі воды без надзеі,
А цяпер за працай маладзеюць.

Я з краіны той, дзе год за годам
Жэрлі хлеб пажары і няўроды,
Ці ішоў ён злыдню на патрэбу...
А цяпер гаспадары мы хлебу.

Я з краіны той, дзе між цяснінаў
Чуўся плач жалеек жураўліных,
А цяпер між гор яе суровых—
Грукат фабрык і заводаў новых...

Я з краіны той, дзе мудрасць века
Ападала словам чалавека
Ў рукапіс. Але мінулі годы,
Перш чым яго ўбачылі народы.

Я з краіны, чые песні смела
Паляцелі з гор па свеце белым,
Каб сказаць аб днях былой напасці
І аб нашым новым светлым шчасці.



* * *



Я не магу.
З мяне даволі!
За што той боль мне сэрца рве?!
Няма кахання, а ўсё болей
Пакут, нібы яно жыве.

Каханне помсціць мне за страту!
Вось так праз многа-многа дзён
Баліць начамі у салдата
Рука, якую страціў ён.

**Пераклад П. Панчанкі.**

# ПЕСНЯ АБ МІРЫ



Аб тым, што сонца скрозь касмічны пыл
Зірнула, асвятляючы планету,—
Не знаў пейзаж,
Не ведаў небасхіл,
Дазнаўся толькі чалавек аб гэтым.

А калі людзі перастануць жыць—
Асірацеюць і лясы і горы,
І сонцу будзе нечага свяціць
І залаціць
маўклівыя прасторы.

# ГОРНЫ РУЧАЙ



Звіні,
імчыся ў далячынь, ручай,
Цераз бяздонні і крутыя скалы,
Мой дружа, шлях упарта пракладай,
Якога нават рэкі не шукалі!
Звіні ручай,
спявай: «Арач, арач!» *
Чым шлях цяжэйшы,
тым ён і цікавы.

* Арач-арач—наперад-наперад (па-армянску).

Нямала будзе
зрываў і няўдач,
У прорве
згінеш мо' пад снежнай лавай.
Не прыдуць шум і слава да цябе.
(Дый сэнс які у шуме паміж кручаў?),
А ты пакінеш памяць аб сабе
Сваім крынічным сэрцам неўміручым.
Імчыць Аракс
па рэчышчы старым,
Яму
не трэба намаганняў многа.
Мы, ручаі,
па цаліне бяжым,
І кожны крок
бярэм мы перамогай!
Спявай жа
песню, брат, аб барацьбе,
У невядомае
ўвайсці цікава...
Шлях адкрываць
даводзіцца табе.
А ці ж малая, дружа, гэта справа?

* * *

**«Ты ляці, ляці, ластаўка,**
**У далёкі бацькаў дом»...**
**«Адкуль ты, журавель, ляціш!»**
**З народных песень.**



Годзе, дружа мой, не кліч
Ластаўку з даўнейшай песні,
Тую, што ў бядзе калісь
Клікалі мы з паднябесся,
Тую, што ў далёкі шлях
Спрабавала гора зносіць...
Гора гэта—у вяках
Ды ў той песні засталося.

Ты не кліч, не непакой
Ластаўку былой тугой.

Жураўля таго не кліч,
Што ляцеў з-за Арарата
На заморскія палі
Расказаць братам пра брата.
У край чужы забыў ён шлях,
Ён цяпер не ў паднябессіі,
Сум пакінуў у вяках
Ды ў старой самотнай песні.



Не трывож ты жураўля,
З ім пра сум не размаўляй.

Лепей голуба заві,—
Голуб міру белакрылы
Весткай дружбы і любві
Над зямлёй лунае мілай.
На яго глядзіць ў слязах
Арарат сівагаловы.
Голуб, лётай у вяках
І ў песні гэтай новай!

Голуб міру, ўвысь ляці,
Вольны шлях табе ў жыцці!

* * *



Чужы ў тваіх вачах адбіт пагляд,
Хтось іншы гладзіў косы да мяне
І сэрца білася другому ў лад.
Ды я цябе не дакараю, не!
Усмешкі вінаватай не хавай.
Цябе, як добрай кнігі, не стае,
І,—гэта за дакор мой не прымай!—
Шмат хто імкнуўся прачытаць яе.
Але далей прадмовы, паміж тым,
Ніхто дагэтуль не заглядваў, не.
Багацце непрачытаных нікім
Старонак
засталося для мяне.
Хай аганёк—пад попелам сівым,
Няхай румянец губ крыху пабляк.
Была ты неашчадная зусім...
Павер мне, не ў дакор кажу я так.
Перагартана прыгажосць твая
Другімі.
Сэрца ж прачытаю я!

* * *



Я так люблю цябе,
мая Арменія —
лунанне птахаў,
песні на палях,
твае дарогі і шляхі каменныя,
дзе пахне вечнасцю сама зямля.
Люблю твае таполі каля домікаў,
аднасяльчан

на ранішняй касьбе.
Люблю я горы,
як фрагменты помніка,
Радзіма-маці,
помніка табе!
Люблю я ночы зімнія,
вясеннія,
жыццё люблю —
душою не крыўлю.
Калі ж захочуць адабраць Арменію,
дык смерць
ў імя жыцця
я палюблю!

* * *



Сотні разоў я збіраўся
Кінуць цябе, пайсці.
Сотні разоў я вяртаўся
Зноў з паловы пуці.
Сотні разоў мне люта
Сэрца паліла ты,
Але праз адну мінуту
Я забываў аб тым.
Вышаў і сёння ў дарогу,
Каб не прысці назад,
Але пачуў за парогам
Кліч твой, адчуў пагляд.
Смерць даганяе ўсюды,
Хоць і за свет бы збег...
Нават і мёртвым я буду
Думаць зноў пра цябе.
Праз глупства расстацца страш...
Раптам памру... тады
Сварка кароткая наша
Будзе цягнуцца заўжды.

**Пераклад М. Аўрамчыка.**

Вялікі польскі паэт Юліуш Славацкі (1809—1849), стапяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння якога шырока адзначае ўсё прагрэсіўнае чалавецтва свету, быў прадстаўніком рэвалюцыйнага рамантызма і адным з пачынальнікаў рэалістычнага напрамку ў польскай літаратуры.

Нарадзіўся ён на Украіне, адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце. Літаратурную дзейнасць пачаў пад моцным уплывам Адама Міцкевіча.

У творчасці Славацкага выказваюцца антыманархічныя погляды, гучыць пратэст супраць феадальнага сваволля, выкрываецца ілжывы патрыятызм здраднікаў-магнатаў і шляхты.

У дні паўстання 1830 года Юліуш Славацкі набыў шырокую вядомасць сваімі вершамі, у якіх заклікаў палякаў да барацьбы за нацыянальнае вызваленне і выказваў надзею на дапамогу рускага народа.

У 1848 годзе Славацкі быў перакананым прыхільнікам антыфеадальнай сялянскай вайны ў Польшчы і вітаў будучае рэвалюцыйнае выступленне пралетарыята.

Пранікнёны, тонкі майстар лірычнай паэзіі, Славацкі ўдасканаліў польскае вершаскладанне, а таксама стварыў польскую драму новага тыпу.



**Юліуш СЛАВАЦКІ**

# МОЙ ЗАПАВЕТ



Жыў я тут з вамі, пакутаваў з вамі і плакаў,
Сёння ад вас адыходжу навекі ў нябыт я.
Варты пашаны не быў для мяне абыякім,
Ваша нядоля тугою маёй апавіта.

Не пакідаю ніякага спадчынаёмца,
Ані для лютні маёй ні наймення.
Імя маё праляціць, як маланка, пад сонцам,
Будзе, як пошчак,ісці праз усе пакаленні.

Тыя, што зналі мяне, у паданнях адзначце,
Што маладосць сваю ўсю я аддаў для народа,
На баявым караблі быў заўсёды на мачце,
Гінуць пачаў карабель—з ім пайшоў і пад воду.

Хто будзе думаць аб лёсе айчыны каханай,
Калі ў ім знойдзецца кропля святога сумлення,
Скажа, што дух мой быў славаю продкаў убраны,
І не бывала на ім жабраваных адзенняў.

Хай дружбакі мае прыдуць паўночнай часінай,
Возьмуць з грудзей маё сэрца і спаляць з альвасам.
Той, што дала яго, прах застанецца ад сына,
Доўг свой адбуду і свету і матцы тым часам.

Хай дружбакі мае сядуць ля поўнае чары,
Сховы мае хай зап'юць хоць уласнай нядоляй.
Духам я стану—з'яўлюся да іх, як прымара,
Дасць бог пакуту—не ўбачымся больш мы ніколі.

Я заклінаю: жывыя, надзею не траццьце!
Перад народам трымайце асветы паходню.
Трэба памерці—адзін па адным памірайце,
Але руйнуйце варожую сілу вы штодня.

Што да мяне—вам маленькую дружбу пакіну
Тых, што маглі пакахаць маё гордае сэрца.
Згодзен пайсці ў неаплаканую дамавіну,
Доўг свой увесь я адбыў напярэдадні смерці.

Здолее хто цераз свет, абыякасці поўны,
Так перайсці, як вось я перайшоў, без авацый?
Быць рулявым на напоўненым духамі чоўне,
Так, як яны, непрыкметна з жыццём развітацца?

Ўсё ж застанецца мая вам фатальная сіла,
Што пры жыцці магла толькі... чало мне аздобіць.
Будзе нябачна гнясці вас яна да магілы,
Можа калі хлебажэрцаў анёламі зробіць.

1839 г.

**Пераклад з польскай мовы У. Дубоўкі.**

# РАЗЛУКА



Мы ў разлуцы, а помнім адно пра другога:
Паміж намі заўжды кругавыя палёты
Робіць белы вяшчун—голуб нашай самоты,
Ад цябе, дарагой, да твайго дарагога.

Знаю ўсё пра цябе, і калі паліваеш
Агародчык вадой, і падушку—слязьмі.
Ты відна мне, як зорка—такая жывая,
Адзінокая ў суме сваім між людзьмі.

У вачах маіх дом твой і дрэвы, і кветнік,
І хоць вочы праглядзь—не дасягнеш туды.
Думка—гэты праніклівы, шчыры саветнік —
Мне гаворыць: «Вось там яна гіне з нуды» .



Толькі марна ты будзеш пад месяцам срэбным
Уяўляць мой прытулак і мой краявід.
Ты не знаеш, што ў бездань разлукі патрэбна
Абваліць купал неба і гэты блакіт.

Падзяляць папалам на зямлю і азёры
Ўдзень—бліскучай заслонаю гор, а ўначы—
Ізумрудамі скал, і пабачыць, як горы
Паліруюць аб месяц вяршыняў мячы.

Ты не знаеш, што ў час пасля захаду сонца,
Калі ўсходзіць названая зорка твая,
З-за азёрнае далечы ў мілым аконцы
Два агеньчыкі сэрцам угадваю я.

Я люблю іх, азёрныя іскаркі-зоры,
Саграваюся іхнім утульным цяплом.
Хай жа свецяць мне заўжды, як сёння і ўчора,
Хоць нязыркім, але жыватворным святлом.

Ты ж—пагасла навек, і хоць болей не ўбачу
Я, выгнаннік, сваю незабыўную знічку,
Мы то змоўкнем, то зноў распачнём пераклічку,—
Сумных два салаўі, што заходзяцца з плачу.

Жэнеўскае возера,
20 ліпеня 1835 г.

# ДА МАЦІ



Ці раз абальецца крывёй тваё сэрца пры стрэчы
З усімі, што ўжо на радзіме прыняты.
Ты будзеш клясці тую зброю, што муляла плечы
І дух гартавала у сына-салдата.

Я знаю: вяртаннем прадоўжыў бы век твой на годы.
Аднак хто спытае, кажы, што вярнуся не хутка,
Што сын твой, як пёс, на пасту пры штандары свабоды;
Ты клічаш, а ён толькі гляне у скрусе і смутку,

Пашле толькі позірк, а сам не памкнецца ні разу.
Табе ж гэты позірк—адкрытая кніга сумлення:
Хто прагне свабоды, не вернецца той на абразу,
Ён прыме лепш смерць, а не згодзіцца жыць на каленях.

Даруй яму, маці, не думай благога аб сыне.
Не многа зайздроснага ў горкім выгнанніцкім лёсе.
Павер,—калі б мог ён пакінуць свой пост пры святыні,
Табе ў непазбыўнай тузе знемагаць не прышлося б.

1838 г.

## У АЛЬБОМ ЗАФІІ БАБРОВАЙ



Хай Зоська не просіць мой верш для альбома.
Калі яе прыме ў абдымкі айчына,
Ёй далеч палёў і дарожныя бомы,
І кожная кветка прысвецяць тэрцыны.
Ёй будзе паэтам радзіма сама—
Такога другога на свеце няма.

Блакітная зорка, званочак ліловы
Складуць ёй паэмы, і гімны, і оды.
Скарбонку жывога, нясцёртага слова
І я пазычаў там у лепшыя годы,
Калі, бесклапотны, ля Іквы-ракі
У маленстве блукаў, як і ўсе хлапчукі.

Цяпер я ў далёкай чужыне блукаю.
Выгнаннік, закончу свой век беспрытоння.
Хоць водбліск зарніцы з бацькоўскага краю,
Хоць лісцік рамонка з падольскіх аблонняў
Ты мне прывязі, як надзею, як песню —
І, можа, мая маладосць уваскрэсне.

Парыж, 13 сакавіка 1844 г.

**Пераклад з польскай мовы Я. Семяжона.**





Пімен **ПАНЧАНКА**

# НА БЕРАЗЕ ДЗВІНЫ

З якога боку ты ні пад'язджаў бы да Полацка, першае, што заўважыш здалёк, гэта сабор Сафіі — архітэктурны помнік XI стагоддзя. Ён, беласценны, са стромкімі прыгожымі званіцамі, лёгка і горда ўзвышаецца над старажытнай полацкай зямлёй, як сведка будаўнічага таленту беларускага народа. А горад Полацк сапраўды старажытны: у 1962 годзе ён будзе святкаваць свой 1100-гадовы юбілей.

Каля Сафійскага сабора, на высокім зялёным вале, археолагі вядуць раскопкі. З непадробнай стараннасцю вучоным дапамагаюць студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яны сапраўды ўгрызаюцца ў глыб стагоддзяў. І не бяда, калі ім здасца рэдкай знаходкай выпадковы кавалак жалеза. Археолаг Леанід Давыдавіч Побаль, улюбёны ў сваю справу чалавек, вядзе нас у дашчаты склад, дзе руплівыя дзявочыя рукі перамываюць сплеснявелыя чарапкі, нумаруюць і асцярожна кладуць іх на паліцы. Тут ужо назбіралася нямала сапраўды каштоўных знаходак: керамічныя пліткі, цацкі, курэцкія люлькі з тонкімі ўзорамі, старажытныя збанкі, якія мала чым адрозніваюцца ад сучасных.

— Умелыя рукі мелі гэтыя полацкія майстры, — гаворыць Леанід Давыдавіч.

Не менш умелыя рукі маюць і сучасныя майстры Полаччыны, якія нанава адбудавалі разбураны фашыстамі Полацк і цяпер пішуць новую, яшчэ больш слаўную старонку гісторыі старажытнага беларускага горада. І пішацца гэтая

старонка недалёка ад Полацка, на высокім левым беразе Дзвіны.

Мы паехалі ў горад нафтабудаўнікоў у пагодную летнюю нядзелю. Да пераправы праз Дзвіну з Полацка і навакольных вёсак імчаліся машыны, бясконцым ланцужком рухаліся людзі ў святочным убранні. Парам не паспяваў перавозіць, і людзі, чакаючы сваёй чаргі, любаваліся прыгажуняй-ракой, якая ўся зіхацела і серабрылася ад сонечных праменняў.

А за ракой, на высокім беразе, праторна раскінуўся гарадок будаўнікоў. Аднапавярховыя і чатырохпавярховыя дамы весела бялеюць на фоне зялёнага лесу. Тут і інтэрнаты, і кватэры спецыялістаў, і адміністрацыйныя будынкі, і прыгожы клуб, і прасторная сталоўка... Выдзяляецца сваімі памерамі новая школа. Многія дамы яшчэ голькі ўзводзяцца, у іншых, відаць, ужо завіхаюцца тынкоўшчыкі і маляры.

Пасёлак, альбо Піянерны гарадок, як яго тут называюць, непрыкметна ўкліньваецца ў бор. На ўскрайку пабудаваны прасторны зялёны тэатр. Сюды вось і спяшаліся святочна апранутыя людзі на злёт партызан Полаччыны.

Мы бачым, як абдымаюцца, цалуюцца, стукаюць адзін другога па спіне баявыя сябры. Многія з іх прыехалі на партызанскае свята з Масквы, Мінска, Віцебска і іншых гарадоў і вёсак. На праслаўленых партызан з павагай глядзяць маладыя будаўнікі. Але пакуль не пачаўся ўрачысты сход, мы зацікавіліся яшчэ маладзейшымі жыхарамі Нафтабуда. Можаце меркаваць па здымку, што ім тут жывецца не сумна. А побач жа рака ды бясконцы лес з грыбамі і ягадамі.



Загучаў Гімн Савецкага Саюза. Партызанскі злёт пачаўся. Да трыбуны адзін за другім падыходзілі гераічныя полацкія партызаны. Былы камандзір брыгады Герой Савецкага Саюза Пруднікаў і іншыя славутыя народныя мсціўцы ўсхвалявана расказвалі пра баявыя справы савецкіх патрыётаў. А вакол, як згледзець вокам, сядзелі і стаялі будаўнікі нафтаперагоннага гіганта. Пераважная большасць з іх — моладзь, камсамольцы.



Гэта была хвалюючая сустрэча. Здавалася, што бацькі і старэйшыя браты перадавалі маладому пакаленню эстафету гераічных спраў. Можа таму прысутныя так горача сустрэлі выступленне сакратара камсамольскай арганізацыі Нафтабуда Фёдара Геута, які пакляўся ад імя маладых будаўнікоў памножыць гераічную славу бацькоў працоўнымі подзвігамі, пабудаваць нафтагігант на год раней тэрміну.

Доўга не змаўкалі ў гэты дзень музыка і песні. А пазней, калі наддзвінскія лугі пакрыліся туманам, над ракой усюды можна было бачыць пары, якія, відаць, гаварылі аб нечым такім, пра што з трыбуны не скажаш...



На другі дзень мы паехалі на будоўлю, як нам здавалася, вельмі рана. Але там ужо ішла поўным ходам праца.

У кабінеце начальніка Нафтабуда Пятра Іванавіча Катаводава было даволі людна. Бясконца звінелі тэлефонныя званкі, заходзілі, каб вырашыць неадкладныя справы, начальнікі ўчасткаў, інжынеры. Тут жа сядзелі сакратар Полацкага гаркома партыі А. Мацкевіч і сакратар партарганізацыі будоўлі М. Чэчат (мне здаецца, што тут яго прозвішча вымаўляецца няправільна, бо ён паходзіць з Гродзеншчыны, з тых мясцін, дзе нарадзіўся і жыў беларускі паэт і этнограф Ян Чачот).

І вось тут, у кабінеце Пятра Іванавіча, мы ўжо адчулі, як напружана жыве гэтая вялікая новабудоўля.

Званок. З Марыупаля паведамілі, што жалеза адгружана. Але вось некаторыя віцебскія прадпрыемствы і ўстановы падводзяць. Домабудаўнічы камбінат не прысылае 108 папярэдне нагружаных бэлек. Параходства даўно абяцала тры баржы для будаўніцтва маста, а іх усё няма. А мост патрэбен дазарэзу: з паромам далёка не заедзеш... Тэмпы будаўніцтва нарастаюць, грузаў прыбывае ўсё больш і больш. А тут яшчэ не пабудавана асноўная дарога, не хапае электрычнага току. Званкі, дзелавыя размовы, просьбы, папярэджанні... Ага, вось і прыемная навіна: з лабараторыі паведамілі, што мясцовы пясок добрай якасці. Значыць, не трэба будзе вазіць яго з Украіны. Далёка і дорага.

Вырашыўшы яшчэ з дзесятак неадкладных ранішніх спраў, Пётр Іванавіч Катаводаў едзе паглядзець, як ідзе праца на асноўных участках. Мы накіроўваемся следам.

Праімчаўшыся колькі кіламетраў па новай шырокай дарозе, што пралегла праз густы лес, спыняемся ля будаўнічых пляцовак прамбазы. Так скарочана называюць вытворча-тэхнічную базу трэста — галоўны напрамак сёлетняга будаўніцтва. Гэта база, як мы пераканаліся, — сур'ёзная рэч. Патрэбна ўзвесці дзесяткі паўтара, а то і больш розных збудаванняў: і цэхі, і майстэрні, і вузлы, і палігоны, і склады.

І гэта ўсё — падрыхтоўка да асноўнага будаўніцтва!

Здаўна стаяла на гэтым месцы ў лясной глушы невялікая вёска Новы Двор. Хаткі яе састарэлі, пакрывіліся і дажываюць свае





**Вось яна — Галя Сяргун, брыгадзір тынкоўшчыц з будоўлі Полацкага нафтакамбіната.**
(Гл. рэпартаж «На беразе Дзвіны», стар. 111).
Фотаэцюд А. Дзітлава.



**Памочнік майстра ткацкага цэха Мінскага камвольнага камбіната Віктар Карніцкі, як і Валянціна Гаганава, перайшоў працаваць на адстаючы ўчастак. Першым чынам ён прывёў у добры стан усе зношаныя станкі. Зараз участак атрымлівае заказы на выраб тканіны вышэйшага гатунку. Віктар Карніцкі вучыць маладых майстэрству ткацкай справы і сам завяршае завочную вучобу ў Мінскім тэхнікуме лёгкай прамысловасці.**

Фота А. Дзітлава.

**Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Кацярына Сяргееўна Шчыпер — даярка калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Мазырскага раёна.**

Партрэт мастака Н. Воранава.



**Старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Мазырскага раёна Кандрат Савельевіч Гаруля.**

Партрэт мастака У. Стальмашонка.

апошнія дні. А сапраўдны новы двор тут будзе! Гляньце на здымак. Вось ужо і воданапорная вежа вырасла, і растворна-бетонны вузел уздыбіўся, як дапатопны звер. А далей будуюць «сіласныя вежы» — склады цэменту. Тут працуюць брыгады двух Іванаў — Івана Барановіча і Івана Фіркіна. Добрыя брыгады! Менш як на 150 працэнтаў план не выконваюць. Часам падбіраюцца пад 200. Яны абагналі брыгаду самога Пятра Блахіна — чалавека, добра вядомага сваімі поспехамі.

А дзе ж Пётр Блахін, як гэта ён дазволіў сябе пераганяць? Падыдзем да яго!

Брыгада Пятра (на здымку злева) працавала на будаўніцтве склада інертных. «Інертныя» — гэта звычайныя пясок і гравій, але



без іх будаўнікам не абысціся, бо яны складаюць аснову бетону. Невялікі пад'ёмны кран час-ад-часу падносіў у каўшы новую важкую порцыю бетону і вылліваў яе ў «бойкі». Высока над катлаванамі прыбівалі дошкі апалубшчыкі. Сярод іх вылучаўся стройны хлопец у кашулі з закасанымі рукавамі.

— Што ж гэта вы, Пятро, дазваляеце, каб вас абганялі Іваны? — запыталіся мы ў брыгадзіра.

— А гэта і добра, няхай абганяюць, даволі адставаць. А мы яшчэ сваё возьмем...

У Блахіна смуглы сімпатычны твар, дабрадушная ўсмешка, разумныя вочы. Адразу відаць, што ён не любіць выхваляцца, але такі ніколі не падвядзе. Родам Пятро з Суражскага раёна. Закончыў Ніз-каборскую сярэднюю школу — і на будоўлю. Яго брыгада пачала працаваць тут у верасні мінулага года. Дождж, гразь, розныя непаладкі не пераватварылі маладых хлопцаў у ныцікаў. Яны месяц за месяцам перавыконвалі планы. А многія ж з гэтых, цяпер кваліфікаваных рабочых, прыйшлі сюды са школьнай парты.

— У нас ёсць і свае паэты, — усміхаецца брыгадзір. — Вунь, бачыце хлопца ў зялёнай кашулі? Гэта Аляксандр Гугнін. Закончыў школу з залатым медалем, а прыйшоў да нас. Спачатку працаваў рознарабочым, а цяпер — добры бетоншчык. Марыць у Маскоўскі ўніверсітэт паступіць.





— А вы самі, Пятро?

— Я завочна буду вучыцца ў тэхналагічным, на нафтавым факультэце, каб застацца потым на сваім заводзе.

Брыгадзір спяшаецца, яму трэба некаму дапамагчы, а да нас прысылае Аляксандра Гугніна.

— Ну як, ладзіце са сваім брыгадзірам?

Саша здзіўлена глядзіць на нас, не разгадаўшы наш не вельмі хітры прыём.

— О! Гэта такі чалавек! Ён навучыў мяне, ды і не толькі мяне, працаваць. Ён навучыў мяне любіць працу. І ўсюды сам, і ўсюды сам... Цяпер кожная непаладка альбо перабой для нас — як нож у сэрца.

Пасля змены Саша Гугнін паказаў свае вершы. Не ўсё тут было дасканалым, але рабочая гордасць выразна гучала ў шчырых радках. Вось адзін з вершаў пад назвай «В это утро»:

Ещё рассвет крылом игривым
Не разогнал ночные тени,
И в неумытом сером небе
Луна крадется осторожно.
По спящей улице шагаю,
А ветер дует прямо в спину.
Пойми, читатель, это утро
На теплый день не променяю.
Ведь в это ветренное утро
Я ощутил труда дыханье
И в строй вступил семьи
рабочей,
Кующей для народа счастье.

І ў працы, і ў вучобе, і ў розных складаных і нескладаных пытаннях камсамольцам, моладзі дапамагаюць іх старэйшыя таварышы — камуністы. Адзін з іх — Уладзімір Кандратавіч Пэк. Ён ведае кожнага, яго сілу і слабасць. І не толькі таму, што ён начальнік кадраў УНР-126 і сакратар партарганізацыі. Ён з'яўляецца камандзірам народнай дружыны Нафтабуда. Парушальнікаў грамадскага парадку ў рабочай сям'і не вельмі многа, але трапляюцца.

— Нас яны баяцца больш, чым



міліцыі, — гаворыць Уладзімір Кандратавіч.

Аб тым, як клапоцяцца аб дабрабыце моладзі і кіраўнікі трэста, і партыйныя работнікі, мы пераканаліся, убачыўшы кантралёра грамадскага харчавання Мікалая Сямёнавіча Данца. Ён ішоў, усхваляваны, са шклянкай у руках.

— Паглядзіце, якой вермішэллю кормяць сёння рабочых! — звярнуўся ён да Пятра Іванавіча Катаводава (справа) і сакратара гаркома партыі А. Міцкевіча (у цэнтры).



Ну і ўзлаваўся Пятро Іванавіч! Пагаварыў з рабочымі і паімчаўся ў сталовую. Даволі гарачая размова закончылася там добрымі парадамі, у канцы якіх гучалі такія

смачныя рэчы, як халаднік з укропам і свежымі агурочкамі ды чарніцы з малаком.

На вялікую будоўлю прыязджаюць людзі з розных мясцін, з розным вопытам і патрабаваннямі. Трапляюцца сярод іх і такія, што гоняцца за доўгім рублём, і такія, што любяць усё лаяць і ныць з-за кожнай кроплі дажджу, якая трапіла за каўнер. Моладзь такіх не любіць.



Карыкаў Віктар прыехаў на будоўлю з Цюменскай вобласці, Фёдар Дзявятуха — з Пліскага раёна, Сяргей Федарэнка — з Полацка, Вера Калтунова — з Оршы, Оля Глазюк і Зіна Лапінская — таксама з Віцебшчыны. Яны вучацца ў будаўнічым вучылішчы. У іх адно жаданне — стаць добрымі арматуршчыкамі. Дзяўчаты смяюцца:

— Мы хоць і рукі паабдзіралі, але пах жалеза нам падабаецца.



Непадалёк ад вясёлых дзяўчат мы сустрэлі студэнтаў Віцебскага



педагагічнага інстытута, што прыехалі сюды папрацаваць у канікулы. У іх таксама бадзёры настрой: гатовы горы перавярнуць. Праўда, пакуль што ім даручылі выкапаць канаву. Ды вось бяда — тупыя лапаты! Пачуліся ваяўнічыя крыкі:

— Даёш тачыла!

Хутка з'явілася тачыла і студэнты пачалі вастрыць лапаты. Непрывычна, але ўсё трэба ўмець, усё спатрэбіцца ў жыцці.

На будоўлі яшчэ нямала і буйных і дробных недахопаў. Але праца, як кажуць, кіпіць, і верыш, што камсамольцы, пакляўшыся на сустрэчы з партызанамі пабудаваць нафтаперагонны гігант на год раней тэрміну, сваё слова не кінулі на вецер.

Запявалам і будоўлі з'яўляюцца тыя, хто змагаецца за званне брыгад камуністычнай працы. І першыя сярод іх — з брыгады Галі Сяргун. Раней брыгада Галі вяла сухую тынкоўку жылых дамоў. Цяпер вядзе самастойную працу па мокрай тынкоўцы, што значна цяжэй і складаней. Мы парашылі сфатаграфаваць Галю, але яна адмовілася.

— Не пайду, не хачу!..

У голасе гэтай прыгожай дзяўчыны чулася злосць, а ў сініх-сініх вачах ледзь не блішчалі слёзы.



— А ў чым жа мы вінаваты?

— А мы вінаваты? — разгневана сказала брыгадзір Галя і павяла нас на другі паверх, дзе працавала яе брыгада.

— Палюбуйцеся!

Мы прыгледзеліся. Пліты, прымацаваныя да стольнага перакрыцця, былі дэфармаваныя, пакарабачаныя.

— Тынкоўку дапускаецца класці да сантыметра, а тут даводзіцца часам рабіць задзел да трох. Так і план не выканаем, і заробкі ў хлапцоў і дзяўчат будуць малыя. Майстар за справай кепска глядзіць, не выпісваюцца нарады на насечку.

Давялося запрасіць і майстра, і прараба. Галіна крытыка ўсімі была прызнана правільнай. Былі дадзены абяцанні (дай божа, каб не чарговыя!).

Галя прыкметна павесялела, дазволіла сфатаграфаваць. Цяпер нашы чытачы могуць пераканацца, якія прыгожыя дзяўчаты працуюць на Нафтабудзе і як хораша яны ўсміхаюцца (гл. укладку).

— Справа не ў заробках, — сказала Галя. — Без насечак тынкоўка хутка адваліцца і можа пакалечыць нават дарослага чалавека. А хто, запытаюць, рабіў у гэтым доме тынкоўку? Брыгада камуністычнай працы Галі Сяргун. Сорамна і крыўдна. Трэба ж думаць аб тых, хто тут будзе жыць.

Я любаваўся Галяй Сяргун і думаў: такія людзі ўсё пабудуюць і добра і раней тэрміну.

На старажытнай полацкай зямлі завіхаюцца маладыя руплівыя гаспадары.

Фота А. Дзітлава.



## Аляксандр ШЛЕГ

# ТАК НАРАДЖАЕЦЦА СТАЛАСЦЬ

### Абразкі жыцця

— Хлопцы! ЖС-9 прывезлі! Хутка выгружаць будуць! — усхвалявана бліскаючы сінімі памятнымі вачыма, закрычаў на ўвесь клас Вася.

— Які ЖС-9? Тодкам кажы! — абступілі яго цесным кругам таварышы.

— Адгадайце!..

— Васіль! Не цягні за душу! Ды кажы ж нарэшце!

Вася загадкава жмурыўся. Яго прыпухлыя губы хітравата ўздрыгвалі.

— Кажы! А то не паглядзім, што ты брыгадзір — адлупцуем, — не адступаліся ад сябра дзевяцікласнікі. — Ну? Што такое ЖС-9?

— Электрасілавы агрэгат. Прыбыў да нас у школу. Будзем устанаўліваць...

... Невялікае занядбанае памяшканне непадалёку ад школы стала цэнтрам увагі ўсёй вёскі. Да яго, нібы даганяючы адзін аднаго, беглі жоўтыя, свежаабчасаныя слупы. Вечарамі, цесна ўсеўшыся на чыйё-небудзь прызбе, старыя паглядалі на гэтыя слупы і, ківаючы сівымі галовамі, гаварылі:

— Чулі навіну? Вучні нашы машыну нейкую прывалаклі, электрыку, як у Ляхавічах, хочуць сабе зрабіць. Дзіва ды і толькі! І адкуль у іх спрыт бярэцца?

Правады з вясёлым звонам вялі сваю бясконцую песню. Раптам наляцеў моцны вецер. Злавесна, па-навальнічнаму, зашумелі ў цемнаце дрэвы. За вёскай мільганула белае вока маланкі. Парывы ветру перабіралі стальныя струны правадоў, узнімаючы часам сярдзіты металічны лямант.

Ужо даўно разышліся па хатах старыя, а ў цесным памяшканні будучай электрастанцыі ўсё яшчэ цепліўся іржавы агеньчык ліхтара.

— Канчайце, хлопцы! — Уладзімір Аляксандравіч Ермаловіч стомлена апусціўся на кожух генератара. — Давайце падвядзем вынік нашай працы! Што ж мы зрабілі — залілі цэментам падлогу, зацэментавалі станіну агрэгата; устанавілі сілавы шчыт, ад шчыта да агрэгата праклалі падземны кабель, паставілі слупы, нацягнулі правады — і ўсё гэта... за два тыдні Малайцы! Добра папрацавалі.



Цяпер павінен сказаць другое і самае галоўнае. Здагадваецеся, *што я маю на ўвазе?*

Восем хлапчукоў напружана лавілі кожнае слова свайго настаўніка.

Працяглы стогн ветру пранёсся за акном. Уладзімір Аляксандравіч падняўся, падышоў да шчыта кіравання.

— Заўтра ў нас адбудзецца пуск электрастанцыі! — быццам узважваючы кожнае слова, вымавіў ён. Гэта навіна была такой доўгачаканай і ў той жа час такой неспадзяванай, што хлопцы ад здзіўлення аж раты паразяўлялі. Секунда... Другая... і раптам звонкі смех птушкай узвіўся да столі. Гэта быў смех радасці.

— Віншую, хлопцы, з першай перамогай, — Уладзімір Аляксандравіч урачыста, па чарзе, моцна паціснуў замасленыя рукі сваіх памочнікаў. — А цяпер — марш па хатах! Усім спаць да 11 гадзін раніцы!

Ён адчыніў дзверы, і сыраватае начное паветра ўварвалася ў памяшканне. Дождж спыніўся. Месяц, зачапіўшыся рогам за воблака, цадзіў мутнае святло. Хлопцы ішлі, не разбіраючы дарогі і гучна размаўляючы. Уладзімір Аляксандравіч яшчэ доўга чуў іх акрылёны радасцю смех.

* * *

Школа стаіць у цэнтры Мядзведзіч. Блакітныя ліштвы вокан глядзяць на вуліцу. Уваходная арка ў школу спавіта зялянінай. Над ёй палошчацца на ветры чырвоны сцяг. Хлапчук у чорнай вельветцы наўскасяк перабягае вуліцу і спыняецца ля школьнай брамы.

— Прывітанне, Вася! — нечакана чуе ён дзявочы голас.

— Добрай раніцы! Ты што гэта так рана прыйшла? Яшчэ толькі палова восьмай. Магчыма, дома чаго навытварала? — па-сяброўску падаючы дзяўчынцы руку, пытае хлопец і заклапочана ссоўвае бровы.



З вялікай ахвотай мядзведзіцкія школьнікі вывучаюць калгасную тэхніку.
Фота С. Чырэшкіна.

— Не, што ты! Я сёння дзяжурная па класу!

— А-а! Ну, ідзем разам.

— Васіль, а Васіль! А ты чаго так рана?

— Трэба, ведаеш, нарады звенням на работу выпісаць. Пасяўная ў разгары. Учора з урокамі засядзеўся, не паспеў...

— Слухай, а куды майму звяну сёння?

— На кукурузу.

Размова абрываецца. Абодва моўчкі ўзнімаюцца па прыступках ганка. Праходзячы міма велізарнага, на ўсю сцяну, стэнда з надпісам: «Куток працоўнай славы», хлопец на імгненне затрымліваецца.

— Лепшыя працаўнікі вучнёўскай вытворчай брыгады № 5 калгаса «Першае мая»! — з гонарам чытае ён. — Яня, а ты зусім

не падобна на здымку! Губы падціснула, быццам злуешся...

— От, выдумаў! — дзяўчынка ўсміхаецца і абцягвае па прывычцы салатавую кофтачку, на якой паблісквае камсамольскі значок. — Васіль, а Васіль! Мне проста не верыцца, што наша брыгада заняла другое месца ў рэспубліцы!

— Дык гэта было летась. А сёлета павінны на першае выйсці! — робленым баском адказвае Вася і рашуча адчыняе дзверы з таблічкай «Савет звеннявых».

* * *

Спрэчкі разгараліся. Гаварылі многа і ўсе адразу. У памяшканні стаяў гул. Сярод хаосу дзіцячых галасоў асабліва вызначаліся звонкія выкрыкі дзяўчынак:

— Не выйдзе з гэтага нічога! І прыдумае ж — юнацкі калгас!..

— Наш Кузняцоў заўсёды штонебудзь выдумае!

— І нічога ён не выдумаў! У другіх школах ужо даўно ёсць такія калгасы! — даводзіла Яніна Пляшэвіч. — Вечна вы, дзяўчаты, нечага баіцёся! Вася вельмі добра сказаў! Трэба стварыць школьны калгас!

— А ўрокі як? Працуй у полі, а потым двойкі атрымлівай! Не-е! Табе добра казаць, ты выдатніца! А іншым?

— Усё роўна калгас трэба! Хто вучыцца хоча, таму работа не перашкода! — упарта стаяла на сваім Яня. — А вы спалохаліся цяжкасцей! Вось і ўсё!..

Той, хто завёў усе гэтыя спрэчкі, дзевяцікласнік Вася Кузняцоў, бездапаможна стаяў за сталом прэзідыума і разгублена міргаў густымі чорнымі вейкамі. Смуглявы твар пачырванеў, агнём палалі нават вушы. Ён механічна стукаў ручкай па стале, але дарэмна. Спрэчкі ўспыхвалі ў розных месцах. Па ўсім відаць было, што Васіна прапанова спадабалася. Ідэя стварыць свой калгас была вельмі захапляючая.

Дырэктар школы Іван Піліпавіч Дзегілевіч сядзеў на сваім улюбёным месцы ў кутку і толькі хітравата ўсміхаўся вачыма. «Пара прысці на выручку Кузняцову!» — падумаў ён і ўзняў руку.

— Мне, сябры, вельмі спадабалася прапанова Васі Кузняцова! — Іван Піліпавіч дапытлівым позіркам абвёў прыціхлых вучняў. — Карысная яна, патрэбная. Але нічога не зробіш! Калі вы лічыце, што яна нездзяйсняльная, прыдзецца адмовіцца...

Сход зноў загудзеў, нібы ўзрушаны пчаліны рой.

— Раз гэтую справу ўхваляе Іван Піліпавіч, значыць, яна вартая, — давяральна паведамляе свайму суседу Браніслаў Барысевіч. — Ёсць сэнс узяцца за яе!..

— Але ж! — згаджаецца Леанід Коршун і ўсхопліваецца з месца. — Іван Піліпавіч! Мы ўсе за калгас. Так я кажу, хлопцы, ці не?

— Правільна! — адным выдыхам выгукнуў сход.

Іван Піліпавіч усміхнуўся, прысеў да стала і падцягнуў да сябе чысты ліст паперы.

— Ну, тады давайце абмяркуем гэтае пытанне больш падрабязна.

* * *

Яркі прамень сонца слізгануў па падушцы і трапіў у вочы. Раман прачнуўся. На кухні бразнула засланка. «Мама ўжо ўстала. Цяпер печ будзе распальваць, — не расплюшчваючы вачэй, з усмешкай падумаў ён, — і заўсёды так! Ледзь свет — ужо на нагах. Напэўна, ужо і карову паспела падаіць. Работы ў яе заўсёды шмат. Трэба ўстаць і памагчы крыху...»

Але ўставаць не хацелася. Сонная цішыня панавала ў пакоі. Мерна адбівалі час ходзікі на сцяне. На вуліцы працяжна мычэлі каровы — пастух выганяў статак. «Уставай!» загадаў сабе Раман і саскочыў з ложка.

Выліўшы на галаву дзве паўлітровыя банкі вады, доўга выціраўся калматым ручніком.



— Чаго гэта ты ўспароўся так рана? — здзівілася маці.

— На поле пайду, мама! Трэба яшчэ ўсіх хлопцаў сабраць. Кукурузу будзем падкормліваць.

— Ой, бяда з вамі! Вы ж ужо яе падкормлівалі.

— Яшчэ раз трэба! У некаторых месцах усходы зусім кволыя. Калі не падкарміць — прападзе.

Маці нічога не адказала. З таго часу, як Раман узначаліў школьнае звяно па вырошчванню кукурузы, яна раптам убачыла, што сын становіцца дарослым. У яго надзвычай парывістых рухах стала заўважаць нейкую стрыманасць, упэўненасць, годнасць. Ды і дома яго ўжо не трэба было прасіць, каб дапамог па гаспадарцы. Ён усё рабіў сам, без прынукі. Вось і цяпер ужо стукае сякерай.

Насекшы дроў, Раман выпівае кубак свежага, яшчэ цёплага малака і выбягае на вуліцу. Ля знаёмага дома спыняецца. «Спіць Лёнька без задніх ног! Ну, добра! Пачакай!» — і Раман моцна стукае ў шыбу. З акна пазірае заспаны сябар. Лёня нейкі час бессэнсоўна глядзіць на Рамана, трэ вочы і, нарэшце, знікае за фіранкай.

Праз некалькі хвілін ён ужо ідзе побач з Раманам і стараецца апраўдацца:

— Разумееш, кніга цікавая трапілася. Даседзеў да паўночы. Вось і праспаў...

— Ну, добра! — згаджаецца Раман. — Зойдзем да Валодзі Машкея. Той таксама, напэўна, спіць!

Але Валодзя не спаў. Ён яшчэ здалёк памахаў сябрам рукой і, заганяючы ў дошку плота апошні цвік, пракрычаў:

— Ідзіце! Зараз даганю!

Хутка сабралася ўсё звяно. Усе разам прыбеглі: Соф'я Канцылярчык, Віктар Цярэшка, Станіслаў Гладкі. На полі юных кукурузаводаў ужо даўно чакала Франя Жыжа — намеснік брыгадзіра. Раман хутка расставіў усіх, і работа закіпела.

Ля поля, дзе працавалі школьнікі, спыняліся старыя людзі.

— Грош ёй цана, тваёй кукурузе! — кпілі яны з Рамана. — Кволая, ледзь жыве. Ты, Свінабурка, колькі ні кармі яе — толку не будзе! А ведаеш, чаму? Зялёны ты яшчэ, як той парастак, што ў цябе пад рукой. На зямлі нашай ніколі не радзіла кукуруза...



**Сёлета кукурузу даглядае звяно, якім кіруе вучаніца 8 класа Марыя Канцылярчык** (на першым плане).

— Уродзіць, дзядзька! У нас з ёй асабістая дамоўленасць ёсць! — не крыўдуючы на старэйшых, пасмейваўся Раман. Затым, хітра падміргнуўшы хлопцам, дадаваў:

— Дзядзька, позна ўжо, напэўна? Як думаеце?

— Ды гадзін дзевяць ёсць!

— Мусіць, вам ужо і на работу пара?

— Ну, ну! Жэўжык! — сярдзіта адкашліваецца стары. — Без цябе ведаем! Ты лепш вунь сваімі камандуй...

Праз якую хвіліну дзядзькі ўжо не было на полі. Падыходзілі новыя. Узняўшы воблака пылу, прыехаў старшыня калгаса. Абышоў усё поле і пахваліў школьнікаў:

— Будзе, Раман, кукуруза! Малайчына!..

* * *

Іван Піліпавіч Дзегілевіч адклаў убок аўтаручку.

— Дакладвай, начальнік штаба, як у цябе справы! Толькі падрабязна, па чарзе.

— Будаўніцтва ідзе поўным ходам! — адказала Зося Кірша, якая зайшла ў кабінет дырэктара школы. — За адзін месяц вывелі сцены і пачалі насцілаць столь. Прасторная будзе майстэрня — і для сталяркі, і для слясаркі хопіць месца. Ды і кабінет машыназнаўства змесціцца... Можа таму так і працуецца, Іван Піліпавіч, што ведаем, для чаго і для каго будуем... Ды вось сярод трыццаці чалавек заявіліся два-тры гультаі...

— Кажаш, гультаі?! Гэта, Соня, трывожны сігнал! У такой справе не павінна быць гультаёў. Непрыемна, але... Давай жа разам думаць, як лепш уздзейнічаць на іх.

Яны прагаварылі каля гадзіны. Калі Зося выйшла, Іван Піліпавіч стомлена правёў далонню па вачах, узняўся і павольна захадзіў па цесным кабінеце. Твар яго быў спахмурнелы. Паміж брывей залегла глыбокая складка. Дырэктар меў звычай пасля кожнага працоўнага дня падводзіць вынік зробленаму. І вось ён зноў сядзіць за сталом, накідвае план новага працоўнага дня.

Раніцаю, калі будаўнікі школьнай майстэрні былі ў зборы, нечакана прагрымеў рэпрадуктар:

— Увага! Гаворыць школьны радыёвузел! Ля мікрафона — начальнік штаба будаўніцтва Зося Кірша!..

Усе з цікавасцю ўзнялі галовы. Усхваляваны голас, крыху не падобны на Зосін, расказваў аб працоўных справах камсамольцаў. Затым у голасе адчуўся гнеў, нават абурэнне, — Зося выразна называла прозвішчы гультаёў.

Крыху пазней на самым відным месцы каля будаўніцтва вісеў «баявы лісток» з вельмі ўдала намаляванымі на ім карыкатурамі. Усе так доўга смяяліся, прыдумвалі столькі дасціпных слоў, што вінаўнікі, не вытрымаўшы, нарэшце ўзмаліліся:

— Ну, хопіць! Чаго вы, на самай справе! Мала што... Ну, спазніліся... Больш не будзе гэтага...

* * *

На вуліцы стаяў ужо лістапад. Церушыў, як праз сіта, дробны дождж. Густы туман засцілаў дахі хат. З усіх бакоў да школы, распырскваючы гразь, пад'язджалі веласіпедысты. Ля школьнай брамы яны спешваліся.

Пранізліва на ўвесь двор заліўся электрычны школьны званок. Усе заспяшаліся ў школу.

За чырвоным сталом прэзідыума побач з Іванам Піліпавічам сядзеў старшыня калгаса. З краю стала збянтэжана разглядаў свае мазолістыя рукі Раман Свінабурка.

— Таварышы! Вучнёўская вытворчая брыгада нумар пяць налічвае 184 чалавекі, прысутнічае 170 чалавек. Астатнія не прыйшлі па ўважлівых прычынах. Ёсць прапанова пачаць справаздачны сход брыгады! — Вася колькі секунд глядзеў у залу, чакаючы адказу.

— Пачынай!.. — дружна загудзеў сход.

— Значыць, вось... — Вася закашляўся, — пачынаем сход. Першым буду выступаць я...

Пад позіркам соцень вачэй Вася адчуваў сябе вельмі няёмка. Ён пераступіў з нагі на нагу і зноў кашлянуў у кулак.

— За мінулы 1958 год наша брыгада зрабіла не так ужо і мала. Вось, напрыклад, паляводы... Раман Свінабурка са сваімі памочнікамі Леанідам Коршунам і Уладзімірам Машкеем сабралі па 700 цэнтнераў кукурузы з кожнага гектара. Восем гектараў кукурузы засіласавана і поўнасцю здадзена калгасу...

Васю не далі дагаварыць. Узняўшыся на ўвесь свой высокі рост, старшыня калгаса аглушальна запляскаў у далоні. Зала знямела на імгненне і раптам нястрымным громам падхапіла гэта віншаванне. Разам з другімі крыху збянтэжана прывіталі сына і бацькі Рамана.

— Нашы паляводы выкапалі калгасу 55 гектараў бульбы, убралі два гектары ільну, сабралі насенне салодкага лубіну з плошчы ў дзесяць гектараў, — ужо смялей прадаўжаў Вася. — Добра, мне здаецца, папрацавалі і жывёлаводы. Яны выгадавалі калгасу 800 гусей і качак. Акрамя гэтага, даглядалі рагатых цялят...

У зале грымнуў смех. Вася, не зразумеўшы адразу, паматаў галавой і зморшчыў лоб, але неўзабаве густа пачырванеў.

— Выбачайце! У цялят няма яшчэ рогаў...

Дружны рогат ірвануўся да высокай столі і, быццам баючыся це-



Брыгадзір будаўнікоў дзесяцікласніца Зося Кірша правярае, ці не парушаны праектныя размеры.



За такарным станком па дрэву Броня Барысевіч і Міша Канцылярчык.

снаты пакоя, выбухнуў у гулкі калідор. Вася разгубіўся, куточкі губ злёгку перасмыкнуліся.

— Ціпшэй, ціпшэй! — узняўся з свайго месца Іван Піліпавіч.— Працягвай, Вася!

— Будаўнічыя звенні пад кіраўніцтвам Зосі Кірша за тры месяцы пабудавалі сваімі сіламі вытворчую майстэрню, — ціхім, крыху пакрыўджаным голасам працягваў Вася. — Вось і ўсё!..

Ён з палёгкай выцер на ілбе пот і сеў.

— Кузняцоў! А пра электрастанцыю забыўся, ці што? — пачуліся выкрыкі з залы. — А сем тон металалому? А буфет школьны? А трусоў?..

Пачырванелы дарэшты, раззлаваны на самога сябе, Вася ўсхапіўся з свайго месца.

— І гэта зрабілі. Правільна! Усяго не згадаеш! Але гэта ўсё роўна мала. Можна было б і больш! — І зноў сеў.

Іван Піліпавіч гаварыў нядоўга. Але калі ён паведаміў, што школа запрошана ўдзельнічаць на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, зала зноў адгукнулася дружным громам воплескаў.

Падарункі школьнікам ад праўлення калгаса ўручаў старшыня. Калі назвалі прозвішча чорнавалосага хлопчыка з задуменнымі вачыма, дзед, які прытуліўся ў куточку, папярхнуўся:

— Унучак мой, Валодзька!..— шаптаў ён.— Бач, жэўжык! Сам старшыня руку паціскае...

Дзед расчулена кашлянуў і ўпотай, каб ніхто не бачыў, сцёр шурпатай далоняю няпрошаную слязу.

* * *

Цягнік павольна адышоў ад Беларускага вакзала. Вася сядзеў ля акна і сумным позіркам развітваўся з запарошанай снегам сталіцай. Вось яна і засталася ззаду, але яшчэ доўга на даляглядзе пераміргваліся мірыяды агнёў, успыхвалі сіняватыя маланкі электразварак...

«Вось і пабываў у Маскве!» — думае хлопчык, і шчаслівая ўсмешка асвятляе яго твар. У вушах усё яшчэ стаіць гул чалавечых галасоў у мятро, гукі вельмі прыгожай музыкі ў Вялікім тэатры. Ад навізны ўражанняў думкі блытаюцца, кружацца вакол падзей апошняга тыдня. Вася доўга глядзіць у цёмнае акно і, прыслухоўваючыся да мернага перастуку колаў, стараецца прывесці іх у парадак.

Сусед па купэ зашамацеў газетай. Васю хочацца падзяліцца з кім-небудзь сваёй радасцю. Усеўшыся зручней, ён пільна, не міргаючы, глядзіць на зморшчаны, чыста паголены твар суседа. Быццам адгадаўшы яго жаданне, той акуратна складвае газету і знімае вялікія ў рагавой аправе акуляры. З-пад кусцістых брывей на Васю глядзяць добрыя, спагадлівыя вочы.

— Адкуль будзеш, добры маладзец?—жартаўліва пытае ён. — І куды, калі не сакрэт, едзеш?

— У Беларусь еду! Я з Ляхавіцкага раёна.

— Не чуў такога, — засяроджана моршчыць лоб сусед.

Вася крыху пакрыўджаны. Маскву, Мінск усе ведаюць, а вось пра Ляхавічы — ніхто. Несправядліва!

— Ты, значыць, у Маскву да сваякоў на канікулы пагасціць прыязджаў? — цікавіцца далей сусед.

— Не! Я ў Маскву прыехаў з Мінска. Там у нас была нарада брыгадзіраў вучнёўскіх вытворчых брыгад. У Мінску мяне выбралі дэлегатам на Усесаюзны злёт брыгадзіраў. А цяпер вось дамоў вяртаюся! — Адрапартаваўшы ўсё адразу, Вася змаўкае.

Сусед з павагай глядзіць на хлапчука і пасоўваецца бліжэй.

— Вунь яно што! За якія ж заслугі табе такі гонар?

— Сам не ведаю! Наша школьная брыгада заняла другое месца ў рэспубліцы і з'яўляецца ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Туды ездзілі





Дзевяцікласнік Раман Свінабурка летась працаваў на полі, а сёлета ён адзін з актыўных членаў будаўнічай брыгады.

двое нашых лепшых звеннявых — Лёня Коршун і Валодзя Машкей. За кукурузу іх накіравалі! — даверліва паведамляе Вася.

— Так-так! — зацікаўлена ківае галавой сусед.—А ў Мінску на нарадзе пра што гутарылі?

— Выступалі ўсе, дзяліліся вопытам. І мне прыйшлося. Узняўся на трыбуну, і аж дух захапіла! Людзей тысячы, і ўсе незнаёмыя. Пачаў хвалявацца. А потым нічога, прайшло! Пасля нарады сакратар ЦК камсамола граматы перадавікам уручаў...

— І табе таксама, напэўна?

— І мне, — неахвотна ківае галавой Вася і чырванее: «яшчэ падумае дзядзька, што хваліцца ён».

— А пасля школы што будзеш рабіць?

— Хачу паступіць у сельскагаспадарчы інстытут...

Пад самую раніцу, забыўшыся на ўсё ў глыбокім сне, Вася адчувае, як нейчыя клапатлівыя рукі накрываюць яго коўдрай, што ссунулася долу.

* * *

— Вася! Сёння ў дзевятага і дзесятага звенняў заняткі па агратэхніцы! Паведамі ўсім! — сустрэўшы Кузняцова на вуліцы, папярэдзіла Любоў Кляменцьеўна Праневіч.

— Ёсць, таварыш калгасны агране́м! — весела казырнуў Вася.— Усе будуць, як штыхі!..

Першы час на занятќі па агратэхніцы школьнікі хадзілі неахвотна. Асабліва варожа былі настроены да іх хлапчукі.

— Дарэмна час трацім толькі!—гаварылі яны. — Лепшай вучобы, чым у полі, не знайсці!

З гэтым довадам згаджаліся і астатнія. Многія пры першай жа магчымасці ўцякалі. Здзіўляліся толькі ўсе, як выседжваў на занятках жвавы, з вялікімі ўважлівымі вачыма Станіслаў Гладкі. З ім разам былі Іосіф Казакевіч, Антон Бычкоўскі, Браніслаў Барысевіч. І, вядома, ні аднаго пропуску не зрабіў Раман Свінабурка са сваімі сябрамі Леанідам Коршунам і Уладзімірам Машкеем. А потым на заняткі пачалі рэгулярна прыходзіць усе.

Абодва звяны былі ў зборы. Як толькі на парозе з'явілася Любоў Кляменцьеўна, размовы спыніліся.

— Сёння ў нас апошнія заняткі па кукурузе! — яшчэ з парога пачала аграном. — Слухайце ўважліва, бо праз тыдзень пачнецца гарачая пара. Вясна надыходзіць. Яна патрабуе ад вас, каб усе набытыя тэарэтычныя веды вы прымянілі на практыцы. А вясна ў гэтым годзе незвычайная, першая вясна ў сямігодцы! І яна ўжо робіць свой першы крок. Давайце ж і мы з вамі будзем добрымі спадарожнікамі сямігодкі...

— Любоў Кляменцьеўна! Як думаеце, вырасцім мы па 750 цэнтнераў з усіх чатырнаццаці гектараў?—нечакана перапытаў агранома хлапечы голас.

— Гэта, сябры, ад вас залежыць! Колькі вы торфакрошкі на палі вывезлі?

— Чатырыста дваццаць тон! — пачулася з усіх бакоў. — Сабралі трынаццаць тон попелу!

— Малавата. Але калі вы будзеце працаваць так, як летась, то, думаю, атрымаеце па 750 цэнтнераў!

— У гэтым годзе цяжкавата будзе! Бо цяпер за намі замацавана 45 гектараў зямлі. На дзесяці гектарах трэба вырасціць добрую бульбу, на адзінаццаці гектарах — насенне салодкага лубіну, і яшчэ на дзесяці гектарах — авёс!

— Без цяжкасцей нічога не бывае! Затое, калі добры ўраджай вырасціце — вялікую справу зробіце! Ды і аплата на працадні ў вас немалая, па сем рублёў выходзіць. Ці ведаеце вы, што на вашу брыгаду ў банку калгас адкрыў асабісты рахунак?

— Вось здорава! — засмяяліся хлопцы. — Глядзіш, хутка на ўласных матацыклах ездзіць будзем!

— Вашай брыгадзе калгас адводзіць шмат увагі. За ёй замацаваны аўтамашына «ЗІС-150» і трактар «Беларусь». Так што ёсць дзе размахнуцца! Мяне вельмі цікавіць, якое ж звяно сёлета ў Маскву паедзе? — хітра прыжмурылася Любоў Кляменцьеўна.

— Як у Маскву? Калі? — паўскаквалі ўсе з месц.

— А звяно-пераможца будзе прэміравана пуцёўкай у Маскву.

— Паедзе наша звяно, дзевятае! — усхвалявана бліскаючы вачыма, у адзін голас закрычалі члены «дзевятага».

— Гэта чаму дзевятае? Дзесятае паедзе!

— Восень пакажа, хто будзе пераможцам! — засмяялася Любоў Кляменцьеўна. — А цяпер вернемся да прадмета нашай сённяшняй размовы — успомнім усё тое, што гаварыла я вам пра кукурузу.

* * *

Набліжаўся час вялікага перапынку. Калі празвінеў званок, дзевяцікласнікі гуртам высыпалі на вуліцу. Сабралася амаль уся брыгада.

— Рабяты! — звярнуўся да прысутных Вася Кузняцоў. — У Стася памёрла маці, а бацька яго, як вы ведаеце, не вярнуўся з вайны. Стась — круглы сірата. Я прапаную залічыць яго выхаванцам нашай брыгады! Хто мае што сказаць?

— Няма чаго гаварыць! Зразумела! Давай галасуй! — крыкнуў хтосьці з натоўпу. І ў той жа момант лес рук узняўся ўгору. На сярэдзіну праціснуўся Раман Свінабурка.

— У мяне ёсць яшчэ прапанова! Стась — хлопец працавіты. У першым звяне няма звеннявога. Добра было б, каб выбралі звеннявым Стася.

— Правільна! Самая падыходзячая кандыдатура! — загаманілі ўсе адразу. — Ён спаць у рабоце не любіць і другім не дасць!

— А дзе ж Стась? Можа ён не згодзіцца?

— Вось ён! Выходзь наперад, Адлыгін!

Стала ціха. Стась стаяў сярод таварышаў і нервова камячыў пальцамі шапку. Яго пачырванелыя, з прыпухлымі павекамі вочы не стрымалі набегшых слёз.

— Дзякуй, сябры! — дрыготкім голасам прагаварыў ён. — Я... я абавязкова апраўдаю ваш давер!

* * *

Ружова-малочны золак займаўся над Мядзведзічамі. Вокны хат загарэліся пажарам, быццам іх хто напакаваў гарачым вуголлем. Трактар «Беларусь» весела чмыхаў, пускаючы ў блакіт неба шызыя колцы дыму. За рулём упэўнена сядзеў Вася Ходар. Дзевятае звяно сеяла авёс. На сеялцы з важным выглядам гаспадарылі Ваня Яварчук і Вечаслаў Каваленка.



— Слаўка! Ты што робіш? У цябе ж сеялка ўключаецца не тады, калі трэба! — закрычаў на свайго напарніка Яварчук.

Калі звяно вывучала машыны, Вечаслаў не хадзіў на заняткі, а цяпер псаваў усю справу. Хлопцы запатрабавалі, каб брыгадзір назначыў другога сеяльшчыка.

Да абеду было засеяна дзесяць гектараў. Вася Кузняцоў моцна, па чарзе паціскаў рукі паляводам:

— Віншую з першым пачаткам!..

Праз пяць дзён дзесятае звяно сеяла салодкі лубін. За рулём трактара сядзеў зменшчык Васі Ходара цыбаты Валодзя Івановіч. Сяўба была праведзена з такім уменнем і веданнем справы, што аграном толькі рукі ад здзіўлення развяла.

А калі неба раскалолася ад грымотаў і пайшоў першы майскі дождж, Іван Піліпавіч паклікаў да сябе Васю Кузняцова.

— Пара кукурузу сеяць! На работу выйдуць восем звенняў...

Сёмага мая кукурузаводы былі ў полі. За два дні паляводы пасадзілі дзевяць гектараў кукурузы.

* * *

— Ваня! А чаму цябе ўсе называюць птушыным генералам? — прыставалі да Івана Клімко малыя.

— Гэта таму, што мяне птушкі любяць! — з сур'ёзным выглядам адказваў ён. — Прыду на птушкаферму, свісну — усе збягаюцца. Во як!

— А ты хто? Звеннявы, га?

— Звеннявы па вырошчванню вадаплаўнай птушкі!

— І ты цяпер самы галоўны начальнік на ферме?

— Самы галоўны! Птушкаферма цяпер перададзена калгасам нашай брыгадзе.

— І ты цяпер самы, самы галоўны? — не супакойваліся малыя.

— Не! Нада мной ёсць яшчэ начальнік — Васька Кузняцоў, брыгадзір! — неахвотна прызнаецца Ваня.

У той жа дзень, злавіўшы за руку Васю, ён рашуча наступаў на яго.

— На птушніку кармакухні няма. Хто будаваць будзе?

— Ведаю, Ваня. Я ўжо казаў Раману Свінабурку — ён жа цяпер намеснік брыгадзіра па будаўніцтву. Абяцаў зрабіць з дошак кармакухню. Ты зайдзі да яго, напомні!

— Не пайду! Ты ж брыгадзір! Выклікай сюды свайго намесніка і аддавай загад будаваць. Я не для сябе патрабую! Пакарміць бы цябе ўвесь тыдзень адным сухім хлебам. Што б ты тады заспяваў? А гэта ж птушкі.

Ваня аж пабялеў ад абурэння і, здаецца, гатоў быў кінуцца ў бойку. — Ну, не хвалюйся, Клімко! — згаджаецца Вася. — Пойдзем разам да Рамана.

* * *

За школай шуміць вішнёвы сад. На градкі фасолі, бобу, гароху і клубніцы белымі мухамі садзяцца пялёсткі. Яны заслалі зямлю, быццам снег, што нечакана выпаў

**Камсамолка Яніна Пляшэвіч** (злева) — **перадавік школьнай будоўлі.**



веснавой парой. Па прамяністым майскім небе плылі воблакі, нагадваючы вялізныя снежныя горы.

Ад сонца шыбы парнікоў здаваліся вялізнымі люстэркамі. Залаты дождж сонечных праменняў адбіваецца ў іх, асляпляе.

— Ванда! Як думаеш, брыгада Ляхавіцкай школы не абгоніць нас? — прапольваючы расаду капусты, з трывогай пытае Аня Гаудзіс.

— Што ты, Аня! Мы ім ні за што не ўступім першынство!

— Яны сур'ёзныя сапернікі. Па нашаму сацыялістычнаму абавязацельству мы павінны даць па восем цэнтнераў аўса і сто цэнтнераў бульбы з кожнага гектара, — умешваецца ў размову Франя Жыжа. — А гэта не так лёгка!

— Вядома! Прыдзецца папрацаваць...

Размова зноў заціхае. Майскі вецер нясмела перабірае галінкі маладых вішань. Новая хваля пялёсткаў асядае на зямлю. І кружацца, кружацца, быццам студзеньскі снегапад, палохаючы працавітых, дбайных пчол...

* * *

На двары ўперамешку з чырвонымі штабялямі цэглы размясціліся груды дошак. Невыразны гул дзіцячых галасоў разносіцца ў празрыстым паветры. Воклічы і крыкі хлапчукоў, звонкі смех дзяўчат спляліся ў адно. Яркія, усіх адценняў сукенкі, цёмныя касцюмы хлопцаў мільгаюць па ўсёй тэрыторыі будаўніцтва. Сярод жоўтых гор пяску, шэрага камення падмуроўкі яны чамусьці нагадваюць жывыя, рухомыя кветкі.

Невысокі хлопец у кірзавых ботах час-ад-часу папярэджвае будаўнікоў:

— Асцярожна, дзяўчаты! — звяртаецца ён да дзесяцікласніц Адальфіны Бычкоўскай і Тарэзы Татарыновіч. — Навошта вы столькі пяску на насілкі навалілі? Гэта ж не пілавінне, цяжка! Прынясеце пару такіх насілак і зморыцеся.

— Мы дужыя, Юльян! — смяюцца ў адказ дзяўчаты. — Нам да насілак не прывыкаць!..

Калі Юльян адыходзіць ад іх, абедзве сяброўкі пераходзяць на шэпт.

— Тарэза! Глядзі, нашага Максімчыка не пазнаць! Усяго два гады назад школу скончыў, а цяпер ужо майстар. Дзе ён вучыўся?

— У Брэсце, у школе майстроў.

— Малайчына! Сам папрасіўся ў свайго начальства накіраваць яго да нас на будаўніцтва спартыўнай залы. Не забыў родную школу!

— І даверылі! Ці жарт — такі будынак пабудаваць! У адну толькі даўжыню дваццаць шэсць метраў. Гэта не тое, што мы будавалі глінабітную майстэрню. Шлакабетон — складаная штука.

Кіпіць, спорыцца работа. Усё ў руху.



**Школьную спартыўную залу будуюць самі вучні.**



З-за рога будынка, які расце не днямі, а гадзінамі, выходзяць Іван Пiліпавіч і Уладзімір Аляксандравіч.

— Што новага, Юльян?

— Да вечара падмуроўка будзе гатова!

— Добра! Ты глядзі, Уладзімір Аляксандравіч, як працуюць. Быццам мураўі тыя! Давай і мы дапаможам ім!

Абодва скідаюць пінжакі і, паплявaўшы на рукі, бяруцца за насілкі.

— Нагружайце, дзяўчаты! Ды пабольш, не шкадуйце!

Смех, жарты. Дружна мільгаюць рыдлёўкі...

* * *

Каля будоўлі стаіць тонкая беланогая бярозка. Хто і калі пасадзіў яе — невядома. Яна расце, шуміць, доўгімі зялёнымі пасмамі галін цягнецца да сонца. Узнімаюцца над ёй сцены спартыўнай залы, першай школьнай спартыўнай залы ў раёне. Вось яна ўжо аж пад дах вырасла. А бярозцы яшчэ доўга прыдзецца цягнуцца насустрач сонцу, каб дасягнуць гэтага даху.

І тады ў ценю яе чые-небудзь клапатлівыя рукі паставяць драўляную лавачку. Цёплым летнім вечарам сюды прысядуць пасля выпускнога вечара які-небудзь каржакаваты хлопец і хударлявая, у беласнежнай сукенцы, як гэтая бярозка, дзяўчына. Памаўчаць, прыслухоўваючыся да ласкавага шэпту беластволай прыгажуні, і, усхвалявана глянуўшы адзін аднаму ў шчаслівыя вочы, скажуць:

— Скончылася дзяцінства... Пачынаецца пара юнацтва!..

Прывітанне табе, шчаслівая пара сталых клопатаў і гарачых захапленняў!

**Ляхавіцкі раён**
**Брэсцкай вобласці.**

## Навука і тэхніка

# ХІМІЯ СЛУЖЫЦЬ ЧАЛАВЕКУ

Калі вам давядзецца быць на Сураханскіх нафтапромыслах, вам абавязкова раскажуць пра «вечны», незгасальны агонь, які стагоддзямі гарэў у храме вогнепаклоннікаў.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі тут была квадратная вежа, акружаная, нібыта шчыльнай каменнай сцяною, нізенькімі чатырохвугольнымі будынкамі. На вежы былі зроблены каганцы. Удзень і ўночы, узімку і ўлетку, у яркае сонечнае надвор'е, у дождж і ў буран з іх вырываліся языкі полымя. Вецер раздзімаў іх, і яны выгіналіся, быццам вялізныя вогненныя змеі.

На працягу многіх стагоддзяў сюды прыходзілі пешшу, прыязджалі на конях і вярблюдах паломнікі з суседняга Ірана і далёкай Індыі, каб памаліцца перад нязгасным полымем.

Цудоўны агонь, які выклікаў такое захапленне і страх у вогнепаклоннікаў, гарэў не толькі ў каганцах Сураханскага храма, ён нярэдка запальваўся і ў многіх горных расколінах Апшаронскага паўвострава. Мясцовыя жыхары здаўна карысталіся гарачым полымем вечных агнёў—абпальвалі вапну, плавілі жалеза.

Доўгі час людзі не ведалі, хто такі нябачны падтрымлівае вечны агонь, і таму лічылі гэтую з'яву тварэннем боскай волі. З развіццём навукі былі разгаданы многія з'явы, якія раней здаваліся звышнатуральнымі. Высветлілася і тайна вечнага агню. Ён аказаўся прыродным газам, нязменным спадарожнікам нафты.

Не маючы колеру і паху, прыродны газ непрыкметна падымаецца з падземных глыбіняў па шчылінах і расколінах у зямной кары і рассейваецца ў паветры. Толькі зрэдку з зямных нетраў вырываецца струмень газу разам з фантанам вады і гразі. Часам газ падымае ў неба велізарны фантан нафты.

Ужо больш ста год людзі здабываюць нафту ў вялікай колькасці. З кожным годам здабыча яе павялічваецца. У 1958 годзе ў нашай краіне было атрымана з нетраў зямных больш 110 мільёнаў тон нафты, а ў 1965 годзе будзе здабыта яе больш чым удвая: 230—240 мільёнаў тон.

Здабываючы нафту, нафтавікі не звярталі ўвагу на яе заўсёднага спадарожніка. Толькі ў канцы мінулага стагоддзя былі, нарэшце, па заслугах ацэнены выдатныя якасці прыроднага газу. Яго пусцілі па трубах, і на вуліцах вялікіх гарадоў запаліліся газавыя ліхтары, у магазінах і тэатрах з'явілася газавае асвятленне. Успыхнулі блакітныя агеньчыкі над камфоркамі газавых пліт у кватэрах.

Прыродны газ стаў самым танным палівам. Ён дзешавейшы за дровы і вугаль, нафту і мазут. Ён не вылучае сажы і дыму, не пакідае попелу. За дзве мінуты можна атрымаць гарачую ваду ў вадагрэйным апараце, а за дзесяць мінут нагрэць у калонцы ваду для ванны. Аднаго кубаметра газу дастаткова для работы газавага халадзільніка. Газам можна карыстацца таксама для пакаёвых леднікоў, смецщеспальвальнікаў, машын для мыцця бялізны і нават... сілкаваць радыёпрыёмнікі—там, дзе няма крыніц электраэнергіі.

На спецыяльных газоўках награюць тэрмаэлементы, у якіх пад



уздзеяннем цеплыні ўзнікае электрычны ток.

Газ валодае і яшчэ адной важнай якасцю. Для дастаўкі яго спажыўцу не патрэбны ні аўтамашыны, ні платформы, ні наліўныя баржы і судны. Газ можна транспартыраваць па трубах на тысячы кіламетраў. Саратаўскі газ гарыць у кватэрах масквічоў, дашаўскі—у Кіеве, шабелінскі—у Харкаве. Хутка ленінградцы атрымаюць газ з далёкага Стаўропаля, а мінчане—з Дашавы.

За апошнія гады ў СССР выяўлены новыя вялікія месцанараджэнні прыроднага газу—у Краснадарскім краі, у Заволжжы (Сцяпанаўскае), у Сталінградскай вобласці (Каробкі). Багацейшыя газавыя месцанараджэнні знойдзены ў Азербайджане (Карадаг і Канізлаг) і Узбекскай ССР (паблізу Бухары).

У 1958 годзе было здабыта каля 30 мільярдаў кубаметраў газу, прыкладна ў паўтара раза больш, чым у 1957 годзе. У бліжэйшыя 15 год вытворчасць газу павялічыцца ў СССР у 13—15 разоў.

Нядаўна партыя і ўрад прынялі пастанову аб далейшым развіцці газавай прамысловасці. У 1965 годзе ў СССР будзе пабудавана 40 новых газаправодаў. Сотні гарадоў атрымаюць прыродны газ. Тысячы фабрык і заводаў і дзесяткі тысяч кватэр будуць карыстацца газам з газаносных пластоў Паўночнага Каўказа і Украіны, Азербайджана і Паволжжа, Сярэдняй Азіі і Заходняй Сібіры. Калі выцягнуць у адну лінію трубы новых газаправодаў, яны зоймуць дваццаць шэсць тысяч кіламетраў.

Вывучаючы састаў прыроднага газу, хімікі знайшлі, што ён складаецца амаль цалкам з метану—злучэння вугляроду з вадародам, да якога дамешана крыху азоту, вуглекіслага газу, а часам і серавадароду. Так выявілася, што метан, які часта называюць «балотным газам» (на балотах ноччу часам можна бачыць блакітныя агеньчыкі), не толькі таннае і зручнае паліва, але і каштоўная хімічная сыравіна.

З прыроднага газу можна атрымаць рэчывы для выпрацоўкі азотных угнаенняў і друкарскіх фарбаў. Кожная старонка кнігі, газеты, часопіса надрукавана з удзелам газу: у складзе друкарскай фарбы ёсць газавая сажа.

Калі прыродны газ акісліць кіслародам, атрымаецца фармалін. Гэтае рэчыва часта ўжываецца для дэзінфекцыі жыллёвых памяшканняў. Фармалін—грозны вораг шкодных насякомых і мікробаў, ён іх бязлітасна знішчае. А ў руках хіміка фармалін робіцца асновай найбольш распаўсюджаных пластмас — фенапластаў і амінапластаў.

Гледзячы на прыгожую вазу з кітайскім арнаментам, цяжка сабе ўявіць, што яна зроблена з амінапласту, а не з фарфору. Таксама цяжка ўявіць, што корпус радыёпрыёмніка выраблен з пластмасы, атрыманай з... газу, які гарыць у вас на кухні.

Але як з газу атрымаць лекавую бялізну? Аказваецца, і гэта не складае асаблівых цяжкасцей для хіміка.

Прыродны газ прадуваюць з вялікай скорасцю праз полымя электрычнай дугі. Не пройдзе і некалькі тысячных долей секунды, як нараджаецца новы газ—ацэтылен. З яго хімікі атрымліваюць і пластмасы, і сінтэтычны каучук, і розныя клеі, якія склейваюць дрэва з металам, метал з металам і многае іншае.

З ацэтылену вырабляюць цудоўную пластмасу — полівінілхларыд. Яна не паглынае вільгаці, не баіцца кіслот і шчолачаў. Калі гэтую пластмасу расплавіць і атрыманую густую, як сіроп, вадкасць праціснуць праз малыя адтуліны, дык струмені вадкасці застынуць вельмі-вельмі тонкімі шаўкавістымі ніткамі.

З гэтага сінтэтычнага валакна, якое называецца «хларынам», робяць спецвопратку для хімічных цэхаў і шыюць прыгожыя жаночыя сукенкі.

Нядаўна ў такіх нітак выяўлена новая якасць — здольнасць вылечваць хваробы. Маскоўская трыкатажная фабрыка «Чырвоная зара» ўжо некалькі год выпускае з хларыну лячэбную бялізну. Хларынавая трыкатажная бялізна рэкамендуецца і хворым поліартрытам, ішыясам і нават астмай.

Цікавыя асаблівасці гэтай бялізны грунтуюцца на вельмі своеасаблівай фізічнай з'яве—так званым турбаэлектрычным эфекце. Калі бялізна надзета і трэцца аб скуру, узнікаюць невялікія электрычныя зарады, якія заспакойваюць боль.

Газ замяняе збожжа... На першы погляд гэты выраз можа здацца недарэчным. Усім жа вядома, што газам не харчуюцца. І тым не менш ён пасняхова замяняе і зерне, і бульбу ў вытворчасці сінтэтычнага каучуку і

ў некаторых іншых хімічных вытворчасцях, дзе карыстаюцца спіртам.

Падлікі паказваюць, што для атрымання адной тоны спірту патрэбна чатыры тоны зерня або дзесяць тон бульбы. Такую ж колькасць спірту даюць нам дзве тоны звадкаванага прыроднага газу.

На выраб адной тоны каучуку ідзе 2,2 тоны спірту. Выкарыстанне прыроднага газу дае магчымасць сэканоміць мільёны пудоў зерня і бульбы.

У пастанове майскага Пленума ЦК КПСС аб паскораным развіцці хімічнай прамысловасці і ў рашэннях XXI з'езда КПСС вялікае значэнне надаецца выкарыстанню побач з прыродным газам нафтавых спадарожных газаў.

У 1958 годзе на нашых нафтавых месцанараджэннях было здабыта каля 9 мільярдаў кубаметраў спадарожных газаў. З гэтай колькасці газу можна зрабіць некалькі сот тысяч тон розных пластмас, сінтэтычнага каучуку, сінтэтычнага валакна.

Нядаўна супрацоўнікі Інстытута сінтэтычнага каучуку ў Ленінградзе атрымалі з нафтавых газаў новы від штучнага каучуку. Ён валодае павышанай устойлівасцю да трэння, не разбураецца масламі і бензінам. Ні адна гума, зробленая з натуральнага каучуку, не вытрымлівае тэмпературы больш 130 градусаў. Не вытрымлівае такой тэмпературы і гума, зробленая з сінтэтычнага каучуку, які выпрацоўваецца цяпер на заводах. А вось гума, зробленая з новых відаў каучуку, не мяняе свае якасці нават пры тэмпературы 300 градусаў.

Аўтамабільныя шыны, зробленыя з гэтага каучуку, вытрымалі самыя суровыя выпрабаванні і паказалі сябе значна больш трывалымі ў самых цяжкіх умовах прабегу аўтамашын.

Каучукі, атрыманыя з прыродных і нафтавых газаў, будуць шырока скарыстоўвацца ў вытворчасці тавараў шырокага ўжытку. З іх зробяць трывалыя і прыгожыя галошы і абутак, гумавыя боты і спартыўны інвентар.

У 1965 годзе для вытворчасці сінтэтычнага каучуку і іншых палімераў намечана выкарыстаць звыш дзвюх з палавінаю мільёнаў тон вадкіх вуглевадародаў, атрыманых са спадарожных газаў. Яны заменяць трыста мільёнаў пудоў зерня або семсот пяцьдзесят мільёнаў пудоў бульбы.

З нафтавых газаў атрымліваюць і прыгожыя лёгкія тканіны. Вось у вітрыне вялізнага ўнівермага стаіць з чароўнаю ўсмешкаю васковая прыгажуня ў белай вячэрняй сукенцы. Здаецца, што яна пашыта з самага тонкага шоўку. І толькі дасціпнае вока спецыяліста можа заўважыць, што гэтая шаўковая тканіна створана не шаўкапрадамі. Яна сплецена не з нітачак, якімі шаўкавічны чарвяк аплятае свой кокан. Гэтая сукенка сваім паходжаннем абавязана хімікам, якія стварылі новае сінтэтычнае валакно—энант.

Цяпер хімікі ўмеюць з прыродных газаў, каменнага вугалю, нафты атрымліваць каля дваццаці розных відаў сінтэтычнага валакна. Сярод іх і ўсім вядомыя капрон, нейлон, нітрон. А ёсць і такія, што яшчэ толькі пачынаюць уваходзіць у наш штодзённы быт. Зусім нядаўна ў СССР з'явілася новае сінтэтычнае валакно—хеланка, або эласцік. Гэта вельмі блізкі «сваяк» капрона. Хеланка мае выгляд мяккіх, пушыстых нітак, яна грэе лепш за воўну, а каштуе значна дзешавей. Вырабы з гэтага валакна больш трывалыя і прыгажэйшыя за шарсцяныя. Валодаюць яны і яшчэ адной цудоўнай якасцю—ніці эласціка расцягваюцца, як гармонік. Панчохі і шкарпэткі з такога валакна можна вырабляць аднаго памеру, для ўсіх узростаў аднолькавыя.

У 1965 годзе вытворчасць хімічных валокнаў у нашай краіне павялічыцца ў 4 разы, а выраб найбольш каштоўных з іх—сінтэтычных валокнаў — у 12—14 разоў. Савецкія людзі атрымаюць у 1965 годзе ў д з е с я ц ь р а з о ў б о л ь ш дабротных і прыгожых тканін, чым у 1957 годзе. Значная колькасць гэтых тканін будзе зроблена з прыроднага газу.

**Б. РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# *У нашых сяброў*

Ліяна **ДАСКАЛАВА**

## БЕЛАРУСЬ ЗАПРАШАЕ



Ля кожнай хаты клён ляпеча: «Запрашаем!»
На тварах ласкавых адбіта: «Любім вас!»
І зоры ясныя, блукаючы над краем,
Гараць, як літары, агніста: «Ў добры час!»

У добры час! — звініць ручай, ледзь нахілюся.
У добры час! — шумяць зялёныя бары.
У добры час! — пад небам роднай Беларусі,
Гасцей страчаючы, спяваюць песняры.

Зірнула восень ранняя вачмі ажыны,
Кладзе лісцё ля дрэў у вязьмы зыркіх слоў.
Чытаю іх, калі іду на луг сцяжынай,
Стаю над рэчкаю, пад кронамі дубоў.

Як добра адчуваць, што за табой па следу
У шлях любоў братэрская ідзе заўжды!..
Па Беларусі, любай мне, я з песняй еду,
Гляджу на рэкі, нівы, спелыя сады.

Рабіна гронкамі палае ля дарогі,
Галіны з ядрамі стары арэшнік гне.
І бор, як рыцар нейкі таямніча-строгі,
Плашчом захутаны, ў любві клянецца мне.

А на прагаліне лясной, дзе дрэвам сніцца
Сагрэтая зарой, маланкамі вясна,
Паненка дзіўная — чырвоная суніца
Схавалася ў траве да восені адна.

Па ўсім відаць, тут лета зорамі гарэла,
І ягада, тых дзён забраўшы прыгажосць,
Мяне чакала доўга. Я прысці паспела.
І чую запрашэнне: «Калі ласка, госці!»

З балгарскай мовы пераклаў
М. КАЛАЧЫНСКІ.

У аснову гэтага верша Ліяна Даскалава паклала свае ўражанні ад гасцявання нашай рэспубліцы.

# ГОД ЮБІЛЕЙНЫ

Сёлетні год — юбілейны ў жыцці многіх краін народнай дэмакратыі. Адсвяткавалі пятнаццацігоддзе нацыянальнага адраджэння працоўныя Народнай Польшчы, мінула пятнаццаць гадоў з дня вызвалення Румыніі ад фашысцкага прыгнёту. 9 верасня ў пятнаццаты раз адзначаў сваё нацыянальнае свята — Дзень свабоды — балгарскі народ. 1 кастрычніка міне дзесяць год з дня абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, а 7 кастрычніка сваё слаўнае дзесяцігоддзе адзначыць Германская Дэмакратычная Рэспубліка.

У дружнай сям'і краін сацыялістычнага лагера працоўныя Кітая, ГДР, Польшчы, Румыніі, Балгарыі цагліну за цаглінай кладуць у велічны мур сацыялізма.

На гэтых фотаздымках адлюстраваны некаторыя моманты новага жыцця кітайскага, нямецкага, балгарскага і румынскага народаў.



**Куток Усекітайскай прамысловай выстаўкі. Зараз Кітайская Народная Рэспубліка будуе свае паравозы, аўтамабілі, трактары.**



**Члены гуртка «Мічурын» школы Цьзяскоў (правінцыя Чжэцзян) вырасцілі кукурузу, на якой трынаццаць пачаткаў. У бліжэйшыя гады яны паставілі за мэту вырасціць на адным сцябле 30—60 пачаткаў.**

**За гады народнай улады Румынія з аграрна-сыравіннага прыдатку імперыялістычных дзяржаў ператварылася ў самастойную прамыслова-аграрную краіну. Рыштаванні новабудоўляў сёння можна сустрэць скрозь у горадзе і на вёсцы, у гарах і пад зямлёй.**

**Будаўніцтва тунеля гідраэлектрастанцыі імя Леніна ў Біказе на рацэ Бістрыца (Румынская Народная Рэспубліка).**



**Скончыўшы сярэднюю школу, Крыстана Дзімава паступіла на малочную ферму земляробчага кааператыву ў сяле Галяма Конарэ Плоўдзіўскай акругі.**

(Часопіс «Болгария»)



**Сакратар партыйнай арганізацыі Сацыялістычнай Адзінай партыі Германіі Эрвін Янецкі (справа) працуе выкладчыкам вытворчага навучання ў школе. Свой шматгадовы вопыт ён перадае моладзі.**

(Часопіс «Германская Демократическая Республика»).



## Размова аб майстэрстве

**Анатоль АКСАМІТАЎ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# МОВА—ДУША НАРОДА

Багатая, своеасаблівая, непаўторная мова кожнага народа. Яна адлюстроўвае тыя рэчы, паняцці, з'явы, з якімі сутыкаецца народ на розных этапах сваёй гісторыі. І сапраўды, усё, што адбываецца ў свеце людзей, адбываецца дзякуючы думцы, мове. Без мовы немагчыма ўзгоднена працаваць сумесна з іншымі, немагчыма ўдасканальваць тэхніку, мастацтва. Разам са з'яўленнем новай рэчы, новага паняцця ў мове з'яўляецца адпаведнае слова, якое трывала ўваходзіць у лексічны склад гэтай мовы. Так, зусім нядаўна са з'яўленнем кіруемых апаратаў з'явілася новае слова — «кібернетыка», якое ўпершыню было ўжыта заснавальнікам гэтай навукі Н. Вінерам. Па-старагрэчаску слова «кібернетэс» азначае — рулявы, стырнавы. Цяпер, калі гэтае слова толькі ўваходзіць у шырокае карыстанне, яно здаецца нам белай варонай сярод мноства іншых звычайных слоў. Мы не задумваемся, напрыклад, чаму **дом** мы называем домам, **хлеб** — хлебам, **галаву** — галавой. Ды і недарэчна, здаецца, задаваць такія пытанні. Проста, гэтыя назвы ўжываюцца ўсімі, і мы самі з маленства засвоілі іх.

У старажытныя часы людзі карысталіся абмежаваным кругам слоў, якія характарызавалі іх жыццёвы і культурны ўзровень на тым этапе развіцця. Паступова з ростам матэрыяльнага і культурнага ўзроўню з'яўляліся новыя паняцці, а слоўнікавы запас мовы ўзбагачаўся новымі словамі. Яны ўтвараліся па ўнутраных законах гэтай жа мовы ад слоў асноўнага фонду або ў выніку набыцця ранейшымі словамі новых значэнняў, пераасэнсавання іх. Іншы раз новыя словы запазычваліся ў другіх народаў разам з пераняссеннем адтуль новых прылад вытворчасці, прадуктаў харчавання, адзення і г. д. Аднак і гэтыя словы зазнавалі пэўныя змены, падпарадкоўваліся законам той мовы, у якую яны прыходзілі.

З прычыны частага ўжывання, словы на першы погляд здаюцца нам чымсьці мімалётным, няўлоўным, існуючым толькі ў нашым дыханні, голасе, у якіхсьці мазгавых працэсах. І тым не менш, словы гэтак жа рэальныя, як і акружаючая нас сапраўднасць. Словы, якія ўжываюцца намі, існуюць, тым не менш, незалежна ад кожнага з нас. Іх форма і значэнне агульнаабавязковыя і непарушныя. Мноства з іх старажытней, чым самыя старажытныя рэчы, якія захоўваюцца ў археалагічных музеях, бо тысячы год назад нашы продкі карысталіся імі так, як і мы. Як гаварыў рымскі паэт Гарацый, яны «больш трывалыя, чым бронза і старажытныя піраміды».

У розных мовах словы, якія абазначаюць тую ці іншую рэч, паняцце, гучаць па-рознаму. Што ж такое слова ў самым вузкім, сэнсавым разуменні, як не часцінка, адна з найбольш характэрных прыкмет той ці іншай рэчы? Як розныя людзі могуць падмеціць у адной і той жа рэчы яе розныя характэрныя адзнакі, якія яны лічаць галоўнымі, так і ў розных народаў адзін і той жа прадмет, паняцце з прычыны розных абставін набывае рознае славеснае афармленне.

Падснежнік, напрыклад, быў названы так рускімі таму, што ён з'яўляецца яшчэ ранняй вясной «пад снегам». Гэта асаблівасць і была пакладзена ў аснову яго назвы. Але падснежнік мае і іншыя ўласцівасці і асаблівасці. Так, немцы да гэтай прыкметы дадалі ўяўленне аб форме кветкі (Schneeglöckchen — «снежны званочак»), а англічане звязалі назву гэтай кветкі з раставаннем снегу (snowdrop, што літаральна азначае «снежная кропля»), французы ж звязалі гэта паняцце яшчэ з рухам (perce-neige — літаральна, «які прасвідроўвае снег»). Чэхі, як і рускія, звязалі назву падснежніка са «снегам» (sneženka), а палякі ў адрозненне ад іншых падмецілі ў ім часовы фактар і назвалі peirwiosnek (літаральна «першынец вясны»). Украінцы называюць гэтую кветку таксама «підсніжнік», і яшчэ — «білий ряст» (белы парастак). Беларусы ж асноўную прыкмету гэтай кветкі ўбачылі ў характары месца яе найбольш частага вырастання і назвалі «пралеска», г зн., «якая расце на лясных праталінах».

Такім чынам, на прыкладзе аднаго слова можна бачыць спецыфічныя нацыянальныя прыкметы, характэрныя для той ці іншай мовы, адрозненні, тыповыя для моўных сістэм. Аднак не толькі адрозненні. Калі прыгледзецца бліжэй (хоць бы на прыкладзе з пралескай), не цяжка заўважыць і больш агульныя прыкметы, тыповыя для многіх моў. Яны (мовы) развіваюцца не ў кругу абсалютнай «нацыянальнай замкнёнасці», а актыўна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, узбагачаючы адна другую. Так, поруч са словамі, якія ўтварыліся ў беларускай мове, у ёй жывуць як раўнапраўныя словы, запазычаныя з польскай мовы (напрыклад, бялізна, быдла, вантробы, кабета, маёнтак, пагарда, скарга і інш.), з лацінскай (напрыклад, адукацыя, аматар, артыкул, колер, літара і інш.), з нямецкай (гвалт, грунт, крама, мур, смак, цвік, цукар, фарба і іншыя).

Але найбольшы ўплыў на беларускую мову аказвала ў ранейшыя часы і асабліва аказвае цяпер руская мова. Побач з агульнымі словамі для рускай і беларускай моў, якія паходзяць з агульнаўсходнеславянскага пласта лексікі, у беларускай мове знаходзіцца вялікая колькасць слоў, якія запазычаны з рускай у больш позні час (гэта такія словы, як — ачаг, аказаць, здзельшчына, звяно, зводка, подзвіг, паражэнне, савет, савецкі і многа, многа іншых).

У сваю чаргу беларуская мова на працягу свайго існавання ўплывае на суседнія мовы. Асабліва вялікая колькасць слоў беларускай мовы запазычана літоўскай (такія, напрыклад, як сядзіба, гадзіна, гарбата і іншыя). Такія, напрыклад, словы, як хата, крыніца і шмат іншых, запазычаны ў беларусаў палякамі. А такое беларускае слова, як х л е б а р о б вельмі шырока ўжываецца ў рускай мове.

Такім чынам, кожная мова ад-

люстроўвае жыццё свайго народа словамі, якія ўтварыў сам народ або запазычыў у другіх народаў.

Наогул жа трэба сказаць, што ўсе пануючыя ў наш час мовы, нават самых адсталых плямёнаў складаюць ужо ўпаўне развітыя сістэмы, якія ўтвараліся на працягу доўгага развіцця. Зразумела, чым працей культурнае і матэрыяльнае жыццё, тым вузей і мяльчэй разумовае жыццё і тым больш абмежаваная мова па свайму слоўніку і граматычных сродках. Аднак, ва ўсякім разе, усе мовы былі створаны і развіты людзьмі. А ва ўсіх людзей — банту, рускіх, англічан, беларусаў, ісландцаў ці перуанцаў — магчымасці для выражэння пэўных паняццяў аднолькавыя.

Гэты факт важны не толькі для доказу роўнасці ўсіх моў, але таксама і для выкарыстання гэтых абставін у сувязі з развіццём у цяперашні час тэхнікі машыннага перакладу з адной мовы на другую.

Вядома, што існуюць асноўныя, бадай, невідочныя рысы, агульныя для развіцця ўсіх моў. Гэта некалькі нагадвае, як вобразна заўважыў адзін з зачынальнікаў машыннага перакладу, нагляданне над дрэвамі, калі мы бачым, што яны вельмі адрозніваюцца паміж сабою многімі ўласцівасцямі і ўсё ж маюць агульныя асноўныя ўласцівасці «драўнянасці», уласцівыя ўсім дрэвам, растуць яны ў Польшчы ці на Цэйлоне або ў Калумбіі. Больш таго (і гэта важны момант), жыхар Паўднёвай Амерыкі без цяжкасці пазнае ў нарвежскім дрэве іменна дрэва, а не што-небудзь іншае.

Натуральна, блізкія, родныя мовы маюць больш падобных рыс, чым мовы далёкія.

У IX—XII стагоддзях на вялічэзнай тэрыторыі Усходняй Еўропы існавала адна — старажытнаруская мова. Утварэнне яе было звязана з першым буйным дзяржаўным аб'яднаннем — Кіеўскай дзяржавай. Помнікі пісьменнасці гэтай эпохі, якія складаліся на тэрыторыі сучасных братніх рэспублік, — Расіі, Украіны і Беларусі, — амаль што не адрозніваюцца паміж сабой па мове. Выключаючы некаторыя нязначныя дыялектныя адрозненні, была адзінай і жывая мова ўсходніх славян. У тыя часы яшчэ не існавалі як асобныя самастойныя мовы ні беларуская, ні ўкраінская. Таму гэта агульнаўсходнеславянская эпоха часоў Кіеўскай Русі называецца агульнарускай эпохай.

У XIV—XV стагоддзях, адначасова з утварэннем цэнтралізаваных дзяржаў (Маскоўскай дзяржавы і Вялікага княства Літоўскага), адбываецца фарміраванне рускага, беларускага, украінскага народаў і іх моў.

Беларуская мова сфармавалася ў перыяд XIV—XV стагоддзяў у межах Літоўскага княства з абласных дыялектаў, на якіх гаварылі плямёны дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў. Беларуская мова была ўзаконена ў якасці дзяржаўнай мовы Літоўскага княства таму, што, з'яўляючыся высакаразвітай мовай, яна мела больш як трохвяковую пісьмовую традыцыю. Да нас дайшла вялікая колькасць помнікаў пісьменнасці тагачаснай беларускай мовы, якую мы цяпер у адрозненне ад сучаснай называем старабеларускай.

Паралельна з ёю ў той час існавалі старажытныя ўкраінская і руская мовы, якія затым ператварыліся ў сучасныя мовы — рускую і ўкраінскую, кожная са сваёй лексічнай сістэмай і граматычным ладам. Але і ў іх, нягледзячы на велізарнае падабенства, ёсць свае адрозненні, якія ўтварыліся не раптам, знянацку, неспадзеўкі, а былі падрыхтаваны ўсім ходам гісторыі і абумоўлены ўнутранымі заканамернасцямі развіцця кожнай з моў. У іх фармаванні немалаважную ролю адыгрывалі факты гісторыі народа, характар успрыймання навакольнага свету, псіхічнага складу народа.

Як на прыведзеным вышэй прыкладзе з пралескай мы здолелі перакананца, што ў мовах розных народаў па рознаму адлюстроўваюцца характэрныя рысы рэчаіснасці, так і на іншых прыкладах можна ўбачыць разнастайнасць, багацце і нацыянальную непаўторнасць кожнай мовы.



Акрамя граматычнага ладу, асабліва ярка выступаюць гэтыя рысы ў так званых фразеалагічных устойлівых словазлучэннях, якія адлюстроўваюць адно паняцце і якія па-сутнасці з'яўляюцца самастойнымі словамі. Напрыклад, «сесці на карак», «кішкі выматаць», «ні богу свечка, ні чорту качарга», «і богу свечка і чорту ражон» і іншыя.

У кожнай мове мы знойдзем падобныя ім эквіваленты, якія адлюстроўваюць такія ж вобразныя паняцці, аднак у іншай, своеасаблівай славеснай форме.

Прасочым гэта на прыкладах двух вельмі блізкіх моў — рускай і беларускай.

Пра баязлівыя ўцёкі, паспешлівае знікненне рускі кажа «задать драла», а беларус — «браць лахі пад пахі». На гультая рускі кажа, што той «бьет баклуши», а беларус кажа, што «б'е бібікі». Папрасілі цябе прынесці якую-небудзь рэч, а ў цябе ніякай ахвоты няма ісці, ды і далёка яна знаходзіцца. Ты адмаўляешся і гаворыш, што гэтая рэч знаходзіцца вельмі далёка, «у віру на калу». А рускі пра гэта скажа, што яна знаходзіцца «у черта на куличках». На абыякавага да ўсяго чалавека рускі скажа: «по нему хоть трава не расти», а беларус — «па ім няхай хоць воўк траву есць». На чалавека злоснага, і мсцівага рускі кажа: «он сам себе яму роет», а беларус — «ён вяроўкі на сябе суча». Вельмі стаміўся чалавек пасля працоўнага дня і спіць беспрабудным сном, як пшаніцу прадаўшы. На такога рускі скажа: «спит без задних ног», а беларус — «спіць, хоць зубы выберы». Чалавеку занадта настырнаму рускі скажа: «выше головы не прыгнешь», а беларус — «вышэй ілба вочы не растуць». На чалавека неразумнага, лёгкадумнага рускі скажа: «он без царя в голове», а беларус — «ён не мае клёку ў галаве». Калі вы з'явіліся з вялікім спазненнем, па-руску лепш не скажаш, як «придти к шапочному разбору», а беларусы звязалі гэта паняцце з іншымі абставінамі і гавораць: «прысці свечкі тушыць». На чалавека, які хапаецца за многа спраў, беларус скажа: «ён на сем сукоў садзіцца». А калі ў гэтага чалавека напэўна ўжо нічога не выйшла, аб ім кажа: «на тым жа суку сеў». Рускі накант гэтага заўважыць: «с сука на сук, а все недосуг» або «остался при пиковом интересе». Усміхнулася чалавеку шчасце, вось-вось пасыплюцца радасці адна за другой, здаецца, дасягнуў ён жаданага. Але гэта толькі ўсмешка лёсу. У сапраўднасці ж з прычыны якіхсьці абставін гэтага не здарылася. Трапна накант гэтага сказана ў рускай прымаўцы: «Видит око, да зуб неймёт». А беларусы карыстаюцца ў гэтым выпадку іншым выразам: «Блізка відаць, ды далёка дыбаць». Не шанцуе чалавеку ды і толькі! Не тыя, дык другія абставіны перашкаджаюць яго задуме. У рускай мове накант гэтага існуе такая прыказка: «С твоим счастьем только в бор по грибы». А вось беларусы гавораць, калі ўжо чалавеку не шанцуе, што яму нават «без шчасця і па грыбы не ісці».

Каму з маленства не вядома байка Крылова «Мартышка и очки», дзе вялікі рускі байкапісец высмейвае тых, хто, прыніжаючы годнасць другіх, спрабуе выставіць сябе ў выгадным святле. Выкарыстоўваючы народную мудрасць, у маралі гэтай байкі аўтар заўважае: «Чем кумушек считать трудиться, не лучше ль на себя, кума, оборотиться». У беларускім фальклоры мы знаходзім такую прыказку: «Паглядзі, сава, якая сама».

І ў адной і ў другой прыказцы размова ідзе аб адным і тым жа. Тым не менш, мы бачым разыходжанне ў сродках выражэння. Яшчэ большае разыходжанне можна бачыць у такіх параўнальных выразах, як беларускі «ўшыцца ў сабачую скуру» і рускі «черту

душу продать», якія толькі ў некаторых сваіх значэннях з'яўляюцца ідэнтычнымі. Першы ў большай ступені азначае: рабіць несумленныя ўчынкі, траціць сумленне і г. д.

Вельмі цяжка знайсці такі ўстойлівы выраз у рускай мове, які адпавядаў бы беларускаму «сабакам сена касіць», г. зн. ганебна збегчы ад сваёй сям'і. У рускай мове ёсць выраз «быть в нетях», які азначае адсутнічаць, невядома дзе хавацца. Аднак гэта ўсё ж не тое. Больш эквівалентнага выразу знайсці ў рускай мове нам не ўдалося.

На чалавека сумленнага, бяскрыўднага, з добрай душой беларус гаворыць, што «ён вока табе не запарушыць», а рускі аб такім чалавеку заўважае, што «он пальцем тебя не тронет».

Не заўсёды можна меркаваць аб чалавеку па яго вонкаваму выгляду, як ён апрануты. Наконт гэтага існуе многа прыказак у рускім фальклоры. Вось некаторыя з іх: «По одежке встречают, по уму провожают», «Не всяк умён, кто в красно наряжен», «Лицом хорош, да душой непригож». Беларускія прыказкі некалькі іншымі словамі выражаюць тую ж сутнасць: «Хоць рукі чорныя, але сумленне чыстае», «Хоць рукі чорныя, ды работа белая», «Галоўка беленька, але на душы меленька».

На ўсякую паслугу каму-небудзь чалавек спадзяецца на такія ж добрыя адносіны. Аб гэтым рускія гавораць: «долг платежом красен», а беларусы — «доўг адплатай дораг».

У скарбніцы беларускага фальклору ёсць такая прыказка: «У старой печы чэрці паляць». Яна ўжываецца ў тых выпадках, калі ў чалавека нечакана праяўляюцца такія якасці (часцей за ўсё адмоўныя, але магчыма і дадатныя), якіх ніхто дагэтуль не прыкмеціў. Найбольш блізкай, эквівалентнай гэтай прыказцы ў рускай мове будзе прыказка: «В тихом болоте черти водятся».

Можна прывесці яшчэ шмат прыкладаў з гэтых двух блізкіх моў, дзе такія ўстойлівыя выразы ўтвораны пры дапамозе розных славесных сродкаў і з прычыны гэтага не з'яўляюцца абсалютна эквівалентнымі па ахопу значэнняў. А што гаварыць пры параўнанні гэтых родных моў з мовамі іншых сем'яў! Такія разыходжанні былі б яшчэ большымі.

Адрозненні рускай і беларускай моў склаліся дзякуючы гістарычна ўзнікшым адрозненням эканамічнага і духоўнага жыцця рускага і беларускага народаў. З прычыны такіх жа абставін адрозніваюцца гэтыя мовы і ад украінскай. Яны не маглі ўзнікнуць у той перыяд, калі іх носьбіты жылі ў адзінай Кіеўскай дзяржаве з адзіным эканамічным укладам, культурай, бытам і г. д. Яны ўзніклі ў перыяд феадальнай раздробленасці, у перыяд адарвання Украіны і Беларусі ад Расіі.

У нашыя дні, калі гэтыя народы жывуць адзінай дружнай сям'ёю і руская мова зразумелая і вельмі блізкая ўкраінцам і беларусам, як і іх родная, магчыма ў будучым зліццё гэтых блізкародных моў у адну мову. Гэтая мова ўбярэ ў сябе ўсе багацці і лепшыя якасці ўсіх трох моў. У сучасны момант беларуская мова развіваецца па шляху няўхільнага збліжэння з вялікай рускай мовай. Але ў гэтым працэсе было б памылкова бачыць заняпад беларускай мовы, бо якраз тут адлюстроўваецца найбольш поўнае і інтэнсіўнае яе развіццё.

Глыбей унікаючы ў структурную будову любой мовы, мы ўзбагачаем сваё ўяўленне аб сутнасці тых ці іншых рэчаў, паняццяў, з'яў. Успомніце хаця б наш элементарны прыклад з пралескай, і вы ўбачыце, як назва гэтай кветкі рознымі народамі ўспрымаецца па-рознаму, дае нам больш адчувальнае, выпуклае, рэльефнае, больш выразнае разуменне: яна расце пад снегам (як у рускай мове), яна расце на лясных прагалінах (як у беларускай), яна як званочак (у нямецкай), яна кропляй прабіваецца скрозь снег (як у англійскай), яна імкнецца да жыцця (як у французскай), яна і першынец вясны (як у польскай) і г. д.



Яшчэ большую своеасаблівасць кожнай мовы мы ўбачылі на матэрыяле так званых устойлівых фразеалагічных выразаў, якія таксама адлюстроўваюць пэўныя паняцці, але ў сэнсавым афармленні больш празрыстыя, чым словы. Іх стваральнікамі і першымі носьбітамі былі самыя шырокія народныя масы. Невычэрпнае мноства іх змяшчае ў сабе народная мудрасць, фальклор. Адгэтуль бралі іх, арганічна зліваючы са сваімі трапнымі словамі, нашы выдатныя пісьменнікі. Таму зусім справядліва Уладзімір Маякоўскі назваў народ «моватворцам». Ствараючы матэрыяльныя каштоўнасці, упэўнена ідучы наперад па шырокаму гістарычнаму шляху, народ стварае калектыўна новыя славесныя азначэнні таго, што ўзнікае і развіваецца. А сапраўды народны пісьменнік заўсёды карыстаецца невычэрпнымі вытокамі народнай мовы, яе глыбокай вобразнасцю, трапнасцю, непаўторнай сакавітасцю, якая дапамагае яму ствараць высокаідэйныя, высокамастацкія творы.

Ускрыўшы ўсе невычарпальныя багацці народнай мовы, зразумеўшы сутнасць яе будовы, мы ўзбагацім свае веды, сваю мову, свае ўяўленні аб многіх паняццях і з'явах, лепш будзем разумець творы вялікіх пісьменнікаў, вучоных, палітычных дзеячоў. Нарэшце, мы глыбей пазнаем гісторыю народа, усе тайнікі яго вялікай, прыгожай душы.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ЧАМУ ВЕРШЫ НЕ ТРАПІЛІ Ў ДРУК

Рэдакцыя «Маладосці» атрымала падборку вершаў пачынаючага паэта з Аршанскага раёна Аляксандра Грышанава. Гэтую падборку рэкамендуюць часопісу рэдактар раённай газеты В. Калібераў і старшыня бюро мясцовага літаратурнага аб'яднання П. Высоцкі. На іх думку, Аляксандр Грышанаў «піша ндрэнныя вершы», якія могуць быць надрукаваны на старонках часопіса.

Вялікая радасць для рэдакцыі — адкрыць новае паэтычнае імя, упершыню пазнаёміць чытачоў з таленавітымі вершамі невядомага дагэтуль паэта. Вось чаму рэкамендацыйнае пісьмо было сустрэта шчырай увагай. Але азнаямленне з вершамі маладога аўтара, нажаль, прынесла расчараванне. Пры ўсім жаданні дапамагчы і падтрымаць пачынаючага паэта, пры самых добразычлівых адносінах да яго творчасці (а іншых адносін мы не ўяўляем) — вершы Аляксандра Грышанава, дасланыя ў часопіс, друкаваць нельга. І перш за ўсё — у інтарэсах самога ж пачынаючага паэта.

Паспрабуем абгрунтаваць гэтае

заключэнне канкрэтным разглядам вершаў.

Агульнавядомая ісціна, што права на апублікаванне, а значыць і права на ўвагу чытачоў, маюць толькі тыя творы, якія выяўляюць — у большай або меншай ступені — бясспрэчныя паэтычныя здольнасці аўтара і вызначаюцца пэўнай мастацкай дасканаласцю. Калі канкрэтызаваць гэтае палажэнне, то, напэўна, трэба гаварыць аб наяўнасці ў вершы паэтычнага, вобразнага мыслення, цікавай, глыбокай і свежай думкі, шчырага, непадробленага пачуцця, выразнай і дакладнай мовы. Ці адпавядаюць гэтым патрабаванням вершы А. Грышанава? На нашу думку, не.

Галоўная бяда А. Грышанава заключаецца ў тым, што ён ідзе ў паэзію не ад жыцця, не ад непасрэднага ўспрыняцця рэчаіснасці, а — ад літаратуры, ад прачытанага. Паэзія пачынаецца заўсёды з жывога пачуцця, з усхваляванасці. Верш нараджаецца тады, калі ў сэрца паэта прыходзіць неспакой. Прачытаўшы кожны сапраўды паэтычны твор, мы адчуваем і разумеем, што прымусіла паэта ўзяцца за пяро. У вершах жа А. Грышанава мы не бачым такой абавязковасці, неабходнасці іх паяўлення на свет. Мы не знаходзім у іх тых думак, якія непакоілі аўтара і прымусілі яго выказацца.

Вось, напрыклад, верш «Дуб». Пра гэтае магутнае дрэва ёсць многа твораў і ў рускай і ў беларускай паэзіі. Натуральна было б спадзявацца: калі аўтар узяўся за гэтую тэму, значыць, ён хацеў сказаць нешта новае, значыць, у яго ўзніклі нейкія цікавыя думкі, значыць, гэты вобраз ён асэнсаваў па-свойму. Нажаль, нічога гэтага ў вершы няма. Увесь змест яго зводзіцца, па сутнасці, да паведамлення аб тым, што

Сярод палёў і ніў калгасных
Узняўся ўвысь асілак-дуб.

Спроба стварыць паэтычны вобраз не ідзе далей даўно вядомых у літаратуры і ў фальклоры метафар:

Над ім вятры шалёна вылі,
Лятáлі хмарай груганы,

але не пахіснулі, не зламалі, дубасілак стаіць па-ранейшаму і «ўпіраецца ў блакіт». Нават калі дапусціць, што дуб, як паэтычны вобраз, з'яўляецца ў вершы сімвалам магутнасці Радзімы, то ўсё роўна паходжанне верша застанецца чыста літаратурным. Гэты вобраз-сімвал ужо многа-многа разоў сустракаўся ў літаратуры.

Прыгадаем, між іншым, чатырохрадковы верш «Дуб» Пятра Камарова:

Словно часовой, в широкой пойме
Он стоит, оберегая рожь.
И недаром на патрон в обойме
Каждый желудь у него похож.

Паэт сказаў па-свойму, так, як да яго яшчэ ніхто не гаварыў, ён стварыў новы паэтычны вобраз, зрабіў паэтычнае адкрыццё, якім узбагаціў і нас. А ў гэтым — сапраўднае прызначэнне паэзіі.

Літаратурнае паходжанне маюць і астатнія вершы А. Грышанава: «Восень», «Крыніца», «Сцяг маёй рэспублікі». Як і ў вершы «Дуб», ні ў адным з іх няма арыгінальнай задумы і свежых паэтычных вобразаў. Тое, што малады аўтар ідзе не ад свайго непасрэднага пачуцця, а ад гатовых паэтычных узораў, цягне за сабою і выкарыстанне гатовых, «чужых» матываў, вобразаў, інтанацый. Вось чаму восень у яго — гэта мастак, які размалёўвае дрэвы (зацяганы ўжо вобраз!), а прыкметы восені — гэта «струны-павуціны» і журавы, што ляцяць у вырай «роўненькім шнурочкам». (Успомнім хрэстаматыйны верш Я. Коласа: «...роўненькім шнурочкам жураўлі на вырай мкнуцца над лясочкам»). Вось чаму ў «крыніцы» «сонца промні купае, як быццам срэбра зіхаціць», а «нівы шэпчуць каласамі», а калі «вып'еш той вады студзёнай, адразу стомленасць міне». Вось чаму пра сцяг рэспублікі мы даведваемся толькі тое, што мы яго

Сэрцам засланялі,
Бераглі ў баях,

што сцяг — гэта:



Гонар усёй дзяржавы,
Сіла пакалення,
Праўды нашай, славы,
Міру і сумлення.

Усё знаёмае, чутае, чытанае раней у другіх, зразумела, ужо не можа зацікавіць чытача, а тым болей — абудзіць у яго душы хваляванне.

Другі таксама вельмі сур'ёзны недахоп у вершах А. Грышанава — гэта моўная неахайнасць. Ён вынікае з непатрабавальнага стаўлення маладога аўтара да працы над вершам, з няўважлівых адносін да кожнага радка, да кожнага слова. Звернемся да прыкладаў:

Над маёй краінай
Палымнее сцяг,
**Подыхам адзіным**
**Асвятляе шлях.**

Два апошнія радкі тут яўна непрадуманыя. Калі б А. Грышанаў уважліва ўчытаўся ў тое, што напісаў, ён, напэўна, сам заўважыў бы недарэчнасць. «Подыхам» нельга нічога асвятліць, слова «подых» тут не на месцы, сцяг не ўтварае подыху (гэта хутчэй стасавала б да ветру), метафара атрымалася ненатуральная, яна не ўспрымаецца, бо пазбаўлена рэальнай асновы.

У вершы пра дуб таксама знаходзім падобную недарэчнасць:

Над ім вятры шалёна вылі,
Лятáлі хмарай груганы.
Не пахіснулі, **не зламілі** (?)
Яго магутнае **сцяны.** (?)

Па-першае, груганы і не маглі пахіснуць, а тым больш — зламаць дуб, гэта ім не пад сілу, і таму ўся страфа траціць сэнс. Аўтар, відаць, меў на ўвазе «вятры не пахіснулі», але напісаў так, што выходзіць «груганы не пахіснулі». Па-другое, адно дрэва — нават калі гэта дуб — нельга параўноўваць са сцяной, таму што гэтае параўнанне не выклікае ва ўяўленні чытача рэальных асацыяцый. Можна сказаць «сцяна лесу», «сцяна збажыны», «людзі сталі сцяной», але адно дрэва, адзін чалавек не можа «стаць сцяной». Далей: калі ніякая сіла не змагла дуба ні пахіснуць, ні зламаць — незразумела, чаму ў наступнай страфе аб ім гаворыцца: «Паўстаў, красуецца, квітнее...» Калі «паўстаў» — значыць, быў павалены ці, прынамсі, пахілены? Нарэшце: «дуб красуецца» — гэта мы ўяўляем, але «дуб квітнее» — уяўленню не паддаецца.

Восень у А. Грышанава «па-над полем **ходзіць песняй** жураўлінай». Зноў-такі сказана няўдала. Песня жураўоў не можа хадзіць па-над полем. Можна было б сказаць, што іх песня праносіцца над полем, што журавы пацягнулі сваю песню ўдаль, або яшчэ як-небудзь інакш — толькі так, каб гэта адпавядала сапраўднасці, каб паэтычны малюнак быў натуральны.

Вернемся зноў да верша «Сцяг маёй рэспублікі».

З сёстрамі-сцягамі
У адной калоне
Ёсць і мой таксама
Чырвона-зялёны.

Першы радок страфы непісьменны. Слова «сцяг» — мужчынскага роду і называць яго сястрой — недарэчы. Далей у гэтым жа вершы чытаем:

Вейся над сусветам,
Асвятляй і ночы.
Мы пад сцягам гэтым
У камунізм крочым.

У першых двух радках пра сцяг гаворыцца ў другой асобе — «ты вейся», а ў заключных — ужо чамусьці ў трэцяй асобе: сцяг — ён. Такая непаслядоўнасць недапушчальная.

Можна і яшчэ прывесці шмат прыкладаў моўнай неахайнасці ў вершах А. Грышанава. Можна сказаць і пра нівы, што «наліваюцца зярном» (чаму не зернем?), і пра тое, як «крыніца з грунту б'е ключом» (па-беларуску гэта азначае «крыніца з грунту б'е крыніцай»), і пра такія нязграбныя выразы, як «і стане лёгка ад піцця...», і пра многае іншае. Прыведзеных прыкладаў, на нашу думку, дастаткова, каб пераканацца, што малады аў-

тар вельмі непатрабавальна адносіцца да працы над вершам. Міжволі прыходзяць на ўспамін словы У. Маякоўскага, якія трэба заўсёды помніць тым, хто бярэцца за пяро:

Поэзия —
та же добыча радия.
В грамм добыча,
в год труды.
Изводишь,
единого слова ради,
тысячи тонн
словесной руды.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што пачынаючы паэт Аляксандр Грышанаў напісаў слабыя, бездапаможныя ў мастацкіх адносінах вершы. Можа быць, з цягам часу выявяцца ў яго паэтычныя здольнасці, аб якіх пакуль што па дасланых вершах меркаваць цяжка. Больш трывожыць і засмучае тое, што людзі, якія абавязаны звярнуць увагу маладога аўтара на сур'ёзныя недахопы ў яго вершах, аднесліся да творчасці А. Грышанава зусім некрытычна. Як відаць з пісьма, т.т. Каліберава і Высоцкага задавальняюць вершы А. Грышанава. Замест таго, каб дапамагчы яму зразумець, што такое паэзія і што такое — праца пісьменніка, яны ўнушаюць А. Грышанаву, што ён «піша няд рэнныя вершы», аказваючы тым самым пачынаючаму паэту мядзведжую паслугу. Сапраўдны клопат аб росце маладых талентаў не мае нічога агульнага з міласэрным апякунствам. Толькі прынцыповая добразычлівая таварыская крытыка можа прынесці карысць — аказаць маладым, пачынаючым аўтарам дзейсную дапамогу.

*У свеце мастацтва*

# ВЕЧНА МАЛАДОЕ

Мастацтва вялікага кітайскага народа займае адно з найбольш значных месц у скарбніцы сусветнай культуры. Багатыя мастацкія традыцыі, якія склаліся яшчэ ў старажытныя часы, прадаўжалі развівацца на працягу многіх стагоддзяў і ўзбагацілі сусветнае мастацтва непаўторнай прыгажосцю і своеасаблівасцю кітайскіх нацыянальных форм.

Нацыянальная своеасаблівасць кітайскага мастацтва найбольш праявілася ў жывапісу, які быў вядомы яшчэ з V—III стагоддзяў да нашай эры. У пятым стагоддзі нашай эры ў Кітаі былі ўжо выпрацаваны свае прынцыпы жывапіснага майстэрства і створаны эстэтычныя тэорыі, у аснову якіх было пакладзена імкненне адлюстроўваць канкрэтныя з'явы жыцця.

У эпоху найвышэйшага ўздыму эканомікі і культуры краіны, у перыяды дынастый Тан (VII—IX ст.) і Сун (X — XIII ст.) мастацтва жывапісу дасягае небывалага росквіту. Іменна тады складваюцца асноўныя традыцыі як у галіне формы, так і ў галіне зместу.

У эпоху Тан упершыню адасобіліся самастойныя віды жывапісу: пейзаж, жывапіс «кветак і птушак», партрэт. Прычым галоўнае месца займаў пейзаж (па-кітайску «шань-шуй» — горы і воды). Сам настрой гэтага пейзажу адлюстроўваў філасофскія і касмічныя ўяўленні кітайцаў аб зменлівасці прыроды. Выцягнутая форма доўгага скрутка садзейнічае перадачы вялікіх прастораў. Цэлы шэраг складаных прыёмаў у перадачы прасторы, паветранага асяроддзя дазваляе мастаку стварыць адчуванне велічнасці, бязмежнасці свету прыроды. Кітайскі пейзаж падзяляецца звычайна на шэраг планаў, раздзеленых паміж сабой туманнаю дымкай, пеляною дажджу або воблакаў, з якіх вырастаюць далёкія сілуэты горных вяршынь, або шырокаю воднаю прасторай ля падножжа гор. У той жа час гэты прасторавы прынцып аб'ядноўвае ў адно цэлае асобныя планы або часткі кампазіцыі, свабодна размешчаныя на плоскасці скрутка. Высокі гарызонт, утвораны замкнутым горным ланцугом, дазваляе бачыць толькі невялікую частку неба, а далёкія вяршыні, якія нібы раствараюцца ў паветранай дымцы, утвараюць своеасаблівую перспектыву вышыні і глыбіні.

Шматпланавасць, паветраная перспектыва, выразнасць мазка — гэтыя прыёмы сталі асноўнай традыцыяй для ўсіх жанраў жывапісу.

Традыцыі жывапісу, выпрацаваныя ў эпоху Тан, прадаўжалі развівацца і ўзбагачацца новымі рысамі ў эпоху Сун. Калі мастакі перыяду Тан імкнуліся да адлюстравання навакольнага рэальнага жыцця, то галоўнай мэтай майстроў эпохі Сун становіцца перадача настрояў і перажыванняў чалавека, адлюстраванне яго пачуццяў, эмоцый. Стыль жывапісу становіцца больш свабодным і маляўнічым, моцныя і выразныя лініі контура часта зусім адсутнічаюць. На змену яркім, шчыльным фарбам эпохі Тан з'яўляюцца лёгкія, празрыстыя фарбы, якія найбольш падыходзілі для перадачы тонкіх пачуццяў і перажыванняў мастака.

Заснаваная яшчэ ў эпоху Тан у Нанкіне Акадэмія мастацтваў, якая прышла ў занапад у гады міжцарства, была зноў арганізавана ў 978 годзе ў новай сталіцы — Кайфынь як імператарская Акадэмія мастацтваў. Яна адыграла

вялікую ролю ў мастацкім жыцці краіны.

Развіццё мастацтва ў Кітаі было непарыўна звязана з асаблівасцямі гістарычнага развіцця краіны. У часы працяглага панавання феадалізма ў галіне духоўнай культуры наглядаецца застой. Мастацтва ідзе па шляху ўсё большага вытанчэння формы ў шкоду зместу. У XIX стагоддзі ўзнікае так званая «школа каштоўнага стылю» — «го цуй», якая потым ператварылася ў акадэмічную догму. Гэта адцягвала ўвагу мастакоў ад жыцця.

Пасля рэвалюцыі 1911 года і ўстанаўлення буржуазнай рэспублікі маладая кітайская буржуазія пачынае хутка ўспрымаць культуру Захаду. Ва ўсіх галінах мастацтва наглядаецца сляпое перайманне Еўропы і Амерыкі. У 1912 годзе ў Пекіне была адкрыта Акадэмія мастацтваў, выкладанне ў якой вялося па ўзору еўрапейскіх акадэмій.

Абодва напрамкі (школа «го цуй» і пераймальніцкі заходні) па сутнасці адлюстроўвалі антынародную ідэалогію старой феадальнай бюракратыі і маладой растучай нацыянальнай буржуазіі, якая была звязана з замежным капіталам.

Разам з тым, ужо ў 80-х гадах XIX стагоддзя пад уздзеяннем народнай барацьбы з інтэрвенцыяй і росту нацыянальнай самасвядомасці ў перадавых колах новай мастацкай інтэлігенцыі заўважаецца імкненне да адраджэння нацыянальнага мастацтва. Галоўнай задачай мастакоў становіцца адмаўленне ад акадэмізма афіцыяльнага жывапісу пры захаванні лепшых нацыянальных традыцый і непасрэднае вывучэнне прыроды з мэтаю рэалістычнага яе адлюстравання.

**Хуан Чжоу «Шчаслівае паколенне».**



Заснавальнікам гэтага новага напрамку ў мастацтве Кітая быў вядомы мастак Жэнь Бо-нянь.

Вучні і паслядоўнікі Жэнь Бо-няня: Цы Бай-шы, Е Цянь-юй, Сюй Да-чжан, Сюй Бэй-хун і многія сучасныя мастакі старэйшага пакалення, прадоўжыўшы і ўзбагаціўшы творчы метад свайго настаўніка, паклалі пачатак развіццю своеасаблівага нацыянальнага стылю «го хуа», што азначае — «нацыянальны жывапіс». Гэтым тэрмінам з пачатку XX стагоддзя ў Кітаі пачалі называць жывапіс, у якім мастакі выкарыстоўваюць нацыянальныя традыцыі і мастацкія прыёмы, якія скlaліся ў VIII — XIII стагоддзях. Мастакі «го хуа» карыстаюцца каляровай або чорнай тушшу, а таксама асаблівай паперай або шоўкам у форме скрутка.

У перыяд рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы вядучае месца заняла графіка (плакат, гравюра, карыкатура) як від агітацыйнага, баявога мастацтва. Іменна ў графіцы раней за ўсё праявіліся рысы новага, дэмакратычнага стылю. Вялікі ўплыў на творчасць рэвалюцыйна настроеных мастакоў аказаў рэвалюцыйны пісьменнік Кітая Лу Сінь (1881 — 1936). Ён быў шчырым другам савецкага народа. Кніга Лу Сіня аб Савецкім Саюзе і яго культуры, выдадзеная ў Кітаі ў 1928 годзе, адыграла вялікую ролю ў дзейнасці мастацкіх арганізацый Кітая. Пад кіраўніцтвам Лу Сіня мастакі аддрадзілі тэхніку ксілаграфіі (гравюра на дрэве), вядомую ў Кітаі са старажытных часоў і амаль забытую на пачатку XX стагоддзя. Яны ўзбагацілі яе новымі прыёмамі, перанятымі творча ў савецкіх мастакоў і прагрэсіўных майстроў гравюры Заходняй Еўропы.

Мастацтва гравюры асабліва развівалася ў гады вызваленчай вайны. Выключнай папулярнасцю карысталіся гравюры Ма Да «Баец», Чэнь Яньцяо «Байцы ля вогнішча», Су Чжоушань «У. І. Ленін». Палымянай нянавісцю да катаў народа, геройкай барацьбы з ворагам поўняцца гравюры Лі Хуа «Беспрацоўны», «Паўстанне», «Нашы імкненні адзіныя» і іншыя.

У гады барацьбы з японскай агрэсіяй пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі былі створаны новыя вызваленыя раёны на паўночным захадзе краіны з цэнтрам у горадзе Яньянь. Па ініцыятыве Мао Цзэ-дуна і Чжоу Эньлая ў 1938 годзе ў Яньяне была створана Акадэмія мастацтваў імя Лу Сіня. Паводле слоў паэта Эмі Сяо, гэта «была выдатная кузня вялікага народнага мастацтва». Творчасць мастакоў Гу Юаня, Лі Цюня, Ван Шы-го, Ся Фына, Ма Да, Ло Гун-лю, Шы Лу, якія



працавалі ў вызваленых раёнах, была цесна звязана з жыццём народа. Мастакі адлюстроўвалі ўсё тое новае, што прынесла народная ўлада.

Значнае месца сярод іх належыць Гу Юаню. У 1942 годзе ён выканаў серыю гравюр «Мінулае і сучаснае кітайскага селяніна». З вострым драматызмам мастак раскрыў трагедыю голаду і галечы ў былой кітайскай вёсцы. Яго гравюры «Паміраюць з голаду» і «Продаж дачкі», поўныя глыбокага пачуцця смутку і гнеўнага пратэсту. Заключныя лісты гэтай серыі Гу Юань прысвяціў барацьбе сялян з памешчыкамі і новаму, светламу жыццю ў вызваленай вёсцы. Але асабліва вялікі поспех мела яго батальная гравюра «Жывы мост», створаная ў 1949 годзе. У ёй адлюстраваны гераічны эпізод вялікай Хуайхайскай бітвы, калі адно з падраздзяленняў Народнай Арміі перапраўлялася на другі бераг па бярвеннях, якія трымалі на плячах дзесяць байцоў-герояў, стоячы па грудзі ў ледзяной вадзе.

Зямельная рэформа, якая пачалася ў вызваленых раёнах у 1946 годзе, выклікала новы ўздым у творчасці рэвалюцыйных мастакоў. Многія з іх прымалі непасрэдны ўдзел у яе правядзенні. Гравюра Ся Фына «Ліквіда-

**«Тыбетка». Работа маладога мастака Не Нань-сі.**





**«Снежны пейзаж на гары Пейханьшань». Работа мастака Лу Цзун-пей.**

цыя непісьменнасці» паказвае маладую сялянку, якая стаіць ля ўваходу ў кароўнік і ўважліва глядзіць на іерогліфы, каб запомніць іх. Само жыццё лягло ў аснову работ Ван Шы-го «Перавыхаванне гультаёў» і Шы Лу «Сход сялян, прысвечаны крытыцы».

Падзеі, выкліканыя вайной, патрыятызм кітайскага народа, яго мужнасць і храбрасць не маглі не зрабіць належнага ўздзеяння на прагрэсіўных майстроў нацыянальнага стылю «го хуа».

Да ліку вядомых мастакоў «го хуа», якія адлюстравалі суровую пару 30—40 гадоў, належаць: Пань Юнь, Цзян Чжао-хэ, Гуань Шань-юэ і другія. Асабліва вядомасць набылі карціны Цзянь Чжао-хэ — «Хлопчыкі-жабракі» і многафігурная кампазіцыя «Бежанцы». Выкарыстоўваючы традыцыйны прыём апавядальнасці, мастак нібы разгортвае перад гледачом страшную аповесць пра народнае гора, пра чалавечыя пакуты.

Увосень 1949 года больш чым стогадовая барацьба кітайскага народа за сваю свабоду і незалежнасць закончылася вялікай гістарычнай перамогай. 1 кастрычніка 1949 года ў Пекіне было ўрачыста аб'яўлена аб утварэнні Кітайскай Народнай Рэспублікі.

У 1949 годзе адбыўся першы Усекітайскі з'езд работнікаў літаратуры і мастацтва. З'езд распрацаваў план далейшай работы ў галіне культуры: мастацтва і літаратура павінны цвёрда стаяць на шляху служэння свайму народу, дапамагаць яму ў яго барацьбе за новае, шчаслівае жыццё.

Барацьба за сапраўды народнае рэалістычнае мастацтва, якая разгарнулася на працягу апошніх год сярод мастакоў, садзейнічала стварэнню новых высокаідэйных, нацыянальных па форме твораў.

Выстаўка работ маладых мастакоў Народнага Кітая, наладжаная сёлета ў

Мінску, а таксама дзве выстаўкі рэпрадукцый з работ сучасных кітайскіх мастакоў, арганізаваныя Дзяржаўным мастацкім музеем БССР, паказалі, што мастацтва Кітая сапраўды народнае. У работах кітайскіх мастакоў спалучаюцца элементы традыцыйнай нацыянальнай мастацкай формы з новым зместам сацыялістычнай эпохі.

Віртуознае валоданне пэндзлем, цякучасць ліній, якія не толькі ўтвараюць граніцы формы, але і мадэлірулоць яе, майстэрства размываў тушы, найтанчэйшая распрацоўка каларыту дазваляюць мастакам «го хуа» дасягаць у сваіх творах вялікага абагульнення, лаканізму і манументальнасці.

У карціне «Жыццё на беразе мора» мастака Я Міна на белым, нічым не запоўненым скрутку намалявана жанчына, якая ладзіць сетку, а ніжэй яе, свабодным рухам пэндзля, — канатная пятля. Вось і ўся карціна. Але як адчуваецца ў ёй шматпланавасць прасторы, які зразумелы і ясны мастацкі вобраз! Відны прасторы неабсяжнага мора, шырыня пясчанага берага і неаглядныя далі. Вобраз чалавека набывае асаблівую значнасць, манументальнасць. А між тым, выяўленчыя сродкі тут выключна лаканічныя: чырвоная пляма кофты, чорная размытая туш сеткі і свабодная плясcасць скрутка.

Прынцып выкарыстання незапоўненай паверхні скрутка ў якасці мастацкага кампанента ўласцівы многім работам «го хуа». Часта прымяняе яго мастак Хуан Чжоу. Сярод яго работ гэтага плана трэба адзначыць карціны «Маці з дзіцем» і «Шчаслівае пакаленне». Белы, не запоўнены фон у першай карціне стварае адчуванне цішыні і спакою, якія акружаюць заснуўшае ў калысцы дзіця і маці, што схілілася над ім.

У барацьбе за рэалістычнае мастацтва мастакі Кітая шукаюць своеасаблівых выяўленчых сродкаў. Мастак Фан Цзі-чжун карыстаецца новым у Кітаі мастацкім метадам станковай карціны, з адзіным пунктам гледжання. Карціна «Лекцыя па сельскай гаспадарцы» паказвае групу сялян, якія сабраліся ў садзе паслухаць маладога агранома. Па гэтаму ж метаду напісана карціна Чжан Ю-ланя «Уручэнне кнігі», у якой паказаны малады кнігаВоша на палявым стане.

Вялікай псіхалагічнай глыбіні ў раскрыцці вобраза новага чалавека дасягнуў Ян Чжы-гуан у рабоце «Першы раз у жыцці». На белым фоне скрутка намалявана старая жанчына. Шчаслівa ўсміхаючыся, яна беражліва, як найвялікшую каштоўнасць, трымае абедзвюма рукамі перад вачыма дакумент аб зямельным надзеле. Проста, цёпла і праўдзіва напісаў мастак вобраз старой сялянкі.

У аснове сучаснай кітайскай гравюры, гэтак жа, як і ў «го-хуа», ляжаць нацыянальныя традыцыі мастацкай формы. Але, як масавы від мастацтва, яна з большай шырынёю і рэалістычнасцю адлюстроўвае перадавыя з'явы грамадскага жыцця, па-новаму паказвае чалавека як актыўную сілу і творцу.

З вялікай экспрэсіяй, тэмпераментна адлюстроўвае стваральны дух сваёй эпохі і мастак Юй Ху-шэнь у гравюры «Будаўніцтва ГЭС». Кантрасная аснова жывапіснага і кампазіцыйнага рашэння — у супастаўленні белай і чорнай плоскасцей, багацце і разнастайнасць штрыха, увесь дынамічны лад твора ярка раскрываюць задуму — пафас грандыёзных будоўляў і высокую творчую энергію магутных сіл народа.

У рабоце Чэн Чжу-дэ «Зборачны цэх» галоўнае — людзі, іх напружаная, зладжаная праца. Людзей не засланяюць механізмы, тэхніка. Почырк Чэн Чжу-дэ разнастайны. Яго гравюра «Рамонт паруса» дыхае шырынёю прастораў, прываблівае багаццем паветра.

Хвалюючым пачуццём любві да роднай прыроды сагрэты пейзажы мастакоў Народнага Кітая. Паэтычна паказаў мастак Сю Цзю вечар на возеры лотасаў. Яго карціна пад такою назвай поўніцца рамантычнай адухоўленасцю.

З вялікай эмацыянальнай выразнасцю выканана гравюра «Раніца ў лесе» Юй Ю-фаня. На фоне пасвятлеўшага неба — пераплеценыя галіны старых дрэў, ахутаныя перадсвітальнымі фарбамі шэра-блакітных адценняў, якія выразна перадаюць адчуванне вільготнай ранішняй свежасці ў лесе. Мастак тут выкарыстоўвае стары традыцыйны прыём падфарбоўвання ад рукі, каб найбольш адчувальна перадаць перадсвітальную смугу.

Можна было б прыводзіць бясконца прыклады работ кітайскіх мастакоў, у якіх па-майстэрску выкарыстоўваюцца гамы фарбаў у іх найтанчэйшым спалучэнні. Бясспрэчна тое, што ў работах маладых мастакоў Народнага Кітая традыцыйнае, цудоўнае мастацтва, насычанае новым рэвалюцыйным зместам, паўстае перад гледачом у бляску вечнай маладосці.

**А. ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

## *Бібліяграфія*

# ГЛЫБЕЙ РАСКРЫВАЦЬ ХАРАКТАР

Аляксандр Капусцін — юрыст па прафесіі. Многа год ён працуе народным суддзёй. Захапляючая, удзячная і адказная яго работа. Дзесяткі людзей нясуць да суддзі свае надзеі, крыўды, сумненні, а часам і роспач. Суддзя бачыць гэтых людзей у хвіліны вялікага ўзрушэння. У такія моманты часам раскрываецца самае запаветнае, што ў звычайных абставінах бывае глыбока схавана ў душы чалавека.

Вось гэтыя назіранні і асабістае хваляванне за лёс людзей і сталі, у асноўным, матэрыялам для твораў маладога пісьменніка.

Пра змест першай кнігі А. Капусціна гаворыць ужо сама яе назва, можа, некалькі прэтэнцыёзная і залішне прамая — «Суд ідзе»*. Галоўная тэма кнігі — перавыхаванне чалавека савецкім судом.

Адчуваецца, што людзей, пра якіх ён расказвае, аўтар бачыў сам, што адлюстраваныя падзеі адбываліся ў яго на вачах. Многае ў апавяданнях — апісанне ходу следства, партрэты людзей — пададзена вельмі пераканаўча.

У першым апавяданні зборніка — «Рыбалка не адбылася» А. Капусцін імкнецца паказаць, якое маральнае задавальненне прыносіць людзям упэўненасць у справядлівасці нашага савецкага правасуддзя. У адпаведнасці са сваёй задумаю, у аснову апавядання аўтар кладзе барацьбу суддзі з самадурам-адміністратарам, які без усякіх падстаў зволіў работніцу. Нельга сказаць, што такі жыццёвы канфлікт з'яўляецца адкрыццём маладога пісьменніка. Але можа ў гэтай не новай для нашай літаратуры сітуацыі аўтару ўсё ж удалося стварыць жывыя паўнацэнныя мастацкія вобразы? Нажаль, не. Няўдача апавядання іменна ў тым і заключаецца, што героям не стае жыццёвай пераканальнасці. Вобраз суддзі Жураўлёва з'яўляецца схемаю сумленнага суддзі, а вобраз дырэктара завода — схемаю закаранелага бюракрата. Жывых рыс хапіла ў пісьменніка толькі на вобраз падхаліма Бабчанка.

Не атрымалася яркага мастацкага характару і ў апавяданні «Канчатковае рашэнне». Некалькі яго старонак заняты наіўнай спрэчкай двух хлопцаў аб тым, ці карысная праца ў міліцыі. І як ні намагаешся ўявіць сабе гэтых людзей, зрабіць гэта нельга, бо ўяўленню тут літаральна няма на што абаперціся.

Або вось апавяданне «На допыце». На судзе разглядаецца хуліганскі ўчынак маладога чалавека, які ў час сваркі ўдарыў свайго сябра нажом. Дапытваецца сведка Карней Паплавок. Аўтар паказаў яго ярка і выразна: гэта адзін з самых удалых партрэтаў у кнізе. Чытачу ясна, што гэты Паплавок — чалавек недалёкі і да таго ж яшчэ баязлівец. Далей, насуперак створанай характарыстыцы, А. Капусцін намагаецца пераканаць чытача, што герой яго — асоба незвычайная, што ён здольны на самаахвярнасць.

На шматразовых допытах Карней Паплавок дае самыя супярэчлівыя паказанні і, нарэшце, заяўляе, што ўдарыў нажом сябра не падсудны, а ён, Карней. Суддзя схільны лічыць гэты яго ўчынак як праяўленне пачуцця таварыскасці. Але ў даным выпадку такое меркаванне не мае падстаў, бо яно не падрыхтавана характарыстыкай героя, асобнымі дэталямі апавядання. У апавяданні ёсць такі эпізод: Паплавок, заўважыўшы на сабе позірк падсуднага, уздрыгвае і ўцягвае галаву ў плечы — ён баіцца гэтага чалавека. Якое ж тут пачуццё сяброўства?! Учынкамі Паплаўка кіруе толькі страх, — такі вывад напрошваецца з апавядання, хоць гэта супярэчыць задуме аўтара.

У зборніку ёсць творы, якія свед-

* Аляксандр Капусцін. «Суд ідзе». Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1959.

чаць аб тым, што малады пісьменнік не абмяжоўваецца наз іраннямі, зробленымі ў зале суда. Цікава адзначыць, што іменна сярод такіх твораў мы знаходзім найбольш удалыя. Вось апавяданне «Дзед Антон і Сашка». Чалавек, які некалі зрабіў злачынства і ўсвядоміў усю жахлівасць свайго ўчынку, у гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіць у сабе сілы і мужнасць, каб пайсці на подзвіг і гэтым выкупіць сваю віну перад Радзімай.

Сюжэт апавядання цікавы, востры, чытаецца яно з хваляваннем. Стройная кампазіцыя, псіхалагічная абгрунтаванасць учынкаў герояў, напружанасць дзеяння выгадна адрозніваюць яго ад іншых апавяданняў. І гэта таму, што аўтар вышаў з залы суда і звярнуўся да новых сфер жыцця. Мусіць жа і ў далейшай літаратурнай рабоце лепшым памочнікам маладога пісьменніка будзе сустрэча з жыццём ва ўсіх яго праявах.

Апавяданні Аляксандра Капусціна раней публікаваліся ў перыядычным друку. Цяпер, калі яны сабраны разам, кідаецца ў вочы іх кампазіцыйная аднастайнасць, аднолькавы прынцып развіцця сюжэта. У цэнтры амаль кожнага апавядання стаіць судовы работнік, перад якім спачатку ўзнікаюць нейкія цяжкасці, а потым прыходзіць шчаслівы канец. І, як правіла, у суддзі адразу робіцца добры настрой. Некаторыя апавяданні нават заканчваюцца амаль аднолькавымі словамі. З душы героя спадае нейкі цяжар, усе яго сумненні вырашаюцца — і вось паяўляецца стэрэатыпная фраза: «Светла і радасна зрабілася на яго душы» («Рыбалка не адбылася»), «На сэрцы Максіма заварушылася нешта... прыемнае» («Праз гады»), «Быццам камень зваліўся з маіх плеч» («Апошняе слова»).

У зборнік «Суд ідзе» ўключана і першая аповесць маладога аўтара «На крутых паваротах».

Асноўнаю тэмаю аповесці з'яўляецца перавыхаванне чалавека, які некалі спатыкнуўся на жыццёвай сцежцы, але потым знайшоў у сабе сілы выправіць памылку. У гэтым творы А. Капусцін імкнецца паказаць жыццё з розных бакоў, лёс многіх людзей.

Герой аповесці — суддзя Сямён Пятровіч — вымушаны весці справу супраць сваякоў любімай дзяўчыны. Ён доўга і пакутліва думае, ці не заявіць яму самаадвод. І тут узнікае першая лагічная няўвязка. Калі суддзя—чалавек сумленны і прынцыповы, — а такім і паказаны ў аповесці Сямён Пятровіч, — дык тут канфлікт павінен быў разгортвацца зусім у іншым плане. У душы суддзі можа ў такіх абставінах узнікнуць спачуванне, жаласлівасць да падсуднага, жаданне дапамагчы яму і пакута ад таго, што дапамога гэтая можа быць толькі вельмі суровай. Можа, нарэшце, з'явіцца злосць на тое, што абставіны патрабуюць, каб іменна ён нанёс удар блізкаму чалавеку. А сумненні суддзі: прымаць яму асабісты ўдзел у абвінавачванні злачынцы ці не, пазбаўлены логікі, бо гэта яго абавязак.

Не зусім абгрунтаваным здаецца і другі канфлікт, які мае месца ў гэтым творы. Як вядома, характар чалавека найбольш ярка праяўляецца ў барацьбе з перашкодамі. Памятаючы пра гэта аўтар штучна сутыкае Сямёна Пятровіча з кансерватыўна настроеным пракурорам. Да пракурора аўтар ставіцца з сімпатыяй. Гэта чалавек сумленны, заслужаны, прынцыповы. Але чытачу незразумела, чаму гэты вопытны і спрактыкаваны пракурор упарта патрабуе арышту чалавека, вінаватасць якога не даказана? Відавочна, упарты пракурор спатрэбіўся аўтару для супрацьстаўлення справядліваму суддзі.

Вядома, што ў творы, пабудаваным на матэрыяле судовай справы, вялікае месца адводзіцца псіхалогіі злачынцы. І ў аповесці А. Капусціна значнае месца займае вобраз былога злодзея Марціна Куксы. З ім звязаны цікавыя раздзелы аповесці. Добра напісана, напрыклад, сцэна ў судзе, калі Кукса дапамагае канчатковаму раскрыццю злачынства. Але самае галоўнае—тое, якім шляхам былы злодзей прыйшоў да думкі сумленна працаваць, іншымі словамі, станаўленне характару засталося па-за ўвагаю аўтара. Аповесць намнога выйграла б, калі б аўтар паказаў гісторыю развіцця характараў галоўных герояў.

Аляксандру Капусціну, маладому пісьменніку, які выдаў пакуль што толькі першую кнігу, трэба выхоўваць патрабавальнасць і строгасць да сябе, уменне бязлітасна выкрэсліваць знойдзенае, калі яно недастаткова выразнае, і шукаць тое адзінае рашэнне, якое робіць твор сапраўды мастацкім. Малады аўтар пакуль не выявіў умення глыбока пранікаць ва ўнутраны свет герояў, псіхалагічна абгрунтоўваць іх учынкі. Вучыцца майстэрству паказу чалавечых характараў — адна з найпершых задач, якія стаяць перад А. Капусціным, як і перад многімі маладымі аўтарамі.

**Р. ПІАТУХОЎСКАЯ.**



# ЯШЧЭ АДНА КНІГА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ

Героямі кнігі Васіля Хомчанкі «Наша вячэра» з'яўляюцца жыццерадасныя, цікаўныя і непаседлівыя дзеці. Вясёлай чародкай праходзяць перад намі цудоўныя хлопчыкі і дзяўчынкі—Таня, Ваня, Марыська, Федзя, Дзяніска, Мацейка. І кожны з іх мае свой складаны ўнутраны свет, свой характар.

Аўтар добра ведае сваіх маленькіх герояў. Усе яго апавяданні ставяць перад сабой выхаваўчую мэту, але, правільна ўлічваючы ўзроставыя асаблівасці свайго чытача, аўтар імкнецца размаўляць з ім, па выразу А. М. Горкага, «...проста і захапляюча, без усялякай дыдактыкі, на самыя сур'ёзныя тэмы».

Вылучаюцца ў кнізе два апавяданні, прысвечаныя У. І. Леніну—«Дарагі падарунак» і «Баравікі». У першым з іх апавядаецца пра тое, як Уладзімір Ільіч навучыў чытаць хлопчыка Сяргейку і падараваў яму буквар, з якім той ніколі не разлучаўся, а ў другім—як Ленін хадзіў з дзецьмі па грыбы. Аўтар з вялікай цеплынёй у даступнай для дзяцей форме паказаў чалавечнасць вялікага правадыра, яго пяшчотную любоў да маленькіх савецкіх грамадзян.

Сюжэт апавядання «Наша вячэра», які даў назву кніжцы, просты. Маці купіла сваім дзецям Тані і Ваню двух карасікаў і загадала падсмажыць іх на вячэру. Дзеці паклалі ахаладжаных рыбак у ваду і пабеглі на вуліцу. Калі яны, прагаладаўшыся, прыйшлі дамоў, каб падсмажыць карасікаў, выявілася, што тыя ажылі. Дзеці вырашылі павячэраць хлебам з соллю, а рыбак пусцілі ў слоік з вадой.

Таня і Ваня—з працоўнай сям'і. Яны не беларучкі і ўсё ўмеюць рабіць самі: і дома прыбраць і, калі трэба, прыгатаваць сабе вячэру. Гэта добра паказана ў апавяданні. Пакуль Ваня распальваў керагаз, каб падсмажыць рыбу, Таня спрытна прыбрала стол. Аўтар знайшоў тут вельмі трапную дэталь: дзяўчынка, якая старалася рабіць усё, як мама, перад тым, як падысці да міскі з рыбкамі, узяла нож і шарганула ім аб пліту. Гэтая дэталь адразу робіць вобраз дзяўчынкі бачным, адчувальным.

Апавяданні «Церам-рукавіца» і «Сініца» ў значнай меры напісаны пад уплывам В. Біянкі, які заўсёды вучыў сваіх маленькіх чытачоў не толькі шкадаваць жывёлу, але і разумна па-гаспадарску клапаціцца пра яе.

З добрым пачуццём меры, без надакучлівай дыдактыкі напісана апавяданне «Міліцыянер». Некаторыя бацькі і наогул дарослыя людзі часта палохаюць дзяцей міліцыяй. В. Хомчанка ў сваім апавяданні паказвае, што савецкі міліцыянер — гэта сапраўдны і шчыры сябар нашых дзяцей.

Канфлікт маральнага характару пакладзен у аснову аднаго з лепшых апавяданняў кніжкі—«Білеты ў цырк». У ім аўтар выявіў глыбокае веданне дзіцячай псіхалогіі.

З добрым мяккім гумарам напісаны апавяданні «Хованкі» і «Этажэрка».

«Наша вячэра» — першая кніга В. Хомчанкі. У ёй часам не зусім выразныя мастацкія сродкі, малавобразная мова. Але калі малады аўтар праявіць да сябе больш патрабавальнасці, будзе настойліва вучыцца на лепшых узорах нашай літаратуры для дзяцей, дык ён здолее пазбегнуць гэтых недахопаў. У В. Хомчанкі ёсць галоўнае—адчуванне сучаснасці, вялікая любоў да сваіх маленькіх герояў, уменне размаўляць з імі, тонкая назіральнасць, добрае веданне і разуменне дзіцячай псіхалогіі.

А. М. Горкі нездарма лічыў важнейшымі тэмамі дзіцячых кніг для ўсіх узростаў—тэмы нашай савецкай рэчаіснасці. Вельмі пажадана, каб і надалей галоўнымі тэмамі твораў В. Хомчанкі былі тэмы, узятыя з багатай падзеямі нашай сучаснасці. Але, каб рэалізацыя гэтых тэм была як мага больш паспяховай, хочацца параіць пісьменніку больш працаваць над словам.

«Людзі, якія працуюць у дзіцячай літаратуры, ля самых вытокаў чалавечай свядомасці, — гаворыць С. Я. Маршак,—падобныя да тых савецкіх людзей, што ўзнімаюць цаліну. Гэта не лёгкая, але ўдзячная праца». Вось такую працу і выбраў для сябе В. Хомчанка. Трэба спадзявацца, што ў наступных творах ён яшчэ не раз парадуе сваіх вельмі шчодрых на падзяку маленькіх чытачоў.

**У. ЛАЎРОЎ.**

# Вышлі ў свет

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпусціла з друку новыя кнігі, з якімі мы коратка і знаёмім вас.

**А. Міронаў і А. Канаеў. Заўтрашні дзень рэспублікі.** Расказ аб сямігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР. На рускай мове. 52 старонкі. 10 000 экз. Цана—45 кап.

Сем год—гэта сем ступенек, на якія падымецца ў бліжэйшы час народная гаспадарка нашай краіны. М. С. Хрушчоў гаварыў на XXI з'ездзе КПСС: «Камуністычная партыя, увесь савецкі народ прасякнуты цвёрдай упэўненасцю, што яны возьмуць і гэты рубеж і выйдуць на шырокае плато, і тады адкрыюцца новыя прасторы, тады лягчэй будзе ісці ўперад».

Вось аб гэтых новых прасторах, на якія павінна выйсці ў дружнай сям'і савецкіх рэспублік і наша Беларусь, гаворыцца ў брашуры. Аб далейшым росце сацыялістычнай індустрыі Савецкай Беларусі, аб новабудоўлях сямігодкі, аб новым уздыме сельскай гаспадаркі, аб няспынным развіцці навукі і культуры беларускага народа, аб паляпшэнні дабрабыту працоўных расказваюць аўтары брашуры, карыстаючыся мовай яркіх параўнанняў.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР пачало выдаваць сёлета серыю папулярных кніг **«Бібліятэчка атэіста».** У гэтай серыі ўжо вышлі такія кнігі:

**Ад цемры да святла.** 53 стар. 10 000 экз. Цана—35 кап.

У гэты зборнічак увайшлі расказы былых веруючых, якія парвалі з рэлігіяй і сталі атэістамі.

**А. Серафімовіч. Апавяданні.** На рускай мове. 30 стар. 10 000 экз. Цана—20 кап.

«Я выступіў у ролі выкрывальніка папоўшчыны. Матэрыял для сваіх антырэлігійных радкоў большай часткай браў непасрэдна з жыцця, часцей за ўсё з уласных нагляданняў. Іншы раз і з расказаў сведкаў»,—пісаў А. Серафімовіч пра свае творы на атэістычныя тэмы. У зборніку «Апавяданні» публікуюцца некаторыя з атэістычных твораў пісьменніка.

**Якуб Колас. На споведзі.** 52 стар. 9 000 экз. Цана—50 кап.

«На споведзі»—гэта ўрыўкі з вядомага рамана Якуба Коласа «На ростанях», у якіх рэалістычна і яскрава паказаны побыт вясковага духавенства, раскрыты атэістычныя погляды народа, яго іранічныя адносіны да папоў, ксяндзоў і іншых «божых» служак.

**Кандрат Крапіва. Біблія.** 66 стар. 8 000 экз. Цана—1 руб. 20 кап.

Як былі яшчэ мы дзеткі,
Ўсё «Завет» вучылі «ветхі»,
Аб Адаме ды Абраме
Гаварылі часта з намі.
Казкі тыя ўсе дазвання
У «свяшчэнным» ёсць «пісанні»;
Яно «Бібліяй» завецца,
Па-яўрэйску яно—«Тора».
Там ні каплі праўды, здэцца,



А маны дык цэла мора,
Толькі, мусіць, вось за тое
Яно й лічыцца святое.

Так пачынаецца кніга Кандрата Крапівы «Біблія».

33 гады таму назад народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва напісаў гэты яркі сатырычны твор, у якім, дасціпна парадыруючы святое пісанне, паказаў супярэчнасць і недарэчнасць біблейскіх легенд:

Сцежка к праўдзе ў нас адна:
Мы павінны ўзяцца самі
Пакапацца ў тым «пісанні»,—
Дзе там праўда, дзе мана.

**Беларускія антырэлігійныя казкі.** 33 стар. 10 000 экз. Цана—20 кап.

Вельмі выразна гучаць атэістычныя матывы ў вуснай народнай творчасці—у казках, песнях, прыказках і частушках. Аб гэтым яскрава сведчыць зборнічак «Беларускія антырэлігійныя казкі». Народ паказваў бога несумленным і несправядлівым: ён разам са святымі заўсёды абараняе толькі багатых. Святыя ў казках заўсёды выглядаюць зласліўцамі, махлярамі і п'яніцамі, падобнымі да паноў. Трапна высмейваюцца ў казках царкоўныя легенды і розныя цуды.

**Усевалад Саблін. Бацька Мінай.** Дакументальная аповесць. На рускай мове. 240 стар. 10 000 экз. Цана—5 руб. 35 кап.

Многа песень і легенд склаў народ аб мужнай дзейнасці Героя Савецкага Саюза Міная Пілінавіча Шмырова—легендарнага бацькі Міная. Яму прысвяцілі свае творы Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Антон Бялевіч і многія іншыя пісьменнікі. Пра баявую дзейнасць Першай Беларускай партызанскай брыгады, якой камандаваў бацька Мінай, аб мужнасці і гераізме народных мсціўцаў-мінаеўцаў цікава расказвае дакументальная аповесць Усевалада Сабліна.

Аўтар пачаў пісаць сваю аповесць адразу пасля заканчэння вайны. Старанна збіраў ён матэрыялы аб дзейнасці брыгады і напісаў некалькі раздзелаў твора, але закончыць кнігу не паспеў. Пасля смерці аўтара Дзяржаўнае выдавецтва БССР сабрала ўсе накіды, урыўкі і незакончаныя раздзелы аповесці і пасля дапрацоўкі іх пісьменнікам Аляксандрам Міронавым выдала твор асобнай кнігай.

**Алесь Бажко. Перад вераснем.** Аповесць. 185 стар. 10 000 экз. Цана—3 руб. 15 кап.

«Перад вераснем»—першая кніга маладога аўтара. У ёй апавядаецца пра барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне са сваімі ўсходнімі братамі ў адзінай Савецкай дзяржаве.

У кнізе змешчана кароткая біяграфічная даведка аб аўтары.

**А. Налівайка. Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва».** 163 стар. 7 000 экз. Цана—3 руб. 40 кап.

У гэтай кнізе маладога літаратуразнаўцы даецца аналіз класічнай аповесці «Дрыгва». Аўтар разглядае вобразы і кампазіцыю, мову твора. Прыводзяцца цікавыя водгукі чытачоў пра аповесць «Дрыгва». У канцы кнігі змешчаны расказ прататыпа галоўнага героя аповесці—Васіля Ісакавіча Талаша аб сваім жыцці, запісаны адным з удзельнікаў экспедыцыі Акадэміі навук БССР.

# Спорт



# ВЕРТАЛЁТЫ Ў НЕБЕ

Лётнае поле Гомельскага аэраклуба ДТСААФ. Навокал—рокат матораў.

Вось толькі што вярнуліся з палёту на спартыўных самалётах «ЯК-18» маладыя лётчыкі і адразу за імі на старт вырулілі вертакрылыя прыгажуны, пастроіліся ў рад. Уключаны маторы. Вялізныя лопасці нясучых крылляў, падразаючы пругкае летняе паветра, поўняць наваколле своеасаблівым шыпеннем, якое цяжка з чымнебудзь параўнаць.

У кабінах, за рычагамі кіравання чакаюць сігналу да палёту загарэлыя маладыя хлопцы з Гомеля, Рэчыцы, Жлобіна, Магілёва, Мазыра. Пад кіраўніцтвам вопытных інструктараўлётчыкаў яны авалодваюць верталётам—цікавым і складаным лятальным апаратам.

З каманднага пункта кіраўнік палётаў камандзір атрада верталётчыкаў Аляксандр Герасімавіч Марчанка па радыё падае каманду:

— Шэсцьдзесят дзевяты, я стартавы. Дазваляю палёт па кругу!

Машына, на борце якой напісана вялікая лічба «69», раптам уздрыгвае, вертыкальна адрываецца ад зямлі, імгненна набірае вышыню. Апісаўшы круг над аэрадромам, машына вяртаецца на пасадку.

А з каманднага пункта зноў загад:

— Семдзесят першы, я стартавы. Дазваляю ўзлёт на вісенне.

Малады лётчык, умела працуючы рычагамі кіравання, адрывае сваю машыну і ўзнімае на дзесяць метраў ад зямлі, затым надае ёй бакавы рух і яна левым сваім бокам перамяшчаецца на 200 метраў ад узлётна-пасадачнай паласы і павісае ў паветры, нібы замірае. Нябачная сіла трымае яе ў такім становішчы дзесяць, дваццаць, сорак і больш хвілін, гэта значыць, столькі, колькі гэта магчыма і патрэбна па тэхнічных умовах.



На вялікім, зялёным аэрадроме вось так з раніцы да вечара праходзіць вучэбны дзень: няспынна гудуць маторы, шумяць лопасці вінтоў, у эфіры чуецца каманда кіраўніка палётаў, і лятальныя апараты адзін за адным узнімаюцца ў зону пілатавання, павісаюць у паветры, зноў садзяцца ля ўзлётна-пасадачнай паласы. Затым паўтараецца ўсё спачатку.

Верталёт—выключна цікавы лятальны апарат. Падымальная сіла, неабходная для яго палёту, ствараецца адным або некалькімі вярчальнымі вінтамі ў адрозненне ад нерухомых крылляў планёра або самалёта. Нясучы вінт верталёта стварае пад'ёмную сілу і цягу для паступальнага палёту, ён выконвае функцыі руля вышыні і элеронаў, ён жа забяспечвае неабходную ўстойлівасць верталёта.

З гэтага пункту погляду верталёт больш дасканалы, чым любы самалёт. Здольнасць верталёта рабіць вертыкальныя ўзлёты і пасадкі, нерухома вісець у паветры і нават перамяшчацца ў любым кірунку робіць гэты від лятальнага апарата сапраўды цудоўным. Верталёт не мае патрэбы ў аэрадромах: ён можа ўзлятаць і садзіцца ў цяжкадаступных месцах, а ў асобных выпадках можа рабіць пагрузку і выгрузку людзей і грузаў без пасадкі, павіснуўшы нерухома над балотам або ракой, над вяршынямі дрэў або высока ў гарах.

Верталёты шырока прымяняюцца ў народнай гаспадарцы і знаходзяцца на ўзбраенні Савецкай Арміі. З прычыны таго, што верталётам не патрэбны аэрадромы, яны з'яўляюцца больш зручным і выгадным транспартным сродкам, чым самалёты, пры перавозцы грузаў на невялікія адлегласці. У балоцістых і лясных мясцінах верталёт з'яўляецца адзіным зручным транспартным сродкам. У горных раёнах, дзе часам немагчыма пабудаваць аэрадром, верталёт шырока прымяняецца для перавозкі грузаў і пасажыраў. Ужо цяпер верталёты ўсё больш выкарыстоўваюцца пры перавозцы пошты і пасажыраў па ўсім Чарнаморскім узбярэжжы Крыма і Каўказа. Яны пачынаюць прымяняцца і ў нас у Беларусі для геадэзічнай разведкі глухіх забалочаных мясцін.

Наша моладзь з цікавасцю адносіцца да вывучэння верталётаў, імкнецца выдатна вывучыць тэхніку пілатавання. На Гомельскім аэрадроме ДТСААФ мы пазнаёміліся з тымі, хто вырашыў навучыцца лятаць на гэтым цікавым лятальным апараце.

Вось у кабіне дваццацігадовы юнак. Гэта камсамолец Уладзімір Шупан. Ён толькі што вярнуўся з палёту, добра прызямліўся. За выдатнае пілатаванне кіраўнік аб'явіў яму падзяку. Уладзімір Шупан працуе мулярам у Гомельскім будаўнічым трэсце № 10. Вечарамі пасля работы ён разам са сваімі таварышамі ходзіў у аэраклуб, вывучаў матэрыяльную частку верталёта, а цяпер паспяхова асвойвае пілатаж. Уладзімір Шупан стане выдатным, умелым верталётчыкам.

Такіх, як Уладзімір Шупан, у Гомельскім аэраклубе займаецца многа. Альберт Карлаў, Віктар Чаусаў, Пётр Медзвядзюк, Уладзімір Шалюта і многія іншыя ўжо навучыліся выдатна кіраваць верталётам, набылі

**Муляр Уладзімір Шупан у кабіне верталёта перад чарговым палётам.**





**Верталёты Гомельскага аэраклуба ДТСААФ заўсёды гатовы да палёту. У гэтым немалая заслуга старшага тэхніка П. Лазарэнкі** (на пярэднім плане).

Фота С. Чырэшкіна.

сабе новыя цікавыя спецыяльнасці — сталі лётчыкамі.

У аэраклубе працуюць вопытныя інструктары-лётчыкі, тэхнікі і інжынеры аэраклуба, якія выдатна ведаюць самалётную тэхніку, руплівa рыхтуюць новую змену. Камандзірам атрада верталётчыкаў з'яўляецца Аляксандр Герасімавіч Марчанка, выхаванец гэтага ж аэраклуба. У час Вялікай Айчыннай вайны Аляксандр Герасімавіч лятаў на знішчальніку. Пасля вайны вярнуўся ў свой аэраклуб і нястомна навучае моладзь лётнай справе. Як і камандзіра, навучэнцы любяць і паважаюць і інструктара-лётчыка Аляксандра Шаўрова, які непасрэдна лятае з будучымі верталётчыкамі. У гэтым годзе ён падрыхтаваў пятнаццаць маладых пілотаў.

У Гомельскім клубе ДТСААФ створаны добрыя ўмовы для авалодання новымі выдатнымі лятальнымі апаратамі, якім належыць вялікая будучыня.

**П. ПАХІЛЬКА.**

# *Шахматы*

**Пад рэдакцыяй майстра спорту**

**А. СУЭЦІНА**

## Першы чэмпіянат Расіі

У наш час шахматныя спаборніцтвы ахопліваюць літаральна мільёны людзей, якія праходзяць адбор спачатку праз нізавыя, потым гарадскія і раённыя турніры. Там заваёўваецца права на ўдзел у рэспубліканскіх першынствах. І толькі пасля яшчэ двух-трох этапаў адбору, дзе ўдзельнічаюць ужо мацнейшыя шахматысты краіны, вызначаюцца прэтэндэнты на залаты медаль чэмпіёна краіны. Кожны чэмпіянат краіны — гэта сапраўднае свята для савецкіх шахматыстаў і адначасова агляд лепшых тэарэтычных дасягненняў за год. Грандыёзныя поспехі савецкіх шахматыстаў, папулярнасць шахматаў у нашай краіне, іх сапраўды ўсенароднае распаўсюджанне — усё гэта вынікі клопатаў савецкай улады аб павышэнні культурнага ўзроўню працоўных.

Зусім не так было 60 год таму назад, калі ў цяжкіх умовах царскага рэжыму шахматысты павінны былі змагацца за пэўнае месца без якой-небудзь грашовай падтрымкі з боку дзяржавы. Невялікая купка энтузіястаў усяляк імкнулася запаліць цікавасць у народных мас да гэтай старажытнай гульні. Але часцей за ўсё іхнія намаганні былі марныя.

І ўсё ж Расія славілася выдатнымі шахматыстамі. Імёны А. Д. Пятрова і К. А. Яніша ў першай палавіне XIX стагоддзя былі вядомы далёка за межамі Радзімы. Асаблівую вядомасць у сусветным маштабе набыў выдатны рускі шахматыст М. І. Чыгорын, імя якога яшчэ доўга будуць памятаць нават тыя людзі. якія амаль не знаёмы з шахматамі. Геніяльны рускі самародак М. І. Чыгорын меў смеласць адным з першых прысвяціць сваё творчае жыццё шахматам і, нягледзячы на вялікія матэрыяльныя нястачы, зрабіцца адным з лепшых сусветных шахматыстаў. Чыгорын двойчы змагаўся за званне чэмпіёна свету ў матчах і не атрымаў яго зусім не таму, што не меў таленту. М. І. Чыгорын быў не толькі выдатнейшым шахматыстам, але нястомным і палымяным арганізатарам шахматнага жыцця ў Расіі. Вялікі ўплыў на развіццё шахмат мелі яго каштоўнейшыя шахматныя раздзелы ў папулярным у той час грамадска-палітычным часопісе «Нива», некаторых іншых выданнях, нарэшце, яго спецыяльныя працы па шахматах.

Але асаблівая роля М. І. Чыгорына — у арганізацыі першага Ўсерасійскага шахматнага чэмпіянату.

«Заснаваць агульнарасійскі шахматны Саюз з штогоднімі кангрэсамі і турнірамі пачаргова ў розных гарадах», — такою была запаветная мара Чыгорына. На працягу многіх год ён упарта змагаўся за здзяйсненне сваёй задумы. Спатрэбілася шмат сіл і намаганняў, каб у нейкай меры збылося задуманае.

Вясною 1899 года пасля працяглых клопатаў было нарэшце дазволена правесці ў Маскве першы Усерасійскі шахматны турнір, праўда, без арганізацыі Саюза шахматыстаў і нават без збору кангрэсу. Такія мерапрыемствы, як Саюзы і кангрэсы, лічыліся нечым «предосудительным и подозрительным».

У разгар падрыхтоўкі да першага чэмпіянату Чыгорын спецыяльна ездзіў да аднаго з актыўнейшых членаў турнірнага камітэта П. П. Баброва, які быў сакратаром маскоўскага шахматнага гуртка і рэдактарам-выдаўцом часопіса «Шахматное обозрение». Захавалася да нашага часу перапіска Чыгорына з Бабровым. У адным з пісьмаў Чыгорын заўважаў: «500 рублёў для першага прыза — мнагавата», — у той час, калі ні ў кога не было сумненняў, што першы прыз возьме Чыгорын. Гэта маленькая дэталь паказвае, што Чыгорын не гнаўся за асабістай славай, не шукаў выгады сабе асабіста, а імкнуўся як мага лепш арганізаваць турнір, зрабіць яго святам, вялікай падзеяй для ўсіх рускіх шахматыстаў. М. І. Чыгорын настойваў. каб

побач з асноўным чэмпіянатам быў праведзены «малы» чэмпіянат. «Трэба зрабіць два турніры, — піша ён Баброву,— два-тры аматары прыедуць з другіх гарадоў і на другі чэмпіянат. Чаму б і для масквічоў не зрабіць свята! Калі сроднаў не будзе, дык зменшыць прызы. Патрэбен, патрэбен другі турнір!» Далей у пісьме Чыгорын скардзіцца на адсутнасць падтрымкі ў пецярбургскім Таварыстве: «На агульным сходзе была толькі «гаварыльня», як заўсёды. Ды Вы і самі гэта добра ведаеце!»

У выніку ўсё ж такі ўдалося зрабіць і галоўны, і пабочны турніры.

У галоўным — першым чэмпіёнам Расіі стаў Чыгорын. Ён набраў 10 ачкоў з 11 магчымых і, па сутнасці, не меў канкурэнтаў. На 2,5 ачка адстаў ад яго другі выдатны шахматыст таго часу Эмануіл Сцяпанавіч Шыферс, аўтар цудоўнага дапаможніка па шахматах, які вытрымаў шмат перавыданняў і навучыў не адно пакаленне шахматыстаў. Потым ішлі выдатныя шахматысты таго часу: Лявіцкі — 7 ачкоў, Лебедзеў — 6,5 ачка і Ненарокаў—пазней вядомы савецкі майстар (5,5 ачка).

Цяпер ужо не засталося нікога з удзельнікаў першага Усерасійскага чэмпіянату. «Апошні з магікан» Уладзімір Іванавіч Ненарокаў зусім нядаўна памёр. Але многія гады будуць жыць партыі ўдзельнікаў першага першынства Расіі, шмат якія з іх і да гэтага часу не толькі выклікаюць вялікую цікавасць, але і з'яўляюцца каштоўнымі для шахматнай тэорыі.

Прыводзім заканчэнне адной з партый Першага чэмпіянату Расіі. Белымі іграў Чыгорын, чорнымі — Фальк.



Павучальна прасачыць, як чотка Чыгорын рэалізуе сваю матэрыяльную перавагу: 1. Фc1! Фg8, 2. Фb2 Крg7, 3. Лh1 Крf8, 4. c3 Крe8, 5. Cd1! (Белыя паслядоўна ўзмацняюць узаемадзеянне сваіх фігур. Ладдзя імкнецца хутка на адкрытую вертыкаль, а слон — на моцную дыяганаль a2 — g8) 5. ...Кf8, 6. Cb3 Фg7, 7. Cc1! c6, 8. Лh5 Лad8, 9. Фf2! Кc8, 10. Ce3 b5, 11. Фh2 b6, 12. Ce6! Кe7, 13. C:b6 К:e6, 14. fe Кg6, 15. Лh7 Фg8, 16. Фh5!, і чорныя здаліся.

# Атака на пункт „f7“!

У зыходнай першапачатковай шахматнай пазіцыі найбольш небяспечным з'яўляецца пункт «f7», які абараняецца толькі адным каралём (і, вядома, такую ж самую небяспеку мае і пункт «f2»). Не было, мусіць, ніводнага пачынаючага шахматыста, які б у пачатку сваёй ігры не спрабаваў адразу ж атакаваць пасля ходаў 1. e4 e5, 2. Фh5 і далей Cc4.

Гэтае імкненне з'яўляецца падсвядома ад жадання выкарыстаць слабасць пункта «f7». Зразумела, што такая атака лёгка траціць свой сэнс пры правільнай ігры чорных і нявыгадная па сваіх выніках для белых. Напрыклад: 1. e4 e5, 2. Фh5 Кc6, 3. Cc4 g6! (вядома не 3. ...Кf6??, 4. Ф : f7×—так званы «дзіцячы мат»), 4. Фf3 Кf6, 5. g4 (белыя ўпарта прытрымліваюцца свайго плану), 5. ...Кd4! (своечасовым контрударам чорныя захопліваюць ініцыятыву), 6. Фd1 d5!, і г. д. з яўнай перавагаю ў чорных.

Але затое колькі вельмі правільных і эфектыўных атак звязана з слабым пунктам «f7»! У дапамогу пачынаючым шахматыстам прывядзем некалькі прыкладаў, якія мы настойліва раім вывучыць і не толькі запомніць, але і навучыцца прымяняць у розных «незнаёмых» сітуацыях.

1. Мат «Легаля» — 1. e4 e5, 2. Кf3 d6, 3. Кc3 h6?, 4. Cc4 Cg4?, 5. К : e5!! C : d1 (лепш 5. ...de, 6. Ф : g4, хоць і тады ў белых яўная перавага), 6. C : f7+ Крe7, 7. Кd5×!. Гэты прыгожы варыянт атрымаў назву «мата Легаля».

2. «Атака Трэка» — 1. e4, e5, 2. Кf3 Кc6, 3. Cc4 Cc5, 4. c3 Кf6, 5. d4 ed, 6. cd Cв4+, 7. Кc3! К : e4, 8. 0—0 К : c3 (лепш 8. ...C : c3), 9. вc C : c3 (лепш 9. ...d5), 10. Фв3! (бліскучы ход, прапанаваны італьянскім шахматыстам Д. Трэка яшчэ ў XVI стагоддзі) 10. ...C : a1, 11. C : f7+ Крf8, 12. Cg5 Кe7 (няцяжка заўважыць, што чорныя робяць вымушаныя ходы), 13. Кe5!, і атаку белых на пункт «f7» нельга адбіць.

3. Варыянт абароны Кара-Кан — 1. e4 c6, 2. Кc3 d5, 3. Кf3 de, 4. К : e4 Кf6, 5. К : f6+gf, 6. Cc4 Cg4(?), 7. Кe5! C : d1??, 8. C : f7×, або: 1. e4 c6, 2. Кc3 d5, 3. Кf3 de, 4. К : e4 Кed7, 5. Cc4 Кgf6, 6. Кg5 e6, 7. Фe2 hв?, 8. К : f7!! Кр : f7, 9. Ф : e6+, і мат у некалькі ходаў.

4. «Атака Созіна» — 1. e4 c5, 2. Кf3 Кcb, 3. d4 cd, 4. К : d4 Кf6, 5. Кc3 d6, 6. Cc4 g6?, 7. К : c6 bc, 8. e5! de? (лепш



8. ...Кd7), 9. C : f7+ Кр : f7, 10. Ф : d8, і белыя выігрываюць.

Гэтая камбінацыя часта сустракаецца ў практыцы ігры. Часам з ёю звязана наступная контркамбінацыя, як, напрыклад, у наступным варыянце «цэнтральнага дэбюта» — 1. e4 e5, 2. d4 ed, 3. c3 dc, 4. Cc4 cb, 5. C : в2 d5!, 6. C : d5 Кf6, 7. C : f7+! Кр : f7, 8. Ф : d8 Cв4+! (контрудар, які дазваляе зрабіць ігру больш роўнай) (гл, дыяграму), 9. Фd2 C : d2, 10. К : d2, і ігра роўная.



Вядома, колькасць такіх прыкладаў вельмі вялікая. Дастаткова ўзяць, напрыклад, варыянты «каралеўскага гамбіта» і «гамбіта Эванса», як няцяжка заўважыць, што большасць іх насычана вострымі атакамі на пункт «f7» (і адпаведна на пункт «f2). Нарэшце, хочацца даць параду: уважліва назірайце ў дэбюце за пунктам «f7» і «f2», атакуйце іх пры першай магчымасці.

Прапануем чытачам самастойна разабраць адзін з прыкладаў атак на пункт «f7».



Разбярыце гэтую пазіцыю і прышліце рашэнні ў адрас рэдакцыі. Ці могуць белыя пачаць атаку ходам К : f7?!

ПАПРАЎКА

У нумары 8 нашага часопіса на старонцы 96 апошні абзац **трэба чытаць** так:

«Добра, што я ўсё гэта, усё як і было, таварышу сакратару ў Цэнтральным Камітэце выклаў. Ведаеце, што ён мне ўрэшце сказаў? Што я з гэтага самага дня магу сябе больш кулаком не лічыць. Так і сказаў...» І далей як у тэксце.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»**